Рыбрцоўля, куды нібыта трапіў аднойчы, блукаючы ў страшэнную віхуру і снежную завіруху па гарах.

Хлопчыкі не адыходзілі ад лесніка цэлы дзень, хадзілі з ім усюды, глядзелі, як сплаўляюць лес, каталіся на плыце. Калі ж раніцай пан Бейер развітваўся з Прошкавымі, дзеці заліваліся слязьмі і разам з бабуляю праводзілі госця. Пані Тэрэза кожны раз давала яму на дарогу столькі ежы, што ён ледзьве нёс.

— Ну, дасць Божа, у наступным годзе ўбачымся. Бывайце здаровыя! — казаў пан Бейер, адмерваючы велізарныя крокі. Доўга яшчэ потым дзеці апавядалі адзін аднаму пра розныя цуды і жахі на Крканошскіх гарах, прыгадвалі пана Бейера і не маглі дачакацца, калі зноў прыйдзе вясна.

## IV

Акрамя вялікіх святаў, нядзелю дзеці таксама чакалі з радасцю. У нядзелю бабуля іх не будзіла рана, таму што ўжо даўно была на ранняй службе ў местачковым касцёле: на імшу яна, старая гаспадыня, ужо звыклася хадзіць на світанні. Маці і бацька, калі ён быў дома, хадзілі на познюю службу, а ў добрае надвор'е ішлі разам з дзецьмі насустрач бабулі. Ужо здалёк тыя яе заўважалі, клікалі і беглі з радаснымі крыкамі да яе, нібы год не бачылі. У нядзелю бабуля здавалася ім маладзейшай: твар святлейшы, больш ласкавы, і вопратка прыгажэйшая: на нагах чорныя чаравікі, на галаве белы каптур з вялікім накрухмаленым бантам — здалёк здавалася, што на галаве яе сядзіць белакрылая галубка. Дзеці казалі, што бабуля ў нядзелю «страшэнна прыгожая».

Звычайна яны падбягалі да бабулі, і кожны з іх хацеў нешта несці. Аднаму яна давала пацеркі, другому — хустку. Барунка, як старэйшая, несла сумку. Адсюль і ўзнікалі спрэчкі: цікаўныя хлопцы хацелі зазірнуць у сумку, а Барунка не дазваляла. Даходзіла да таго, што Барунцы прыходзілася прасіць

бабулю насварыцца на хлопцаў. Але бабуля замест таго брала сумку і кожнаму з дзяцей давала яблык ці нешта іншае, пасля чаго ўсталёўваўся чаканы спакой.

Пані Прошкава кожную нядзелю казала: «Вельмі прашу вас, матуля, не насіце ім больш нічога!» Але бабуля кожную нядзелю ёй адказвала: «Як гэта так, каб з касцёла нічога не прынесці? І мы ў іх узросце былі такімі ж!» І ўсё заставалася па-ранейшаму.

Разам з бабуляй з касцёла вярталася «пані мама», жонка млынара, а часам яшчэ нейкая кума з Жэрнава, вёскі, што была бліжэй да млына. Пані мама насіла доўгую спадніцу, кофту і каптур з серабрыстых нітак. Гэта была невысокая, паўнаватая кабета з чорнымі вясёлымі вачыма, кароткім, крыху пляскатым носікам, двайным падбародкам; на яе вуснах заўсёды іграла прыветная ўсмешка. На шыю ў нядзелю яна вешала нітку дробнага жэмчугу, а штодня насіла гранаты. У руцэ трымала кошык, у якім ляжалі зёлкі, патрэбныя ў гаспадарцы.

За жанчынамі ішоў пан бацька, звычайна з нейкім кумам. Калі было горача, то свой светла-шэры каптан млынар нёс на палцы цераз плячо. У нядзелю ён апранаў наваксаваныя боты, у якія запраўляў вузкія штаны. На галаве ў яго была высокая чырвоная шапка з аўчыны, на якой з аднаго боку звісалі сінія стужачкі. Кум апранаўся падобна да пана бацькі, толькі на ім быў доўгі плашч з вялікімі алавянымі гузікамі і фалдамі ззаду; плашч — зялёнага колеру, а не шэрага, як у пана бацькі.

Людзі, што ішлі на познюю службу, віталі іх словам божым і ў адказ чулі найлепшыя пажаданні. Часам яны спыняліся, распытвалі адзін аднаго пра жыццё, пра навіны ў Жэрнаве, пра справы на млыне. Зімою жыхара Жэрнава рэдка можна было сустрэць на дарозе да касцёла, бо тады сцежка была небяспечная, а летам спускацца з узгорка было лягчэй, асабліва для моладзі. У нядзелю да абеда па дарозе, што цягнулася праз луг, у бок мястэчка бясконца ішлі людзі.

Вось ідзе не спяшаючыся старая ў кажушку і хустцы, а каля яе, абапіраючыся на палку, крочыць муж, пра іх гады сведчыць грэбень у валасах кабеты, бо такой моды трымаюцца толькі пажылыя людзі.

Ідуць жанчыны ў белых каптурах з «галубкамі»; мужчыны ў заломленых шапках з аўчыны або выдры імкнуцца раней за жанчын перайсці доўгі масток праз рэчку. Прытанцоўваючы, збягаюць уніз нібы лані дзяўчаты, а за імі спяшаюцца хуткія, як алені, хлопцы. Сярод веццяя мільгае белы рукаў, зачапілася за куст чырвоная стужка, што вілася па плячы, паказалася стракатая вышытая камізэлька хлопца, і нарэшце вясёлая кампанія выбегла на зялёны лужок.

Вярнуўшыся дахаты, бабуля здымала святочную сукенку, апранала дамотканую, з грубай воўны, спадніцу і пачынала займацца гаспадаркай. Пасля абеду яна любіла сесці побач з Барункай, пакласці ёй на калені галаву, каб тая пашукала ёй у валасах. Звычайна пры гэтым засынала, але ненадоўга. Прачынаючыся, здзіўлялася, што заснула: «Я і не ведаю, як гэта вочы закрыліся!»

Пасля абеду бабуля хадзіла з дзецьмі да млына, такая ўжо была завядзёнка, і дзеці гэтаму надзвычай радаваліся. Млынар з жонкай мелі дачку, аднагодку Барункі, якую звалі Манчынкай. Гэта была добрая і вясёлая дзяўчынка.

Каля млына перад брамай, паміж дзвюх ліп, стаяла статуя Яна Непамуцкага*, тут пасля абеда ў нядзелю сядзелі пані мама з Манчынкай, часам да іх далучалася якая-небудзь кума з Жэрнава, якая затрымалася тут. Пан бацька з табакеркай у руках стаяў каля іх і што-небудзь расказваў. Як толькі яны бачылі, што бабуля з унукамі ідуць уздоўж рэчкі, Манчынка падхоплівалася і бегла ім насустрач, а пан бацька ў сваім нязменным светла-шэрым каптане, чаравіках і падкасаных штанах, не спяшаючыся, разам з кумою ішоў следам за дачкой; пані мама вярталася на млын, бо «трэба было нешта

* Ян Непамуцкі — праслаўлены чэшскі святы.

прыгатаваць, каб пачаставаць дзяцей». І раней, чым пады-ходзілі дзеці, пад вокнамі дома ў садку або на востраве быў ужо накрыты стол; зімою дзяцей кармілі ў доме. На стале — здобныя булкі, хлеб, мёд, масла і смятана. Потым пан бацька прыносіў у кошыку садавіны або пані мама — пляцёнку су-шаных яблыкаў, груш і сліў. Кава і падобныя панскія напоі былі тады не ў модзе.

«Як добра, бабуля, што зайшлі, — казала пані мама, пра-пануючы крэсла, — калі б вы не прыйшлі да нас у нядзелю, то і нядзеля не была б нядзеляю. А цяпер пачастуйцеся, што пан Бог даў!»

Бабуля ела мала і прасіла, каб пані мама не давала такса-ма шмат дзецям, але на гэта паўнаватая пані мама толькі смяялася: «Вы ўжо старая, таму не дзіўлюся, што мала ясце, але дзеці, ох, Божа, маюць жалезныя страўнікі! Паглядзіце на панну Манчу, калі хочаце, яна вам скажа, што заўсёды галод-ная». Дзеці ўсміхаліся і былі цалкам згодныя з пані мамай.

Калі пані мама давала ім па булцы, яны беглі за стадолу. Цяпер у бабулі клопату не было. Дзеці гулялі з мячом у «ка-ня», «на фарбы» і падобныя гульні. Чакала іх там заўсёды адна і тая ж кампанія: шасцёра дзяцей, адзін меншы за дру-гога, як трубы ў аргане.

Былі гэта дзеці з беднай хаты за шынком. Бацька хадзіў па ваколіцы з катрынкай, а маці мыла, латала адзенне і штодзённа працавала за кавалак хлеба. Але ні па катрыншчы-ку, ні па яго жонцы, ні па дзецях не было заўважна, што яны жывуць у галечы. Дзеці выглядалі добра, а з хаты часам разносіліся па ваколіцы прывабныя пахі; калі ж дзеці з бліскучымі ад тлушчу вуснамі выбягалі на вуліцу, то суседзі пыталіся: «І што гэта смажаць Кудрновы?» Аднойчы Манчын-ка прыйшла дахаты і расказала маці, што Кудрнова дала ёй кавалак зайца. Ды такога смачнага, што нават цяжка пера-даць, смачнейшага за міндаль. «Зайчаціна? Ды адкуль яны яе ўзялі? Пэўна, Кудрна крадзе ў лесе дзічыну? — падумала жон-ка млынара. — Але ж прыйдзе час расплаты!»

Зайшла Цылька, старэйшая дачка Кудрны, як заўсёды трымаючы на руках немаўля. Гэтай дзяўчынцы ўвесь час даводзілася каго-небудзь даглядаць: кожны год у сям'і з'яўлялася дзіця. Жонка млынара адразу ж яе спытала:

— Скажы, што ў вас было смачнага на абед?

— Нічога, адна бульба, — адказала Цылька.

— Як жа адна бульба, калі Манча сказала, што ваша маці дала ёй кавалак найсмачнейшай зайчаціны!

— Ды гэта ж не заяц, а смажаная котка! Бацька злавіў яе на Чэрвеннай гары; тлустая была, як свіння. Маці яшчэ і сала з яе натапіла, бацьку будзе, чым мазацца. Яму жонка каваля так параіла, калі ён пачаў кашляць. Гэта каб не захварэць на сухоты.

— Бог ты мой! Яны ядуць котак! — закрычала млынарыха і з агідаю плюнула.

— Ах, калі б вы толькі ведалі, якая яна смачная! А ваверкі яшчэ смачнейшыя... Бывае, што бацька прыносіць варон, толькі яны нам не падабаюцца. А зусім нядаўна пашчасціла: у служкі з панскага двара падавілася гусь падчас ежы, і яе аддалі нам. Не, мяса мы ядзім шмат!.. Часам авечку бацьку дадуць, а то і свінню, калі захварэе, і аканому даводзіцца яе зарэзаць. Шкада толькі, што бацька не заўсёды паспявае і...

Але пані мама спыніла Цыльку:

— Ідзі, ідзі, фу, аж холадна стала! Манча! Ты бязбожніца, калі будзеш яшчэ калі-небудзь есці зайчаціну ў Кудрны! Хутчэй ідзі мыцца і не хапай нічога рукамі! — гарачылася млынарыха, падштурхоўваючы Цыльку да дзвярэй.

Манчынка плакала, пераконвала маці, што зайчык быў добры, але жонка млынара толькі плявалася. Прыйшоў бацька і, даведаўшыся, у чым справа, сказаў, круцячы табакерку ў руках:

— Што вы выдумляеце, матуля, хто ж ведае, ад чаго дзяўчаты таўсцеюць! Каму — як балота, а каму — як золата. Можа, я сам калі-небудзь пакаштую ваверку!

— Ну тады ў хату не ўвойдзеш, хопіць казаць глупства! — гневалася млынарыха, а бацька прыжмурваў вока і смяяўся.

Не толькі жонцы млынара, многім было гідка браць штонебудзь ад Кудрнавых, і ўсё толькі таму, што тыя елі котак і ўсё тое, чаго ніхто іншы ў рот не ўзяў бы. Але дзецям Прошкавых было ўсё роўна, фазанаў ці варон елі за абедам малыя Кудрнавы, толькі б прыходзілі за стадолу гуляць. Яны сумленна дзяліліся з сябрамі булкамі і ўсім астатнім, каб тыя былі задаволенымі і вясёлымі. Цылька, дзесяцігадовая дзяўчынка, давала ў рукі малодшай сястры, якую даглядала, кавалак булкі, пакідала яе на траве і пачынала гуляць разам з усімі або пляла з лістоў трыпутніку шапкі хлопчыкам, а дзяўчынкам кошыкі. Нагуляўшыся ад душы, уся кампанія ішла да двара млынара, і Манчынка аб'яўляла маці, што ўсе вельмі галодныя. Пані мама ніколькі гэтаму не здзіўлялася і карміла ўсіх. Пан бацька выкарыстоўваў гэты момант, каб пасмяяцца з яе, і казаў, калі ў хату залятали дзеці:

— Ой, нешта вельмі хочацца есці. Ці не застаўся, Цылька, мне кавалак зайчаціны?

Тут пані мама з агідаю плявалася і ішла з хаты, а бабуля, пагразіўшы пальцам, казала пану бацьку:

— Але, але, які вы жартаўнік, пан бацька, калі б я была пані мамай, то прыгатавала б вам варону з гарохам!

Пан бацька круціў у руках табакерку і, прыжмурыўшы вока, хітра ўсміхаўся.

Калі старэйшыя сядзелі ў садку, да іх звычайна заходзіў стары работнік, і пачыналіся размовы пра казанне, сённяшнія аглашванні, за каго маліліся, хто з кім выйшаў з касцёла. Пасля гутарка пераводзілася на ўраджай, паводку, буры і град, ткацтва і адбельванне палатна, меркавалі пра тое, ці ўрадзіцца лён. Нарэшце размова пераходзіла на Крамолінскіх злодзеяў і крымінал. Стары вельмі любіў пагаварыць, але калі бліжэй да вечара з'язджаліся завознікі, памятаючы прыказку «раней прыедзеш, раней змелеш», мусіў ісці да млына, а пан бацька накіроўваўся паглядзець, што робіцца ў шынку. Жанчыны ж, застаўшыся адны, яшчэ доўга абмяркоўвалі то адно, то другое.

Зімою дзеці амаль палову дня не злазілі з печы. Печ вялікая, так што знаходзілася там месца і для служкі, і Манчынкіных цацак і лялек. Калі туды залазілі дзеці, то займалі ўсё месца, а на верхняй прыступцы сядзеў вялікі хатні сабака. Кожную нядзелю было на печы вяселле адной з лялек. Жаніхом выступаў трубачыст, а Мікулаш выконваў ролю святара. Пры гэтым елі, пілі, танцавалі, а нехта наступаў на лапу сабаку, які сваім віскатам парушаў спакойную размову дарослых. Пані мама крычала дзецям: «Калі ласка, дзеці, не разбурыце печ, бо не будзе дзе варыць!»

Але на печы была ўжо цішыня, дзеці гулялі ў «бацьку і маці». Маладой маці прынёс бусел дзіця; Адэльку, якая не ўмела рыхтаваць пачастунак, зрабілі хроснай маці, а хроснымі бацькамі — Вілема і Яна. Немаўля назвалі Гонзічкам. І пачыналася свята, дзе было шмат пачастункаў, запрашалі і сабаку, каб не крыўдаваў. Гонзічак хутка вырастаў, і бацька аддаваў яго ў школу. Ян ператвараўся ў настаўніка і прымушаў Гонзічка чытаць па складах. Але паколькі адзін вучань — не цікава, то павінны былі вучыцца ўсе, і дзеці вырашалі, што «будуць гуляць у школу». Хадзілі да Яна ў школу, але ніхто не жадаў рыхтаваць урокі. Пан настаўнік злаваўся і прызначаў пакаранне: два ўдары па руцэ. Нічога не зробіш, трэба цярпець. Сабака таксама быў вучнем, але нічога не ўмеў рабіць, таму таксама атрымліваў два ўдары па лапе, а на шыю чорную таблічку. Узлаваны кудлач з грозным гырканнем саскочыў з печы і закружыўся па пакоі, зрываючы ганебны знак. З перапуду старэйшы работнік ускочыў з лавы, бабуля плюнула, а пан бацька памахаў табакеркай у бок печкі і крыкнуў: «Сачок на рыбу, пятля на ракаў, пайду і я на вас!» — і зноў закруціў у руках табакерку, усміхаючыся, але так, каб на печы не бачылі.

— То зрабіла, пэўна, наша чарцяня! — вырашыла бабуля. — Не, трэба збірацца дахаты, пакуль яны не перавярнулі млын дагары нагамі!

Але гаспадары не адпускалі, бо яшчэ не быў скончаны аповед пра французскую вайну і трох манархаў. Бабуля бачыла іх усіх, яна мела вялікі жыццёвы вопыт, перажыла вайну, і ёй верылі.

— А якімі былі тры ледзяныя асілкі, што рускія напусцілі на Банапарта? — пытаўся малады работнік, прыгожы і вясёлы хлопец.

— Няўжо не можаш здагадацца, што гэта былі тры месяцы: снежань, студзень і люты, — адказаў яму стары. — У Расіі такія зімы, што людзі мусяць хаваць твары ў футра, каб у іх не адмерзлі насы. Французы да такой зімы не звыклыя, як прыйшлі туды, так адразу і памерзлі. А рускі добра ведаў, што такое будзе, вось француза і затрымаў. Ах, ну і хітры!

— А імператара Іосіфа вы асабіста ведалі? — спытаў бабулю адзін з завознікаў.

— Як тут не ведаць, калі з ім размаўляла і атрымала ад яго гэты талер, — адказала бабуля, беручыся за падвешаную на гранатавыя каралі манету.

— Калі ласка, раскажыце, як гэта адбылося? — пачулася з розных бакоў. Дзеці трошкі прыціхлі, а пачуўшы пытанне, злезлі з печы і прасілі бабулю, каб расказала, бо пра гэта яны яшчэ не ведалі.

— Але пані мама і пан бацька пра гэта ўжо чулі, — адмаўлялася бабуля.

— Добрую гісторыю чалавек можа і два разы і больш паслухаць — не абрыдне, толькі апавядайце, — супакоіла пані мама.

— Ну, тады я вам раскажу, толькі вы, дзеці, сядзіце ціха.

Дзеці хуценька ўселіся і прыціхлі, нібы зніклі.

— Калі будаваўся Новы Плес, была я падлеткам. Я з Алешніц. Ведаеце, дзе знаходзяцца Алешніцы?

— Я ведаю. Гэта за Добрушкай, у гарах, на сілезскай мяжы, ці не так? — азваўся стары.

— Так, адтуль. Каля нас жыла ўдава Новатна ў маленькай хатцы. Жыла яна тым, што ткала з воўны коўдры. Калі іх

збіралася некалькі, то несла іх да Ярамержа або ў Плес на продаж. Было, нябожчыца маці гатуе ежу, а мы, дзеці, бяжым да суседкі. Наш бацька быў яе кумам. Калі я ўжо магла ўнікнуць у справу, клікала мяне Новатна, каб я да яе зайшла: «Пайдзі, сядзь за стан ды павучыся, прыйдзе час — як знойдзеш. Чаму чалавек у маладосці навучыцца — у сталым узросце нібы знойдзе».

Была я да працы ахвочая, прымушаць мяне не трэба было. І хутка так я гэтаму рамяству навучылася, што стала добра працаваць. Тым часам імператар Іосіф даволі часта бываў у Новым Плесе. Шмат пра яго расказвалі, а хто яго бачыў, дык хваліўся, як пра нешта надзвычайнае.

Аднойчы, калі Новатна збіралася з таварам у Плес, я папрасіла сваіх родных адпусціць мяне паглядзець горад. Маці ўбачыла, што ў кумы цяжкая ноша, і сказала: «Ідзі, дачка, дапамажы тавар несці».

На другі дзень па халадку пайшлі мы і ўжо апоўдні былі на лузе, што каля Плеса. Ляжалі там спілаваныя дрэвы. Селі мы на іх і пачалі абувацца. Кума і кажа: «Куды мне, гаротніцы, ісці з гэтымі коўдрамі?»

Бачым, а з горада да нас накіроўваецца нейкі пан. У руцэ трымае нешта падобнае на флейту і час ад часу прыкладае яе да вока, а сам паварочваецца ў розныя бакі.

— Паглядзі, кума, — кажу я, — нейкі музыкант, грае на флейце і сам круціцца.

— Дурнічка, гэта не флейта, ды і не музыкант ён, а пан, што назірае за будаўніцтвам. Я кожны раз яго бачу. Гэта такая трубка, а ў ёй шкло, праз яго ён і глядзіць. Кажуць, што праз такое шкло далёка бачна: і хто дзе знаходзіцца і што робіць.

— Выходзіць, кума, ён бачыў, як мы абуваліся? — кажу я.

— Ну і што з таго? Мы не рабілі нічога дрэннага, — засмяялася кума.

За размовай мы і не заўважылі, як пан падышоў да нас. На ім былі шэры камзол і маленькая трохвуголка, з-пад якой тырчэла каса з бантам. Быў ён малады і прыгожы, як карцінка.

— Куды ідзеце, што несяце? — спытаў і спыніўся каля нас. Кума адказала, што нясе на продаж у Плес сваю працу.

— Што гэта за праца? — распытваў пан далей.

— Коўдры з воўны, паночку, магчыма, некаторыя з іх вам спадабаліся б, — сказала Новатна, хутка развязала вузел і расклала адну на бярвенні. Кума была мілай жанчынай, але калі справа тычылася продажу, гаварыла без перапынку.

— Ці гэта робіць твой муж? — спытаўся ён зноў.

— Рабіў, рабіў, залаты паночку, але вось два гады назад на жніво скончыў працу, памёр. Я часам да станка прыглядалася, навучылася ткаць, а цяпер праца мяне корміць. Я і Мадле кажу: вучыся, Мадла, чаму навучышся, ніякі злодзей не адніме.

— Гэта твая дачка? — зноў спытаў пан.

— Не мая, а кумы, але дапамагае мне часам. Не глядзіце, што малая, работа ў яе руках так і гарыць. Гэтую коўдру яна рабіла сама.

Пан паляпаў мяне па плячы і ласкава на мяне паглядзеў: ніколі, колькі жыву, не бачыла я такіх прыгожых сініх, падобных на валошкі, вачэй.

— А ў цябе няма сваіх дзяцей? — звярнуўся пан да кумы.

— А як жа, сын ёсць, — адказала кума. — Я яго ў Рыхнаў на вучобу аддала. Бог не пакрыўдзіў яго розумам, вучыцца, як грае, прыгожа спявае ў касцёле. З радасцю аддам зароблены грош, толькі б выйшаў з яго святар.

— А калі не захоча ім быць? — спытаў пан.

— Будзе, паночку. Іржык — добры хлопец, — сказала Новатна.

А я тым часам паглядала на трубачку і думала пра тое, як гэта праз яе пан бачыць. А ён, пэўна, па вачах здагадаўся, бо раптам звярнуўся да мяне:

— Ці хацела б ты даведацца, як праз падзорную трубу далёка бачна?

Я зачырванелася, вачэй узняць не магла, але кума дапамагла:

— Яна, Мадла, думала, што гэта флейта, а вы — музыкант. Але я ёй расказала, хто вы.

— А ты хіба ведаеш? — засмяяўся пан.

— Ну, я не ведаю, як вас зваць, але вы адзін з тых, хто наглядае за людзьмі, праз гэтую трубачку за імі сочыце, ці не так?

Пан смяяўся так, аж за бокі браўся.

— Але, — сказаў, — тут ты пацэліла, матуля! Калі хочаш у гэтую трубачку паглядзець, то паглядзі, — звярнуўся ён да мяне, пасмяяўшыся ад душы, і прыклаў трубачку да майго вока.

Скажу я вам, людзі, што ўбачыла цуды: у Ярамержы я нібы зазірнула ў вокны да людзей і кожнага добра разгледзела, убачыла, чым займаецца, быццам стаяла побач. Далёка на палях працавалі людзі, а бачыла іх перад сабою, нібы на далоні. Я хацела перадаць трубку куме, каб і тая паглядзела, але яна мне сказала:

— Ты думаеш, што будзе да твару мне, старой жанчыне, забаўляцца.

— Гэта не для забавы, для справы патрэбна, маці, — сказаў ёй пан.

— Ну то глядзіце самі, а мне гэта не патрэбна, — адрэзала кума і глядзець не стала. Раптам мне прыйшло ў галаву, што добра было б праз шкло ўбачыць імператара Іосіфа, і стала паварочваць трубку ва ўсе бакі. А паколькі пан быў зычлівы, то і сказала яму, каго хацела б убачыць.

— А навошта табе Іосіф? Ці ты яго любіш? — спытаў мяне пан.

— Як жа яго не любіць, — кажу, — яго кожны чалавек хваліць за дабрыню і годнасць. За яго кожны дзень молімся, каб Бог даў яму і яго матулі доўгае жыццё.

Пан дзіўна ўсміхнуўся і пытаецца:

— Ці хацела б ты з ім таксама пагаварыць?

— Барані, Божа! Куды б я вочы схавала? — адказваю.

— Ты ж мяне не саромеешся, а імператар такі ж чалавек, як і я.

— Так ды не так, паночку, — азвалася кума, — імператар ён і ёсць імператар, што тут скажаш. Я чула, што калі чалавек паглядзіць імператару ў вочы, дык яго то ў холад, то і ў гарачыню кідае. Наш стараста двойчы з ім размаўляў і казаў пра тое.

— Пэўна, у вашага старасты сумленне нячыстае, вось ён і не глядзіць у вочы нікому, — сказаў пан і напісаў нешта на малой паперцы. Потым лісточак аддаў куме і наказаў, каб яна ў Плесе ішла да склада, паказала гэтую паперу, і там ёй за коўдры дадуць добрыя грошы. А мне даў гэты сярэбраны талер са словамі:

— Вазьмі манету на памяць і не забывайся на імператара Іосіфа і яго маці. Маліся за яго, таму што малітва ад чыстага сэрца Богу мілая. Калі вернецеся дахаты, можаце сказаць, што размаўлялі з імператарам Іосіфам.

Сказаў і хутка адышоў. Мы ўкленчылі і не ведалі, што рабіць: баяцца або радавацца. Кума пачала мяне вінаваціць, што я шмат гаварыла, а сама ж гутарыла яшчэ больш. Але хто мог падумаць, што пан — сам імператар. Супакоілі мы сябе тым, што, пэўна, не выклікалі ў яго непрыемных пачуццяў, раз ён даў талер. На складзе Новатне далі за коўдры ў тры разы больш, чым яна прасіла. Дахаты мы ляцелі, як на крылах, а калі вярнуліся, дык роспытам не было канца, і ўсе нам зайздросцілі. Маці дала пракруціць у талеры дзірачку, і я насіла яго на шыі. Шмат разоў мне было вельмі цяжка, але я яго не размяняла. Шкада, спрадвечны жаль, што ляжыць імператар у сырой зямлі! — скончыла бабуля свой аповед і ўздыхнула.

— Так, шкада, — пацвердзілі астатнія.

Дзеці, даведаўшыся пра гісторыю талера, пачалі яго разглядаць з усіх бакоў. Цяпер манета здавалася ім асабліва незвычайнай. А бабуля вельмі ўзвысілася ў іх вачах: як жа, яна размаўляла з самім імператарам Іосіфам!

З нядзельнага вечара распачынаўся на млыне новы тыдзень. З'язджаліся сяляне з зернем, жорны пачыналі памалу

грукатаць у сваім звычайным рытме, стары работнік хадзіў па млыне, уважліва ўсё аглядаючы, каб паўсюль быў парадак. Малады, спяваючы, лётаў зверху ўніз, знізу — угару, ад каша да каша, а пан бацька стаяў перад млынам, вітаў вясёлай усмешкай людзей, якія прыходзілі да яго, і прапаноўваў тытунь.

Пані мама з Манчынкай летнім часам праводзілі бабулю да шынка. Калі там гучала музыка, то на некаторы час спыняліся ля плота, дзе звычайна да іх падыходзілі некалькі кумушак, якія хацелі паглядзець на тых, хто танцуе. Усярэдзіну трапіць і паглядзець было немагчыма, бо там было поўна народу, і Крыстла, якая насіла піва па зале, дзе сядзелі паны, вымушана была кубкі трымаць над галавой, каб не выбілі з рук.

— Гляньце на паноў, — сказала пані мама, паказваючы галавой у бок сада, дзе сядзелі паны з палаца, якія імкнуліся затрымаць Крыстлу, што падышла да іх. — Бачыце! Што і казаць, такую дзяўчыну цяжка знайсці! Толькі не для вас абе-рагае яе Бог, не для таго, каб вы папсавалі ёй жыццё!

— Не бойцеся, пані мама, што Крыстлу нехта збаламуціць, — заўважыла бабуля. — Яна ім пакажа дарогу за дзверы.

Так і здарылася. Адзін з тых паноў, ад якога за дзесяць міль патыхала муксусам*, нешта прашаптаў дзяўчыне на вуха, але яна са смехам абсекла:

— Складайце, паночку, складайце свой тавар. Я не купляю!

З вясёлай усмешкай выбегла ў сенцы і падала руку высокаму хлопцу, дазволіла сябе абняць і закружылася ў танцы, не звяртаючы ўвагі на заклікі:

— Крысцінка, ідзі наліваць піва!

— Гэты хлопец даражэйшы ёй за цэлы палац з усімі панамі і каштоўнасцямі, — усміхнулася бабуля, пажадала пані маме добрай ночы і выправілася з дзецьмі дахаты.

---

* Араматычны алей, якім націралі валасы.

# V

Раз у два або тры тыдні, калі быў прыгожы дзень, бабуля казала: «Сёння пойдзем адведаць лесніка». Дзеці спадзяваліся на падарожжа і радаваліся з гэтай хвіліны аж да часу, калі бабуля, узяўшы верацяно, накіроўвалася ў дарогу.

Дарога ад гаці да маста праходзіла паўз схіл гары, а ад маста да Рызенбургу была з двух бакоў абсаджана таполямі. Бабуля выбірала дарогу ўздоўж крутога берага ракі, праз лесапільню, за ёю узвышаўся лысы пагорак, расквечаны жоўтымі праскамі дзіванны, якія Барунка ахвотна збірала. За лесапільняй даліна звужалася, і рака ў цесных берагах бегла праз вялікія камяні вельмі хутка. Схілы ўзгоркаў парасплі хвоямі і піхтамі, што кідалі цень амаль на ўсю даліну. Па ёй ішлі дзеці з бабуляй, пакуль не дайшлі да парослых мохам руін Рызенбургскага замка, якія выглядалі з-за жывой агароджы.

Каля замка, над старым падзямеллем, дзе хады нібыта цягнуцца на тры мілі пад зямлёй і куды ні адзін чалавек не мог дайсці з-за надта вільготнага паветра, стаяла альтанка з трыма высокімі спічастымі вокнамі. Коннікі падчас палявання наладжвалі там другі сняданак. Да той альтанкі дзеці карабкаліся па строме, як козачкі. Бедная бабуля ледзьве за імі паспявала, хапаючыся справа і злева за дрэвы. «Але ж вы мяне прымусілі пакутаваць, ледзьве дух пераводжу», — сказала яна, апынуўшыся на гары.

Дзеці ўзялі бабулю за руку, павялі ў альтанку, дзе было прахалодна і адкрываўся прыгожы краявід, пасадзілі ў крэсла. Пад імі з правага боку альтанкі цягнуліся руіны замка, яшчэ ніжэй ляжала паўкругам невялікая даліна, узгоркі вакол яе параслі хвоямі. На адным з іх стаяла маленькая каплічка. Шум вады і спеў птушак ажыўлялі пануючую наўкол цішыню.

Ян успомніў паданне пра асілка Цыбора, пастуха рызенбургскага рыцара. Якраз унізе, у гэтай самай даліне, рыцар

сустрэў пастуха, які нёс на плячы хвою, вырваную з коранем у панскім садзе. На пытанне рыцара, дзе Цыбор узяў дрэва, той прызнаў сваю віну. Пан дараваў яму ды яшчэ загадаў прыйсці да замка з мехам, бо абяцаў даць яму столькі ежы, колькі той зможа падняць. Цыбор не разгубіўся, узяў чахол з пярыны на дзевяць локцяў і пайшоў у замак. Там яму насыпалі гароху і паклалі вэнджаных кумпякоў поўны чахол. За сілу і праўдзівасць палюбіў рыцар Цыбора і, калі ў Празе кароль аб'явіў вялікі турнір, узяў яго з сабой. На тым турніры пастух перамог нямецкага асілка, якога ніхто не мог адолець, за што кароль і зрабіў яго рыцарам.

Дзецям гэтае паданне вельмі падабалася, і з таго часу, як стары пастух яго расказаў, і замак, і луг сталі для іх асабліва цікавымі.

— Бабуля, а як называецца тое мястэчка, дзе стаіць каплічка? — спытаў Вілем.

— Гэта на Боўшыне. Калі дасць нам Бог здароўя, то абавязкова туды пойдзем на імшу.

— А што там здарылася, бабуля? — спытала Адэлька, якая магла слухаць бабулю з раніцы да вечара.

— Цуд там здарыўся. Ці вы не памятаеце, як нам пра гэта Ворша апавядала?

— Мы ўжо не памятаем. Раскажыце нам, вельмі вас просім, — загаманілі дзеці, і бабуля не прымусіла доўга сябе ўпрошваць.

— Тады ўладкоўвайцеся добра на лавачцы і не выглядайце з акна, а то зваліцеся і заб'ецеся. За гэтай гарою і лесам ляжаць вёскі Турынь, Літаборж, Слаціна, Мечоў, Боўшын. У даўнія часы належалі яны аднаму рыцару, які зваўся Турынскім, таму што жыў у сваім замку на Турыні. У рыцара былі жонка і адзіная дачушка, прыгожая дзяўчынка, але, на жаль, глуханямая, што было вялікім горам для бацькоў.

Аднойчы гуляла па замку тая дзяўчынка і раптам вырашыла пайсці ў Боўшын паглядзець, што робяць ягняткі і ці падраслі яны з таго часу, калі яна іх бачыла.

Трэба сказаць, што гэтай каплічкі там не было, не было і вёскі, толькі стаяў хутар, дзе жыла дворня Турынскага рыцара і знаходзіліся яго статкі. Вакол глухі лес, а ў лесе шмат дзікіх звяроў.

Дачушка Турынскіх некалькі разоў была на хутары, але заўсёды з бацькам. Вось і вырашыла, дурненькая, што калі пабяжыць, дык адразу там і апынецца. Ішла яна, ішла куды вочы вялі, думала, што дарога як дарога, бо была малая і неразумная, як і вы. Доўга ішла, а белага хутара ўсё няма, і паступова станавілася ёй страшна. Падумала, што скажуць бацька і маці, калі не знойдуць яе ў замку. Узяў яе страх, і кінулася яна назад. Але калі чалавек баіцца, дык лёгка можа разгубіцца, а тым больш такое дзіця. Збілася дзяўчынка з дарогі і не трапіла ні дахаты, ні на хутар. Зайшла ў густы лес, дзе ні сцежкі не было, ні святла. Цяпер толькі зразумела, што заблукала. Можаце сабе ўявіць, што яна адчувала. Вам бы так дрэнна не было, бо можаце чуць і гаварыць, чаго дзяўчынка была пазбаўлена. Бегала яна ў адчаі па лесе і яшчэ больш блыталася. Нарэшце захацелася ёй есці і піць, балелі ногі, але мацнейшым за гэта быў страх, што ноччу яна застанецца ў лесе, дзе адны звяры. Яшчэ больш яна баялася, што бацькі гневацца будуць. Спалоханая, заплаканая, яна раптам апынулася ля крыніцы, нахілілася да вады і прагна напілася, а калі азірнулася, то ўбачыла дзве сцежкі, але не ведала, па якой ісці, бо ўжо дастаткова блукала і засвоіла, што не кожная сцежачка вядзе дадому. І тут успомніла, што яе маці, калі надыходзіць цяжкая хвіліна, заўсёды ідзе ў свой пакой і моліцца. Укленчыла дзяўчынка і стала маліцца, каб Бог вывеў яе з лесу.

Раптам пачула яна дзіўныя гукі, і ў яе вушах зазвінела і загуло. Гул рабіўся ўсё яснейшым і яснейшым. Дзяўчынка не разумела, што з ёю адбываецца, адкуль гукі. Яна закалацілася ад страху, пачала плакаць, хацела ўцякаць. І раптам бачыць, па сцежачцы да яе бяжыць белая авечка, потым другая, трэцяя, чацвёртая, пятая, шостая... Хутка сабраўся каля яе цэлы

статак. У кожнай авечкі на шыі быў званочак, менавіта гэты звон і пачула дзяўчынка. То былі авечкі яе бацькі. За імі бег белы сабака. Нарэшце з'явіўся і сам пастух Барта. Дзяўчынка крыкнула: «Барта!» — і кінулася да яго. Узрадаваўся Барта, што яна і гаворыць, і чуе, узяў яе на рукі і заспяшаўся на хутар, што быў непадалёк. А там сядзела ў адчаі пані Турынская і думала, куды знікла яе дачка і што з ёю здарылася. Паслала па лесе людзей, сам рыцар таксама ўсюды шукаў дачку, а пані чакала на белым хутары. Уявіце сабе радасць маці, калі Барта прынёс ёй дачку, ды яшчэ зусім здаровую. Калі вярнуўся бацька, дачка ўсё расказала. Пакляліся бацькі, што аддзячаць Богу, пабудаваўшы каплічку. Так і зрабілі. Тая каплічка, якую вы бачыце, пабудавана на месцы крынічкі, дзе дзяўчынка піла ваду і малілася, і ў тутэйшых лясах блукала. Дзяўчынкі той даўно ўжо няма на гэтым свеце, як і паноў Турынскіх, і Барта памёр, а ад замка засталіся толькі развалiны.

— Куды ж падзеліся авечкі і сабака? — спытаў Вілем.

— Сабака здох, старыя авечкі таксама, маленькія сталі вялікімі, і ў іх нарадзіліся ягняты... Так, дзеткі, заведзена на белым свеце: стары старыцца, а малады расце.

Дзеці скіравалі свае погляды на раўніну, у думках яны бачылі рыцара, бачылі, як блукала дзяўчынка. І раптам заўважылі, што з лесу выехала на прыгожым кані пані і панеслася па раўніне. За ёю ехаў берэйтар. На пані былі цёмны жакет і доўгая карычневая спадніца, якая закрывала страмёны, чорныя кудзеркі на яе галаве ўпрыгожваў чорны капялюшык з зялёнай вуаллю.

— Бабуля, бабуля, глядзі, рыцарша! — закрычалі дзеці.

— Ну, што ж вы прыдумалі. Няўжо ёсць сёння рыцаршы? Гэта пані княгіня, — сказала бабуля, азіраючы даліну з акна.

Дзеці крыху засмуціліся, што гэта не была рыцарша, як яны спачатку падумалі.

— Пані княгіня едзе да нас на гару! — крычалі ўсе.

— Няўжо вы думаеце, што гэта конь сам сюды ўздымаецца, — сказала бабуля.

— Сапраўды, Орланд лезе сюды, як кошка, толькі паглядзіце, — сцвярджаў Ян.

— Пакіньце мяне ў спакоі, я не хачу гэта нават бачыць. Чаго толькі заможныя людзі не прыдумаюць! — сама сабе казала бабуля, стрымліваючы дзяцей, каб не зваліліся з вокнаў.

У хуткім часе княгіня ўжо была на гары. Лёгка саскочыла з каня, перакінула шлейф цераз плячо і ўвайшла ў альтанку.

Бабуля ўстала і ветліва прывітала яе.

— Гэта сям'я Прошкавых? — спытала княгіня, углядаючыся ў твары дзяцей.

— Так, міласэрная пані! — адказала бабуля.

— А ты, значыць, іх бабуля?

— Так, міласэрная пані, маці іхняй матулі.

— Ты можаш усцешыцца, бо маеш здаровых унукаў. А вы, дзеці, ці слухаецеся сваю бабулю? — спытала княгіня ў дзяцей, што не зводзілі з яе вачэй.

На яе пытанне малыя, апусціўшы вочы, прамовілі:

— Слухаем.

— Ну, бывае па-рознаму, часам не слухаюць, але нічога не зробіш, і мы былі не лепшыя, — заўважыла бабуля.

Княгіня ўсміхнулася, а калі ўбачыла на лавачцы кошык з суніцамі, то спытала, дзе дзеці іх назбіралі. Бабуля тут жа паклікала Барунку, гаворачы: «Ідзі, дзяўчынка, пачастуй міласэрную княгіню. Яны свежыя. Дзеці па дарозе назбіралі. Можа, спадабаюцца ласкавай пані. Калі я была маладою, то з радасцю ягады ела, але калі ў мяне памерла дзіця, то ніводнай не ўзяла ў рот».

— А чаму? — спытала княгіня, беручы ў Барункі кошык з суніцамі.

— Ёсць такі звычай, васпані: калі ў маці памірае дзіця, то не есць яна да дня святога Яна Хрысціцеля ні чарэшняў, ні суніц. Кажуць, што ў гэты час Маці Божая ходзіць па небе і адорвае ягадамі памерлых дзяцей. Дзіцяці, чыя маці не вы-

трымае і паесць ягад, Дзева Марыя кажа: «Табе таму мала ягад дасталося, што твая маці іх з'ела». Вось і стрымліваюцца маці, баяцца есці ягады. Ну, а хто датрымаецца да Янавага дня, то і пазней лёгка не есці, — дадала бабуля.

Княгіня ўзяла ў руку ягаду, спелую, салодкую, чырвоную, як яе вусны, але пасля слоў бабулі паклала яе назад у кошык.

— Не хочацца, ды і вам, дзеткі, нічога не застанецца на дарогу.

— Нічога, пані княгіня, ешце на здароўе або забірайце ўсе з кошыкам дадому, мы назбіраем яшчэ, — хутка прагаварыла Барунка, адсоўваючы працягнуты ёй назад кошычак.

— У такім разе прымаю ваш падарунак, — сказала княгіня, усміхаючыся ў адказ на шчырасць дзяўчынкі. — Але, глядзіце, заўтра прыходзьце па кошык у замак і бабулю прыводзьце з сабою. Добра?

— Прыйдзем, прыйдзем! — паабяцалі дзеці менавіта так, як рабілі, калі пані мама клікала іх да млына. Бабуля хацела нешта сказаць, але не паспела, княгіня злёгку пакланілася ёй, села на Орланда і знікла між дрэў,. як цудоўны прывід.

— Бабуля, я так хачу ў замак! Бацька казаў, што ў княгіні шмат прыгожых карцін! — сказала Барунка.

— Ёсць там папугай, які размаўляе. Ой, бабуля, там ёсць на што падзівіцца! — крыкнуў Ян, пляскаючы ў далоні.

Малая Адэлька, агледзеўшы сябе, сказала бабулі:

— А ты пераменіш мне сукенку, ці не так, бабуля?

— Божа мой, і як я недагледзела за гэтай дзяўчынкай. Ну і прыгажуня! Што ты нарабіла? — пляснула рукамі бабуля, аглядаючы перамазаную ягадамі дзяўчынку.

— Я тут не пры чым, гэта Ян мяне падштурхнуў і я паваліласяў ягады, — пралепятала малая.

— Заўсёды вы свавольнічаеце. Што цяпер княгіня будзе пра вас думаць, скажа, што вы дурасліўцы. А цяпер уставайце, пойдзем да лесніка. Я вам паўтараю, хлопцы, будзеце свавольнічаць, ніколі больш не вазьму з сабою, — гразілася бабуля.

— Мы будзем паслухмянымі, бабуля, — абяцалі хлопцы.

— Убачым, — адказала бабуля, ідучы за дзецьмі па лясной сцяжынцы да хаты лесніка.

Хутка яны апынуліся ў гаі і скрозь лістоту ўбачылі белую сядзібу лесніка. Перад домам зелянеў лужок, вакол якога раслі ліпы і каштаны, а пад імі размяшчалася некалькі лавачак і столікаў, укапаных у зямлю. Па траве хадзілі паўліны, пра якіх бабуля казала, што маюць анёльскае цярпенне, д'ябальскі крык і ліхадзейскі крок; тут жа хадзілі задумлівыя, у крапінку, цацаркі, а белыя трусікі, седзячы ў траве, стрыглі вушамі і пры кожным шоргаце баязліва разбягаліся ў розныя бакі. На ганку ляжала прыгожая сарна з чырвоным аброжкам. Па двары туляліся сабакі, якія, як толькі дзеці паклікалі іх, радасна кінуліся малым насустрач, пачалі вакол іх скакаць, ледзь не збіваючы з ног. Сарна падышла да Адэлькі і так міла на дзяўчыку паглядзела, нібы хацела сказаць: «Дык гэта ты прыносіш мне салодкія стравы? Вітаю цябе!» Адэлька прачытала просьбу ў яе вачах, адразу засунула руку ў кішэню і падала сарне кавалак салодкай булкі. Тая схапіла яго і доўга яшчэ бегла за дзяўчынкай.

— Што вас, готы, так разбірае! — даляцеў аднекуль голас, і праз хвіліну з дома выйшаў ляснік у лёгкай зялёнай куртцы і хатнім капелюшы на галаве. Убачыўшы бабулю, ён выгукнуў: «Дарагія госці! Вітаю вас, праходзьце ў хату!» І накінуўся на сабак: «Гектар, Дзіяна, Аміна, прэч адсюль! Слова сказаць не дадуць!»

Бабуля ўвайшла ў хату, над дзвярыма якой былі прыбіты велізарныя рогі аленя. У сенцах віселі стрэльбы, але так высока, што дзецям не дацягнуцца. Бабуля заўсёды баялася зброі, нават не зараджанай, а калі пан ляснік смяяўся, то казала:

— Хто ж можа ведаць, што здарыцца, чорт не спіць!

— Праўда, — пагаджаўся ляснік, — калі Бог дапусціць, то матыга стрэліць.

Бабуля ахвотна прабачала лесніку ягоныя кпіны, абы толькі ён не прыгадваў між іншым імя Бога, і калі чула гэта, то закрывала вушы рукамі і абуралася: «І як гэта язык паварочваецца так казаць, навошта ўжываць такія словы, пасля якіх трэба акрапляць сябе святою вадой!»

Ляснік вельмі любіў бабулю, і таму пры ёй стараўся не згадваць чорта, імя якога міжволі зрывалася з яго вуснаў.

— А дзе ж гаспадыня? — спытала бабуля, калі ўвайшла ў святліцу і нікога там не ўбачыла.

— Сядайце, я яе паклічу, вы ж ведаеце, яна заўсёды, як квочка, сярод куранятак, — адказаў паляўнічы і пайшоў па жонку.

Хлопцы спыніліся перад шафай, дзе блішчэлі стрэльбы і паляўнічыя нажы, дзяўчаты гулялі з сарнай, якая забегла за імі ў святліцу. Бабуля, агледзеўшы ўтульны, чысты пакой, падумала: «І праўда, калі не прыйдзеш сюды, у свята або будзень, тут заўсёды ўсё блішчыць, як шкло». А калі ўгледзела пражу, што ляжала на лаве ля печы ўжо звязаная і пазначаная, дык падышла бліжэй і стала яе разглядаць.

У гэты момант адчыніліся дзверы і ўвайшла пані, яшчэ дастаткова маладая, у чыстай хатняй сукенцы і белым каптурыку на галаве, у руках яна трымала малую русавалосую дзяўчынку. Яна сардэчна прывітала бабулю і дзяцей, і па яе твары было ясна відаць, што яна шчыра радуецца.

— Я хадзіла паліваць палатно. Цешуся, што сёлета будзе яно бялюткае, як лебедзь, — выбачалася жонка лесніка за сваю адсутнасць.

— Адразу бачна гаспадарлівасць, — сказала бабуля, — адзін кавалак адбелены, а тут я бачу пражу, падрыхтаваную ткачу. Палатно павінна быць гладкім, як пергамент. Толькі б ткач не сапсаваў, не падмануў. Ці задаволеная вы сваім ткачом?

— Самі ведаеце, мілая бабуля, кожны з іх можа падмануць, — адказала жонка лесніка.

— Хацеў бы я ведаць, які гэта ткач вас, жанчын, падмане, калі вы нават любую дробязь падлічваеце, — смяяўся ляснік.

— Але ж не стойце, сядайце, — звярнуўся ён да бабулі, якая не хацела адыходзіць ад пражы.

— Яшчэ насяджуся, — адказала бабуля, беручы за руку маленькую Анітку, якую жонка лесніка паставіла каля лавы, каб тая не павалілася, бо толькі вучылася хадзіць.

Як толькі гаспадыня адышла ад дзвярэй, з-за яе спіны ўзніклі загарэлыя хлопцы, адзін быў светлавалосы, як маці, другі — чорнавалосы, у бацьку. Яны прыбеглі ў хату ўслед за маці, але, калі пачалася паміж дарослымі размова, засаромеліся, не ведалі, як падысці да дзяцей, і схаваліся за матчыну спадніцу.

— Што ж вы, вераб'і, — пачаў бацька, — хаваецеся за маму, калі трэба вітаць гасцей? Зараз жа падайце бабулі руку.

Хлопцы ахвотна падышлі да бабулі, працягнулі ёй свае рукі, у якія яна паклала па яблыку.

— Вось вам пачастунак і ідзіце гуляць, а ў наступны раз не саромейцеся. Хлопцам не трэба трымацца за маміну спадніцу, — павучала бабуля, і тыя, апусціўшы вочы, глядзелі на яблыкі.

— А цяпер ідзіце ў двор, — загадаў бацька, — пакажыце дзецям пугача і кіньце яму сойку, што я сёння застрэліў, пакажыце ім шчанятаў і маладых фазанаў. Але, прашу вас, сярод птушак не лётайце, як ястрабы, а то я вас...

Не паспеў бацька прамовіць гэтыя словы, як уся кампанія ўжо была за дзвярыма.

— Ну і хуткасць! — усміхнуўся ляснік, але было бачна, што гэтая жвавасць яму падабаецца.

— Дзеці і ёсць дзеці, маладая кроў! — сказала бабуля.

— Калі б толькі хлопчыкі не былі такімі свавольнікамі, — уздыхнула жонка лесніка. — Ведаеце, бабуля, у мяне цэлы дзень сэрца не на месцы. То яны па пастках лазяць, то па дрэвах, то перакульваюцца, рвуць штаны — проста гора! Вось за дзяўчынку дзякую Богу, добрае дзіця.

— Як сабе хочаце, кума, дачка — у маці, а сын у бацьку ўдаецца, — заявіла бабуля.

Гаспадыня з усмешкай перадала дачушку бацьку, каб той з ёю паняньчыўся.

— Пайду, збяру чаго-небудзь паесці, праз хвіліну вярнуся, — сказала яна.

— Добрая жонка, — прамовіў паляўнічы, калі гаспадыня выйшла з пакоя, — грэх такую пакрыўдзіць. Толькі дужа баіцца, каб хлопцы не забіліся. А што толку ад хлопца, калі ў ім няма агню?

— Усялякая крайнасць шкодная, кум, дасі ім поўную волю, дык яны на галовах пачнуць хадзіць, — не пагадзілася бабуля, хоць і сама не вызначалася строгасцю.

Хутка вярнулася гаспадыня. На дубовым стале з'явіліся белы абрус, фаянсавыя талеркі, нажы з ручкамі, зробленымі з рагоў сарны, а затым суніцы, яечня, смятанка, хлеб, мёд, масла і піва.

Гаспадыня ўзяла з рук бабулі верацяно са словамі: «Кіньце сваю працу, бабуля. Калі ласка, да стала. Адрэжце сабе хлеба, намажце маслам... Масла сёння збіла. Піва свежае. Вось яечня не вельмі добрая, смажыла яе на ўсялякі выпадак, але, як кажуць, голад — лепшы кухар. Я ведаю, суніцы вы не ясце, але дзеці іх любяць са смятанкаю». Жонка лесніка гаварыла і адначасова кроіла хлеб, мазала маслам, капала на масла мёд.

Тут бабуля раптам прыгадала:

— Вось старая галава, непамятлівая! Ведаеце, я ж яшчэ не сказала вам, што размаўляла ў альтанцы з княгіняй.

— Няма нічога дзіўнага, бо дзеці каго хочаш сваім крыкам давядуць да непрытомнасці, — прагаварыла жонка лесніка.

Ляснік адразу ж пацікавіўся, пра што гаварыла з імі княгіня.

— Не апавядайце, бабуля, пакуль я не вярнуся, — папрасіла гаспадыня. — Я павінна дзяцей пакарміць, каб хоць трохі спакойна пасядзелі.

Дзеці між тым паглядзелі ўсё, пра што ім расказалі і што паказалі сыны лесніка, Франак і Берцік. Калі гаспадыня з'явілася на ганку і паклікала іх есці, сябры стаялі каля дома і глядзелі, як сабака Аміна скакаў праз палку і прыносіў у зубах кінутыя рэчы. Дзяцей двойчы клікаць не давялося.

— Сядайце пад дрэвамі і паешце, ды глядзіце, не запэцкайцеся! — казала жонка лесніка, раскладаючы ежу на стале.

Дзеці селі за стол, а сабакі леглі побач з імі, зазіраючы ў рот.

Вярнуўшыся ў святліцу, гаспадыня нагадала бабулі, што тая абяцала расказаць пра сустрэчу з княгіняй, і бабуля паўтарыла слова ў слова размову ў альтанцы.

— Заўсёды кажу, што княгіня мае добрае сэрца, — азвалася жонка лесніка. — Як ні прыедзе, заўсёды спытае пра дзяцей, а малую Анушку пацалуе ў лоб. Хто любіць малых, той добры чалавек. Слугі ж нагавораць немаведама чаго.

— Рабі чорту дабро — аддзякуе пеклам, — прамовіла бабуля.

— Так, так, бабуля, — пагадзіўся ляснік. — Гэта праўдзівая прыказка. Я таксама скажу, што лепшай пані нельга было б і пажадаць, калі б не круціліся вакол яе розныя падманшчыкі. А гэтая дворня ні на што не здатная, толькі крадзе ў Бога дзень. Паглядзіш, мілая бабуля, на ўсё гэта і не ўтрымаешся, каб не пажадаць: «Каб на вас Пярун!» Злосць бярэ, калі падумаю, што такі ёлупень, не здатны ні да чаго, акрамя як за карэтай стаяць, нібы драўляны ідал, або ў пакоях сядзець, мае столькі ж, колькі я, ці нават больш за мяне, а я ж і ў дождж, і ў завіруху павінен цягацца па лесе, удзень і ўначы драць глотку з браканьерамі, за ўсім наглядаць, за ўсё адказ-

ваць! Я на сваё жыццё не скарджуся, я задаволены. Але вось з'явіцца сюды такі Фаўн і задзірае перада мною нос. Ды я б яго... А, што дарэмна казаць, — і схапіўшы шклянку, ляснік выпіў са злосці.

— А ці ведае княгіня пра ўсё, што робіцца? Няўжо ніхто не паскардзіцца ёй, што з ім абыходзяцца несправядліва? — спытала бабуля.

— Дык хто ж захоча сам лезці ў пекла? Я з ёю часта размаўляю, мог бы што-небудзь сказаць, але заўсёды думаю: «Маўчы, Франку, нагаворыш на сваю галаву». У рэшце рэшт яна мне не паверыла б, запыталася б у сваіх прыбліжаных, і тады я прапаў. Размаўляў я з княгіняй некалькі дзён таму, калі хадзіла яна па лесе з іншаземным князем, які цяпер у яе гасцюе. Сустрэлі яны недзе Вікторку і пачалі распытваць мяне, хто яна такая і як здарылася, што яна звар'яцела.

— І што ж вы ёй сказалі? — спыталася бабуля.

— Ну, што я мог сказаць? Сказаў, што звар'яцела, але ж нікому шкоды не робіць.

— А пані што?

— Села на траву, князь каля яе ног; мне загадалі таксама сесці і расказаць, як здарылася, што Вікторка страціла розум.

— А ты з задавальненнем апавядаў, ці не так? — усміхнулася жонка лесніка.

— Бачыш, жонка, хто ж не хацеў бы дагадзіць прыгожай пані, а наша княгіня хоць і не надта маладая, але ж вельмі прыгожая. Што ж мне заставалася рабіць? Мусіў апавядаць.

— Але ж і хітры вы, куме, ужо два гады, як я жыву тут, чую вашыя абяцанні расказаць пра тое, што здарылася з Вікторкай, а так нічога і не ведаю, толькі пятае цераз дзесятае. Я не прыгажуня, загадваць вам не магу, таму, пэўна, ніколі нічога не даведаюся!

— Ах, бабуля, вы мне мілей за самую прыгожую пані ў свеце, і калі вам хочацца паслухаць, то раскажу вам гэтую гісторыю цяпер.

— Пан кум захоча, дык шаўковы дыван падкладзе, гэта праўда, — усміхнулася бабуля. — Калі кума не супраць, лаўлю вас на слове. Стары — што малы, а дзеці, як вы ведаеце, любяць аповеды.

— І я, хоць не старая, таксама з задавальненнем паслухаю. Так расказвай, бацька, расказвай, выдатна пройдзе час, — сказала жонка лесніка.

— Мамка, дай нам, калі ласка, яшчэ хлеба, бо ў нас ужо няма ні кавалка, — пачуўся ў дзвярах голас Берціка.

— Гэта немагчыма, і куды ў дзяцей столькі змяшчаецца! — здзівілася бабуля.

— Палову з'елі, палову аддалі сабакам, сарне і ваверкам. Яны заўсёды так. Ох, і цяжка мне з вамі, — уздыхнула гаспадыня, наразаючы зноў хлеб.

Пакуль яна другі раз хадзіла на лужок карміць дзяцей і клапацілася пра малую дзяўчынку, ляснік набіваў тытунём люльку.

— У нябожчыка мужа, царства яму нябеснае, быў такі ж звычай: калі пачынаў пра нешта апавядаць, рыхтаваў сабе люльку, — сказала бабуля, і вочы яе заблішчэлі ад успамінаў.

— Я не ведаю, мужчыны нібы згаварыліся, усе завялі такую кепскую звычку, — пачуўся ў дзвярах голас гаспадыні, да якой даляцелі бабуліны словы.

— Не рабі выгляд, нібыта не церпіш гэтую звычку, бо сама мне прывозіш тытунь з горада, — сказаў паляўнічы, запальваючы люльку.

— Ведама, каго любіш, таго і галубіш. А цяпер пачынай аповед, — сказала гаспадыня, сядаючы з верацяном каля бабулі.

— Дык слухайце!

Сказаўшы гэта, ляснік пусціў да столі першае воблачка дыму, зручней уладкаваўся на крэсле і пачаў апавядаць пра Вікторку.

# VI

Вікторка — дачка селяніна з Жэрнава. Бацькі яе ўжо даўно памерлі, а брат з сястрою жывуць і сёння. Пятнаццаць гадоў назад Вікторка была, што маліна, цяжка было знайсці ёй роўную. Гарэзлівая, як сарна, працавітая, як пчолка, ніхто не мог лепшай жонкі і пажадаць. Такая дзяўчына, ды яшчэ з добрым пасагам, зразумела, не заседзіцца ў дзеўках. Пра Вікторку ішла слава па ўсёй акрузе, ад сватоў не было адбою. Бацьку і маці многія падабаліся, некаторыя былі заможнымі гаспадарамі, і дачка, як кажуць, магла б мець дастатак. Але яна нічога не хацела разумець. Толькі той ёй спадабаўся б, хто добра танцаваў, і абавязкова пад музыку.

Часам узнікала ў галаве бацькі думка, што дачка занадта пераборлівая і жаніхі паступова знікнуць, тады падступаў да яе з патрабаваннямі, каб спыніла выбар на адным, бо інакш сам жаніха знойдзе і прымусіць яе пайсці замуж. Тады дзяўчына пачынала плакаць, прасіла не гнаць яе з дому, казала, што не трэба ўмешвацца, бо цяпер ёй толькі дваццаць гадоў, што яна яшчэ не бачыла свет, і толькі Бог ведае, каму яна дастанецца і ці будзе шчаслівая. Бацька дзяўчыну вельмі любіў, і, калі чуў такія словы, шкадаваў дачку, і, гледзячы на яе прыгожы твар, думаў: «У цябе яшчэ шмат часу, жаніха заўсёды знойдзеш».

Людзі на гэта глядзелі інакш. Казалі, што Вікторка мае празмерны гонар і чакае, калі за ёю прыедуць у карэце, прарочылі, што ганарлівасць да дабра не давядзе, бо хто доўга выбірае, той заўсёды памыляецца.

У той час былі ў вёсцы на пастоі салдаты. Адзін з іх пачаў хадзіць за Вікторкай. Ішла тая ў касцёл — ён ішоў за ёю, у касцёле стаяў непадалёк і, замест таго каб глядзець на алтар, вачэй не зводзіў з Вікторкі. Калі яна ішла накасіць травы, ён таксама знаходзіўся паблізу; словам, куды б яна ні ішла, ён ішоў за ёю, як цень. Людзі казалі, што салдат страціў розум, а Вікторка, калі ў таварыстве сяброўак гутарка за-

ходзіла пра яго, пыталася: «І чаго гэты салдат за мной ходзіць? Нічога не гаворыць, што той воўк. Я яго баюся. Калі стаіць паблізу, мне млосна робіцца, а ад тых вачэй галава кружыцца».

Тыя вочы, на думку людзей, нічога добрага не абяцалі; уначы яны нібы свяціліся, а чорныя бровы над імі нагадвалі два крумкачовыя крылы, што зрасліся, і гэта была ўжо надзейная прыкмета злога вока. Некаторыя, шкадуючы салдата, казалі: «Божа мой, хто ж вінаваты, што ён такім нарадзіўся! На ўсіх гэтыя вочы так уздзейнічаюць, дык хіба ўсе павінны баяцца». Тым не менш суседкі, ледзь толькі ён паглядзіць на дзяцей, у жаху спяшаліся абцерці тых белай хусткай, а калі на вёсцы ў каго-небудзь хварэла малое, то казалі, што яго сурочыў чорны салдат. У рэшце рэшт людзі звыкліся з хмурым тварам салдата, і сярод дзяўчат узнікала думка, што ён не быў бы такі страшны, калі б быў крыху весялейшы. Агульная думка была наступная: «Дзівак. Бог ведае, адкуль узяўся ён, магчыма, гэта і не чалавек. Лепш пры сустрэчы з ім перахрысціцца і сказаць: «З намі Бог, а злая сіла прэч!» Ніколі ён не танцуе, не размаўляе, не спявае. Хай ідзе сваёй дарогай». Пра яго забыліся, але гэта не дапамагло. Лёгка дзяўчатам казаць, што не трэба звяртаць на яго ўвагу. Ён жа за імі не хадзіў. А ў Вікторкі было сапраўднае пекла.

Яна ўжо не выходзіла з хаты, калі не было патрэбы, толькі б схавацца ад яго вачэй. Ужо перастала радаваць яе музыка, таму што заўсёды аднекуль з кута за ёю сачыў пахмурны погляд. Ужо не хадзіла яна з радасцю на вячоркі, бо ведала, што салдат калі не сядзіць у святліцы, то стаіць ля акна, і ад гэтага ў дзяўчыны зрывацца, знікае голас, рвецца нітка. Напакутавалася яна. Кожны бачыў перамены, што з ёю адбываліся, але ніхто нават не здагадваўся, што вінаваты ва ўсім чорны салдат. Усе лічылі яго вар'ятам і думалі, што Вікторка, не ведаючы, як пазбавіцца ад салдата, махнула на яго рукой. Але аднойчы тая сказала сваім сяброўкам:

— Верце мне, дзяўчаты, калі б хто-небудзь да мяне цяпер пасватаўся, бедны або заможны, прыгожы або не, не задумваючыся б за яго пайшла.

— Што ты ўзяла сабе ў галаву? Няўжо родны дом настолькі табе абрыд, што спяшаешся, або з намі быць не падабаецца? — пыталіся дзяўчаты.

— Не думайце так пра мяне. Але я не магу больш трываць прысутнасць чорнага салдата. Вы нават не можаце сабе ўявіць, як гэты чалавек даймае, як мучыць мяне. Не ў сілах я спаць спакойна, маліцца, бо паўсюль пераследуюць мяне гэтыя вочы, — плачучы, скардзілася Вікторка.

— Божачкі, чаму ты яму не забароніш хадзіць за табою? Чаму не скажаш, што бачыць яго не можаш, што ён табе, як бяльмо на воку, — дзівіліся дзяўчаты.

— А ці ж я гэтага не рабіла? З ім я не гаварыла, ды і як з ім пагаворыш, калі ходзіць за мною, як цень, і маўчыць. Але перадавала яму праз ягоных таварышаў.

— Ну, ці паслухаўся ён? — пыталіся сяброўкі.

— Дзе там! Сказаў, што ніхто не мае права яму загадваць і што будзе хадзіць за тым, за кім хоча. Аднак ён ніколі мне не гаварыў пра каханне, каб я яму не адказала, што бачыць яго не хачу!

— Сапраўдны грубіян, — абураліся дзяўчаты. — Ды што ён пра сябе думае?! Трэба яго правучыць за гэта.

— З такім лепш не звязвацца, а то яшчэ зачаруе, — выказаўся нехта асцярожна.

— Глупства, нічога ён нам не зробіць! Да таго ж, каб зачараваць, ён павінен атрымаць нешта такое, што мы носім на целе, а гэтага ніхто яму не дасць, ды і ад яго нічога не возьме. Чаго ж тут баяцца? І ты, Вікторка, не бойся. Мы заўсёды побач з табою будзем хадзіць і некалі чорту адплоцім! — крычалі, смеючыся, смялейшыя з дзяўчат.

Але Вікторка, баязліва азіраючыся, уздыхала: «Толькі б засцярог мяне Бог ад бяды!»

Тое, што Вікторка сказала дзяўчатам, не засталося таямніцай, і хутка чуткі разнесліся паўсюль, дайшлі яны і да суседняй вёскі.

Ужо праз некалькі дзён нейкі паслужлівы чалавек з іншай вёскі з'явіўся ў доме Вікторчынага бацькі. Пагаварылі яны пра тое, пра сёе, і нарэшце, госць, зачырванеўшыся, сказаў, што яго сусед хацеў бы ажаніць свайго сына з Вікторкаю, прасіў быць сватам і даведацца, ці можна весці размову пра заручыны.

— Пачакай хвілінку, я спытаю Вікторку. Хай сама і адкажа. Што тычыцца мяне, то я ведаю Шыму і сына яго, Тонду, таксама ведаю і не супраць з імі парадніцца; маюць добрую гаспадарку, — сказаў стары свату і пайшоў у пакой да дачкі, каб з ёю параіцца.

Калі Вікторка пачула, што яе хочуць сватаць, то адказала, не вагаючыся:

— Хай прыходзяць!

Бацьку здалося дзіўным, што яна так хутка згадзілася. Стаў ён яе распытваць, ці ведае яна Тонду, каб хлопца не падмануць. Але Вікторка трымалася свайго і сказала бацьку, што Тоніка Шымовіча добра ведае, што гэта годны хлопец.

— Я рады твайму рашэнню, — пагадзіўся бацька, — рабі, як хочаш. Няхай тады з Богам прыходзяць.

Калі бацька пайшоў, у пакой зайшла маці, перахрысціла дачку і пажадала ёй шчасця.

— Мяне асабліва радуе, што не трапіш ты ні да свекрыві, ні да залоўкі, будзеш сама гаспадыняй, — дадала маці.

— Ах, матуля, я пайшла б за яго, нават калі б у мяне было дзве свекрыві! — адказала Вікторка.

— Гэта лепей, калі так кахаеце адзін аднаго.

— Ды не, матуля, я любому добраму хлопцу слова дала б.

— Што ты гаворыш? Да цябе ж многія сваталіся, а ні за каго ты не захацела пайсці.

— Не хадзіў тады за мною салдат са злымі вачыма, — прашаптала Вікторка.

— Ці ў сваім ты розуме! Што ты гаворыш пра салдата, што ён табе? Няхай ходзіць, дзе хоча. Кінь пра яго думаць. Ён цябе з дому выганяе!?

— Выганяе, матуля, ох, выганяе! Пакутую я, змучылася ўся, няма мне ні спакою, ні адпачынку, — заплакала дзяўчына.

— Чаму ж ты раней мне нічога не казала? Я пайшла б з табою да кумы кавалiхі. Тая ўмее ў такіх справах дапамагаць. Супакойся, заўтра ж пойдзем да яе, — суцяшала маці дачку.

На другі дзень маці з дачкой пайшлі да старой кавалiхі. Тая ведала пра многія рэчы, пра якія не ведалі іншыя людзі. Згубіцца нешта, карова не доіцца, сурочыць нехта, — кавалiха ва ўсім дапаможа, усё разгадае. Вікторка даверліва пра ўсё кавалісе расказала.

— І ты з ім ніводным словам не перамовілася? — дапытвалася ў яе кавалiха.

— Ніводным.

— А ён, ці не дасылаў табе праз сяброў што-небудзь з ежы, яблык ці марцыпан?

— Нічога, кума, нічога. Ні адзін з салдат з ім не сябруе, бо занадта важны і зусім нелюдзімы, як у нас кажуць на вёсцы.

— Гэта ваўкалак, — сцвердзіла кавалiха. — Але ты нічога не бойся, Вікторка, я табе дапамагу, гэта яшчэ не позна зрабіць. Прынясу я табе заўтра рэч, якую павінна будзеш увесь час насіць з сабою. Раніцай, калі выйдзеш з пакоя, ніколі не забывай акрапіць сябе святою вадою і сказаць: «Бог са мною, а зло згінь!» Калі пойдзеш па полі, не аглядайся ні назад, ні па баках; а калі салдат загаворыць з табою, не глядзі на яго, нават калі б гаварыў, як анёл. Ён можа і голасам зачараваць, дык ты закрывай вушы. Памятай пра гэта. Калі ж праз некалькі дзён табе не будзе лепей, паспрабуем што-небудзь іншае, толькі зноў да мяне прыйдзі.

Вікторка выйшла з радаснай думкай і надзеяй, што цяпер усё будзе добра і лёгка, як было калісьці.

На другі дзень кавалiха прынесла ёй нешта, зашытае ў чырвоную тканіну, і сама павесіла Вікторцы на шыю, за-

гадаўшы, каб не здымала і нікому не паказвала. Увечары, калі дзяўчына касіла траву, яна заўважыла, што недалёка ад дрэва нехта стаіць, і адчула, як кроў прыліла да твару, але стрымалася і не глядзела па баках. Скончыўшы працу, яна так хутка пабегла дадому, нібы зямля пад ёю курэла.

На трэці дзень была нядзеля. Маці пякла булкі, бацька пайшоў запрасіць на абед настаўніка і некалькіх суседзяў, і па ўсёй вёсцы разнеслася вестка: «У Мікшы сёння заручыны!»

А другой палове дня з'явілася да Мікшы трое вяскоўцаў у святочных строях, у двух з іх на рукавах былі галінкі размарыну.

Гаспадар прывітаў гасцей на парозе, а ўсе хатнія, стоячы на ганку, віталі іх словамі: «Дай вам Бог многа шчасця!»

— І вам! — адказаў сват за бацьку і сына.

Жаніх увайшоў апошнім, а з вуліцы данесліся жаночыя галасы: «Добры хлопец гэты Тонік, галаву трымае, як алень, а якую мае прыгожую галінку размарыну на рукаве, і дзе толькі ён яе купіў?» Мужчынскія галасы адказвалі: «Што ж яму не ганарыцца, калі забірае з вёскі самую прыгожую дзяўчыну, найлепшую танцорку, добрую гаспадыню, ды яшчэ і заможную. І сапраўды пашчасціла!»

Так думалі на вёсцы многія бацькі і гневаліся на Віхторку, чаму чужынца выбрала, чаму не ўпадабала нікога са сваіх, навошта так спяшаецца. Адным словам, абмяркоўвалі, як звычайна ў такіх выпадках робіцца.

Увечары былі заручыны. Настаўнік склаў шлюбны кантракт, сведкі і бацькі паставілі пад ім тры крыжыкі замест імёнаў, якія давялося напісаць настаўніку. Віхторка паціснула Тоніку руку і паабяцала праз тры тыдні стаць яго жонкай. На другі дзень прыйшлі сяброўкі пажадаць ёй шчасця, і калі Віхторка выйшла на вясковую плошчу, усе яе віншавалі: «Хай пашле табе Бог шчасця, маладая!» А калі моладзь разам пачала крычаць: «Сумна табе будзе без нас, Віхторка! Навошта пакідаеш нас?» — слёзы выступілі на яе вачах.

Некалькі дзён Вікторка заставалася вясёлай, і калі вымушана была ісці за вёску, дык ішла без ранейшага страху, які не пакідаў, калі яна яшчэ не насіла ладанку ад каваліхі і не была заручана. Ёй здавалася, што ўсе страхі зніклі, дзякавала Богу і кавалісе, якая дала ёй такую добрую параду. Але радасць была нядоўгай.

Аднойчы вечарам сядзела яна з жаніхом у садзе. Размаўлялі яны пра будучую сваю гаспадарку, пра вяселле. Раптам Вікторка змоўкла, скіравала погляд на кусты, і рукі ў яе затрэсліся.

— Што з табою? — здзіўлена спытаў малады.

— Паглядзі між галінамі насупраць, ці нічога не бачыш? — прашаптала маладая.

Хлопец паглядзеў і кажа:

— Нічога я не бачу. А што ты там заўважыла?

— Мне падалося, што на нас чорны салдат глядзеў, — прамовіла Вікторка яшчэ цішэй.

— Ну, пачакай жа! Я пакладу гэтаму канец, — выкрыкнуў Тонік, ускочыў і ўсё пераглядзеў, але дарма: нікога ён не знайшоў. — Я яму гэтага не дарую. Калі на цябе яшчэ будзе глядзець, дык даведаецца, з кім мае справу, — злаваўся хлопец.

— Не пачынай з ім ніякай сваркі, Антанін, прашу цябе, бо ведаеш: салдат ёсць салдат. Бацька сам хадзіў да іх на Чырвоную Гару і добра заплаціў бы, каб іхні афіцэр прыбраў з нашай вёскі чорнага салдата. Але той нічога не можа зрабіць, нават калі б хацеў, бо няма ніякай віны ў тым, што мужчына глядзіць на дзяўчыну. Бацька чуў размову сярод леснікоў, што гэты салдат з вельмі заможнага роду, што ён сам запісаўся ў салдаты і можа кінуць службу, калі захоча. Заспрачаешся з такім, дык табе ж самому дрэнна будзе, — так сказала дзяўчына Тоніку, і ён паабяцаў пакінуць салдата ў спакоі.

На Вікторку з таго вечара найшла нуда. Як бы моцна ні прыціскала яна ладанку да сэрца, тое працягвала моцна біцца,

калі бачыла дзяўчына нядобры погляд. Вікторка пайшла па параду да кавалíхі.

— Не ведаю, магчыма, гэта Бог мяне пакараў, але не дапамагае мне нічога, што вы мне казалі. Я ўсё выконвала дакладна, — паскардзілася Вікторка.

— Пачакай, дзяўчыначка, будзь цярплівай, я яго пакараю, нават калі б гэта быў сам антыхрыст. Трэба толькі атрымаць ад яго дзве рэчы. Пакуль я іх дастану, хавайся ад яго, дзе можаш. Маліся свайму анёлу-ахоўніку, і за душы ў чыстцы таксама маліся. Калі якую з іх вымаліш, дык будзе табе заступніцай перад Богам.

— Самае горшае, кума, што я ўжо не магу спакойна маліцца, — плакала Вікторка.

— Ах, дзяўчына, чаму ж ты так доўга маўчала? Вось цябе злая сіла і перамагла. Ну, дасць Бог, адолеем мы таго д'ябла.

Вікторка, сабраўшы ўсе сілы, горача малілася, і калі думкі пачыналі разбягацца, то, каб адступіла ад яе злая сіла, успамінала пра пакуты Хрыста, пра Дзеву Марыю.

Так змагалася яна два дні, а на трэці пайшла на далёкі край бацькавага поля па канюшыну. Работніку загадала, каб скора прыехаў за ёю, бо накасіць травы нядоўга! На поле Вікторка ішла лёгкім крокам, скакала, як козачка або сарна, людзі спыняліся, каб палюбавацца на яе, такая яна была ладная. Туды ішла сама, а назад яе прывёз работнік на калёсах з зяленай канюшынай, бледную, параненую. Нага яе была перавязана тонкай белай хусткай; давялося несці дзяўчыну ў хату на руках.

— Маці Божая святагорская! — галасіла маці. — Дзіцятка, што з табою здарылася?

— Застраміла я нагу, глыбока, было мне дрэнна. Аднясіце мяне ў пакой, я лягу! — прасіла Вікторка.

Паклалі яе на ложак, і бацька пайшоў па кавалíху. Тая прыбегла адразу ж, а за ёю, як звычайна, натоўп няпрошаных кумачак. Адна раіла прыкласці да раны падбел, другая — глухую крапіву, трэцяя — кроў загаварыць, чацвёртая аку-

рыць, але каваліха не дала сябе збіць і прысыпала ацёклую нагу бульбяною мукою. Потым яна выгнала ўсіх з пакоя, заявіўшы, што будзе сама даглядаць Вікторку і што ўсё хутка будзе ў поўным парадку.

— А цяпер скажы мне, дзяўчыначка, што з табою здарылася, ты відавочна не ў сабе? І хто перавязаў табе нагу белаю тонкаю хусткай? Я яе схавала, каб гэтыя пляткаркі не ўгледзелі, — казала прадбачлівая каваліха, уладжваючы нагу на ложку.

— Куды ты яе схавала, кума? — спытала хутка Вікторка.

— У цябе пад падушкай.

Вікторка ўзяла хустку, паглядзела на крывавыя плямы на ёй, прачытала вышытае незнаёмае імя, і твар яе то бляднеў, то чырванеў.

— Дзяўчыначка, ты мне не падабаешся. Што я павінна пра цябе думаць?

— Думайце, што Бог мяне пакінуў, што я загінула на векі вечныя і няма мне ніякага выратавання!

— Можа, гэта яна ў гарачцы трызніць? — падумала кума, дакранаючыся да твара Вікторкі, але ён быў халодны, як і рукі, і толькі вочы дзяўчыны свяціліся, скіраваныя на хустку, што трымала яна перад сабою абедзвюма рукамі.

— Так паслухайце, кума, — пачала Вікторка ціха, — але нікому не гаварыце, што я вам скажу. Гэтыя два дні я не бачыла яго. Вы ведаеце, пра каго я думаю. Але сёння... Сёння з самай раніцы ў мяне ў вушах звінелі словы: «Ідзі па канюшыну, ідзі па канюшыну», нібыта нехта мне нашэптваў. Я ведала, што гэта д'ябальская спакуса, ведала, што салдат часта бывае там, каля нашага поля, сядзіць пад дрэвам на пагорку, але я месца сабе не знаходзіла, пакуль не ўзяла хустку і касу.

Па дарозе я думала, што сама сабе вораг, а ў вушах усё звінела: «Ідзі па канюшыну, ідзі па канюшыну!..» «Невядома яшчэ, ці будзе ён там, няма чаго табе баяцца, бо прыедзе за табою Тамаш», — гэтая думка падганяла мяне на поле. Глянула я пад дрэва — там нікога няма. Ну, калі нікога няма,

дык няма чаго баяцца; узяла я касу і хацела касіць. Але тут мне захацелася выпрабаваць сваё шчасце і пашукаць чатырохлістую канюшыну. Пры гэтым я думала: «Калі знайду, значыць, буду шчаслівая з Антанінам...» Шукаю, шукаю, ужо ўсе вочы на канюшыну прагледзела, а нічога не знайшла. І тут раптам надумала паглядзець па баках. І каго я ўбачыла пад дрэвам? Салдата! Я хутчэй адвярнулася і ў той жа момант з маху наступіла на цёрн, што ляжаў ля дарогі, і параніла нагу. Я не закрычала, але мне было так балюча, што ў вачах пацямнела, і я павалілася на зямлю. Бачу, нібы ў сне, што нехта ўзяў мяне на рукі і панёс. Ад моцнага болю я апрытомнела. Каля ручая стаяў на каленях салдат і абвязваў маю нагу змочанай у вадзе белаю хусткай. «Божа, — падумала я, — што са мною цяпер будзе? Не збегчы мне ад гэтых вачэй... Адно выратаванне — не глядзець». Боль не сціхаў, галава кружылася, але я нават не войкала і вачэй не расплюшчвала. Калі ён дакранаўся да майго лба, браў мяне за руку, я маўчала, хоць часам мароз прабягаў па скуры. Пазней паклаў ён мяне на зямлю і пачаў пырскаць мне вадою на твар, а другой рукою падтрымліваў маю галаву. Што мне заставалася рабіць, вымушана была я вочы расплюшчыць. Ах, мілая кума, яго вочы свяціліся, як яснае сонейка. Я зноў апусціла вейкі. Але ўсё было дарэмна — ён загаварыў! Ох, мелі вы рацыю, што можа ён зачараваць голасам. І цяпер яшчэ ягоны голас гучыць у мяне ў вушах, усё чую яго словы, што ён кахае мяне, што я — яго шчасце, яго жыццё!

— Якія грэшныя словы, адразу бачны д'яблавы падкопы, якому чалавеку прыйдзе ў галаву казаць такое! Няшчасная ты дзяўчыначка, і што ж ты падумала, і як ты паверыла! — бедавала каваліха.

— Божа, як не паверыць, калі вам кажуць, што вас кахаюць!

— Глупства кажуць. Што з таго? Толькі баламуцяць. Ён хоча ў цябе розум забраць.

— Я яму тое ж сказала, але ён Богам і душою кляўся, што закахаўся ў мяне з першага позірку, і толькі таму пазбягаў гаварыць са мною і прызнацца, што не хацеў звязваць жыццё мае са сваім няшчасным лёсам. Ах, я ўжо і не памятаю, што ён яшчэ мне казаў, было гэта вельмі жаласліва. Я паверыла яму, сказала, што баялася яго і толькі з-за страху перад ім дала згоду на шлюб, адкрылася, што нашу ля сэрца ладанку, і калі ён пажадае, то аддам яе яму, — скончыла свой аповед Вікторка.

— Божа мой, — бедавала каваліха, — яна аддала яму асвячоную ладанку, аддала рэч, сагрэтую на сваіх грудзях! Цяпер ты цалкам ад яго залежыш. Цяпер ужо і Бог не вырве цябе з яго кіпцюроў, зачараваў ён цябе назаўсёды!

— Ён мне сказаў, што чары і ёсць каханне і каб я нікому іншаму не верыла, — азвалася Вікторка.

— Так, так, кажаш, каханне... Я б яму сказала, што ёсць каханне, але ўсё гэта дарэмна. Ды што тут казаць, нарабіла ты бяды, бо гэта ваўкалак, і будзе ён смактаць кроў з твайго цела, а калі ўсю высее, то задушыць цябе, і не знойдзе твая душа спакою і пасля смерці. А якой ты магла б быць шчаслівая!

Вікторку напалохалі словы кумы, але праз хвіліну яна сказала:

— Усё дарэмна. Я за ім пайду, нават калі павядзе мяне да пекла. Усё адно. Прыкрыйце мяне, мне холадна! — прашаптала, трошкі памаўчаўшы.

Кума накінула на яе ўсе коўдры, якія толькі знайшла, а Вікторцы ўсё было холадна, і яна ні слова больш не сказала.

Каваліха сапраўды любіла Вікторку, і хоць злавалася на яе, што выпусціла з рук ладанку, лёс дзяўчыны, якую яна лічыла загубленай, непакоіў яе. Пра ўсё, што пачула ад Вікторкі, яна нікому не сказала.

З таго дня Вікторка ляжала ў ложку, як забітая. Не размаўляла, казала толькі незразумелыя словы, нічога не ха-

цела, ні на каго не звяртала ўвагі. Каваліха не адыходзіла ад яе і, каб дапамагчы дзяўчыне, выкарыстоўвала ўсё сваё майстэрства. Але паляпшэння не было, і бацькі з кожным днём хадзілі ўсё больш засмучоныя, а малады зусім засумаваў. Каваліха круціла галавою і думала: «Гэта не выпадкова, што ні адзін з маіх сродкаў не дзейнічае, хоць ужо колькім людзям дапамагала. Мабыць, салдат нешта ёй зрабіў!»

Гэтыя думкі не пакідалі яе ні ўдзень ні ўначы, і калі неяк ноччу выпадкова глянула ў акенца, убачыла ў садзе ля дрэва мужчыну ў плашчы. Яго вочы пазіралі ў акно, свяціліся, нібы гарачыя вуглі, так, ва ўсякім разе, падалося кавалісе. Цяпер яе здагадкі пацвердзіліся.

З вялікай радасцю яна даведалася ад Мікшы, што салдаты атрымалі загад пакінуць вёску.

— Па мне, дык маглі б застацца ўсе, акрамя аднаго; я зараз больш задаволены, чым калі б нас золатам абсыпалі. Сам чорт яго прынёс. Мне здаецца, што наша Віторка змянілася з таго часу, што ён нешта ёй зрабіў, — казаў бацька, а маці і каваліха з ім пагаджаліся.

Каваліха спадзявалася, што, калі адыйдзе д'ябальская сіла, усё павернецца да лепшага.

Салдаты пайшлі. У тую самую ноч Віторцы было так дрэнна, што каваліха вырашыла паклікаць святара, але да раніцы дзяўчыне палепшала і станавілася ўсё лепей, і, нарэшце, праз некалькі дзён яна ўстала з ложка. Каваліха тлумачыла гэта тым, што Віторка пазбавілася д'ябальскіх чараў, але ёй прыемна было чуць, калі людзі казалі: «Каваліха — майстар. Калі б не яна, Віторка не хадзіла б». А паколькі гэта чулася паўсюль, яна і сама ў рэшце рэшт паверыла, што менавіта яе ўменне выратавала дзяўчыну.

Але хвароба яшчэ не адступала. Віторка, хоць і паднялася, выходзіла на вуліцу, але заставалася, як і раней, да ўсяго абыякавай. Не гаварыла, нікога не заўважала, погляд яе быў замутнёны. Каваліха суцяшала ўсіх, кажучы, што з часам гэта пройдзе. Яна не лічыла патрэбным больш знаходзіцца каля

ложка дзяўчыны. Зноў з Вікторкай у пакоі спала яе сястра Маржэнка.

У першую ноч, калі дзяўчаты засталіся адны, села Маржэнка да Вікторкі на ложак і пяшчотным голасам (добрая ў яе была душа) спытала, чаму сястра такая дзіўная і што ёй патрэбна. Вікторка паглядзела на яе і прамаўчала.

— Ведаеш, Вікторка, я нешта сказала б табе, але баюся, што ты будзеш злавацца.

Вікторка пакруціла галавою і вымавіла:

— Раскажы, Маржэнка.

— У той вечар, як адышлі салдаты, — пачала тая, але ледзь толькі яна прамовіла гэтыя словы, Вікторка схапіла яе за руку і спытала:

— Салдаты пайшлі? А куды?

— Пайшлі, а куды — не ведаю.

— Хвала Богу, — уздыхнула дзяўчына і зноў легла на падушкі.

— Дык слухай, Вікторка, толькі не гневайся на мяне, я ведаю, што ты чорнага салдата бачыць не магла і што будзеш злавацца на мяне, бо я гаварыла з ім.

— Ты гаварыла з ім? — схамянулася Вікторка.

— Як я магла яму адмовіць, калі ён так прасіў? Але [redacted] ніводнага разу на яго не паглядзела — баялася. Салдат доўга хадзіў каля нашага дома, ды я ўвесь час уцякала, але ён мяне злавіў у садзе. Даваў мне нейкія зёлкі і ўсё прасіў запарыць іх для цябе, быццам бы табе стане лепш, але я яму сказала, што нічога ад яго не вазьму, баялася, каб не даў табе якога нагаворнага зелля. Калі ж я адмовілася тыя зёлкі браць, папрасіў: «Тады хаця б скажы Вікторцы, што адыходжу, але ніколі не забудуся на сваё абяцанне. Няхай і яна не забываецца. Мы яшчэ сустрэнемся!» Я паабяцала перадаць гэтыя словы і стрымала сваё абяцанне. Але не бойся, ён ужо больш не вернецца і пакіне цябе ў спакоі, — скончыла аповед Маржэнка.

— Добра, Маржэнка, добра, ты малайчына, правільна зрабіла, што сказала. Ідзі спаць, ідзі! — прамовіла Вікторка і пагладзіла яе па мяккім плячы.

Маржэнка паправіла ёй пад галавой падушку, пажадала добрай ночы і легла.

Раніцаю, калі Маржэнка прачнулася, ложак Вікторкі быў пусты. Яна падумала, што сястра, магчыма, пайшла ў святліцу, але яе не было ні там, ні ў двары. Бацькі здзівіліся, паслалі да кавалiхі, ці не да яе пайшла Вікторка, але і там яе не знайшлі.

— Куды ж яна падзелася? — пытаўся адзін у другога, азіраючы кожны кут. Пабег работнік да жаніха. Калі і там не знайшлі, прыйшоў да бацькоў дзяўчыны малады і сказаў, што нічога пра яе не ведае. Толькі пасля гэтага каваліха вырашыла загаварыць:

— Я думаю, што збегла яна да салдата!

— Гэта няпраўда! — крычаў малады.

— Вы памыляецеся, — пераконвалі бацькі, — яна яго цярпець не магла. Як жа такое можа быць!

— І ўсё ж гэта так, — сказала каваліха і распавяла пра тое, што ёй даверыла Вікторка. Маржэнка таксама паведаміла, пра што з сястрою гаварыла. Калі спалучылі адно з другім, зразумелі, што Вікторка пайшла да салдата, бо не магла адолець д'ябальскія чары, меўшыя над ёю сілу.

— Я яе не вінавачу, яна тут ні пры чым; шкада, што яна позна мне адкрылася, а то я магла б ёй дапамагчы. Але цяпер нічога не зробіш, ён яе зачараваў, і колькі захоча, столькі будзе яна за ім хадзіць. Калі вы пойдзеце і вернеце яе дахаты, яна ўсё адно ўцячэ да яго, — так разважала каваліха.

— Але я пайду і знайду яе. Можа, змагу пераканаць. Яна была добрай дзяўчынай, — цвёрда сказаў бацька.

— Я пайду з вамі, бацька! — вырашыў Тонік, які ўсё слухаў, нібы ў сне.

— Ты застанешся дома, — рашуча заявіў селянін. — Калі чалавек у гневе, то губляе галаву, так можаш трапіць у халод-

ную або ў салдаты. Да чаго гэта прывядзе? Ты напакутаваўся дастаткова разам з намі ў гэтыя дні, не вярэдзь больш сваёй раны. Тваёй жонкай яна ўжо быць не можа, дык выкінь з галавы. Калі хочаш, пачакай год, аддам за цябе Маржэнку, гэта добры выбар. З радасцю назаву цябе сынам, але прымушаць не буду, рабі, як табе розум падкажа.

Усе вакол плакалі, а бацька суцяшаў:

— Не плачце, гэта дарэмна. Калі не прывязу яе дахаты, значыць — такая Божая воля.

Бацька ўзяў некалькі залатых, даў распараджэнні па гаспадарцы і рушыў у дарогу. Ідучы, усюды распытваў, ці не бачылі Вікторку, апісваў дачку з галавы да ног, але ніхто яе не бачыў. У Ёзэфаве яму сказалі, што леснікі пайшлі ў Градзец. Там паведамілі, што чорны салдат трапіў у іншае аддзяленне і нібыта збіраўся ў адстаўку. Куды яго перавялі, салдат сказаць не мог. А быў гэта той самы ляснік, што ў свой час знаходзіўся ў Мікшаў на пастоі. Хлопец сцвярджаў, што Вікторку ніхто не бачыў. Многія раілі бацьку звярнуцца да ўлад — так, маўляў, будзе найлепш, але селянін не хацеў мець з начальствам справу.

— Не хачу з імі звязвацца, — тлумачыў, — не хачу, каб прыгналі маю дачку, як уцякачку якую-небудзь, і пальцам на яе паказвалі. Не буду яе ганьбіць. Дзе б яна ні была, усюды лёс яе ў руках Божых, без Яго волі не спадзе з яе галавы ні адзін волас. Калі лёс вярнуцца — вернецца, а не — хай Бог яе беражэ. Няславіць яе я не дазволю!

Так і вырашыў. Папрасіў лесніка паведаміць Вікторцы, калі выпадкова тую ўбачыць, што ён, бацька, яе шукаў, і калі б захацела вярнуцца дахаты, каб дапамог знайсці чалавека, які за добрае слова або грошы давёў бы яе дадому. Ляснік абяцаў яму ўсё зрабіць, бо памятаў, як добра яму жылося ў Мікшаў, і селянін вярнуўся дадому са спакойным сумленнем, бо зрабіў усё, што мог.

Усе аплаквалі Вікторку, служылі абедні і малебны, але калі прайшло паўгода, тры чвэрці года, а пра дзяўчыну і

чутак не было, сталі казаць пра яе, як пра нябожчыцу. Так мінуў год.

Аднойчы пастухі прынеслі на вёску навіну, што бачылі ў панскім лесе жанчыну такога ж росту і такую ж чорнавалосую, як Вікторка. Адразу ж работнікі Мікшы пабеглі ў лес, усё абшукалі, але нікога не знайшлі.

Я тады першы год тут служыў у майго папярэдніка, нябожчыка цесця. Чулі і мы пра гэта. Стары мне і кажа, калі я ішоў на другі дзень у лес, каб паглядзеў, ці не ўбачу я падобную асобу. І сапраўды, у той жа дзень на адхоне, што над полем Мікшы, каля дзвюх рослых елак сядзела проставолосая жанчына. Я ведаў раней Вікторку, але цяпер у гэтай абарванай, адзічэлай постаці цяжка было пазнаць яе. Аднак гэта была яна! У сукенцы панскага крою, калісьці, мабыць, прыгожай, а цяпер ператворанай у лахманы. Па яе паставе я зразумеў, што яна хутка стане маці. Я ціха выбраўся са сховішча і заспяшаўся да свайго старога. Ён адразу ж пайшоў паведаміць пра ўсё ў Жэрнаў. Бацькі горка плакалі, яны хутчэй пагадзіліся б бачыць яе нежывой! Ды што рабіць? Дамовіліся, што будзем сачыць за ёю, куды ходзіць, дзе спіць, каб яе ўтаймаваць. Неяк увечары прыйшла яна ў Жэрнаў аж у бацькоўскі сад. Села пад дрэва, абняла калені рукамі, абаперлася на іх і так і сядзела, утаропіўшыся ў адно месца. Маці да яе хацела падысці, але яна хутка падхапілася, пераскочыла цераз плот і пабегла ў лес. Мой стары раіў пакласці ў лесе каля елкі што-небудзь з ежы і адзення, можа, яна заўважыць. Мікшы прынеслі ўсё, што патрэбна. Я сам усё гэта туды і паклаў. На другі дзень пайшоў паглядзець — з ежы адсутнічаў толькі хлеб, а з вопраткі — спадніца, гарсэт і кашуля. Астатняе ляжала там і на трэці дзень. Я забраў рэчы, каб не прапалі. Доўга мы не маглі высветліць, дзе Вікторка начуе, але я нарэшце яе высачыў: пад трыма елкамі ў пячоры, там, дзе калісьці здабывалі камень. Уваход у пячору зарос кустамі, а яна яго яшчэ закідала лапнікам, каб ніхто не знайшоў. Залез я туды аднойчы. Там маглі змясціцца адзін-

два чалавекі, і не было там нічога, акрамя сухой травы і моху. Тут Вікторка і спала. Знаёмыя і родныя, яе бацькі і Маржэнка, якая ўжо заручылася з Тонікам, шукалі яе паўсюль. Яны хацелі б пагаварыць з ёю, прывесці дахаты, але яна пазбягала людзей, і ўдзень яе цяжка было ўбачыць. Калі аднойчы ўвечары зноў прыйшла пасядзець каля дома, Маржэнка падышла да яе ціхенька і сваім пяшчотным галаском стала прасіць: «Пойдзем, Вікторка, пойдзем са мной у пакой спаць, ты ўжо даўно са мной не спала, засумавала я па табе, ды і ўсе ў доме. Пойдзем са мной!»

Вікторка на яе паглядзела, дазволіла ўзяць сябе за руку і нават адвесці да сенцаў, а потым раптам вырвалася і пабегла. Шмат дзён яе потым не бачылі паблізу.

Аднойчы ўначы стаяў я на пасту, на строме каля Старой бялільні, месяц ярка свяціў, светла было, як удзень. І бачу — выходзіць Вікторка з лесу. Склала перад сабой рукі, галаву нахіліла і бяжыць лёгка, так, што чалавеку здаецца — не дакранаецца зямлі. Так дабегла яна да гаці. Я бачыў яе часта, як сядзела каля вады або на строме пад вялікім дубам, і таму не адразу зразумеў, у чым справа. Але калі добра прыгледзеўся, то ўбачыў, што яна нешта кінула ў ваду, і пачуў такі дзікі рогат, што валасы дыба сталі. Мой сабака стаў страшэнна выць. Я аж закалаціўся ад жаху. Вікторка між тым села на пень і заспявала. Я не зразумеў ні слова, але напеў быў знаёмы: так маці спяваюць дзецям калыханку:

Спі, дзіцятка, спі,
Ясныя вочкі закрый,
Бог будзе з табою спаць,
Будуць анёлы цябе гушкаць,
Спі, дзіцятка, спі!

Гэты напеў так жаласліва гучаў уначы, што я ледзьве на нагах утрымаўся. Так сядзела яна гадзіны з дзве і ўсё спявала. З таго часу, з вечара да самай ночы спявае яна адну і тую ж

калыханку. Раніцай я ўсё расказаў свайму гаспадару, і той адразу здагадаўся, што яна кінула ў ваду. Так яно і было. Калі мы ўбачылі Вікторку зноў, пастава яе змянілася. Маці і блізкія жахнуліся, але ж нічога не паправіш. Не ведала яна, што рабіла!

Паступова яна прывыкла падыходзіць да нашых дзвярэй, асабліва, калі яе даймаў голад. Але і тады, як і цяпер, прыйдзе, стане, як статуя, і стаіць. Жонка мая, яна тады яшчэ была дзяўчынай, вынесе ёй чаго-небудзь паесці. Тая моўчкі возьме і ўцякае ў лес. Калі іду па лесе, сустрэну яе і дам хлеба, яна возьме, але паспрабую загаварыць — уцячэ. Кветкі вельмі любіць Вікторка, калі няма букеціка ў яе руках, дык заткнуты за пояс. Як убачыць дзіця або сустрэне каго, раздае кветкі. Ці разумее, што робіць? Хто ж гэта ведае? Хто можа высветліць, што робіцца ў яе памутнёнай галаве, не яна ж сама?

Калі Маржэнка з Тонікам паехалі вянчацца на Чэрвеную Гару, прыбегла Вікторка дахаты. Хто яе ведае, ці то выпадкова, ці то нешта чула. У руках трымала кветкі, калі падышла да брамкі, пачала раскідваць па двары. Маці залілася слязьмі, вынесла ёй пірагоў і рознай ежы, але яна адвярнулася і пабегла.

Бацька вельмі пакутаваў: любіў ён Вікторку. На трэці год ён памёр. Я быў у гэты час на вёсцы, бачу — бягуць да мяне са слязьмі Маржэнка з мужам, пытаюцца, ці не бачыў я Вікторку. Хацелі яны прывесці яе дахаты, але не ведалі, як гэта зрабіць. У бацькі душа ніяк не можа з целам растацца, вось і вырашылі, што Вікторка яе трымае. Пайшоў я ў лес, думаў, калі ўбачу яе, скажу пра бацьку, можа, зразумее. А яна якраз сядзіць пад хвоямі. Я праходжу каля яе і толькі мімаходзь, каб не спалохаць, кажу: «Вікторка, бацька твой памірае, трэба табе пайсці дадому».

Яна нічога, нібы не чула. Ну, думаю, дарэмна ўсё гэта, і пайшоў у вёску, каб расказаць, як справа была. Я яшчэ з Маржэнкай стаю ля парога, як работнік крычыць:

— Вікторка ідзе да саду!

— Тонік, хутчэй выведзі кумачак са святліцы! Схавайцеся ўсе, каб яе не спалохаць! — крыкнула Маржэнка і пайшла да саду.

Праз хвіліну яна моўчкі вяла Вікторку ў хату. Тая гуляла з кветкай анемона і не адрывала ад кветкі сваіх прыгожых, хаця і пацьмянелых, чорных вачэй. Маржэнка вяла яе, нібы сляпую. У святліцы было ціха. З аднаго боку ложка стаяла ўкленчыўшы маці, каля ног — адзіны сын. У старога рукі складзены на грудзях, вочы звернуты да неба, ён яшчэ змагаўся са смерцю. Маржэнка падвяла Вікторку да самага ложка. Паміраючы скіраваў погляд на іх, і шчаслівая ўсмешка прабегла па яго твары. Хацеў узняць руку, але не змог. Вікторка зразумела, што нечага хоча, і паклала яму на далонь кветку. Хворы яшчэ раз на яе паглядзеў, уздыхнуў і памёр. Дачка прынесла яму лёгкі спачын. Маці залямантавала, а Вікторка, калі пачула плач, дзіка вакол сябе азірнулася і кінулася бегчы.

Не ведаю, ці заходзіла яна больш у свой родны дом. За пятнаццаць гадоў, што жыву ў лесе, толькі аднойчы чуў яе голас. І не забудуся гэтага да самай смерці! Ішоў я аднойчы ўніз да маста, па дарозе з замка ехалі слугі з дровамі, а лугам, бачу, ідзе Златаглаўка. Гэта быў пісар з замку. Дзяўчаты звалі яго так, бо не хацелася ім запамінаць яго нямецкае прозвішча, а валасы ў яго былі прыгожыя, не вельмі доўгія, залацістыя. Ішоў па лузе, а было цёмна, ён зняў шапку і ішоў проставалосы.

Раптам аднекуль, нібы з неба звалілася, — Вікторка. Учапілася ў яго валасы, пачала рваць і трэсці яго, нібы гэта была садавіна якая. Немец крычыць, што ёсць сілы, я лячу з пагорка ўніз, гляджу — Вікторка не ў сабе ад гневу, кусае яму рукі і крычыць, як шалёная: «Нарэшце я табе адпомшчу, гад ты, д'ябал! Я цябе разарву! Куды ты падзеў маё дзіця? Ты — д'ябал, д'ябал, аддай мне яго!» — і так раз'ятрылася, што ўжо сіпець пачала, ні слова нельга было зразумець. Немец нічога не разумее, ашалеў ад страху. Мы з ёю не справіліся б, каб

не панскія людзі. Яны ўбачылі, што дрэнная справа, і прыбеглі на луг, толькі разам мы змаглі вызваліць беднага пісара з яе рук. Калі мы паспрабавалі Вікторку звязаць, дык яна рванулася з усяе моцы, пабегла ў лес і доўга кідала адтуль у нас камяні і лаялася так, што аблокі трэсліся. Потым некалькі дзён яе ніхто не бачыў.

Немец пасля гэтага выпадку захварэў і так баяўся Вікторкі, што вырашыў з'ехаць з нашых мясцін. Дзяўчаты з яго смяяліся. Але хто ў такім выпадку ўцячэ, той выйграе; і без яго ўраджай збіралі на полі. Мы па ім сумаваць не будзем.

Ну, вось, бабуля, цяпер вы ведаеце ўсю гісторыю Вікторкі. Часткова я яе чуў ад нябожчыцы каваліхі, часткова — ад Маржэнкі. У чым тут была справа, ніхто не ведае, але, пэўна, справа нядобрая. Цяжкая кара чакае таго, у каго на сумленні гэтая загубленая душа!

Бабуля выцерла заплаканыя вочы і з прыветнай усмешкай сказала:

— Вялікі вам дзякуй, выдатна распавялі. Мусім адзначыць, што пан кум умее гаварыць, як па-пісанаму, яго паслухаеш і забудзешся на час, ажно і сонца за горы зайшло, — і бабуля паказала на цень, які залёг у палях, а потым пачала прыбіраць верацяно.

— Пачакайце адну хвілінку, — папрасіла жонка лесніка. — Я насыплю корму птушкам і праваджу вас з гары.

Бабуля ахвотна пагадзілася.

— А я пайду з вамі да маста, мне яшчэ трэба ў лес, — сказаў ляснік, устаючы з-за стала.

Жонка яго пабегла за зернем і хутка на двары пачулася яе гучнае: «Цып-цып-цып!» Птушкі ляцелі да яе з усіх бакоў. Але першымі з'явіліся вераб'і, нібыта клікалі менавіта іх. Гаспадыня заўважыла: «Ну, вы паперадзе ўсіх!» Але тыя не звярнулі на яе словы ніякай увагі.

Бабуля стаяла на парозе, не адпускаючы ад сябе дзяцей, каб не напалохалі птушак, якімі яна любавалася. Каго толькі тут не было! Белыя і шэрыя гусі з гусянятамі, качкі з

качанятамі, чорныя турэцкія качкі, прыгожыя куры хатняга заводу, цыбатыя тыролькі, чубаткі, паўліны, цацаркі, індык, які хадзіў надзьмуты і важны, нібы ад яго нешта залежала, з індычкай, звычайныя галубы і галубы махнаногія. Усё гэтае птаства дружнай стайкай хапала зерне, наступаючы на лапкі, адны скакалі цераз другіх, падлазілі і пралазілі, дзе толькі можна было, а злодзеі вераб'і, напоўніўшы страўнік, скакалі па спінах гусей і качак.

Непадалёк сядзеў трусік, ручная вавёрка глядзела на дзяцей з каштана, высока падняўшы хвосцік. На плоце прымасцілася кошка, сочачы за вераб'ямі прагнымі вачыма. Сарна дазволіла Барунцы пагладзіць сябе па галаве. Сабакі ціха сядзелі каля дзяцей, бо жонка лесніка трымала ў руцэ прут. Толькі калі побач з Гектарам прашмыгнула гусяня, што хавалася ад чорнага пеўня, у якога з-пад носа сцягнула зернятка, сабака не мог утрымацца, каб не гаўкнуць.

— Бачылі старога асла! — крыкнула гаспадыня. — Таксама вырашыў заігрываць. Вось табе, каб памятаў! — і выцяла сабаку прутам.

Пасаромлены на вачах малодшых, Гектар, апусціўшы галаву і падціснуўшы хвост, паплёўся ў сенцы. Бабуля заўважыла:

— Як бачым, бацька не лепшы за сына.

Гектар быў бацькам Султана, які загрыз у бабулі яе прыгожанькіх качанятак.

Кармленне было скончана. Птушкі накіраваліся на свае жэрдкі. Дзеці атрымалі ў падарунак ад Франціка і Берціка прыгожыя пёркі паўліна. Гаспадыня дала бабулі яек тыролек, каб пакласці іх пад квактуху, узяла на рукі Анушку, ляснік, перакінуўшы стрэльбу цераз плячо, паклікаў Гектара, — і ўсе пайшлі з гасціннага дома. Сарна бегла ззаду, як сабака.

Спусціўшыся з узгорка, жонка лесніка пажадала гасцям добрай ночы і вярнулася з дзецьмі дахаты; каля маста паляўнічы працягнуў бабулі на развітанне сваю загарэлую руку і накіраваўся ў лес. Ян доўга назіраў за ім, а потым сказаў Барунцы:

— Калі я трохі падрасту, пайду з панам Баерам і буду хадзіць разам з ім у засаду.

— Табе яшчэ патрэбны нехта, хто цябе ахоўваў бы, таму што баішся русалак і лесуноў, — смяялася Барунка.

— Многа ты ведаеш, — злаваўся Ян. — Буду старэйшы, не буду баяцца!

Бабуля, праходзячы каля гаці, паглядзела на замшэлы пень і, успомніўшы пра Вікторку, уздыхнула і сказала:

— Бедная дзяўчына.

## VII

На другі дзень апоўдні выйшла бабуля з дзецьмі з дзвярэй.

— Паводзьце сябе прыстойна, — загадала маці, выпраўджваючы праз парог, — у замку нічога рукамі не хапайце, у княгіні з павагай пацалуйце руку!

— Не хвалюйся, мы неяк справімся, — запэўніла яе бабуля.

Дзеці былі як кветачкі, і ў бабулі таксама святочны выгляд: яна апранула камлотавую гваздзіковага колеру спадніцу, белы, як снег, фартух, блузку з блакітнага дамаскага шоўку, каптур з бантам, на шыі ў яе былі каралі з гранату з талерам. Пад пахай яна несла хустку.

— Навошта вы ўзялі хустку, мама, дажджу не будзе, надвор'е добрае? — здзівілася пані Прошкава.

— Чалавеку няма куды падзець рукі, калі не трэба нічога трымаць, гэта звычка, патрэбна нешта несці, — адказала бабуля.

Звярнулі паўз садок на вузкую сцежку.

— Акуратна ідзіце адзін за другім, а то замочыце ў траве штаны. Ты, Барунка, ідзі наперадзе, Адэльку павяду я, яна яшчэ не ўмее глядзець сабе пад ногі, — павучала бабуля, беручы Адэльку за руку, а малая азірала сябе з вялікім зада-

вальненнем. У садку скакала Чэрна, любімая курыца Адэлькі, адна з тых чатырох, што бабуля прывезла дзецям з горнай вёсачкі. Бабуля прывучыла яе браць корм у дзяцей з рукі, таму, знёсшы яйка, Чэрна бегла да Адэлькі па кавалак булкі, які дзяўчынка пакідала са свайго сняданка.

— Ідзі да матулі, Чэрна, я там пакінула для цябе булку, а я іду да княгіні, — крыкнула Адэлька курыцы. Але тая нічога не хацела разумець, бегла за ёю і хацела дзюбнуць дзяўчынку ў спадніцу.

— Ці ты не бачыш, дурная, што на мне белая сукенка?! Кш-кш-кш! — адганяла Адэлька курыцу. Але Чэрна не адставала да таго часу, пакуль бабуля не ляпнула па яе крылах хусткай.

Прайшлі яшчэ некалькі крокаў. І раптам новая пагроза ўзнікла для белых сукенак. З узгорка імчаліся сабакі! Перабраліся цераз ручай каля млына, злёгку абтрэсліся і адным скокам былі каля бабулі.

— І вы, нягоднікі, хто за вамі пасылаў? А ну, супакойцеся і ідзіце прэч! — гневалася бабуля, пагразіўшы ім. Сабакі, пачуўшы бабулін гнеўны голас і ўбачыўшы ўзнятую руку з хусткай, спыніліся ў нерашучасці: што рабіць? Дзеці таксама на іх крычалі, а Ян кінуў каменьчык, хацеў трапіць у сабак, а трапіў у ваду. Сабакі, якія звыкліся цягаць розныя рэчы з вады, вырашылі, што дзеці з імі гуляюць, з радасцю кінуліся ў ваду і ў адзін момант апынуліся на беразе, пасля чаго пачалі весела скакаць вакол дзяцей. Дзеці крычалі, хаваліся за бабулю, а бабуля не ведала, што рабіць.

— Я злётаю дахаты, паклічу Бетку, — прапанавала Барунка.

— Не вяртайся, бо, кажуць, шляху не будзе, — спыніла бабуля.

На шчасце, праходзіў каля іх пан бацька і адагнаў сабак.

— Куды вы накіроўваецеся: на вяселле ці на танцы? — спытаў пан бацька, круцячы ў пальцах табакерку.

— Няма да каго, пан бацька, пакуль толькі ў замак, — адказала бабуля.

— А што там, у замку? — здзівіўся пан бацька.

— Нас пані княгіня запрасіла, — прызналіся дзеці, і бабуля расказала, як сустрэліся з княгіняю ў альтанцы.

— Вось яно што, — сказаў пан бацька, нюхаючы табаку, — ну, ідзіце, ідзіце, а пазней Адэлька мне раскажа, што там бачыла. А што ты, Янік, што будзеш казаць, калі пані княгіня спытае, у які бок берасцянка дзюбу паварочвае, га?

— Яна пра гэта не будзе пытацца, — адказаў Ян і пабег наперад, каб пазбегнуць насмешак пана бацькі. Пан бацька ўсміхнуўся, развітаўся з бабуляю і пайшоў да гаці.

Каля шынка гулялі Кудрнавы дзеці, рабілі млын, а Цылька нянчыла малое.

— Што вы робіце? — спытала ў іх Барунка.

— Нічога, — адказалі тыя, аглядаючы святочна апранутых дзяцей.

— А мы ў замак ідзем, — пачаў Ян.

— Ну і што з таго, — буркнуў Вавржынек.

— І ўбачым там папугая! — дадаў Вілем.

— Калі я вырасту, то таксама буду яго мець, так мне сказаў бацька, — тут жа яму адказаў бойкі Вавржынек, але другі хлопец, Вацлаў, і Цылька ўздыхнулі: «Калі б мы маглі там таксама пабываць!»

— Не сумуйце, я вам што-небудзь прынясу, — сказаў Ян, — і раскажу пра ўсё, што там было.

Нарэшце бабуля з дзецьмі дайшла да парка, дзе іх ужо чакаў пан Прошак.

Княскі парк кожнаму быў адкрыты, знаходзіўся ён непадалёк ад Старой бялільні, але бабуля з унукамі зрэдку там бывала, асабліва тады, калі ў замак з'язджаліся паны. Захаплялася яна ўсім, што там з густам было зроблена; цудоўныя кветкі, рэдкія дрэвы, фантаны, сажалкі з залатымі рыбкамі, а найбольш ахвотна яна гуляла з дзецьмі на лужку або ішла да лесу. Там яны маглі смела паляжаць на зялёным мяккім дыване, там маглі панюхаць кожную кветку, а таксама нарваць кветак для букетаў і вянкоў. У полі, праўда, не раслі ні

апельсіны, ні лімоны, але трапляліся густая чарэшня і дзікая грушка, усыпаныя пладамі, кожны мог іх нарваць, колькі захоча. У лесе шмат было суніц, чарніц, грыбоў і міндальных арэхаў. Фантанаў там, безумоўна, не было, але бабуля любіла спыніцца разам з унукамі каля гаці. Яны глядзелі, як хвалі вады хутка спадалі ўніз, потым уздымаліся ўгару, рассыпаліся мільёнамі кропель і зноў падалі ў пеністы вір, змешваліся з ім і, злітыя ў адзіную плынь, ужо спакойна плылі далей. Тут не было залатых рыбак, прывучаных да салодкіх крошак, але бабуля, калі ішла паўз сажалку, перакладала са сваёй кішэні ў Адэльчыну хлебныя крошкі, і калі дзеці іх кідалі ў ваду, з глыбіні выплывала мноства рыб. Бліжэй за ўсіх на паверхню ўздымаліся серабрыстыя плоткі, паміж імі плавалі хуткія, як стрэлы, акуні, з натапыранымі плаўнікамі, далей там і сям слізгалі тонкія вусачы з доўгімі вусішчамі, убаку можна было ўбачыць і пузатых карпаў, і плоскагаловых мянькоў.

На лужку бабуля сустрэлася з людзьмі, якія яе віталі: «Хвала Ісусу Хрысту!» або «Дай вам Бог добрага дня!» Некаторыя спыняліся, распытвалі: «Куды вы, бабуля?», «Як вашы пажываюць? Што робяць?» Ад іх яна даведвалася навіны.

А ў замку? Там не было ніякага парадку. То бяжыць слуга ў ліўрэі, то пакаёўка ўся ў шаўках, то ідзе пан, а за ім другі, і кожны высока нясе галаву, задзіраюць нос, і выступаюць як павы, якія адны толькі маюць права хадзіць па лужку. Калі нехта з іх і вітаўся з бабуляю, то кідаў няўважна «Guten Morgen»* або «Bonjour»**, а бабуля чырванела і не ведала, ці трэба ёй адказваць «Аж ад веку» або «Дай Бог». Пазней казала дома: «Там, у замку, сапраўдны Вавілон!»

Каля замка па абодва бакі дзвярэй сядзелі два ліўрэйныя лёкаі; той, што быў з левага боку, склаў рукі на каленях і пазяхаў ад суму, той, што быў справа, склаў рукі на грудзях і пазіраў на вокны. Калі пан Прошак да іх падышоў, прывіталі яго па-нямецку, кожны са сваім вымаўленнем.

---

* Добрай раніцы (*ням.*).

** Добры дзень (*франц.*).

Падлога вестыбюля была выкладзена мармуровымі плітамі, а пасярэдзіне стаяў з густам зроблены більярд. Уздоўж сцен, на падстаўках з зялёнага мармуру, стаялі белыя статуі з гіпсу, якія ўяўлялі сабою міфалагічных герояў. Чацвёра дзвярэй вялі ў панскія пакоі. Каля адных сядзеў у фатэлі камердынер у чорным фраку і спаў. Да гэтых дзвярэй пан Прошак падвёў бабулю з дзецьмі. Камердынер уздыхнуў, пачуўшы шум, але, ўбачыўшы пана Прошака, прывітаў і спытаў, якая справа прывяла яго ў замак.

— Пані княгіня пажадала, каб мая цешча з дзецьмі сёння яе наведала. Калі ласка, пане Леапольдзе, далажыце, — адказаў пан Прошак.

Пан Леапольд узняў бровы, паціснуў плячыма і заявіў:

— Не ведаю, ці пажадаюць вас прыняць, яны працуюць у сваім кабінеце. Але магу паведаміць.

Ён узняўся і павольна схаваўся за дзвярыма, каля якіх сядзеў. Праз хвілінку вярнуўся і, пакінуўшы дзверы адчыненымі, салодка ўсміхаючыся, кіўнуў, каб увайшлі.

Пан Прошак пайшоў, а бабуля з дзецьмі апынуліся ў шыкоўным салоне.

У дзяцей перахапіла дыханне, ножкі іх слізгалі па падлозе, гладкай, як лёд. Бабуля ішла як зачараваная, раздумваючы, ці можна ступаць па гэтых узорыстых дыванах. «Як шкада, — казала сама сабе. — Але што рабіць, яны ляжаць паўсюль, і пан камердынер таксама па іх ходзіць». Той вёў іх праз канцэртны салон і бібліятэку аж да кабінета княгіні, а вярнуўшыся да свайго фатэля, мармытаў сабе пад нос:

— І што за дзівакі гэтыя паны. Прымушаюць чалавека прыслугоўваць простай бабе і дзецям.

Сцены княжацкага кабінета былі абабіты светла-зялёнымі з золатам шпалерамі, такога ж колеру былі парцьеры на дзвярах і адзіным акне. На сценах вісела шмат партрэтаў у вялікіх і малых рамах. Насупраць акна — камін з шэрага мармуру з чорнымі і белымі прожылкамі, на ім — дзве вазы з японскага фарфору, а ў іх цудоўныя кветкі, якія

напаўнялі кабінет сваім водарам. Па абодвух баках каміна знаходзіліся з густам зробленыя з дарагога дрэва паліцы, на іх былі раскладзены разнастайныя рэчы, што былі вынікам працы мастакоў, каштоўнасці і цудоўныя дары прыроды, такія як прыгожыя ракавіны, каралы, камяні. Была гэта памяць пра падарожжы і падарункі знатных асоб. У адным куце стаяла статуя Апалона з карарскага мармуру, у другім — просты, але з густам зроблены стол. Каля стала, на фатэлі, абцягнутым цёмна-зялёным аксамітам, сядзела княгіня ў белым пеньюары. Яна якраз адклала пяро, калі бабуля з унукамі ўвайшлі.

— Хвала Ісусу Хрысту! — прывітала ветліва з паклонам бабуля.

— На векі вякоў! Вітаю цябе, матуля, і дзяцей! — адказала княгіня.

Дзеці спачатку паводзілі сябе нясмела, але бабуля ім міргнула, і яны хутка падышлі да княгіні і пацалавалі ёй руку. Яна пацалавала кожнага ў лоб і, паказаўшы бабулі на фатэль, абабіты аксамітам, з залатымі махрамі, запрасіла прысесці.

— Дзякую, міласэрная пані, я не стамілася, — засаромелася бабуля і ўсё ад таго, што баялася зваліцца з незвычайнага сядзення або зламаць яго.

Але княгіня настойліва паўтарыла: «Сядай жа, матуля». І бабуля, засцяліўшы на фатэлі белую хустку, асцярожна села, прыгаворваючы: «Няхай вашай міласці заўсёды добра спіцца».

Дзеці стаялі як скамянелыя, толькі пераводзілі позіркі з адной рэчы на другую. Княгіня гэта заўважыла і з усмешкаю спытала іх:

— Ці падабаецца вам тут?

— Так, — кіўнулі яны разам.

— Яшчэ б ім не пабалася! Такая прыгажосць! Пэўна хацелі б тут застацца, — заўважыла бабуля.

— А табе тут ці падабаецца? — звярнулася княгіня да бабулі.

— Як на нябёсах, але жыць тут не хацелася б, — пакруціла галавою бабуля.

— Чаму? — спытала здзіўлена княгіня.

— А што б я тут рабіла? Гаспадаркі ў вас няма, пер'е скубсці не трэба, калаўрота не раскладзеш.

— А ці не хацела б ты на старасці пажыць без клопату, адпачыць?

— Рана ці позна прыйдзецца адпачыць. Будзе над маёю галавой узыходзіць і заходзіць сонейка, а я буду бесклапотна спаць. Але пакуль жывая, дзякуй Богу, трэба працаваць. Толькі лайдакі дарэмна хлеб ядуць. А наогул без клопату не жыве ніводзін чалавек, аднаго турбуе адно, другога — другое, кожны нясе свой крыж, ды не кожнаму ён па плячы, — апавядала бабуля.

Раптам чыясьці белая рука адгарнула цяжкую парцьеру і між складак з'явіўся прыгожы твар маладой дзяўчыны са светла-каштанавымі кучаравымі валасамі.

— Можна ўвайсці? — спытала яна пяшчотным голасам.

— Уваходзь, Гартэнзія, тут ты знойдзеш прыемную кампанію, — адказала княгіня.

У кабінет увайшла графіня Гартэнзія, як казалі, выхаванка княгіні. Фігурка ў яе была тоненькая, яшчэ не аформленая, апранутая ў простую белую сукенку, саламяны капялюшык вісеў на руцэ, у якой яна трымала букет ружаў.

— Ах, якія мілыя дзеткі! — выгукнула дзяўчына. — Гэта, пэўна, Прошкавы, тыя, ад каго ты прынесла такія смачныя суніцы?

Княгіня пацвердзіла.

Графіня нахілілася, дала кожнаму дзіцяці па ружы, па адной дала таксама бабулі і княгіні, апошнюю заткнула сабе за пояс.

— Такі ж свежы бутончык, як і вы, мілая паненка, — сказала старая, панюхаўшы ружу. — Ды хай захавае вам яе Бог, васпані, — дадала яна, звярнуўшыся да княгіні.

— Гэта і маё самае гарачае жаданне, — адказала княгіня, пацалаваўшы ў лоб сваю выхаванку.

— Ці магу я ненадоўга забраць дзяцей? — спытала графіня ў княгіні і бабулі; княгіня дазволіла, а бабуля выказала асцярогу, што дзеці могуць нарабіць клопату мілай паненцы, асабліва хлопцы, сярод якіх вызначаецца сваёй няўрымслівасцю Ян. Але Гартэнзія з усмешкай працягнула дзецям абедзьве рукі, пытаючыся:

— Хочаце пайсці са мной?

— Хочам, хочам! — узрадаваліся дзеці, схапіўшы яе рукі.

Пакланіўшыся княгіні і бабулі, дзяўчына знікла ў дзвярах разам з дзецьмі. Княгіня ўзяла сярэбраны званочак са стала і пазваніла. У той жа момант у дзвярах паказаўся камердынер Леапольд. Княгіня яму загадала, каб распарадзіўся падрыхтаваць у салоне сняданак, і перадала пачак лістоў для адпраўкі.

Леапольд пакланіўся і выйшаў.

Пакуль княгіня аддавала загады камердынеру, бабуля разглядала партрэты на сценах кабінета.

— Божа мой! — сказала, калі камердынер пайшоў. — Якія дзіўныя касцюмы і твары! Вунь тая пані апранута як нябожчыца Галашкова, дай ёй, Божа, царства нябеснае. Тая таксама насіла высокія абцасы і ўздутыя спадніцы, талію перацягвала, а на галаве насіла парык. Яе муж быў суддзёй у Добрушцэ, і калі мы хадзілі туды на набажэнства, бачылі яе ў касцёле. Нашы хлопцы называлі яе «макавая паненка», у гэтых спадніцах з напудранай галавой яна была падобная да галоўкі мака. У нас казалі, што гэта французскі крой.

— Гэтая пані — мая бабуля, — сказала княгіня.

— Прыгожая пані, — адазвалася бабуля.

— Направа — мой дзед, налева — бацька, — працягвала паказваць княгіня.

— Добрыя людзі, міласэрная пані ўся ў бацьку. А дзе матуля?

— Вось мае маці і сястра, — сказала княгіня, паказаўшы на два партрэты над пісьмовым сталом.

— Прыгожыя пані, радасна на іх глядзець, — заўважыла бабуля, — але сястрычка ваша ні да бацькі, ні да маці не

падобная. Часам бывае, што дзеці падобныя да каго-небудзь з далёкага калена. А гэты малады пан мне знаёмы, толькі не магу прыпомніць адкуль.

— Гэта рускі цар Аляксандр, — хутка адказала княгіня. — Ты яго, безумоўна, не ведаеш.

— Вось і не, усяго ў дваццаці кроках ад яго стаяла. Гэта быў прыгожы чалавек, тут ён маладзейшы, але я ўсё адно яго пазнала. Што ён, што імператар Іосіф — прыгожыя людзі.

Княгіня паказала на супрацьлеглую сцяну, дзе вісеў паясны партрэт у натуральную велічыню.

— Імператар Іосіф! — пляснула ў далоні бабуля. — Як жа я яго адразу не ўбачыла. Як добра, што маеце іх разам. Я нават не думала, што ўбачу сёння імператара Іосіфа. Дай Бог яму вечную славу, быў гэта добры пан, асабліва для простых людзей. Гэты талер даў уласнаручна, — дадала бабуля, выцягнуўшы з-за пазухі талер.

Княгіні спадабаліся бабуліна шчырасць і трапныя словы, і яна пажадала даведацца пра гісторыю талера. Бабуля не прымусіла сябе ўгаворваць і расказала княгіні тое, што мы ўжо чулі на млыне. Княгіня смяялася ад душы.

Абвёўшы позіркам пакой, бабуля ўбачыла партрэт караля Фрыдрыха.

— Гэта ж прускі кароль! — ускрыкнула. — Яго я добра ведала. Мой нябожчык Іржы служыў у прускім войску, і мне давялося пятнаццаць год пражыць у Сілезіі. Кароль не аднойчы выклікаў Іржы наперад строю і ўзнагароджваў яго. Ён любіў высокіх мужчын, а мой Іржы ў палку быў вышэй за ўсіх, да таго ж зграбны, як дзяўчына. Не думала я, што пераж ыву яго, быў чалавек-скала, ды толькі даўно ўжо на тым свеце, а я тут, — уздыхнула старая, і сляза скацілася па яе зморшчанай шчацэ.

— Твой муж загінуў у баі? — спытала княгіня.

— Не, ён памёр ад раны. Калі выбухнула паўстанне ў Польшчы, а прускі кароль і рускі цар яго душылі, наш полк там быў таксама. Я паехала за палком з дзецьмі, двое ў мяне

ўжо было, а трэцяе нарадзілася ў паходзе. Гэта была Іаганка, тая, што цяпер жыве ў Вене, магчыма такая баявая, што ад нараджэння вымушана была звыкнуцца з салдацкім жыццём. Нешчаслівая гэта была вайна. Ужо з першага бою прынеслі Іржы ў лагер на насілках. Гарматным ядром пакалечыла яму нагу, адрэзалі яе. Я даглядала яго, як магла. Калі ён троху ачуняў, адправілі яго зноў у Нісу. Узрадавалася я, думаю, калека ім не патрэбны і зможам мы, калі ён паздаравее, вярнуцца ў Чэхію. Але надзеі мае не спраўдзіліся. Пачаў ён марнець, і не маглі даць яму ніякай рады, памёр. Калі быў які грош, аддавала яго на лекі, але нічога не дапамагло. Думала я тады, што або розум страчу, або сэрца ў мяне разарвецца з гора. Але чалавек можа многае вытрываць, міласэрная пані. Засталася я з трыма сіроткамі на руках, грошай — ні талера, толькі троху тых ануч. У тым палку, дзе служыў Іржы, быў яго найлепшы сябар фельдфебель Лягоцкі. Даведаўшыся, што я ўмею ткаць коўдры, Лягоцкі купіў мне станок і ўсё, што патрэбна для ткацтва. Хай пашле Бог яму здароўя! Спатрэбілася рамяство, якому я ў нябожчыцы свекрыві з маладосці навучылася. Справа пайшла добра, і я, хутка выплаціўшы Лягоцкаму пазыку, магла ўтрымліваць сябе і сваіх дзяцей. Трэба сказаць, што ў тым горадзе жылі добрыя людзі, але я там вельмі сумавала; ад таго часу, як не стала Іржыка, адчувала я сябе пакінутай і забытай, як груша ў полі. Падумалася мне, што дома лепей, чым на чужыне, і сказала я пра гэта Лягоцкаму. А ён пачаў мяне адгаворваць, упэўніваць, што я атрымаю пенсію, што кароль паклапоціцца пра маіх дзяцей. Я яму падзякавала за параду, але вырашыла, што ўсё ж такі вярнуся на радзіму. Вельмі ж мяне даймала нямецкая гаворка. Пакуль мы жылі ў Кладску, было лягчэй, адчувала я сябе, як дома, бо там больш гаварылі па-чэшску, чым па-нямецку, але ў Нісе — сапраўдная Нямеччына, а я ніяк нямецкай мове навучыцца не магла. Толькі я троху абжылася, як здарылася паводка. Злая сіла — вада, калі ж разальецца, то чалавек і на кані не ўцячэ. Такі быў патоп, што людзі ледзь ратаваліся. Я хутка

сабрала ўсё, што было лепшага, завязала ў вузел за спіну, малодшую дачку ўзяла на рукі, старэйшых дваіх — за руку і пабегла, а вады ўжо па костачку. Лягоцкі і тут прыйшоў на дапамогу, вывеў нас у гарыстую частку горада, дзе прынялі нас пад страху добрыя людзі.

Разнеслася па горадзе чутка, што я амаль усё страціла, і добрыя людзі прыйшлі на дапамогу; пан генерал запрасіў мяне да сябе і сказаў, што буду атрымліваць па міласці каралля ў год некалькі талераў і дадуць мне сталую працу, а дзяцей змесцяць у закрытыя ўстановы: хлопца — у ваеннае, а дзяўчат— у жаночае вучылішча. Гэта мяне зусім не радавала, і прасіла я даць мне лепш пару залатых, калі хочуць мне аказаць міласць, каб я змагла вярнуцца ў Чэхію. Дзяцей я ўсё роўна не аддам і выхаваю іх у сваёй веры, навучу роднай мове. Але мне гэтага не дазволілі і сказалі: калі там не застануся, то не атрымаю нічога. «Ну, нічога, дык нічога, Бог не дасць мне памерці з голаду», — падумала я і падзякавала каралю за ўсё.

— Мне здаецца, што пра дзяцей яны добра паклапаціліся б, — выказалася княгіня.

— Можа быць, міласэрная пані, але я стала б для іх чужою. Хто іх вучыў бы там любіць сваю Айчыну і роднае слова? Ніхто. Засвоілі б чужую мову, навучыліся чужым нравам і звычаям і назаўсёды забыліся на сваю кроў. Як я спавядалася б перад Богам? Не, хто нарадзіўся чэхам, няхай пры чэшскай мове і застаецца. Паклапацілася я пра пашпарт, сабрала рэчы, што ў мяне засталіся, узяла дзяцей і пайшла з горада, дзе перажыла столькі цяжкіх і шчаслівых дзён.

Гаспадыні наклалі дзецям поўныя кішэні печыва, а мне далі некалькі талераў на дарогу. Няхай Бог аддзячыць гэтым людзям добрымі дзецьмі за ўсё тое дабро, якое яны мне прынеслі. Лягоцкі, бедны, праводзіў нас з мілю і нёс маю Іаганку. Бедаваў, што я сыходжу, у нас ён адчуваў сябе як дома. Плакалі мы абодва на развітанні. Пакуль ён быў у Нісе, хадзіў маліцца на Іржыкаву магілу, яны ж любілі адзін аднаго

як родныя браты. Яго забілі падчас французскай вайны. Няхай зямля яму будзе пухам!

— Як жа ты дабралася з дзецьмі да Чэхіі? — спытала княгіня.

— Шмат я зведала гора, міласэрная пані, на шляху. Не ведала я добра дарогу і шмат часу змарнавала, блукаючы. Ногі ў дзяцей і мяне былі ў крывавых мазалях, шмат мы плакалі ад голаду, стомы і хвароб, доўга мы не маглі трапіць у родныя мясціны. Нарэшце пашчасціла нам дабрацца да Кладскіх гор, а там ужо я была як дома. Я родам з Алешніц, што на сілезскай мяжы, але васпані наўрад ці ведае, дзе знаходзяцца Алешніцы. Калі я падыходзіла да дому, тут мне як камень прыціснуў сэрца. Падумала я, ці жывыя мае бацькі і як яны мяне прымуць. Далі яны мне добры пасаг, а я вяртаюся дадому з пустымі рукамі і прыводжу з сабою трох сіротак. Што мне скажуць? Гэтае пытанне ўсю дарогу звінела ў маіх вушах. Баялася я, ці не здарылася чаго-небудзь за тыя два гады, як я пра іх нічога не чула.

— А што вы, ім ніколі не пісалі, калі не ты, то твой муж? — дзівілася княгіня.

— У нас няма звычкі пісаць лісты адзін аднаму. Успамінаем, молімся адзін за аднаго і, калі здараецца выпадак, калі трапіцца знаёмы чалавек, на словах перададзім пра сваё жыццё. Невядома куды і да каго трапіць ліст. Мой тата калісьці пісаў лісты салдатам, што нарадзіліся ў нашай вёсцы, а стаялі далёка за мяжой, — калі іх бацькі хацелі ведаць, ці жывыя іх дзеткі або пасылалі ім некалькі залатых. А вярнуўшыся, салдаты казалі, што нічога не атрымлівалі. Так бывае, васпані, калі прыйдзе такі ліст ад простага чалавека, то дзе-небудзь і згубіцца.

— Дарэмна ты думаеш так, матуля, — не пагадзілася княгіня, — кожны ліст, не мае значэння, ад каго ён, павінен трапіць у рукі таго, каму ён адрасаваны. Ніхто не мае права яго затрымаць або адкрыць, за гэта ёсць строгае пакаранне.

— Слушна гаворыце, міласэрная пані, толькі нам гэта не падыходзіць, лепш даверыцца добраму чалавеку. На лісточку паперы немагчыма пра ўсё напісаць, чалавек яшчэ можа спытацца пра што іншае, а спытаць і няма ў каго. Калі ж прыйдзе гандляр або падарожны, то ён усё перадасць слова ў слова. Я пра сваіх больш бы ведала, але час быў неспакойны, мала прыходзіла народу.

Ужо змяркалася, калі я падышла з дзецьмі да вёскі; было лета, і ў гэты час, я ведала, вячэраюць. Каб нікога не спаткаць, я прайшла праз сады. З нашага двара выйшлі сабакі і забрахалі на нас. Я іх паклікала, а яны яшчэ мацней брэшуць. Паліліся ў мяне слёзы, так мне стала горка. Я, дурніца, забылася, што ўжо мінула пятнаццаць гадоў, як я пайшла з дому, і гэта не тыя сабакі, якіх я карміла. У садзе насаджана шмат маладых дрэўцаў, плот адрамантаваны, на стадоле новы дах, а ў грушкі, пад якой мы з Іржы некалі сядзелі, маланкай зламала верх. У суседняй хаце ўсё заставалася па-старому, яна перайшла да бацькоў ад нябожчыцы Новатны. Новатна — тая самая кабета, што ткала коўдры з воўны, мой Іржы быў яе сынам. Каля хаты разбіты маленькі гародчык, нябожчыца заўсёды засявала яго пятрушкай, цыбуляю, разводзіла базілік, шалфей і ўсё, што патрэбна ў гаспадарцы, а яна любіла зёлкі, як і я. Іржы зрабіў плот вакол, плот яшчэ захаваўся, але гародчык ужо зарос травою, толькі дзе-нідзе была відаць цыбуля. З будкі выйшаў сабака, напалову сляпы. «Кудлач, ці пазнаеш ты мяне?» — паклікала я, і ён стаў церціся каля маіх ног. Я думала, што сэрца маё разарвецца ад шчасця, калі зразумела, што гэта нямое стварэнне пазнала мяне і прывітала. Дзеці на мяне, бедныя, глядзелі, дзівіліся, чаму плачу, я ж ім сказала, што вяду іх да бабулі. Думала, што калі дома на мяне будуць гневацца, каб дзеці гэта не ведалі. Кашпар, старэйшы, спытаў: «Чаму плачаш, мама, ці не знойдзем мы тут начлег? Сядзь і адпачні, мы пачакаем, а я панясу твой вузел. Мы не хочам есці». Іаганка з Тэрэзкай таксама па-

цвердзілі, што есці не хочуць, нягледзячы на тое, што некалькі гадзін ішлі праз лес і ніякага дома не сустрэлі. «Паслухайце, дзеці, — кажу я ім, — у тым доме нарадзіўся ваш бацька, а побач нарадзілася ваша маці, а тут засталіся вашыя баба і дзед. Памолімся Богу, што нас шчасліва прывёў сюды, і папросім яго, каб нас добра прынялі». Прачыталі мы «Ойча наш» і падышлі да дзвярэй. Бацька з маці жылі ў доме Новатны, а наш дом застаўся брату, гэта я ведала. Над дзвярыма яшчэ вісеў абразок Дзевы Марыі і чатырнаццаці ўгоднікаў, які Іржы прывёз маці з Вамбержыцу. У мяне ад сэрца адлягло, калі я яго ўбачыла. «Вы мяне праводзілі, а цяпер вітаеце», — падумала я і, супакоіўшыся, увайшла ў хату. Бацька, маці і старая Бетка сядзелі за сталом і елі суп з адной міскі — была гэта анчка*, памятаю так, нібы ўчора было. «Хвала Ісусу Хрысту!» — прывітала я. «На векі вякоў», — адказалі мне. «Ці дазволіце мне, гаспадары, пераначаваць у вас з дзецьмі? Ідзем здалёк, стаміліся і галодныя». Кажу, а ў самой голас дрыжыць. Не пазналі мяне. Было ў пакоі цёмна.

— Кладзіце вашыя рэчы і сядайце да стала, — сказаў бацька і адклаў лыжку.

— Бетка, — сказала маці, — ідзі, звары яшчэ троху поліўкі. Сядайце, маці, адрэжце хлеба сабе і дзецям. А потым пакладзем вас спаць на сене. Адкуль ідзяце?

— Аж з Сілезіі, з Нісы, — кажу.

— Там наша Мадлена, — ускрыкнуў тата.

— Калі ласка, кабета, можа чулі што пра яе? — спытала мама і падышла бліжэй да мяне. — Мадлена Новатна. Яе муж салдат. Гэта наша дзяўчына, мы ўжо два гады не чулі, як яна там. І сны дрэнныя сняцца: не так даўно бачыла, што выпаў у мяне зуб, ды з болем. Баліць мне, і я пра дачку і яе дзяцей думаю, што з Іржы нешта здарылася, цяпер увесь час войны. Бог ведае, чаму людзі не жывуць у міры.

* Анчка — поліўка з малака, запраўленая мукою і яйкамі; зацірка.

Я плакала, а дзеці, якія пачулі словы бабулі, пацягнулі мяне за спадніцу і спыталі:

— Мама, гэта нашыя бабуля і дзядуля?

Толькі гэта яны сказалі, маці адразу ж мяне пазнала, кінулася на шыю, а бацька ўзяў дзяцей на рукі, і мы расказалі адзін другому, што і як.

Бетка мігам збегала за братам, сястрою, нявесткай і зяцем, а праз некаторы час сабралася ўся вёска. І не толькі радня і сяброўкі — усе віталі мяне, як родную.

— Добра зрабіла, што вярнулася дахаты з дзецьмі, — сказаў тата, — безумоўна, Бог адзін, але кожнаму айчына наймілейшая. Так і павінна быць. Пакуль Бог дае нам хлеб, ні ты, ні твае дзеці ні ў чым не будуць мець патрэбу, нават калі б ты не змагла працаваць. Тое, што табе прыйшлося перажыць, — цяжкая рана, але не трэба на гэтым засяроджвацца. Памятай, каго Бог любіць, таму і крыж дасылае.

Вось так прыняла мяне сям'я. Брат хацеў саступіць мне святліцу, але я вырашыла застацца з бацькамі ў хаце, дзе некалі жыў Іржы. Дзеці хутка прывыклі да новага месца, а бацькі мелі ад іх шмат радасці. Адпраўляла я іх у школу кожны дзень. У маёй маладосці дзяўчатак грамаце не вучылі, толькі трошачкі чытаць, і тое ў асноўным гарадскіх. Грэх, калі ёсць у чалавека божая іскра, а развіваць талент няма магчымасці. А калі няма ні да чаго схільнасці, дык што тады можа чалавеку дапамагчы. Мой нябожчык Іржы шмат пабачыў на свеце, ведаў грамату, быў на ўсе рукі майстар. Добра, каб кожны быў такім!

Я зноў ткала коўдры з воўны і зарабляла добрыя грошы. Цяжкія гэта былі часы: вайна, хваробы, голад. Корац жыта каштаваў сто залатых асігнацыямі. Лёгка казаць! Але Бог нас мілаваў, і мы ўсё перажылі. Так было дрэнна, што хадзілі людзі з грашыма, а купіць нічога не маглі. Наш бацька ўсё сваё жыццё дапамагаў кожнаму ўсім, чым толькі мог. Да яго хадзілі людзі, што не маглі даць сабе рады. Калі прыходзілі

бяднейшыя і прасілі: «Саступіце нам корац жыта. Няма ў нас ні зернейка», — казаў: «Пакуль у мяне ёсць, з радасцю падзялюся, а не буду мець я — дасць хто іншы». І адразу мама адсыпала ў мех зерне.

Грошы ніколі не браў. «Мы ж суседзі, — казаў, — калі мы не дапаможам, то хто дапаможа? А дасць Бог добры ўраджай, вернеце мне зернем, і будзем мы ў разліку». Так у нас і вялося. За гэта тата заўсёды чуў ад людзей: «Хай узнагародзіць цябе Бог!» А маці, калі хоць дзень праходзіў без таго, каб не пастукаўся да нас жабрак, дык сама ахвотна пайшла б яго шукаць на дарогу, так любіла яна дапамагаць людзям. Чаму ж не дапамагчы: елі мы дасыта, у чым хадзіць было. Калі ёсць чым, чаму не падзяліцца? Не вялікая заслуга, хрысціянскі доўг і толькі, але калі адрываеш ад сябе і даеш, то гэта вялікая справа. У далейшым так адбылося і з намі, мы дайшлі да таго, што елі адзін раз на дзень, абы не галадалі іншыя людзі. Але ўсё мінае, і сонца засвяціла. У краіне наступіў мір, жыць станавілася ўсё лягчэй і лягчэй.

Калі Кашпар скончыў школу і захацеў вучыцца ткацкай справе, я яму не забараняла. Рамёствы за спіной не носяць. Навучыўшыся, пайшоў ён у вялікі свет. Іржы заўсёды казаў, што нічога неварты той майстар, які на печы сядзіць. Праз некалькі гадоў сын вярнуўся, пасяліўся ў Добрушцэ і добра там жыве. Дзяўчат я навучыла рознай хатняй працы, каб яны маглі ўладкавацца на службу, але тут прыехала з Вены стрыечная сястра, Тэрэзка ёй спадабалася, і стала яна прасіць, каб я адпусціла з ёю дачку ў горад, што яна возьме яе на ўтрыманне. Было мне цяжка, але я падумала, што нельга перашкаджаць шчасцю дзяўчыны, калі яна сама хоча паехаць у свет. А Даротка — добрая жанчына, мае сваю справу з прыбыткам у Вене, а дзяцей у яе няма. Клапацілася яна пра Тэрэзку, як родная маці. Калі Тэрэзка выходзіла замуж, то дала ёй добры пасаг. Мне было непрыемна, што дачка пайшла за немца, але цяпер я і не прыгадваю гэта. Ян — чалавек шчыры і сумленны, сёння добра з ім разумеем адзін аднаго. Ну,

а ўнукі, мне яны родныя. На месца Тэрэзкі да Вены паехала Іаганка. Падабаецца ёй там і жыве, кажа, добра. Цяпер моладзь пайшла іншая: мяне ніколі не цягнула з дому, асабліва на чужыну.

Праз некалькі гадоў памерлі мае бацькі, усяго шэсць тыдняў перажылі адзін аднаго. Ціха адыходзілі ў іншы свет, згасалі, як свечкі. Не пажадаў Бог, каб доўга яны былі ў самоце, бо пражылі разам шэсцьдзесят год і пакінулі па сабе добрую памяць. Дай Бог ім царства нябеснае!

— І не сумавала ты па дзецях, калі ўсе трое пайшлі з дому? — спытала княгіня.

— Ах, міласэрная пані, кроў не вада. Шмат я плакала, але не скардзілася дзецям, не замінала ім шчасце на зямлі шукаць. Адна я ніколі не была, дзеці не перастаюць нараджацца, і чалавек, калі захоча, дык знойдзе, пра каго клапаціцца. Гледзячы на дзяцей суседзяў, я думала, што гэта мае ўласныя дзеці. Калі чалавек ідзе да людзей з чыстым сэрцам, то яны яго любяць. Прасілі мяне шмат, каб пераехала ў Вену. Ну, я ведаю, што там, як і ўсюды, знайшла б добрых людзей, як і паўсюль, было б пра мяне каму падумаць, ды гэта не блізкі свет. Старому чалавеку нельга далёка ездзіць, лепш ад свайго кутка не адрывацца, як пару ад гаршка. Можа, Бог і пра мяне ўспомніць, а я хацела б пахаваць косці ў роднай зямлі. Ах, міласэрная пані, я разгаварылася, як на вячорках, не асуджайце мяне за шчырасць, — скончыла бабуля, устаючы з фатэля.

— Я з прыемнасцю слухала твой аповед, матуля. Ты нават не ўяўляеш, наколькі я табе ўдзячная, — сказала княгіня, паклаўшы бабулі на плячо руку, — а цяпер пойдзем снедаць, таму што і дзеці ўжо нагулялі апетыт.

З гэтымі словамі княгіня вывела бабулю з кабінета ў салон, дзе былі падрыхтаваны кава, шакалад і розныя прысмакі. Камердынер чакаў загаду, па знаку княгіні пабег па графіню і дзяцей. Тыя адразу ж з'явіліся з графіняй, якая, як дзіця, з імі бавілася.

— Паглядзі, бабуля, што нам Гартэнзія дала! — крычалі разам дзеці, паказваючы бабулі дарагія цацкі.

— І сапраўды, я такога ніколі не бачыла, а ці падзякавалі вы за гэта?

Дзеці пацвердзілі.

— А што скажуць Манчынка, Цылька і Вацлаў, калі гэта ўбачаць?

— А хто гэта: Манчынка, Цылька і Вацлаў? — спытала княгіня, жадаючы ўсё ведаць, ад пачатку да канца.

— Я магу вам расказаць, мілая княгіня, я ўжо ўсё пра іх ведаю, — хутка загаварыла графіня. — Манчынка — дачка млынара, а Цылька і Вацлаў — дзеці катрыншчыка, акрамя іх, у яго яшчэ чацвёра. Барунка мне расказала, што ядуць котак, вавёрак і варон, бо ў іх няма чаго есці, што ходзяць яны ў лахманах і што людзі іх абыходзяць.

— Таму, што яны бедныя, ці таму, што ядуць котак і вавёрак? — спытала княгіня.

— Таму, — пацвердзіла бабуля.

— Ну, вавёрка — зусім не дрэнная ежа, я сама каштавала, — заўважыла княгіня.

— Так, міласэрная пані, вы елі вавёрку ад раскошы, а яны ядуць з голаду. Бог узнагародзіў катрыншчыка здаровым страўнікам, дзеці, зразумела, таксама маюць добры апетыт, а што заробіш гэтай музыкай? Што ж рабіць, калі няма ні на сябе, ні ў сябе, а ў хаце — як вымецена!

Між тым княгіня села за стол, Гартэнзія пасадзіла дзяцей побач з сабою, бабуля таксама мусіла сесці. Графіня хацела наліць ёй кавы або шакаладу, але тая замахала рукамі, што не п'е ні таго ні другога.

— А чым жа ты снедаеш? — спытала княгіня.

— З малых гадоў я навучылася снедаць поліўкаю, часцей гэта кісело*, так у нас у гарах прынята. Кісело і бульба — да сняданка, да абеда — кісело і бульба, а без вячэ-

* Кісело — поліўка з квасу з грыбамі.

ры можна і абыйсціся. У нядзелю кавалак аўсянага хлеба. Вось такая страва ў беднага люду ў Крканошскіх гарах цэлы год. Людзі дзякуюць Богу, калі хоць у гэтым няма недахопу. А то бывае часта, што ядуць толькі вотруб'е, ды і то не дасыта. У тых, хто жыве бліжэй да даліны, знойдзецца трохі гароху, пшанічнай мукі, капусты, рознай зеляніны, а раз на год і кавалак мяса зварацць, тады ўжо рай! Але з панскай ежай простаму чалавеку звыкацца не трэба, бо нядоўга і па свеце пайсці. Мне гэтыя прысмакі мала сілы далі б.

— Ты памыляешся, старая, такая ежа вельмі пажыўная, і калі б людзі маглі б есці кожны дзень кавалак мяса і запіваць нечым карысным, думаю, што сталі б больш здаровымі, чым ад сваёй штодзённай стравы, — сказала княгіня.

— Ну вось, бачыце, чалавек заўсёды нечаму можа навучыцца, я думала, што паны таму такія бледныя і худыя, што ядуць адны прысмакі, якія не даюць ні здароўя, ні сіл.

Княгіня ўсміхнулася, але нічога не сказала і, наліўшы маленькі кілішак салодкага віна, падала яго бабулі і сказала:

— Выпі, матухна, гэта карысна для страўніка!

Бабуля ўзяла кілішак, прамовіла: «За здароўе міласэрнай пані», — і крыху выпіла, а таксама ўзяла кавалак печыва, каб не пакрыўдзіць гаспадыню.

— Што там у тых шкарлупках, якія есць княгіня? — спытаўся шэптам у Гартэнзіі Ян.

— Гэта марскія жывёлы, называюцца вустрыцы, — уголас адказала графіня.

— Гэтага б Цылька не ела, — працягваў Ян.

— Розная ежа ёсць на свеце, розныя густы, мой мілы хлопчык, — адказала графіня.

Падчас размовы Барунка, якая сядзела каля бабулі, сунула ёй нешта ў кішэню і прашаптала:

— Схавайце, бабуля, гэта грошы, паненка мне дала іх для дзяцей Кудрнавых, але я баюся згубіць.

Княгіня пачула, што сказала Барунка, і з невыказнай пяшчотаю паглядзела на мілы твар графіні. Сэрца бабулі напоўнілася радасцю, і яна сказала ўсхвалявана:

— Бог аддзячыць вам, мілая паненка.

Паненка зачырванелася і пагразіла пальцам Барунцы, якая таксама пачырванела.

— Вось узрадуюцца! — працягвала бабуля, — хоць апрануцца!

— А я яшчэ дадам, няхай у іх будзе і на што-небудзь іншае, — абвясціла княгіня.

— Вы зрабілі б добрую справу, міласэрная пані, калі б дапамаглі тым людзям, але не міласціна, — сказала бабуля.

— А чым жа?

— Добра было б Кудрне знайсці сталую працу, думаю, што ён выказаў бы стаpанне, таму што гэта чалавек сумленны і пачцівы. Бог вам аддзячыць за ўсё, але міласціня, міласэрная пані, гэтым людзям дапаможа часова. Купяць сабе што-небудзь, часам і непатрэбныя рэчы, калі грошы ў руках, а як усё з'ядуць і зносяць, зноў застануцца ні з чым, у другі раз прасіць не асмеляцца. А калі б меў дзённы заробак, была б яго сям'і сапраўдная дапамога, а літасцівая пані атрымала б працавітага работніка і вернага слугу, ды яшчэ да таго ж зрабіла б добрую справу.

— Праўду гаворыш, матухна, але якую ж работу я магу прапанаваць музыканту?

— Міласэрная пані яе знойдзе. Я ведаю, ён з радасцю пайшоў бы вартаўніком або наглядчыкам. Хадзіў бы па палях, мог бы насіць катрынку з сабою. Ён і без таго, ідучы полем, грае па дарозе, каб сябе павесяліць. Вясёлы чалавек, — дадала бабуля з усмешкай.

— Тады трэба пра яго паклапаціцца, — сказала княгіня.

— Ах, мая дарагая, мілая княгіня! — усклікнула графіня і ўстала, каб пацалаваць яе прыгожую руку.

— Толькі каля добрых людзей ёсць анёлы, — сказала бабуля, паглядзеўшы на княгіню і яе выхаванку.

Княгіня памаўчала хвілінку, а потым ціха сказала:

— Гэта мне Бог яе даў, за што яму ніколі не перастану дзякаваць, — і потым гучна дадала: — Хацелася б мне мець такога сябра, які заўсёды шчыра казаў бы мне праўду, як ты, матухна.

— Калі захочаце, васпані, то заўсёды знойдзеце. Сябра лягчэй знайсці, чым утрыманца.

— Ты думаеш, што я не змагла б яго ацаніць?

— Чаму ж я так павінна думаць пра вас, міласэрная пані? Толькі часта так здараецца, што часам шчырасць па сэрцу прыйдзецца, а часам і не, тады і сяброўству канец.

— Зноў праўду кажаш. Дазваляю табе прыходзіць, калі хочаш, і гаварыць мне тое, што хочаш, я заўсёды з радасцю выслухаю, а калі прыйдзеш з просьбаю, то выканаю з прыемнасцю ўсё, што змагу, — так казала княгіня, устаючы з-за стала. Бабуля хацела пацалаваць ёй руку, але тая не дазволіла, а сама расцалавала старую ў шчокі. Дзеці ўзялі свае падарункі, але развітвацца з мілай графіняй ім не хацелася.

— Прыходзьце цяпер да нас, мілая паненка, — запрасіла яе бабуля, беручы Адэльку за руку.

— Прыходзьце, прыходзьце, Гартэнзія! — прасілі дзеці. — Мы зноў назбіраем суніц.

— Прыйду абавязкова, — усміхнулася дзяўчына.

— Дзякуем вам за ўсё, міласэрная пані. Заставайцеся з богам, — сказала бабуля на развітанне.

— Ідзіце з Богам! — кіўнула княгіня, а Гартэнзія правяла гасцей да дзвярэй. Камердынер, прыбіраючы са стала, зморшчыў нос і падумаў: «Дзіўныя фантазіі ў нашай пані, размаўляць з простай бабай».

Між тым княгіня стаяла каля акна і сачыла поглядам за адыходзячымі, пакуль яшчэ можна было бачыць белыя сукенкі дзяўчат і бант на бабуліным каптуры. Вяртаючыся ў свой кабінет, прашаптала: «Шчаслівая кабета!»

# VIII

Панскі луг стракацеў рознакаляровымі кветкамі, пасярэдзіне луга пралягала мяжа, на мяжы чабор, як насціл. На чаборы, нібы на падушцы, сядзіць Адэлька і сочыць за божай кароўкай, якая бегае па сукенцы, з сукенкі перапаўзае на ножку, з ножкі — на зялёны чаравічак.

— Не ўцякай, маленькая, застанься са мною, я цябе не пакрыўджу, — тлумачыць дзяўчынка кузурцы і, узяўшы яе пальчыкамі, зноў вяртае на сукенку.

Побач з Адэлькай каля мурашніка сядзяць на кукішках Ян і Вілем. Яны з цікавасцю назіраюць за валтузнёй мурашоў.

— Глядзі, Вілем, як бегаюць, а бачыш, вунь той мураш згубіў яйка, другі падхапіў яго і спяшаецца да мурашніку.

— Пачакай, у мяне ёсць кавалак хлеба ў кішэні, я ім насыплю крошак і паглядзім, што будуць рабіць.

Ён узяў кавалак хлеба і частку яго накрышыў на дарозе.

— Глядзі, глядзі, колькі іх набегла і думаюць, адкуль дабро ўзялося. Глядзі, яны штурхаюць хлеб усё далей і далей. Бачыш, ім на дапамогу бягуць мурашы з усіх бакоў, але як пра гэта даведаліся іншыя?

Назіранні былі спынены звонкім голасам:

— Што вы тут робіце?

Гэта была графіня Гартэнзія, якая пад'ехала да іх на сваім белым коніку так ціха, што яны не чулі.

— У мяне божая кароўка! — сказала Адэлька, працягваючы сціснуты кулачок графіні, якая саскочыла з сядла і падышла да дзяўчынкі.

— Пакажы мне!

Адэлька выставіла далоньку, у якой нічога не было.

— Ой, яна ад мяне ўцякла, — засумавала дзяўчынка.

— Пачакай, яшчэ не ўцякла, але хоча ўцячы, — прагаварыла Гартэнзія, здымаючы божую кароўку з голага плечыка дзяўчынкі. — А што ты з ёю будзеш рабіць?

— Дам ёй паляцець. Глядзі!

Адэлька паклала божую кароўку ў раскрытую далонь і пачала прыгаворку:

— Божая кароўка, паляці на неба...

— Прынясі нам глечык малака! — дадаў Вілем, злёгку стукнуўшы Адэльку па руцэ.

Кузурка ўзняла свой чырвоны ў чорныя крапінкі плашчык, расправіла складзеныя пад ім пяшчотныя крылцы і паляцела.

— Навошта ты яе штурхнуў, хто цябе прасіў? — раззлавалася Адэлька.

— Каб яна хутчэй паляцела, — засмяяўся хлопец і, звярнуўшыся да Гартэнзіі, узяў яе за руку са словамі:

— Пойдзем, Гартэнзія, пойдзем паглядзім, я даў мурашам хлеба, а іх набегла столькі! — і ён здзіўлена развёў рукамі.

Графіня пашукала ў кішэні свайго чорнага аксамітнага паліто і, дастаўшы кавалачак цукру, дала яго Вілему.

— Пакладзі ў траву і ўбачыш, як яны адразу ж яго аблепяць. Мурашы любяць салодкае.

Вілем паслухаўся і быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў, як да цукру з усіх бакоў прыбеглі мурашы, пачалі ляпіцца да яго, адкусвалі маленькія, як кропкі, кавалачкі і адносілі ў мурашнік. Хлопчык спытаў графіню:

— Скажы мне, Гартэнзія, а як гэта мурашы ведаюць, што тут ёсць нешта смачнае, і што яны робяць з яйкамі, якія пераносяць з месца на месца?

— Гэта іх дзеці, а мурашы, якія іх цягаюць, іх няні і выхавацелькі. Калі свеціць сонца і гарачы дзень, яны выносяць дзетак з цёмных пакояў пагрэцца, каб яны хутчэй раслі.

— А дзе іх маці? — пацікавілася Адэлька.

— Яны сядзяць дома, нясуць яйкі, каб род мурашоў не звёўся. Таты ходзяць вакол іх, весяляць іх, каб не сумавалі. Тыя мурашы, якіх тут бачыце, гэта працаўнікі.

— А што яны робяць? — спытаў Ян.

— Запасаюць корм, будуюць і рамантуюць памяшканні, нянчаць лялечак, дзетак мурашоў, прыбіраюць у доме, выносяць памерлых, ахоўваюць мурашнік ад ворагаў і ў выпадку

нападзення становяцца на абарону сваёй суполкі. Вось колькі клопатаў у працаўнікоў!

— Як жа мурашы разумеюць адзін аднаго, яны ж не ўмеюць гаварыць? — здзівіліся дзеці.

— Хоць яны і не размаўляюць, як людзі, але ж выдатна разумеюцца паміж сабой. Вы бачылі, як адзін мураш знайшоў цукар і адразу ж пабег паведаміць астатнім, і тыя збегліся. Паглядзіце, як яны спыняюцца па двое, дакранаюцца вусікамі, нібы мімаходзь хочуць паразмаўляць, а часам збіраюцца ў групкі і пра нешта раяцца.

— А ці ёсць у мурашніку пакоі і кухні? — спытала Адэлька.

— Кухні ім без патрэбы, таму што яны не гатуюць, а пакоі маюць у мурашніках для дзяцей і маці, ёсць пакоі для працаўнікоў, іх дом падзелены на некалькі паверхаў, і з аднаго паверха на другі вядуць калідоры.

— А як гэта так пабудавана, што не развальваецца? — працягвалі дапытвацца дзеці.

— Яны добра будуюць, і калі хто мацнейшы не разбурыць мурашнік, сам ён не разбурыцца. Сцены і дах зроблены з драбнюткіх трэсачак, галінак, іголачак, сухіх лістоў, травы і зямлі; калі яна залішне сухая, мурашы змочваюць яе слінаю і скатваюць у маленькія шарыкі. Гэтыя шарыкі замяняюць ім цэглу. Найбольш зручна мурашам будаваць пасля дробнага дажджу, калі зямля вільготная.

— Але хто кузурак усяму навучыў? — спытаў Вілем.

— Гэта Бог даў ім такое прыроднае ўмельства, яны ад нараджэння ведаюць, чым харчавацца, як ахоўваць сябе; некаторыя насякомыя з такім майстэрствам і мудрасцю здабываюць сабе ежу, будуюць жыллё, што іх дзеянні нагадваюць разумныя ўчынкі людзей. Вось калі пойдзеце ў школу і навучыцеся чытаць, то даведаецеся з кніг шмат цікавага пра жыццё насякомых, як гэта зрабіла я, — дадала графіня.

Пакуль яны размаўлялі, прыйшла бабуля з Барункай, у абедзьвюх фартухі напоўнены кветкамі, у руках яны неслі

пучкі зёлак, якіх назбіралі на лузе. Хлопцы паведамілі бабулі ўсё, што пачулі ад Гартэнзіі пра мурашоў, а дзяўчына спытала, для чаго бабулі гэтыя травы.

— Тут, мілая паненка, кмен і трохі дзядоўніку. Кмен сушаць, зернейкі яго пойдуць у ежу і хлеб, сцябло кладуць у ваду, калі мыюць дзяцей. Дзядоўнік добра дапамагае, калі баліць горла, яго трэба паласкаць настоем. Мясцовыя людзі ведаюць, што я збіраю зёлкі, калі нешта здараецца — ідуць да мяне. Добра мець іх дома, калі не патрэбна самому — спатрэбіцца людзям.

— А што, у мястэчку няма аптэкі? — спытала графіня.

— У мястэчку няма, але ёсць непадалёк. А калі б і была ў мястэчку, што з таго? Аптэчныя лекі вельмі дарагія, і да таго ж — навошта шмат плаціць, калі самі сабе ўмеем гатаваць?

— А што, рэцэпты вам піша ўрач і кажа, як неабходна прыгатаваць?

— І што б было, мілая паненка, калі б па кожнай драбязе людзі звярталіся да доктара? Да яго цэлую гадзіну ехаць, палова дня пройдзе, пакуль дачакаешся. Хворы і памерці паспее, калі пад рукою няма патрэбных зёлак. А калі прыйдзе, то пачынаецца: лекі прымаць шмат разоў, ды пластыры, ды п'яўкі, тут і ў здаровага чалавека галава закруціцца, а ў хворага тым больш, ён яшчэ мацней расхварэецца. Я, мілая паненка, зусім дактарам не веру, а калі мне нешта баліць ці дзецям, дастаю свае зёлкі. Ужо калі яны не дапамагаюць, тады я кажу: «Пасылайце па доктара». Толькі, калі Бог дасылае цяжкую хваробу, і доктар не дапаможа, а таксама спашлецца на прыроду, каб дапамагла. Бог застаецца і ў далейшым найлепшым лекарам: калі патрэбна чалавеку жыць, то і без доктара ачуняе, а калі лёс памерці, ніякія аптэкі не дапамогуць.

— А ў вашых фартухах тыя самыя зёлкі? — спытала графіня.

— Не, Гартэнзія, — хутка адказала Барунка. — У фартухах нясём кветкі для вянкоў. Заўтра свята Божага Цела, мы з Манчынкай будзем несці вянкі.

— І я таксама з Гелай пайду! — абвясціла Адэлька.

— А мы будзем несці свечы! — выгукнулі хлопцы.

— А хто такая Гела? — спыталася графіня.

— Гела — дачка кумы з горада, з таго вялікага дома, дзе намаляваны леў.

— Трэба гаварыць, дзе карчма, — вучыла бабуля дзяўчынку.

— Ты таксама пойдзеш на працэсію? — спытала Барунка ў Гартэнзіі.

— Безумоўна, пайду, — пацвердзіла тая і, сеўшы на траву, стала дапамагаць бабулі і Барунцы вязаць букеты.

— Ты ніколі не хадзіла з дзяўчатамі на свята Цела Хрыстова? — спыталася Барунка.

— Ніколі, але калі я яшчэ жыла ў сваёй няньκі ў Францыі, то была адной з дружак на свяце Мадонны і несла вянок з руж.

— А хто такая Мадонна?

— Мадоннай называюць у Італіі Дзеву Марыю, — адказала графіня.

— А мілая паненка паходзіць з Італіі? З той краіны, дзе стаяць нашы салдаты? — спытала бабуля.

— Так, толькі ў тым горадзе, дзе я нарадзілася, у Фларэнцыі, іх няма. Там плятуць прыгожыя капелюшы з рысавай саломкі. Там растуць на палях рыс і кукуруза, на пагорках салодкія каштаны і алівы, паўсюль кіпарысавыя і лаўровыя гаі, цудоўныя кветкі, сіняе бязвоблачнае неба.

— А я ўжо ведаю, — перапыніла яе Барунка, — гэта той горад, што намаляваны на карціне ў тваім пакоі, ці не так? Пасярэдзіне — шырокая рака, а на беразе ракі — вялікі горад. Ах, бабуля, якія там прыгожыя дамы і касцёлы! На другім баку сады і маленькія хаткі, каля адной з іх гуляе дзяўчынка, а побач — сядзіць старая. Гэта Гартэнзія са сваёй няняй! Ці не так ты нам апавядала, калі мы былі ў замку?

Дзяўчына адказала не адразу, яна сядзела, глыбока задумаўшыся, рукі паклала на калені. Потым яна цяжка ўздыхнула: «O bella Patria! O cara amica!»*

— Што ты сказала, Гартэнзія? — з цікавасцю спытала Адэлька, пяшчотна прыціскаючыся да яе. Гартэнзія прытуліла да сваёй галавы галаву дзяўчынкі і дала волю слязам, якія цяклі па яе твары на сукенку.

— Мілая паненка прыгадала сваю радзіму і сваіх сяброў, — растлумачыла бабуля. — Вы яшчэ не разумееце, дзеткі, як чалавеку развітацца з тым месцам, дзе ён нарадзіўся і вырас. Як бы яму добра ні жылося потым, ён ніколі родны дом не забудзе. І вы калі-небудзь пройдзеце праз гэтае выпрабаванне. А ў мілай паненкі ці засталася там радня? — звярнулася яна да Гартэнзіі.

— Няма ў мяне на свеце нікога з родных, пра іх бы я ведала, — адказала графіня сумна. — Мая добрая няня, мой сябар Джаванна, жыве ў Фларэнцыі, я па ёй і дому ўвесь час сумую. Каміла, мая другая маці, абяцала са мною туды паехаць.

— А як здарылася, што княгіня адшукала вас так далёка? — пацікавілася бабуля.

— Княгіня добра ведала маю маці, яны былі сяброўкамі. Мой бацька ў бітве пад Лейпцыгам быў цяжка паранены і, калі вярнуўся на сваю вілу ў Фларэнцыю, праз некалькі гадоў памёр ад раны. Джаванна мне шмат расказвала пра яго. Маці пасля яго смерці цяжка перажывала і таксама памерла. Засталася я круглай сіратой. Даведаўшыся пра гэта, княгіня прыехала ў Італію і забрала б мяне з сабою, калі б не Джаванна, якая мяне любіла, як сваю дачку. Пакінула мяне ў яе, аддала вілу і ўсё, што ў ёй было. Джаванна выгадавала і выхавала мяне. Калі я вырасла, узяла пані княгіня мяне да сябе. Ох! Я яе так люблю, як любіла б сваю родную маці!

* О цудоўная Айчына! О дарагая сяброўка!

— Так і вас пані княгіня любіць, як сваю дачушку, — сказала бабуля. — Я гэта добра заўважыла ў замку, і мне гэта вельмі спадабалася. Ах, зусім забылася расказаць мілай паненцы пра Кудрновых. Калі Барунка перадала ім вашыя грошы, то ад шчасця скакалі да столі, а калі самога Кудрну ўзялі вартаўніком на панскія палі з абяцаннем плаціць і грашыма, і натурай, то было такое здзіўленне і радасць, што перадаць немагчыма. Да смерці не перастануць маліцца за пані княгіню і вас, мілая паненка!

— Гэта яны табе павінны дзякаваць, бабуля, твайму добраму слову, — адказала дзяўчына.

— Мілая паненка, нічога б не выйшла з майго добрага слова, калі б яно не ўпала на добрую глебу, не дало б добрых усходаў, — не пагадзілася бабуля.

Вянкі былі зроблены, і бабуля з дзецьмі сабраліся дахаты.

— Я паеду з вамі да перакрыжавання, — сказала дзяўчына і ўзяла коніка, які скуб траву, за аброць.

— Калі хочаце, то я пакатаю вас па чарзе на коніку.

Хлопцы ад радасці заскакалі, а Ян у адно імгненне быў на кані.

— Глядзі ты, які малайчына! — усклікнула бабуля, бачачы, як смела Ян сядзіць на кані. Вілем, хоць і рабіў выгляд, што не баіцца, але зачырванеўся па вушы, калі дзяўчына пасадзіла яго на сядло, аднак смех Яна прымусіў яго ўзяць сябе ў рукі. Маленькую Адэльку графіня пасадзіла на поні, але сама ішла побач, падтрымліваючы яе. Дзяўчынка была задаволеная, хлопчыкі смяяліся, што яна сядзіць на кані, як цыбулька ці малпачка, і дражніліся да таго моманту, пакуль бабуля іх не спыніла.

На раздарожжы графіня ўскочыла на свайго белага каня, апусціла сваю сінюю спадніцу на стрэмя, паправіла чорны капялюшык, махнула дзецям хлыстом на развітанне, а конік, пачуўшы гучную каманду «avanti»*, узляцеў на гару,

* Avanti — наперад.

як ластаўка. А бабуля з дзецьмі памалу пайшлі да Старой бялільні.

На другі дзень раніца была цудоўная, неба чыстае, нібы падмеценае. Перад сядзібай стаіць вазок, а ў ім Ян і Вілем у белых штанах, чырвоных камізэльках, з вянкамі ў руках. Пан Прошак абыходзіць добрых коней, пляскае па іх бліскучых баках, перабірае густую грыву, вопытным вокам азірае збрую. Час ад часу ён падыходзіць да дома і крычыць у акно: «Ці яшчэ вы не сабраныя? Паспяшайцеся!»

— Хвілінку, тата, хвілінку! — чуецца з вокнаў. Гэтая «хвілінка» цягнецца досыць доўга, і нарэшце выходзяць з дому дзяўчаты, сярод іх Манчынка, пані Прошкава, бабуля, Бетка і Ворша.

— Наглядайце за гаспадаркай, асабліва за птушкай! — загадвае бабуля.

Султан хоча ласціцца да Адэлькі, панюхаць кветкі, якія яна трымае ў руцэ, але дзяўчынка ўзняла абедзве рукі ўгару, і бабуля адагнала сабаку са словамі:

— Ці ты не бачыш, што Адэлька будзе сёння дружкай?

— Нібы анёлы, — кажа Бетка Воршы, калі дзяўчаткі садзяцца ў вазок. Пан Прошак садзіцца на козлы побач з фурманам Вацлавам, бярэ аброць у руку, шчоўкае языком, коні ганарыста ўскідваюць галовы, і вазок імчыцца да млына, нібы вецер. Сабакі пабеглі за ім, але калі пан прыгразіў ім бізуном, вярнуліся, леглі на ганку на сонейку і паснулі.

Якая прыгажосць у мястэчку! Дамы ўбраныя зялёнымі галінкамі, плошча ператварылася ў гай. На гасцінцы і дарогах раскідана зялёнае трысцё. На ўсіх чатырох вуглах плошчы пабудаваны алтары, адзін прыгажэйшы за другі. Пасярэдзіне, каля статуі Яна Непамуцкага, пад зялёнымі ліпамі, стаіць гармата, ля якой сабраліся падлеткі.

— З яе будуць страляць, — заўважыў пан Прошак, паказваючы дзецям на гармату.

— Але я баюся, — занепакоілася Адэлька.

— Чаго ж баяцца, бухне так, нібы гаршчок зваліўся з паліцы, — заспакоіла яе Манчынка. Такое Адэлька чула дома, таму і супакоілася.

Каля высокага дома, на якім вісела шыльда з белым ільвом і вялікай гронкай вінаграду, вазок спыніўся. На парозе з'явіўся кум — пан Станіцкі, які, зняўшы аксамітную шапку з доўгім кутасом, вітаў гасцей. Кума ў сярэбраным каптуры і ў кароткай шаўковай кофце міла ўсміхалася. Калі малая Гела хацела за ёю схавацца, яна ўзяла яе за руку, Адэльку за другую і, паставіўшы іх побач, сказала: «Ну, пакажыцеся, якія вы ёсць!»

— Нібы двайняткі, — выказалася бабуля.

Дзяўчынкі нясмела зірнулі адна на адну і, засаромеўшыся, апусцілі галовы.

Пан Ставіцкі ўзяў пана Прошака пад руку і павёў яго ў дом, запрасіўшы ўсіх ісці за імі.

— Мы яшчэ паспеем пагаварыць і выпіць па шклянцы віна, пакуль пойдзе працэсія, — весела сказаў ён.

Пані Прошкава пайшла за імі, а бабуля засталася на вуліцы разам з дзецьмі, сказаўшы:

— Вы можаце не спяшацца, таму што пойдзеце з панамі, а я з дзецьмі, бо да касцёла пазней не траплю.

І засталася стаяць у парозе.

Праз некаторы час на рагу вуліцы паказаліся хлопчыкі ў чырвоных камізэльках, якія ішлі парамі.

— Ідуць! — крыкнуў Ян.

— Адэлька і ты, Геленка, — нагадвала бабуля, — калі пойдзеце за працэсіяй, глядзіце ўважліва пад ногі, каб не паваліцца. Наглядай за імі, Барунка. Вы, хлопцы, будзьце паслухмянымі, не нарабіце бяды з агнём. У касцёле ля алтара памаліцеся, каб Бог радаваўся за вас!

Між тым да іх падышоў настаўнік з вучнямі.

— Хвала Ісусу, пан настаўнік, я прывяла вам яшчэ дзяцей, жадаю вам з імі цярпення, — прывітала бабуля старога настаўніка.

— Вось і добра, пані бабуля, — у мяне, як у статку, ёсць і вялікія, і маленькія, — смяяўся настаўнік, разводзячы хлопчыкаў да хлопчыкаў, дзяўчынак да дзяўчынак.

У касцёле бабуля засталася ля дзвярэй побач са старымі суседкамі, а дзеці з настаўнікам — ля алтара.

Пасля таго як зазванілі ў трэці раз, народ кінуўся да касцёла, служка прынёс хлопчыкам запаленыя свечы ў трыножніках, зазвінеў званочак, святары наблізіліся да алтара, і пачалася імша.

Дзяўчынкі склалі рукі і доўга, не адрываючыся, глядзелі на алтар, а калі стаміліся, пачалі глядзець улева, управа, і тут погляд іх затрымаўся на мілым твары графіні, якая сядзела ўгары, ля хораў. Ну як тут не ўсміхнуцца. Але за графіняй сядзела іх маці, а побач з ёю стаяў іх бацька, які дзяўчаткам даў знак, каб глядзелі на алтар. Адэлька нічога не зразумела і ўсміхнулася бацьку, але Барунка пацягнула яе за сукенку і шапнула: «Глядзі на алтар!»

Святар узняў захавальніцу дароў, народ пачаў спяваць: «Божа, злітуйся!» Пачуўся ўрачысты звон, і працэсія выступіла з храма. Наперадзе ішлі дзеці, якія трымалі ў руках трыножнікі з запаленымі свячамі, дзяўчаткі ў вянках пасыпалі кветкамі шлях, за імі выступалі святары, кіраўніцтва горада, ганаровыя госці з усёй аколіцы, а потым гарадскі і вясковы люд, у натоўпе была і бабуля. Сцягі розных цахоў узнялі над галовамі людзей, пах кадзілаў змешваўся з пахамі свежай зялёнай лістоты і кветак, гук званоў стаяў у паветры. Тыя, хто не мог ісці разам з усімі, выходзіў на ганак або высунуўся з акна, каб паглядзець на працэсію.

Якая асалода вачам бачыць гэты стракаты натоўп! Якая вопратка! Якое хараство! Прыгожа апранутыя дзеці, святары ў святочным адзенні, паны ў модных фраках побач з ганаровымі гараджанамі ў паліто па модзе пяцідзесяцігадовай даўніны, юнак у расшытым камзоле побач з бацькам у доўгім да ног паліто.

Проста, але элегантна апранутыя пані побач з іншымі, апранутымі дорага, але без густу. Гараджанкі ў карункавых, затканых золатам і срэбрам каптурах, вясковыя кабеты ў палатняных, накрухмаленых каптурах і белых хустках. Дзяўчаты ў вяночках і чырвоных хустачках.

Як кожны мог здагадацца па шыльдзе, што дом Станіцкіх — карчма, так і вопратка гэтых людзей была своеасаблівай шыльдаю іх грамадскага становішча, складу думак, роду заняткаў. Адразу можна было адрозніць капіталіста ад рамесніка або чыноўніка, заможнага селяніна ад беднага, па крою вопраткі было бачна, хто прытрымліваецца старых поглядаў і звычак, а хто, як казала бабуля, шукае ўсяго новага.

Увесь час бабуля імкнулася быць бліжэй да дзяцей, каб нічога не здарылася. Але ўсё скончылася добра, толькі пры кожным стрэле Адэлька ўздрыгвала, затыкала вушы і заплюшчвала вочы.

Пасля ўрачыстасцей бабуля і дзеці пайшлі да карчмы, дзе ўжо стаяў вазок. З касцёла выйшла Крысцінка, бабуля ёй адразу прапанавала ехаць з імі.

— Нашы застануцца тут на абед, то маем дастаткова месца, — казала яна.

— Я б і з вамі хацела паехаць, і з дзяўчатамі пайшла б! — адказала Крыстла, кінуўшы погляд на групу юнакоў, якія чакалі дзяўчат ля могілак, каб правесці дадому. Сярод хлопцаў вылучаўся адзін, рослы, як сасна, з прыгожым тварам і прыветлівым позіркам. Здалося, што некага выглядае, а калі раптам сустрэліся яго вочы з вачыма Крыстлы, зачырванеліся абодва.

Бабуля адвяла Геленку да кумы ў карчму, тая затрымала іх і пачала частаваць дзяцей печывам, а бабулю — віном. Крысцінка не хацела ўваходзіць у святліцу, дзе сядзелі адны паны, і бабуля вырашыла вынесці ёй пачастунак у сенцы. Але куды спрытнейшым аказаўся стройны юнак. Ён злётаў у карчму, узяў салодкай наліўкі і паднёс дзяўчыне. Дзяўчына засаромелася, але калі ён з сумам сказаў: «Ты не хочаш

прывеціць мяне?», узяла кілішак і выпіла за яго здароўе. У гэты момант падышла бабуля з віном і абодвух прымусіла выпіць.

— Ты прыйшоў дарэчы, Міла, — сказала бабуля, і ў кутках яе вуснаў зайграла добрая ўсмешка, — я ўвесь час думала, хто б са знаёмых хлопцаў мог правесці нас. Баюся я гэтых коней, асабліва, калі няма побач Яна або некага талковага. Вацлаў не лепшы кучар. Паедзем з намі!

— З радасцю! — сказаў Міла і, павярнуўшыся на абцасах, пабег расплаціцца.

Дзеці развіталіся з Гелай, пані кумой і бацькамі і селі ў вазок, Крыстла села да іх. Міла забраўся на козлы да Вацлава, і коні паехалі.

— Глядзіце, Міла пана з сябе робіць! — казалі хлопцы, ідучы па ходніку, калі вазок праязджаў каля іх.

— Верым! Заўсёды ёсць мне чым ганарыцца! — весела адказаў Міла, азіраючыся на тых, хто сядзеў у вазку.

Хлопец, які аклікаў Мілу, быў яго блізкім сябрам. Зняўшы шапку, ён падкінуў яе і заспяваў:

Каханне, святое каханне,
Дзе яго людзі бяруць?
На гары не расце, і ў полі
Не ўзыходзіць...

Апошніх слоў у вазку не пачулі, коні хутка беглі дахаты.

— Ці маліліся вы? — дапрошвала бабуля свой малы вывадак.

— Я маліўся, а Вілем, думаю, не, — азваўся Ян.

— Не верце яму, бабуля, я ўвесь час чытаў «Ойча наш», а Ян штурхаў мяне, калі мы ішлі з працэсіяй, — апраўдваўся Вілем.

— Яніку, Яніку, ты бязбожнік! Паскарджуся на цябе самому святому Мікулашу, — ківаючы галавою, ушчувала хлопца бабуля.

— І не атрымаеш ніякіх падарункаў, пачакай, — дражнілася Адэлька.

— А і праўда, праз некалькі дзён дзень святога Яна Хрысціцеля, твае імяніны, — прыгадала Крыстла.

— А што ты мне падаруеш? — спытаў Ян нібы нічога не адбылося.

— Падарую табе саламяны жгут, калі ты такі няўрымслівы, — са смехам адказала Крыстла.

— То не хачу, — засмуткаваў Ян. Дзеці засмяяліся.

— А што табе дараць? — спытала Барунка ў Крыстлы.

— Нічога, у нас няма такога звычая, толькі ў паноў. Аднойчы я атрымала верш ад настаўніка, які быў у замку спраBодам. Я яго маю ў кніжцы, — і дастала з малітоўніка складзены надвое аркуш паперы з вершам, упрыгожаны намаляваным вянком з руж і незабудак. Я зберагла верш толькі з-за вяночка, таму што напісанага не разумею.

— А ці напісана не па-чэшску? — спытала бабуля.

— Па-чэшску, але вельмі па-вучонаму. Паслухайце, як пачынаецца: «Пачуй мяне, дарагая прыгажуня, Лады выхаванка!» Шчыра кажучы, нічога не зразумець! І далей такая ж бязглуздзіца. Якая ж я Лады выхаванка, калі ў мяне, хвала Богу, ёсць родная маці. У таго чалавека ад кніг розум памутнеў.

— Мы не маем права пра яго так думаць, мілая дзяўчына. Гэта быў, пэўна, чалавек высокага розуму і добра адукаваны, толькі яго склад розуму незразумелы для нас. Некалі быў у нас сусед, такі ж пісьменны і творца. Яго эканомка (кажуць, што пісьменнікі адмаўляюцца жаніцца) да нас часта заходзіла і казала, што яе гаспадар дзівак, якіх мала. Цэлымі днямі сядзіць, закапаўшыся ў кнігі, як крот у зямлю. Калі б Зузанка не клікала яго: «Пан, хадзіце есці», то быў бы галодны цэлы дзень. Зузанка павінна была пра ўсё памятаць і яму нагадваць, не было б яе, дык яго моль з'ела б. Кожны дзень стары гуляў адну гадзіну і заўсёды адзін і адзін, таварыства ён не любіў. Зузанка вельмі любіла наліўку, па мне, без яе можна і абысціся, але і я вымушана была, каб не пакрыўдзіць суседку, выпіць кілішак. Яна мне

заўсёды казала: «Хоць бы стары не ўбачыў, бо ён п'е толькі ваду, часам капне ў яе кроплю віна і заўсёды мне кажа: «Зузанка, вада — самы здаровы напой, пі толькі ваду і будзеш здаровая і шчаслівая». А я сабе думаю: «Вада — справа добрая, але мне і наліўка не шкодзіць». Хацеў ён, каб я жыла як птушка, ежа і напоі для яго нічога не значылі, яго страўнік быў напоўнены гэтымі кнігамі, вялікі дзякуй за такую страву». Так апавядала мне Зузанка. Аднойчы яна паказала мне яго пакой. За ўсё жыццё я не бачыла столькі кніг! Ляжалі яны адна на другой, як касцёр з дроў.

«Бачыце, Мадленка, — казала мне заўсёды, — усё гэта ў такога старога ў галаве, я здзіўляюся, як ён ад усяго гэтага не звар'яцеў. Калі б мяне не было, бо за ім наглядаю, як за малым дзіцем, то шчыра кажу, ён бы не пражыў, не разумее ж нічога, яму хоць трава не расці. А колькі святой цярплівасці трэба мне з ім мець. Часам я на яго прыкрыкну, а ён ні слова ў адказ, нібы пабіты сабака, і мне яго так шкада. Але часам патрэбна сварыцца, бо няма ніякага цярпення. Падумайце, Мадленка, было ў яго пакоі столькі пылу, як на плошчы, павуціння, як на старой званіцы, і думаеце, што я магла прыйсці да яго з венікам? Не. Вось і думаю, пачакай, я ўсё роўна зраблю ў тваім пакоі парадак. Інакш людзі асудзілі б мяне, калі б да яго нехта ўвайшоў і ўбачыў, што там робіцца. Папрасіла я аднаго знаёмага пана, з якім ён ахвотна сустракаўся, затрымаць яго ў сябе, а сама тым часам усюды вымыла, вычысціла, стала прыемна нават паглядзець. Але бачыце, Мадленка, які чалавек! Толькі на трэці дзень зразумеў, што вакол чыста. Яму здалося, што ў пакоі стала святлей. Яшчэ б не пасвятлела! Вось так трэба абыходзіцца з дзівакамі!»

Кожны раз, калі я да яе прыходзіла або яна да нас, скардзілася на старога, а сама б ніколі не развіталася з ім. Аднойчы ён нагнаў на яе страх. Пайшоў прагуляцца і сустрэў свайго знаёмага, які збіраўся ехаць у Крканошскія горы. Прапанаваў знаёмы старому пану паехаць разам з ім і абяцаў хутка прывезці дахаты. Стары ўзяў і паехаў у чым быў. Зузан-

ка чакае, чакае, а пан не вяртаецца, ноч прайшла, а яго няма. Прыбегла да нас заплаканая, напалоханая, было нам з ёю клопату. Толькі раніцай даведалася яна, у чым справа, ужо і сварылася яна на яго. Шэсць дзён стары адсутнічаў, а яна кожны дзень гатавала яму абед і вячэру. Калі стары вярнуўся, прыбегла яна да нас і гаворыць: «Вы не ўяўляеце, як я на яго напусцілася! А ён мне: «Ну, ну, не крычы, што тут такога, пайшоў прагуляцца і трапіў на Снежку. Ці мог я вярнуцца раней?»

Аднойчы прынесла нам Зузанка некалькі кніжак, каб мы пачыталі. Гэта, кажа, яе стары напісаў. Мой нябожчык Іржы быў вельмі пісьменны, ён нам кніжкі прачытаў, але мы нічога не зразумелі, вельмі ўжо па-вучонаму там было напісана. Зузанка мне кажа: «Ну, ці трэба над імі галаву ламаць!» Але людзі ў горадзе яго вельмі паважалі і казалі, што ён з вялікім розумам.

— Я таксама як Зузанка, — сказала Крыстла, — ніякага толку ў вучонасці не бачу, калі нельга зразумець. Для мяне добрыя песні і вашыя апавяданні, бабуля, мілей за ўсялякую вучоную працу. А ці чулі вы песню, што склала Барла з Чэрвеннай гары?

— Мілая дзяўчына, мне свецкія песні не ідуць у галаву, я іх і не памятаю. Мінуў той час, калі дзеля новай песні я магла бегчы на край свету, цяпер я спяваю толькі царкоўныя, — адказала бабуля.

— А што гэта за песня, Крыстла? — спыталі Манчынка і Барунка.

— Пачакайце, я вас навучу. Пачынаецца яна так: «Што тая птушка спявае, што сядзіць на дубе?»

— Ты мне, Крысцінка, сёння заспяваеш гэтую песню, калі прыедзем дахаты, — звярнуўся Міла, павярнуўшыся да вазка.

— Хоць два разы. Былі мы падчас касавіцы на панскім полі, прыйшла Барла, селі мы пад узгоркам адпачыць, а Анча Ціханковіц і кажа:

— Барла, складзі мне песню!

Барла хвілінку падумала, потым усміхнулася і запела вось гэту самую: «Што тая птушка спявае, што на дубе сядзіць? Калі ў дзяўчыны ёсць хлопец, то яна заўсёды бледная».

Анча раззлавалася, бо падумала, што гэта пра яе, бо ведаеце, што яна збіраецца замуж за Томаша. Але Барла, як толькі гэта заўважыла, склала другі куплет, каб яе задобрыць: «Змоўкні, птушка, змоўкні, ты ілжэш, не кажаш праўду, я таксама хлопца маю, але зусім не бледная».

Нам усім вельмі спадабалася гэтая песня, напеў Барла падабрала, такі мілы. Жэрнаўскія дзяўчаты прыйдуць да нас паслухаць, яны яшчэ не ведаюць, — дадала Крыстла.

Манчынка і Барунка ўжо спявалі гэтую песню, калі ехалі паўз замак. Ля брамы стаяў малодшы камердынер у чорным фраку. Гэта быў хударлявы, невысокага росту чалавек, адной рукой ён круціў свой чорны вус, а другой трымаўся за залаты ланцужок, што вісеў на шыі, імкнучыся паказаць, як зіхацяць на яго пальцах пярсцёнкі.

Калі вазок ехаў каля лесу, вочы ў яго загарэліся, як у ката, які бачыць вераб'я, ён соладка ўсміхнуўся Крыстле і памахаў рукой. Дзяўчына ў адказ яму ледзьве кіўнула, а Міла неахвотна ўзняў сваю шапку з выдры.

— Я лепш бы з чортам сустрэлася, чым з гэтым італьянцам, — абуралася Крыстла, — зноў выглядае, ці не пройдуць каля яго некалькі дзяўчат, каб кінуцца на іх ястрабам.

— Ну, у нас яму далі па хрыбце, — пачаў Вацлаў, — прыйшоў на танец і адразу да самых прыгожых дзяўчат, нібы да яго іх прывялі, гаварыць па-чэшску не можа, а вось памятае «Я кахаю прыгожых дзяўчат».

— Гэта ён мне заўсёды гаворыць, калі прыходзіць на піва, — перабіла Вацлава Крыстла, — і хоць дзесяць разоў яму казала: «Ды я вас не кахаю!» — ён не адвяжацца, ну, як ліхаманка якая.

— Хлопцы яму добра далі, цяпер зведаў, што па чым у Пардубіцах.

— Хай паасцеражэцца, пакуль мы яму ў іншым месцы не растлумачылі, — сказаў Міла, патросшы галавой.

Вазок спыніўся ля карчмы.

— Ну, дзякуй, што давезлі, — падзякавала Крыстла, падаючы руку Міле, які дапамагаў ёй злезці з вазка.

— Яшчэ адно слоўца, — затрымала яе бабуля, — ці не ведаеш, калі пойдуць жэрнаўскія і чэрвенагародскія?

— Магчыма, як заўсёды: чэрвенагародскія або на Успенне або на Ражаство Багародзіцы, а жэрнаўскія ў першае свята Дзевы Марыі пасля дня святога Яна. Я іду з імі.

— Я таксама хацела б, — сказала бабуля.

— У гэтым годзе я пайду разам з табою, — смяялася Барунка.

— Я таксама, — засведчыла Манчынка.

Астатнія дзеці закрычалі, што таксама пойдуць, але Барунка пераканала іх, што трох міль хады яны не вытрымаюць.

Вацлаў сцебануў коней, і вазок паехаў у бок млына, дзе высадзілі Манчынку, а бабуля аддала ёй некалькі пасвянцоных вянкоў, падрыхтаваных для пані мамы. Калі пад'ехалі да дому, то насустрач выбеглі Султан і Тырл, скачучы па-вар'яцку ад радасці, што бабуля вярнулася дахаты. Бабуля дзякавала Богу, што шчасліва даехалі дадому, яна ў сто разоў ахвотней бы ішла пешкі, чым ехала на гэтым вазку, запрэжаным такімі магутнымі конямі, што нядоўга і шыю зламаць.

Бетка і Ворша чакалі гаспадароў на ганку.

— Дзе ж ваш вяночак, Вацлаў? — спыталася Бетка фурмана, калі бабуля з дзецьмі ўвайшла ў святліцу.

— Я, дзяўчына, даўно забыўся, дзе яго кінуў, — адказаў Вацлаў, хітра ўсміхаючыся.

— Не гавары ты з ім, — пацягнула Бетку Ворша, — няўжо не ведаеш, што ён і ў свята можа што заўгодна казаць!

Вацлаў зарагатаў, узмахнуў кнутом і знік з вачэй.

Бабуля развесіла свежыя вянкі, а мінулагоднія кінула ў агонь.

# IX

У бабулінай святліцы, як у садзе: куды ні глянь, усюды поўна руж, рэзеды, чаромхі і іншых кветак, а сярод іх — ахапкі дубовых лістоў. Барунка і Манчынка вяжуць букеты. А Цылька звівае вялікі вянок. На лаўцы ля каміна Адэлька з хлопцамі завучваюць віншаванне.

Надвячорак Святога Яна; заўтра іманіны бацькі — вялікае сямейнае свята. На яго запрасіў пан Прошак у госці сваіх найлепшых сяброў, такі звычай. Таму такая мітусня па ўсім доме. Ворша мые і скрабе, каб нідзе не засталося пылу, Бетка абварвае кіпенем птушак, гаспадыня пячэ пірагі. А бабуля прыглядвае за ўсім разам: за цестам, за дзецьмі, за птушкай. Барунка прасіла, каб бабуля выгнала з хаты Яна, бо не дае ім спакою, а калі хлопец быў на дварэ, то наракалі Бетка і Ворша, што боўтаецца ў іх пад нагамі. Вілем хацеў, каб бабуля яго выслухала, Адэлька хапае яе за спадніцу, просячы піражок, а на двары квохчуць куры, даючы зразумець, што ім ужо час садзіцца на седала.

— Бацюхна ты мой! Не магу ж я ўсім дапамагчы! — скардзілася бедная бабуля. І тут Ворша крыкнула:

— Пан ідзе дахаты!

Тыя, хто плёў вянок, зачыніліся, пані прыбірае тое, што павінна заставацца таямніцай, а бабуля загадвае дзецям: «Нічога раней часу бацьку не кажыце!» Бацька заходзіць у дворык, дзеці выбягаюць яму насустрач, але калі, прывітаўшыся, бацька пытаецца пра маці, дзеці застаюцца стаяць у нерашучасці, не ведаючы, што адказваць, каб не прагаварыцца і не выдаць сакрэт. Адэлька, бацькава любіміца, працягвае яму рукі, ён садзіць яе на плячо, і дзяўчынка шэпча яму: «Маці пякуць з бабуляю пірагі, заўтра тваё свята».

— Ну пачакай, атрымаеш, калі прагаварылася, — закрычалі хлопцы і пабеглі скардзіцца маці.

Адэлька зачырванелася, седзячы на бацькавым плячы, і пачала плакаць.

— Ну, не плач, — супакойвае яе бацька, — я ўсё роўна ведаю, што заўтра маё свята і маці пячэ пірагі.

Адэлька выцірае рукавом слёзы, са страхам глядзіць на маці, якую вядуць хлопцы. Але ўсё абыходзіцца, і хлопцы даведваюцца, што Адэлька нічога не сказала. Усім траім цяжка захоўваць таямніцу; а бацька робіць выгляд, што нічога не заўважае. Падчас вячэры Барунка падміргвае братам і штурхае іх, каб яны не прагаварыліся. Бетка пазней доўга смяялася і дражніла іх «курыным балбатуном».

Нарэшце ўсё зроблена, падрыхтавана, і пах печыва разносіцца па хаце. Служанкі пайшлі спаць, толькі бабуля ціхенька ходзіць па пакоях. Зачыняе котак, залівае іскры ў каміне, і, прыгадаўшы, што печка палілася на ўзгорку і там магла б нейкая іскрачка застацца, ідзе яшчэ раз паглядзець і праверыць.

Султан і Тырл, седзячы на мастку, са здзіўленнем глядзяць на бабулю, звычайна яна не выходзіла з дому так позна. Але калі яна гладзіць іх па галовах, пачынаюць ласкава каля яе церціся. «Пэўна, на мышэй палюеце, абжоры? Гэта вам дазваляецца, толькі пра хлявок з птушкамі каб забыліся!» — кажа бабуля, ідучы ў бок узгорка. Сабакі за ёю па пятах. Адчыніўшы заслонку, старая асцярожна варушыць попел, не ўбачыўшы ніводнай іскрачкі, зачыняе печ і вяртаецца дахаты. Каля мастка расце высокі дуб, у разгалістых галінах якога летам сядзіць шмат птушак. Бабуля ўздымае галаву, пачуўшы ў лістоце ўздых, ціхенькія шэпат і тупат. «Нешта ім здаецца», — сказала сабе і пайшла далей. Але каля садка яе нешта спыніла. Заслухалася салаўёў у кустах за агароджаю? Або пачула сумную, бязладную песню Вікторкі, якая даносілася з боку гаці? А можа, бабуля загледзелася на ўзгорак, дзе, як жывыя зорачкі, зіхацелі агеньчыкамі тысячы светаянскіх светлячкоў? Па-над лугам, каля ўзгорка, уздымаўся лёгкі пар. Людзі кажуць (а бабуля, магчыма, таксама верыць), што гэта не туман, а лясныя дзяўчаты ў празрыстых, серабрыста-шэрых накідках танцуюць пры святле месяца. Ці не

на іх танец залюбавалася бабуля? Ні тое, ні іншае. Бабуля глядзіць на луг у бок млына. Там, ад шынка на масток праз ручай выбегла закутаная ў белую хустку жанчына. Застыла на месцы, прыслухоўваецца як сарна, што выскачыла з лесу на паляну паскубсці траву. Усё ціха. Чуюцца толькі песня салаўя, грукатанне млына і плёскат хваль пад цёмнымі вольхамі. Кабета абярнула белай хусткай правую руку і рве кветкі, ёй трэба набраць дзевяць розных кветак. Букет гатовы, яна нахіляецца, мыецца свежай расою і потым, не азіраючыся па баках, спяшаецца назад у шынок. «Гэта Крыстла! Будзе рабіць светаянскі вяночак, здаецца мне, што яна кахае гэтага хлопца», — шэпча бабуля, не адрываючы ад дзяўчыны позірка. Крыстла ўжо схавалася, а старая доўга стаяла ў задуменні. Прыгадалася ёй мінулае. Бачыла перад сабой горную вёсачку, луг, над сабою — месяц і зоркі ў зіхаценні. Гэта быў усё той жа месяц і тыя ж заўсёды цудоўныя зоркі, што ніколі не старацца. Але тады яна была зусім маладая дзяўчына, якая ў светаянскую ноч збірала дзевяць кветачак для запаветнага вяночка. І такімі яркімі былі ўспаміны, што бабуля адчула страх ад таго, што нехта з'явіцца на дарозе і горы знікнуць.

Вось і яе дзявочы пакойчык, ложак з падушкамі ў кветкі, пад іх яна кладзе свой вяночак. Прыгадвае, як маліла Бога паказаць ёй сон, дзе быў бы той, каго выбрала яе душа. Надзея, з якой клала той запаветны вяночак, спраўдзілася, бачыла ў сне высокага хлопца, з ясным прыветлівым поглядам, таго, роўнага якому не было ва ўсім свеце. Усміхаецца бабуля, прыгадваючы, з якой дзіцячай нецярплівасцю бегла яна ў сад, каб яшчэ да ўсходу сонца кінуць вяночак праз яблыню і даведацца, ці хутка ўбачыцца са сваім Іржы. Памятае, як світанак застаў яе ўжо ў слязах, плакала таму, што вяночак далёка заляцеў за яблыню, а значыць — доўга яшчэ чакаць сустрэчы з Іржы.

Доўга стаіць бабуля ў задуменні, рукі яе мімаволі складваюцца для малітвы, з даверам глядзіць яна на зоркі, і на вус-

нах пытанне: «Калі ж мы ўбачымся, Іржы?» Прыветлівы ветрык дакрануўся да бледнага твару старой, нібы пацалаваў яго дух нябожчыка. Старая здрыганулася, перахрысцілася, і дзве слязы капнулі ёй на рукі. Пастаяўшы трошкі, яна ціха пайшла дадому.

Дзеці выглядалі з вакон, калі прыедуць бацькі: былі ў мястэчку ў касцёле. Бацька замовіў ў гэты дзень імшу, а бабуля паніхіду па ўсіх нябожчыках Янах, якія калі-небудзь былі ў яе родзе, пачынаючы з першага калена. Прыгожы вянок, віншаванні, падарункі — усё было падрыхтавана і ляжала на стале. Барунка слухала то аднаго, то другога брата, але яны ўвесь час забывалі тое ці іншае слова і прыходзілася пачынаць спачатку. У бабулі было шмат спраў, але яна хвілінкай адчыняла дзверы, заглядала ў пакой і прыгадвала дзецям: «Будзьце разумнымі, не дурэйце!»

Толькі бабуля выйшла ў садок па свежую пятрушку, як з узгорка збегла Крыстла, несучы нешта загорнутае ў хустку.

— Хай Бог дасць вам добрую раніцу, бабуля, — прывітала з вясёлым і такім шчаслівым тварам, што бабуля на яе залюбавалася.

— Ты выглядаеш так, дзяўчына, нібы выспалася ля руж, — сказала бабуля, усміхаючыся.

— Вы адгадалі, бабуля, на маіх падушках сапраўды вышытыя кветкі, — адказала Крыстла.

— Ой, хітруха! Не хочаш разумець, пра што я кажу. Ну, твая справа, толькі б усё добра было. Ці не так?

— Так, бабуля, так, — пацвердзіла Крыстла, зразумеўшы сэнс бабуліных слоў, і крыху пачырванела.

— Што ты нясеш?

— Нясу Яніку падарунак, яму падабаюцца махнаногія галубы, вось і вырашыла я падараваць яму пару галубоў. Няхай іх даглядае!

— Ну навошта ты сябе крыўдзіла, так не трэба рабіць, — заўважыла бабуля.

— А мне зусім не шкада, бабуля, я люблю дзяцей, а дзецям ад гэтага радасць! Няхай сабе забаўляюцца! Мне здаецца, я вам не расказала, што адбылося ўчора ўначы?

— Учора было як на пражскім мосце, не было часу пагаварыць з табою, але ведаю, што мне ты хацела нешта расказаць пра італьянца. Ну кажы, але не расцягвай, бо чакаю нашых з касцёла, і госці будуць вось-вось, — прыспешвала бабуля Крыстлу.

— Толькі падумайце, гэты распуснік, італьянец, прыходзіў кожны дзень на піва, што само па сабе не дрэнна, шынок для ўсіх адчынены. Ды не сядзіцца яму, як нармальнаму чалавеку, за сталом, мітусіцца, як памяло, па двары, нават у кароўнік улез, карацей, куды я, туды ён. Бацька пачаў было злавацца, але ведаеце яго, гэта добры чалавек, нават кураня не пакрыўдзіць. Ды і не хацелася яму, акрамя ўсяго, наведвальнікаў адваджваць, асабліва з замка. Вось і паспадзяваўся на мяне. Я не аднойчы груба з ім гаварыла, але ён робіць выгляд, нібы я яму нешта прыемнае кажу, а ведаю, што разумее чэшскую мову, хоць сам і не гаворыць. Цвердзіць толькі адно: «Я лублю чэшскі дзяўчына», а тут яшчэ прыклаў руку да сэрца і стаў перада мной на калені.

— Вось скаціна! — сказала бабуля.

— І гэта так, бабуля, гэтыя паны такое вам скажуць, што вушы вянуць. Паспрабуй ім паверыць, дык прападзеш! Але ў мяне такія словы ў адно вуха залятаюць, а ў другое вылятаюць. Гэты італьянец мне абрыднуў. Пазаўчора мы на лузе грэблі сена, нечакана прыйшоў Міла (бабуля гэтай нечаканасці ўсміхнулася), пагаварылі мы пра рознае, сказала яму тады, якія пакуты ў мяне з італьянцам.

— Не турбуйся, кажа, я ўжо пастараюся, каб да цябе больш не чапляўся.

— Толькі не ўгнявi бацьку, — кажу. Я ведаю жэрнаўскіх хлопцаў, яны вельмі шалёныя!

— Увечары мой «мілы» італьянец з'явіўся зноў, а за ім прыйшлі хлопцы. Было іх чацвёра, сярод іх Міла і яго

сябар Томаш. Ці ведаеце Томаша? Добры хлопец, збіраецца ажаніцца з Анчай Ціханковіц, маёй сяброўкай. Узрадавалася я, калі іх убачыла, нібы мне новую сукенку падаравалі. Лячу ім наліваць і з кожным чокаюся. Італьянец раззлаваўся, бо з ім ніколі не піла, — чорт ведае, што можа падсыпаць. Хлопцы селі за стол і сталі іграць у карты, але толькі дзеля выгляду, а самі ўвесь час насміхаюцца з італьянца. Віткавец кажа: «Гляньце на яго, выглядае як надутая сава!» Томаш падхапіў: «І я гляджу, ці хутка ад злосці ён адкусіць сабе нос. Яму гэта зрабіць будзе няцяжка, таму што звісае аж да барады!» І далей, і далей. Італьянец ад злосці мяняўся ў твары, але не адказваў. Нарэшце ён не вытрымаў, кінуў грошы на стол, пакінуў недапіты кубак з півам і без развітання пайшоў. Я перахрысцілася, а хлопцы сказалі: «Калі б ён мог забіць нас поглядам, то нас бы ўжо не было». Калі італьянец пайшоў, я накіравалася па сваіх справах, мама, вы ведаеце, хварэе, а я ўсё адчыняю і зачыняю. Хлопцы таксама пайшлі. Ужо было, пэўна, пасля дзесяці, калі я пайшла ў свой пакойчык. Пачынаю распранацца, а тут у акенца: тук-тук-тук. Я падумала, што вярнуўся Міла, бо на нешта забыўся: ён заўсёды нешта забывае, я яму кажу, што аднойчы галаву ў нас пакіне!

— Гэта ўжо здарылася, — паківала дасведчана бабуля.

— Накінула я хустку, — працягвала Крыстла з усмешкай, — і лячу адчыняць акно. І хто там быў? Адгадайце! Італьянец! Зачыніла я акно і плюнула ад страху! Ён пачаў мяне прасіць і маліць, а ведае, што я ні слова не разумею, то потым стаў мне падаваць з пальцаў залатыя пярсцёнкі. Я так раззлавалася, што схапіла збан з вадою, падыходжу да акна і кажу: «Ідзі адсюль, ты распуснік! Шукай сабе кралю ў вас, а не тут, а то вадою аблію!»

Ён троху адскочыў ад акна, а тут з кустоў выскачылі хлопцы, схапілі яго ў ахапку, рот заткнулі, каб не мог крычаць.

— Ну, пачакай, італьянец, італьянская малпа, я цябе правучу, — сказаў Міла. Я прасіла Мілу не біць яго і зачыніла

акно, праўда толькі прыкрыла, бо не магла ж я не бачыць, што будзе далей.

— Ну, Міла, кажы, што з ім будзеш рабіць? Што гэта за хлопец, калі сэрца мае, як у зайца, трасецца, як у ліхаманцы.

— Адлупцуем яго крапівою, — прапанаваў адзін.

— Намажам яго дзёгцем, — сказаў другі.

— Не, гэта не падыходзіць, — вырашыў Міла. — Томаш, трымай яго, а вы, хлопцы, пайшлі за мной!

І яны некуды пабеглі. Але хутка вярнуліся, прынеслі палку і дзёгаць.

— Хлопцы, здыміце з яго боты і закасайце штаны, — загадаў Міла. Хлопцы паслухаліся, і калі італьянец паспрабаваў адбівацца, яны стрымлівалі яго як злога коніка: «Тпру, стой! Не бойся, не падкуем! Мы толькі табе ножкі памажам, каб лягчэй было бегчы дахаты!»

— Ва ўсякім разе адчуеш здаровы пах, — смяяўся Томаш, — а то смярдзіш так, што дыхаць цяжка.

Ну, вымазалі яму дзёгцем ногі па калена, быццам новыя боцікі апранулі, паклалі яму палку на плечы і да яе прывязалі рукі. Італьянец хацеў крычаць, ды Томаш закрыў яму рот рукой і сціснуў яго, нібы абцугамі.

— Такім лайдакам, як ты, — кажа, — не шкодзіць трохі размяцца, а то хадзіць развучыліся.

— Ану, хлопцы, — загадаў Міла, — звяжыце цяпер яго боцікі, перакіньце цераз плячо і выведзіце яго на шлях. Няхай ідзе, адкуль прыйшоў.

— Пачакайце. Падорым яму кветку за гузік, каб усе бачылі, што ідзе ад дзяўчыны, — са смехам прапанаваў Вітковіц і, сарваўшы крапіву з дзядоўнікам, замацаваў іх на фраку.

— Так, цяпер усё маем, прыгажун хоць куды, можаш ісці з падарункамі, — смяяўся Міла.

Узялі яны з Томашам італьянца пад пахі і ціха вывелі з саду. Праз хвілінку Міла падышоў да акенца і расказаў, як злаваўся італьянец, уцякаючы з палкай.

— Але як вы яго высачылі? — пытаюся ў Мілы.

— Я, кажа, хацеў пажадаць табе добрай ночы, сказаў хлопцам, каб пачакалі мяне каля млына, а сам застаўся ў садзе. Бачу, з узгорка нехта крадзецца, нібы злодзей, да твайго акна. Як толькі я яго пазнаў, ціха выйшаў з саду і пайшоў па хлопцаў. Так нам пашчасціла. Здаецца мне, што шмат разоў падумае, перад тым, як сюды прыйдзе!

— Учора я цэлы дзень смяялася, але ўвечары быў у нас начны вартаўнік Кагоўтэк. Ён у нас кожны дзень, з радасцю заходзіць і ўсё, што ведае, расказвае. На гэты раз пачаў нам апавядаць, як прыйшоў італьянец дахаты і заявіў, што яго збілі нейкія шэльмы, і так стаў распісваць, што з камара зрабіў вярблюда. І сабакі на яго кідаліся, бо быў страшны, а жонка вартаўніка як быццам да самай раніцы мыла італьянца, каб дзёгаць змыць. Даў ім сярэбраны талер, каб трымалі язык за зубамі і нічога не казалі ў замку, і пакляўся адпомсціць хлопцам. Я цяпер баюся за Мілу, бо, кажуць, італьянцы злыя. А яшчэ расказаў Кагоўтэк бацьку, што гэты італьянец ходзіць да Мар'янкі, дачкі аканома, і старыя думаюць, што калі ён падабаецца княгіні і тая дала яму добрае месца ў замку, то гэта лепшая партыя для дачкі. Міла таксама хацеў наняцца на год, каб выратавацца ад рэкрутчыны, а цяпер, вы бачыце, як абярнулася: калі італьянец нагаворыць на Мілу, аканом яго ніколі не возьме на службу, бяда будзе. Як я пра ўсё гэта падумала, то мяне ўжо не радуе, што хлопцы яго правучылі. Сёння я бачыла добры сон, але што з таго! Што вы на гэта скажаце, бабуля?

— Хлопцы не вельмі разумна зрабілі, але дзе ж у іх розум, асабліва калі гутарка ідзе пра каханне. Мой Іржы таксама выкінуў такую штуку і паплаціўся за гэта.

— Як гэта, бабуля?

— Ну, я не хацела б сёння апавядаць, але пры выпадку раскажу. Мы і без таго загаварыліся, здаецца, што чуецца конскі тупат, гэта нашыя едуць. Пойдзем! Я павінна падумаць над тым, што ты расказала, магчыма, прыдумаю, як даць рады, — паабяцала бабуля, пераступаючы парог.

Дзеці, пачуўшы голас Крысцінкі, выбеглі ў сенцы. Ян, які атрымаў цудоўных галубоў, кінуўся дзяўчыне на шыю і так ад радасці моцна абхапіў, што на белай скуры засталіся чырвоныя палоскі. Ён хацеў тут жа аднесці іх у галубятню, але Барунка спыніла яго.

— Тата прыехаў! — закрычала яна.

Якраз у гэты час да Старой бялільні падышлі млынар і ляснік. Пан Прошак, апынуўшыся сярод мілых сяброў і сям'і, якую ён горача любіў і з якой так мала быў на працягу года, быў вельмі расчулены, і калі Барунка пачала яго віншаваць, то з вачэй яго паліліся слёзы. Дзеці, убачыўшы, што бацька плача, а за ім заплакалі маці з бабуляю, пачалі заікацца, блытаць словы і таксама зараўлі. Бетка і Ворша, якія слухалі віншаванні, стоячы ля дзвярэй, закрылі вочы сінімі фартухамі і плакалі адна больш за другую. Пан бацька круціў табакеркай, як колам у млыне, пан ляснік выціраў рукавом свой прыгожы нож для палявання (а ён быў у парадным адзенні), каб схаваць хваляванне.

Крысцінка стаяла ля акна і плакала, не саромеючыся сваіх слёз, пакуль пан бацька да яе не падышоў і, стукнуўшы табакеркаю ёй па плячы, прашаптаў:

— Уяўляеш, што будзе, калі мяне будуць віншаваць!

— Вы, пан бацька, заўсёды любіце чалавека падражніць, — папракнула яго дзяўчына і выцерла слёзы.

Са слязьмі на вачах, але з радасцю і задавальненнем у сэрцы падышоў пан Прошак да стала і наліў віна.

— За здароўе ўсіх! — сказаў і выпіў першы келіх. У сваю чаргу госці выпілі за здароўе гаспадара, і хутка іх твары асвяціліся весялосцю. Янік быў самы шчаслівы: ён атрымаў ад лесніка двух трусікаў, ад пані мамы — вялікі пірог з рознымі зёлкамі, які ён вельмі любіў, ад бабулі — адну з сярэбраных манет, што захоўваліся ў палатняным мяшэчку ў куфры, ад бацькоў — падарункі, а пасля абеда ў садзе нечакана з'явіліся княгіня з Гартэнзіяй. Пан Прошак, пані з бабу-

ляй і дзецьмі выбеглі іх сустракаць, і Янік атрымаў ад графіні цудоўную кнігу, дзе былі намаляваны розныя звяры.

— Я прыехала паглядзець, як ты сёння весялішся, Ян, — прыветліва звярнулася княгіня да свайго канюшага.

— У роднай сям'і з добрымі сябрамі заўсёды весела, ваша міласць, — адказаў пан Прошак.

— Хто ў цябе ў гасцях?

— Мае суседзі, млынар са сваёй сям'ёй і рызенбургскі ляснік.

— Так не затрымлівайся каля мяне, вяртайся да іх, а я хутка паеду.

Пан Прошак пакланіўся, не асмельваючыся прасіць княгіню застацца, але бабуля простасардэчна пачала казаць:

— Было б цудоўна, каб міласэрная пані княгіня і мілая паненка паспыталі пірага. Ідзі, Тэрэзка, прынясі, апетыт прыходзіць падчас ежы. Барунка, злётай па кошычак, яназбіраю чарэшняў. Ці не хацела б міласэрная пані пакаштаваць троху смятанкі або віна?

Ян і Тэрэзка былі ў роспачы, баяліся, каб просты зварот не абразіў княгіню, але выйшла зусім наадварот. З прыветлівай усмешкай княгіня саскочыла з каня, перадала аброць Яну і, сеўшы на лаўку пад грушай, сказала:

— З задавальненнем прымаю ваша запрашэнне, але не хачу, каб вы пакідалі без увагі сваіх гасцей, няхай далучаюцца да нас.

Пані Прошкава заспяшалася ў святліцу, а пан Прошак, прывязаўшы да дрэва каня, вынес з дому столік. За хвіліну падыйшлі пан ляснік з глыбокім паклонам і пан млынар, вельмі збянтэжаны, але калі княгіня спыталася, як ідуць справы на млыне, ці прыносіць ён прыбытак, пан бацька адчуў сябе ўпэўнена і да таго асмялеў, што прапанаваў княгіні панюхаць табакі.

Сказаўшы кожнаму добрае слоўца, княгіня прыняла ад пані Прошкавай пірог, а ад бабулі шклянку смятанкі.

Між тым дзеці акружылі Яна, які паказваў ім сваіх звяроў, а графіня стаяла каля іх і, радуючыся разам з дзецьмі, адказвала на кожнае іх пытанне.

— Мама, паглядзіце, гэта наша сарна! — клікаў сын лесніка Берцік сваю маці, калі Ян паказваў сарну; маці і дзеці схілілі галовы над кнігай.

— Султан, як ёсць Султан! — крыкнуў Вілем, і калі гэта пачуў сапраўдны Султан, то пачаў круціцца каля дзяцей.

— Бачыш, гэта ты! — паказаў яму кнігу Ян.

Там быў і вялікі слон, які напалохаў Адэльку, былі і конь, і карова, заяц, вавёркі, куры, яшчаркі і гады, рыбы, жабы, матылі, божыя кароўкі і нават мурашы. Дзеці ўсіх пазналі, а бабуля, паглядзеўшы на змей і яшчарак, заўважыла:

— Чаго толькі людзі не зробяць, навошта ўсялякую нечысць маляваць.

Калі пані млынарка пажадала ўбачыць дракона, у якога з пашчы рвецца полымя, графіня сказала, што такога звера не існуе, гэта пачвара выдуманая. Пачуўшы такое тлумачэнне, млынар завярцеў табакерку і ўсміхнуўся:

— Мілая паненка, няма выдумкі, такіх пачвар з вогненнымі языкамі шмат на свеце, і яны належаць роду чалавечаму, а сярод нявінных звяроў іх шукаць няма чаго!

Графіня засмяялася, пані мама, ляпнуўшы мужа па руцэ, сказала:

— Шмат гаворыш, бацька!

Княгіня, размаўляючы з леснікам і панам Прошакам пра розныя рэчы, спытала між іншым, ці шмат у мясцовасці браканьераў.

— У нас засталося толькі два такіх нягоднікі. Быў і трэці, але таго, найдурнейшага, я некалькі разоў штрафаваў, цяпер ён сядзіць дома. А тыя два д'ябальскі хітрыя, ніяк іх не злаўлю. Прыйдзецца пачаставаць іх шротам. Галоўны ляснічы даўно мне раіць гэта зрабіць, толькі ці добра з-за зайца калечыць чалавека?

— Не хачу, каб ты гэта рабіў, — сказала княгіня.

— Я думаю, што такая дробязь не давядзе да галечы, міласэрная пані, а на буйнога звера браканьер паляваць не адважыцца.

— Я чула, што ў мяне людзі ў лясах шмат крадуць? — спытала княгіня.

— Ну, — сказаў ляснік, — я служу міласэрнай пані ўжо болей за два гады і магу сказаць, што людзі шкоды за гэты час шмат не зрабілі. Безумоўна, нагаварыць можна ўсяго, напрыклад, я мог бы сам ссячы некалькі дрэў на працягу года, прадаць іх, а ў справаздачы паказаць, што іх скралі. Але навошта мне браць грэх на душу. Восенню, калі прыйдуць жанчыны грэбсці лістоту на падсцілку, а беднякі на ламачча, я заўсёды кручуся паблізу і, каб нагнаць на іх страх і папярэдзіць высечку, крычу так, што лес трасецца. Але ж не забіваць мне старую бабку, калі яна возьме з лесу палку для сякеры, як некаторыя гэта робяць? Паны ад гэтага не збяднеюць. А беднаму чалавеку падлога будзе, памоляцца за паноў Богу. Я гэта за шкоду не лічу.

— І правільна робіце, — пацвердзіла княгіня. — Але ж у нашай мясцовасці ёсць і злыя людзі. Пазаўчора ноччу ішоў Піккала з мястэчка і ў фазанніку на яго напалі злодзеі. Калі ён пачаў крычаць, абараняцца, яны жорстка яго збілі, ды так, што застаўся ляжаць, і цяпер яшчэ хварэе. Так мне сказалі.

— Гэта на праўду не падобна, ваша светласць, — заўважыў пан Прошак, ківаючы галавой.

— Пакуль жывем, не чулі, каб у фазанніку або недзе побач былі злодзеі, — азваліся ляснік і млынар.

— Пра што вы гаворыце? — спытала бабуля, падышоўшы бліжэй. Ляснік ёй растлумачыў.

— Вось нягоднік і манюка! — ускрыкнула бабуля, ад хвалявання падпіраючы бакі рукамі.

— І як ён толькі Бога не баіцца! Я раскажу міласэрнай пані праўду.

І бабуля распавяла княгіні ўсё, што раніцай пачула ад Крыстлы.

— Я не хвалю хлопцаў, але нічога не паробіш, кожны аберагае сваё. Каб хто-небудзь убачыў гэтага круцяля ўначы пад акном дзяўчыны, то разнёс бы па ўсёй акрузе; яе імя і шчасце назаўсёды былі б страчаны. Усе сталі б казаць: «Тая, да якой хадзілі паны, нам не падыходзіць». Дзяўчына баіцца, каб той чалавек хлопцам не помсціў.

— Няхай не баіцца, я ўсё ўладжу, — сказала княгіня і зрабіла знак графіні, што ад'язджаюць; абедзьве селі на коней і, ласкава развітаўшыся з усімі, паехалі ў бок замка.

— Гэта праўда, што мала хто адважыўся б з княгіняй так смела размаўляць, як наша бабуля, — сказала пані Прошкава.

— Бывае, што лягчэй размаўляць з царом, чым з пісарам, а добрае слова заўсёды да добрага сэрца шлях знойдзе. Калі б я не сказала ў час, невядома, што з гэтага выйшла б, — адказала бабуля.

— Я заўсёды кажу, што памылка пані ў тым, што яна верыць невядома каму, — заўважыў ляснік, накіроўваючыся разам з панам Прошакам і млынаром назад у святліцу.

Увечары прыйшоў Кудрна, і як толькі пачулі дзеці катрынку, пусціліся скакаць разам з Крыстлай, Воршай і Беткаю. Пазней выпілі за здароўе княгіні шампанскае, якое тая даслала. Не забыліся і пра Вікторку. Як сцямнела, бабуля аднесла ёй да гаці на замшэлы пень добры пачастунак.

На другі дзень раніцаю пані мама скардзілася бабулі, што пан бацька казаў па дарозе шмат непатрэбнага, але бабуля з усмешкаю адказала:

— Э, кума, гэта ж з ім здараецца толькі аднойчы на год!

## X

Па жэрнаўскаму ўзгорку ўгару ўздымаюцца пяць падарожных. Гэта бабуля, пані мама, Крыстла, Манчынка і Барунка. На галовах першых дзвюх белыя хусткі, насунутыя аж на бровы, дзяўчаты — у круглых капелюшах. Спадніцы ва ўсіх

закасаныя — у малых дзяўчат, як і ў старэйшых, толькі за плячыма ў іх малыя кайстры, у якіх яны нясуць ежу.

— Мне здаецца, што я чую спеў, — сказала Крыстла, калі яны ўзняліся на вяршыню ўзгорка.

— І я чую!

— Я таксама, — адгукнуліся дзяўчаты.

— Хадзіце хутчэй, — прыспешвалі яны бабулю і хацелі ўжо пабегчы.

— Пачакайце, дурненькія! Праваднік ведае пра нас і без нас не пойдзе, — затрымала іх бабуля, і занепакоеныя дзяўчаты пайшлі разам з усімі.

На ўзгорку пастух, які пасвіў авечак, здалёк з імі прывітаўся.

— Не змокнеш, Ёза? — спытала пані мама.

— Не хвалюйцеся, да паслязаўтра надвор'е не зменіцца. Памаліцеся і за мяне. Шчаслівай дарогі!

— Далібог, узгадаем.

— Бабуля, адкуль Ёза ведае, калі будзе дождж, а калі будзе добрае надвор'е? — пыталася Барунка.

— Перад дажджом земляныя чэрві выпаўзаюць з зямлі на паверхню і рыюць сабе норкі, чорныя скарпіёны выглядваюць з сваіх дзірак, яшчаркі і павукі хаваюцца, а ластаўкі лётаюць нізка-нізка над самай зямлёй. Пастухі цэлы божы дзень па-за домам, і калі няма чаго рабіць, то яны назіраюць за рознымі жывымі істотамі, як жывуць і чым харчуюцца. А я вось пра надвор'е даведваюся па гарах ды па небе: пагляджу, ці ясныя вяршыні, якога колеру плывуць аблокі, і адразу бачу, калі будзе горача, а калі непагадзь, вецер, град або снег, — казала бабуля.

Каля жэрнаўскай каплічкі стаіць натоўп падарожных: мужчыны, жанчыны і дзеці, многія маці прынеслі з сабою немаўлят у коўдрачках, каб даць абяцанне Маці Божай і вымаліць у яе здароўе і шчасце для іх.

На парозе каплічкі стаіць праваднік Марцінец. Яго высокая постаць узвышаецца над усімі, і адным поглядам ён мо-

жа акінуць даверaны яму натоўп людзей. Убачыўшы бабулю са спадарожніцамі, ён кажа: «Цяпер усе ў зборы, можам збірацца ў дарогу. Але найперш памолімся, каб дарога была шчаслівая». Падарожныя ўкленчылі, сяляне, што стаялі на плошчы, маліліся разам з імі. Пасля малітвы акрапіліся свя-тою вадою, адзін з падлеткаў узяў высокі крыж, на які нара-чоная Томаша павесіла вянок, а Крыстла ахвяравала чырво-ную стужку. Каля крыжа стаялі мужчыны на чале з правад-ніком, за імі жанчыны згодна з узростам. Але з месца ніхто не зрушыўся: гаспадары і гаспадыні давалі апошнія загады наконт падтрымання агню і догляду статка; дзеці крычалі: «Купіце нам падарункі!»; старыя прасілі: «Памаліцеся за нас!»

Але тут Марцінец заспяваў гучным голасам: «Багародзіца, дзева, радуйся!», хор падхапіў, хлопчык узняў крыж, упрыго-жаны кветкамі, і натоўп рушыў па дарозе на Сватанёвіцы. У кожнага крыжа або каплічкі спыняліся і чыталі «Ойча наш» і «Верую», маліліся ля кожнага дрэва, на адным з якіх нехта набожны павесіў абраз Дзевы Марыі, ля крыжоў, пастаўленых на месцы няшчасных выпадкаў.

Барунка і Манчынка ўважліва прыслухоўваліся да Мар-цінца і спявалі разам з іншымі. Калі прайшлі Чэрвенную га-ру, Барунка раптам спытала ў бабулі:

— Скажыце, калі ласка, бабуля, дзе знаходзіцца Турынь, у якім жыла нямая дзяўчынка?

На гэта бабуля строга адказала:

— Калі ідзеш на набажэнства, павінна думаць пра Бога, а не пра іншыя рэчы. Спявай або ціха маліся.

Дзяўчаты трохі паспявалі, але тут увайшлі ў лес, дзе ў траве яшчэ чырванелі суніцы, было шкада пакідаць іх. Дзяўчаты ахвотна збіралі ягады, капелюшы іх ссунуліся на патыліцы, спадніцы апусціліся, трэба было прыводзіць сябе ў парадак, нарэшце адна і другая прыпомнілі пра булкі ў кайстрах і адламалі па кавалку. Бабуля і пані мама на іх не зважалі, засяроджаныя ў малітвы, але Крыстла, ідучы з Анчай, азірнулася на іх і асудзіла дзяўчат са смехам:

— Нічога не скажаш, добрыя багамолкі! Шмат грахоў вы так адмоліце.

Пад вечар падарожныя дайшлі да Сватанёвіц. Перад мястэчкам спыніліся, жанчыны абуліся, прывялі сябе ў парадак і толькі тады ўвайшлі ў гарадок. Найперш багамольцы накіраваліся да крынічкі пад гарой ля касцёла, што выбягала сямю струменьчыкамі з-пад дрэва, на якім вісеў абраз Дзевы Марыі. Калі крынічкі яны ўкленчылі і памаліліся, пазней кожны папіў з крынічкі вады і тройчы памыў ёю вочы і твар. Казалі, што тая чыстая сцюдзёная вада — цудадзейная, бо вылечыла ад хвароб тысячы людзей. Потым багамольцы ўзняліся на ўзгорак да ярка асветленага касцёла, адкуль чуліся рознагалосыя спевы; сюды прыходзілі людзі з розных бакоў, і кожны спяваў на свой лад.

— Ах, бабуля, як тут прыгожа, — шапнула Барунка.

— Як бы ні было, уставай на калені і маліся, — адказала бабуля.

Дзяўчынка ўкленчыла побач са старой, якая, прыпаўшы галавой да зямлі, горача малілася Божай Маці, статуя якой ўзвышалася на алтары ў зіхаценні шматлікіх свечак. Дзяўчаты і нявесты, што прасілі Дзеву Марыю блаславіць іх каханне, упрыгожылі яе вянкамі і букетамі, а багатая коўдра на статуі і мноства каштоўнасцей каля яе ног былі падарункамі тых, хто шукаў і знайшоў збавенне ад хвароб.

Пасля малітвы праваднік перагаварыў са служкам і павёў сваіх людзей на начлег. Ён не мог не клапаціцца пра іх; як ластаўкі, што прылятаюць вясною на старыя гнёзды, так і багамольцы разышліся па тых дамах, дзе з года ў год знаходзілі калі не шчодры пачастунак, то прыветлівыя твары, хлеб-соль і чысты ложак. Пані мама і бабуля заўсёды спыняліся ў сям'і кіраўніка вугальнай капальні; гэта былі немаладыя ўжо людзі, як казала бабуля, «са старога свету», і таму пачувалася яна ў іх, як у сябе дома. Жонка кіраўніка, пачуўшы, што прыйшлі жэрнаўскія багамольцы, выходзіла ўвечары на вуліцу і сядала на лавачку перад домам, каб іх сустрэць.

Перш чым ісці спаць, гаспадыня паказвала пані маме сваё багацце: мноства палатна, каніфасу, пражы — колькасць усяго павялічвалася ў яе з кожным годам, большую частку пражы яна напрала за год.

— Для каго, пані, усё гэта збіраеце, калі дачка ўжо пайшла замуж?

— Ды ў мяне тры ўнучкі, а вы самі ведаеце: дзяўчат замуж выдаваць — холст ды пражу запасаць.

З гэтым пані мама была цалкам згодная. Калі ж выпадкам быў дома пан кіраўнік, то казаў:

— Зноў, маці, вы свой тавар расклалі. Мабыць, анучамі гандляваць збіраецеся?

— Ну, бацька, якія ж гэта анучы? Мой тавар і праз пяцьдзесят гадоў не парвецца!

Кожны раз жонка кіраўніка перажывала, што не можа пачаставаць бабулю чым-небудзь лепшым, чым хлеб, бо бабуля на багамоллі жыла толькі на хлебе і вадзе. Але што зробіш, супраць святога абяцання не было чаго сказаць. Пані мама таксама любіла начаваць у кіраўніка, і, лежачы ў пуховых падушках, яна заўсёды казала: «Мілы ложак, чалавек нібы ў сумёты праваліўся».

Крыстла з Анчай спыніліся ў беднай удавы; гаспадыня паклала іх спаць у адрыну. Яны паснулі б нават на голых камянях, але ў гэтую ноч сон не ішоў да дзяўчат і яны спусціліся ў сад.

— Тут у тысячу разоў лепей, чым наверсе! Сад — наша святліца, зоркі — свечкі, зялёная трава — ложак, — напявала Крыстла, хутаючы ногі ў спадніцу і кладучыся пад дрэвам.

— Тут будзем спаць, мілая сяброўка, — адказала ёй Анча, кладучыся побач. — Але, паслухай, як храпіць старая Фаўскова! Нібы каменні ляцяць з гары, — засмяялася яна.

— Ба, як прыемна спаць каля яе. Як ты думаеш, родная, ці прыйдуць яны заўтра? — спытала Крыстла, павярнуўшыся да сваёй сяброўкі.

— Яшчэ б не прыйшлі, — упэўнена адказала Анча. — Томаш будзе тут як на кані. А каб Міла не прыйшоў — такога быць не можа, ён цябе так кахае.

— Хто ведае, мы ж пра гэта ніколі не гаварылі.

— А навошта казаць, і так усё зразумела. Я не памятаю, каб Томаш мне казаў пра сваё каханне, а мы моцна кахаем адзін аднаго, і хутка ўжо вяселле.

— Калі яшчэ яно будзе, тое вяселле?

— Бацька хоча перадаць нам гаспадарку, а сам адпачываць, вось толькі дабудуе дом. Думаю, што паспеем да Кацярынінага дня. Добра было б нам браць шлюб у адзін дзень!

— Ты так разважаеш, нібы ў нас усё дамоўлена, а яно яшчэ за гарамі.

— Гэтага не можа быць. Мілавы будуць задаволены, калі Якуб увойдзе ў вашу сям'ю, а твой бацька атрымае цудоўнага сына. Лепшага хлопца для вашай гаспадаркі не знойдзеш, і для цябе таксама. Якуб — самы прыгожы хлопец у вёсцы, што праўда, то праўда. Старастава Люцына, думаю, даўно сумуе па ім!

— Вось бачыш, яшчэ адзін камень, што ляжыць на нашым шляху, — уздыхнула Крыстла.

— Дзяўчына, гэта больш чым адзін камень. Ты думаеш, што Люцына не з'яўляецца небяспечнай суперніцай? Яна і з твару цікавая, і бацька дасць на пасаг мех з грашыма.

— Тым горш.

— Не бяры да галавы, бацька-стараста — гэта яшчэ не Бог, а Люцыну з усімі яе грашыма з табою не параўнаць. Мае ж Міла вочы.

— Але калі яго абгавораць і таму не прымуць на працу ў замак, Міла будзе вымушаны пайсці ў салдаты.

— Не думай пра гэта. Калі будзе аканом дрэнна глядзець, падмажам яго, разумееш?

— Было б добра, але заўсёды нешта перашкаджае. Між іншым у светаянскую ноч мне здалося, што Міла да мяне

прыйшоў, і тады мы маглі б пабрацца, але сон ёсць сон. І бабуля кажа, што не можам давяраць прыкметам, толькі Бог ведае, што з намі будзе.

— Але ж твая бабуля — не Евангелле.

— Я веру бабулі, як Закону, яна заўсёды шчыра дасць чалавеку параду; усе кажуць, што яна жанчына выключная; усё, што яна скажа, — святая праўда.

— Я таксама так лічу, але магу паспрачацца, што яна, калі была маладая, верыла ў тое ж, у што і мы. Усе старыя людзі такія: мая маці бясконца наракае, што моладзь сёння толькі імкнецца да радасці, танцаў і весялосці, а розуму ні на грош. І яшчэ кажа, што ў гады яе маладосці так не было, а я дакладна ведаю, што нашыя прабабкі не былі ні на волас лепшымі за нас; і мы, калі будзем старымі, тое ж будзем спяваць. А цяпер пад аховай Маці Божай давай спаць, — сказала Анча, прыкрыўшы ногі спадніцай. Праз хвіліну, калі Крыстла зазірнула ёй у твар, яна ўжо спала.

У адрыне не магла заснуць яшчэ адна з багамолак, што там начавалі, бо не магла супакоіць дзіця.

— Няўжо, маці, кожную ноч яно вас так даводзіць? — спыталася нейкая жанчына, што абудзілася ад сну.

— Ды ўжо чатырнаццаць дзён кожную. Варыла я яму тое, што мне раілі: і галоўкі мака, і багародзіцкую траўку, — нічога не дапамагае. Каваліха кажа, што ў яго высыпка на кішках. Вырашыла я аднесці яго на алтар Маці Божай, і няхай будзе што будзе: або ачуняе дзіця, або Бог возьме.

— Пакладзіце заўтра яго пад струмень, каб вада тройчы праз яго перакацілася. Маёй дачушцы гэта дапамагло, — разважыла жанчына і, павярнуўшыся на бок, заснула.

Раніцай, калі падарожныя, сабраўшыся каля касцёла, працягвалі адзін аднаму рукі са словамі «Прабач мяне, грэшніка», — як гэта звычайна водзіцца перад споведдзю, Крыстла і Анча пачулі за сабою знаёмыя галасы: «І нас прабачце!»

— І без споведзі адпускаем вашы грахі! — адказала Анча, падаючы руку Томашу. Крыстла, пачырванеўшы, падала сваю Мілу. Хлопцы таксама паступілі пад кіраўніцтва Марцінца і разам з усімі пайшлі да касцёла.

З касцёла ішлі ўсе мыцца да лазні, дзе старыя кабеты і мужчыны пускалі сабе кроў, так было заведзена, а потым ішлі купляць падарункі. Пані мама накупіла вялікую колькасць абразоў, ружанцаў, фігурак і іншых падарункаў.

— У мяне шмат працаўнікоў, ды і сяляне на млын завітаюць, спытаюць пра падарункі з набажэнства, — растлумачыла яна бабулі.

Побач з бабуляй стаяла старая Фаўскова, якая хацела набыць фісташкавыя ружанцы, але пачуўшы ад гандляра, што яны каштуюць дваццаць крэйцэраў срэбрам, з сумам паклала іх на месца, кажучы, што задорага.

— Дорага? Ці гэта дорага? — абурыўся гандляр. — Пэўна вы ніколі не трымалі фісташкавых ружанцаў у руках, купіце сабе з персіка!

— Для кагосьці гэта і танна, а ў мяне толькі палова гульдэна.

— Ну, на гэта фісташкавых не купіш, — адказаў гандляр.

Фаўскова адышла, але бабуля пайшла за ёю следам і сказала, што тут ёсць яшчэ адзін гандляр, які мае вельмі танныя рэчы. І што бачым! Гэты гандляр аддаваў усё вельмі танна, як бабуля і хацела, і Фаўскова за палову залатога купіла не толькі фісташкавыя ружанцы, але яшчэ і амброзіі, і шмат чаго іншага.

Калі адышлі ад крамы, Барунка сказала:

— Бабуля, вы ж гэтаму гандляру даплацілі. Я бачыла, як вы падміргнулі яму, калі Фаўскова выбірала.

— Калі бачыла, дык маўчы, нікому не кажы. Што робіць правая рука, таго хай не ведае левая, — адказала бабуля.

Крыстла купіла сярэбраны пярсцёнак з двума палаючымі сэрцамі. Міла тут жа набыў пярсцёнак, на якім былі дзве злучаныя рукі. Усё набытае багамольцы аднеслі асвяціць: і

ружанцы, і пярсцёнкі, і абразкі, і малітоўнікі. Кожную рэч яны захоўвалі, як рэліквію.

Па завяршэнні спраў падарожныя падзякавалі гаспадарам за гасціннасць, яшчэ раз памаліліся каля святой крынічкі і, даверыўшыся Маці Божай, рушылі дахаты.

У Ртынскім лесе, недалёка ад дзевяці крыжоў, яны спыніліся адпачыць каля ручая. Тыя, хто пакутаваў ад смагі, схіліліся да крынічкі, а ўбачыўшы, як Крыстла з далоняў поіць Мілу, прасілі, каб яна і іх напаіла, што тая ахвотна і зрабіла. Старыя, пасеўшы на траве, паказвалі адзін аднаму падарункі і апавядалі пра тых багамольцаў з іншых мясцін, якіх сустрэлі ў Сватанёвіцах. Дзяўчаты пайшлі збіраць кветкі для вянкоў, а хлопцы пачалі папраўляць драўляныя крыжы, што стаялі на магілах.

— Анчынка, раскажыце мне, чаму паставілі тут дзевяць крыжоў? — спытала Барунка дзяўчыну, падбіраючы ёй кветкі для вянка.

— Паслухайце, я вам раскажу. Непадалёк адсюль ёсць стары разбураны замак, які раней называўся Візмбурк. Жыў калісьці там адзін пан, якога звалі Гержман. Недалёка жыла яго каханая дзяўчына. Да яе сватаўся іншы, але той ёй не падабаўся, і яна дала слова Гержману. У дзень вяселля прыйшла да Гержмана раніцаю маці, прынесла яму чырвоных яблыкаў і спытала, чаму ён такі смутны, на што пачула адказ, што ён і сам не ведае. Маці стала прасіць яго нікуды не ездзіць у той дзень, бо ёй прысніўся нядобры сон, але Гержман не паслухаў, развітаўся з маці і ўскочыў на гнядога каня. Але конь не хацеў ісці за браму.

«Сын мой, гэта благая прыкмета, застанься дома, будзе бяда», — просіць зноў маці. Але Гержман не паслухаў, прышпорыў каня і паехаў праз мост. Устаў гняды на дыбы і закруціўся на месцы. Маці ў трэці раз стала прасіць сына застацца, але ён не звярнуў на гэта ўвагі і паехаў да нявесты. Вось паехалі яны вянчацца і даехалі якраз да гэтага ручая. А тут выскачыў непрызнаны жаніх са сваімі сябрамі. Пачала-

ся бойка, і Гержмана забілі. Убачыўшы гэта, нявеста ў адчаі ўсадзіла сабе ў сэрца нож, а госці маладых забілі суперніка Гержмана. Усяго ў бойцы загінула дзевяць чалавек. Усіх паклалі ў адну магілу і ў памяць аб іх паставілі дзевяць крыжоў. З таго часу кожны год хто-небудзь гэтыя крыжы рамантуе, а калі ўлетку мы ідзем паўз іх, то вешаем на іх вянкі і чытаем «Ойча наш» за супакой іх душы, — так скончыла аповед Анча, а старая Фаўскова, якая збірала побач грыбы і часткова чула размову, сказала:

— Гэта не так, Анча. Гержман быў збраяносцам з Літаборжскага, а не з Візмбуркскага замка, а нявеста — сватанёвіцкая. І забілі яго ў той час, калі ён ехаў да нявесты з дружкаю і сватам. Нявеста яго чакала, але не дачакалася. Селі да стала і раптам чуюць звон па нябожчыку. Нявеста тройчы спытала, па кім звоняць, маці заўсёды называла таго ці іншага, аж пакуль нявеста не ўвайшла ў пакой, дзе ляжаў забіты. Тут нявеста і ўсадзіла сабе нож у сэрца. Так, ва ўсякім разе, я чула, — дадала Фаўскова.

— Хто цяпер рассудзіць, каторая з нас кажа праўду, калі гэта было так даўно. Што здарылася, тое здарылася. Бязумоўна, дрэнна тое, што здарылася. Лепш было б, каб яны пабраліся і шчасліва жылі.

— Тады пра іх ніхто не даведаўся б, не прыгадаў бы, і не ўпрыгожвалі б іх магілу кветкамі, — заўважыў Томаш, папраўляючы адзін з крыжоў, што пахіліўся.

— І што толку, я не хацела б быць на месцы няшчаснай нявесты, — уздыхнула Анча.

— Я таксама не хацела б, — пагадзілася Крыстла, выходзячы з-за дрэў з падрыхтаванымі вянкамі.

— Ды і ў мяне няма ахвоты быць зарэзаным падчас вяселля, — сказаў Міла. — Але Гержман больш шчаслівы за свайго суперніка. Вялікая гэта пакута — бачыць, што тую, якую кахаеш, нехта іншы да дому вядзе. Вось за яго і трэба больш маліцца; ён памёр са злом і нянавісцю ў сэрцы, а Гержман — са шчасліваю, лёгкай душой.

Дзяўчаты павесілі вянкі на крыжы, а тыя кветкі, што засталіся, раскідалі па магільным узгорку, які парос травою. Памаліўшыся, яны вярнуліся да астатніх падарожных. Праваднік узяў посах, хлопчык падняў крыж, і з песняю падарожныя накіраваліся дадому. На перакрыжаванні, недалёка ад Жэрнава, іх чакалі родныя. Пачуўшы спевы і ўбачыўшы чырвоную стужку, што развівалася ў паветры, дзеці не вытрымалі і кінуліся насустрач сваім маці. Не паспела працэсія дайсці да вёскі, як хлопцы ўжо igралі на новых дудках, свісцелі ў свістулькі, насіліся з драўлянымі коньмі, дзяўчынкі неслі лялек, кошычкі, абразкі, сардэчкі з марцыпану. Пасля малітвы ў капліцы падарожныя падзякавалі свайму праваднiку, хлопец паставіў крыж на месца, павесіў вянок з чырвонаю стужкай на алтар, а потым усе разышліся па хатах.

Калі Крыстла падавала Анчы руку на развітанне, сяброўка ўбачыла не той пярсцёнак, што купляла сабе Крыстла. Яна так і спытала.

— Гэта ж не той пярсцёнак, што купляла?

Крыстла троху зачырванелася, але за яе адказаў Міла:

— Яна аддала мне сэрца, а я ёй — абедзьве рукі.

— Добры абмен! Няхай Бог дасць вам шчасце!

Каля млына, ля статуі пад ліпамі, сядзелі сям'я Прошкавых і млынар. Чакаючы падарожных, яны час ад часу пазіралі на жэрнаўскі ўзгорак. Калі апошні прамень сонца пазалаціў вяршыні магутных дубоў і стромкіх ялін, на цяністым узгорку, ніжэй кустоў, забялелі сярод зямлі хусткі і замільгалі саламяныя капелюшы.

— Ідуць! — закрычалі дзеці, якія больш уважліва, чым іншыя, сачылі за ўзгоркам, і ўтраіх панесліся да мастка, што ляжаў праз раку. Муж і жонка Прошкавы і пан бацька, які, як звычайна, круціў у руках табакерку, пайшлі за дзецьмі насустрач бабулі і пані маме. Дзеці ўжо цалавалі бабулю і скакалі вакол яе, нібы цэлы год яе не бачылі. Барунка пераконвала бацькоў, што ёй зусім не балелі ногі. Бабуля распытвала дзя-

цей, ці прыгадвалі яны яе. Пані мама пыталася ў пана бацькі, што новага.

— Абстрыглі лысага, бяда надарылася, пані мама, — адказаў пан бацька з вельмі сур'ёзным тварам.

— Ад вас ніколі толку не даб'ешся, — засмяялася пані мама, стукнуўшы яго па руцэ.

— Калі вы дома — дражніцца, а ледзьве вас няма, ходзіць смутны і не знаходзіць сабе месца, — сказала пані Прошкава.

— Гэта заўсёды так, кума, мужы толькі тады пачынаюць цаніць жонак, калі тых няма дома.

Тут пачаліся бясконцыя аповеды. Сватанёвіцкае набажэнства не было нечым незвычайным для жыхароў малой раўніны: у Сватанёвіцы хадзілі штогод, але кожнае падарожжа было настолькі значным, што давала тэму для размоў на чатырнаццаць дзён. Калі ж нехта з суседзяў выбіраўся ў паломніцтва да Вамбержыцы, то пра гэта казалі месяцы тры да пачатку і месяцы тры пасля вяртання. Што тычыцца багамолля да Марыі Цэльскай, то пра яго апавядалі цэлы год.

## XI

Княгіня пакінула замак разам з графіняй Гартэнзіяй, паехаў і бацька, адляцелі з-пад даху шчабятушкі-ластаўкі. На Старой бялільні было сумна, як пасля пахавання. Маці плакала, і дзеці, калі гэта бачылі, плакалі таксама.

— Не плач, Тэрэзка, — суцяшала дачку бабуля, — Ты ж ведала, калі выходзіла замуж, што цябе чакае, вось і цярпі цяпер. А вы, дзеці, маліцеся; маліцеся за бацьку, каб ён быў здаровы, дасць Бог, вясною ён вернецца да нас.

— Калі прылятуць ластаўкі, ці не так? — пыталася Адэлька.

— Бачыш, і сама ведаеш, — пацвердзіла бабуля.

Дзяўчынка выцерла слёзы.

У ваколіцы Старой бялільні станавілася сумна і ціха. Лес рабіўся святлейшы, і калі Вікторка спускалася з вяршыні ўніз, яе можна было ўбачыць здалёк. Пажаўцеў узгорак, вецер і хвалі адносілі груды апалага лісця бог ведае куды, усе дарункі саду прыбралі ў камору. Каля дома квітнелі толькі астры, нагаткі і гартэнзіі, на лузе за гаццю ружавелі смолкі, па начах на іх дурэлі светлячкі. Калі бабуля ішла з дзецьмі на шпацыр, хлопчыкі бралі з сабою папяровых змеяў і пускалі іх з узгоркаў. Адэлька ганялася за імі, імкнучыся зачапіць прутком тонкія валокны павуціны, што лёталі ў паветры і нагадвалі пра бабіна лета.

Барунка збірала на схілах чырвоную каліну і цярновыя ягады для бабулі, ірвала шыпшыну для хатніх патрэб, рабіла Адэльцы з рабіны каралавыя бранзалеты і пацеркі.

Бабуля разам з дзецьмі любіла пасядзець на ўзгорку за замкам. Адтуль былі відаць лугі, дзе пасвіўся панскі статак, бачны мястэчка і замак на невысокім узгорку ў цэнтры даліны, вакол якога раскінуўся прыгожы парк. Зялёныя жалюзі на вокнах спушчаныя, не відаць на балконах кветак; ружы, што былі пасаджаныя ўздоўж белай каменнай агароджы, завялі; па садзе хадзілі не паны і лёкаі, а работнікі, якія прыкрывалі клумбы хваёвымі галінамі. Клумбы ўжо не зіхацелі шматлікімі фарбамі; толькі наступнай вясной з новага насення вырастуць прыгожыя кветкі, каб радаваць вочы княгіні, калі тая зноў вернецца. Рэдкія заморскія дрэвы, што скінулі сваю зялёную вопратку, укутаныя саломай; фантан, які зусім нядаўна пускаў угару серабрысты струмень, закрыты дошкамі і дзёранам; залатыя рыбкі схаваліся на дне сажалкі, люстраная паверхня якой была засыпана апалай лістотай і зацягнута раскай і цвіллю.

Дзеці, гледзячы ўніз, прыгадвалі, як яны з Гартэнзіяй гулялі па садзе, снедалі ў замку, як ім было весела, і думалі самі сабе: «Дзе ж яна цяпер?»

А бабуля глядзела ў супрацьлеглы бок. Там, за жліцкім узгоркам, за вёскамі, запаведнікамі, гаямі, сажалкамі і лясамі,

за Новым Горадам і Апочнай ляжыць Добрушка, дзе жыве яе сын; а за Добрушкай прытулілася ў гарах яе родная вёсачка, у якой засталося столькі мілых ёй душ! А калі яна пераняла свой погляд на ўсход, то перад ёю ляжала паўкружжа цудоўных Крканошскіх гор — ад доўгага хрыбта Гейшавіны да схаваўшай у аблоках вяршыню Снежкі, заўсёды пакрытай снегам.

Бабуля, паказаўшы пальцам на Гейшавінскі хрыбет, сказала:

— Там мне вядомая кожная сцяжынка, у тых гарах ляжыць Кладско, дзе нарадзілася ваша маці, побач з ім Вамбержыцы і Варта, у тых краях правяла я некалькі шчаслівых гадоў.

Задумалася, але Барунка вывела яе з задуменнасці пытаннем:

— Гэта ж у Варце мармуровая Сібіла на кані, ці так, бабуля?

— Так, кажуць, што ў Варце на адным з узгоркаў сядзіць яна на мармуровым кані і сама высечана з мармуру, а руку трымае ўзнятай уверх. І калі яна цалкам паглынецца зямлёю, так што нават кончыкаў пальцаў не будзе відаць, тады споўніцца яе прароцтва. Мой бацька сам бачыў і казаў, што конь ужо па грудзі ў зямлі.

— А кім была гэтая Сібіла? — спыталася Адэлька.

— Сібіла — мудрая кабета, якая ўмела прадказваць будучыню.

— І што яна прадказала? — зацікавіліся хлопцы.

— Не аднойчы я вам ужо пра тое казала, — сказала бабуля.

— Мы ўжо забыліся.

— Пра гэта неабходна памятаць.

— Я, бабуля, шмат з таго памятаю, — зазначыла Барунка, якая заўсёды ўважліва слухала аповеды старой жанчыны. — Сібіла прадказала, што на чэшскую зямлю прыйдзе шмат гора, што магчымы войны, голад, мор, а самае горшае пачнецца, калі бацька сына, сын бацьку, брат брата разумець не будуць. Вось тады адбудзецца страшнае, таму што чэшская зямля будзе разнесена на конскіх капытах.

— Добра, што ты памятаеш, але не дай Бог, каб гэта здарылася, — уздыхнула бабуля.

Барунка укленчыла каля бабуліных ног, паклала рукі на яе калені і, узняўшы ясныя даверлівыя вочы на сур'ёзны твар бабулі, пыталася далей:

— А што гэта за прароцтва, пра якое вы нам апавядалі, памятаеце, пра бланіцкіх рыцараў, пра святых Вацлава і Пракопа?

— Гэта, пэўна, прароцтва сляпога юнака, — адказала бабуля.

— Ах, бабуля, мяне ахоплівае такі страх, што я вам і перадаць не магу. Бачыце, вы таксама не хочаце, каб родная зямля на конскіх капытах была разнесена?

— Дурненькая, як жа я магу такое няшчасце жадаць? Заўсёды, кожны дзень, малюся за дабрабыт чэшскай зямлі, бо яна наша маці. І калі б я бачыла, што маці маёй пагражае смяротная небяспека, ці магла б я на гэта спакойна глядзець? А што вы рабілі б, калі б нехта хацеў забіць вашу маці?

— Крычалі б і плакалі, — азваліся хлопцы і Адэлька.

— Яшчэ дзеці, — усміхнулася бабуля.

— Мы павінны былі б ёй дапамагчы, ці не так, бабуля? — спыталася Барунка, і вочы яе заблішчэлі.

— Так, дзяўчынка, так. Гэта праўда, крык і плач тут не дапамогуць, — казала старая, паклаўшы руку на галаву ўнучкі.

— Але, бабуля, мы малыя яшчэ, як мы маглі б дапамагчы? — распытваў Ян, якому было крыўдна, што бабуля недаацэньвае яго.

— Ці не памятаеце, як я вам расказвала пра малога Давіда, які забіў Галіяфа? Бачыце, і малы шмат можа зрабіць, калі верыць у Бога, — памятайце пра гэта. Калі станеце дарослымі, пойдзеце ў свет, то сустрэнеце і зло, і дабро, вас будуць спакушаць, прывабліваць. Вось тады ўспомніце сваю бабулю, якая вам пра гэта казала, гуляючы з вамі. Калісьці я адмовілася ад дабрабыту, які прапаноўваў мне прускі кароль, бо лепш працаваць да скону, чым пакінуць сваіх дзяцей без радзімы.

Любіце чэшскую зямлю, як сваю родную маці, больш за ўсё на свеце, працуйце не пакладаючы рук, і прароцтвы, якіх вы так баіцеся, не споўняцца. Мне ўжо не дачакацца, калі вы станеце дарослымі, але спадзяюся, што бабуліны словы будзеце памятаць, — скончыла бабуля ўсхвалявана.

— Я ніколі не забудуся, — прашаптала Барунка, хаваючы твар у бабуліны калені.

Хлопцы стаялі моўчкі. Яны словы бабулі яшчэ не разумелі так, як разумела Барунка. Адэлька ж, прытуліўшыся да старой, плаксіва спытала:

— Але ж, бабуля, вы не памрэце?

— Усё на свеце да часу, мілая дзяўчынка. І мяне калісьці Бог пакліча, — адказала бабуля Адэльцы, тулячы яе да сябе.

Усе змоўклі, бабуля задумалася, дзеці не ведалі, што сказаць. Раптам пачулі над сабою хлопанне крылаў. Зірнуўшы ўгару, яны ўбачылі над галавою чараду птушак.

— Гэта дзікія гусі, — сказала бабуля. — Яны ў вялікія чароды не збіраюцца, заўсёды ляціць адзін вывадак, які павялічваецца за лета. Глядзіце, дзве птушкі ляцяць наперадзе, дзве ззаду, а астатнія заўсёды адна каля другой, у даўжыню або ўшырыню, але ніколі не паўкругам. Галкі ж, вароны і ластаўкі ляцяць вялікімі чародамі: некалькі птушак наперадзе, якія шукаюць месцы для адпачыку, ззаду і па баках ляцяць вартавыя, якія ахоўваюць у час небяспекі самачак і маладняк. І даволі часта, калі сустракаюцца дзве чароды варон, пачынаецца бойка.

— Якая ж бойка, бабуля, птушкі ж не маюць рук, каб трымаць шаблі і стрэльбы? — пацікавіўся Вілем.

— Яны б'юцца сваёй прыроднай зброяй. Бывае, што б'юць дзюбамі і крыламі адзін аднаго так моцна, як людзі вострай зброяй. Пасля кожнай з такіх боек шмат птушак гіне.

— Вось дурныя, — заўважыў Ян.

— Мілы хлопчык, людзі, хоць і маюць розум, але б'юцца часам з-за дробязі і забіваюць адзін другога да смерці, — адказала бабуля, устаючы з лавачкі і клічучы дзяцей дахаты.

— Паглядзіце, сонца садзіцца барвовае, заўтра будзе дождж, — і, паглядзеўшы на горы, дадала: — А Снежка апранула каптур.

— Бедны пан Бейер, колькі трэба яму выцерпець, пакуль ходзіць па лесе, — са спачуваннем сказаў Вілем, прыгадаўшы крканошскага лесніка.

— Кожнае рамяство мае свае цяжкасці, але калі абярэш сабе справу, то мусіш зносіць добрае і дрэннае, нават калі б табе і пагражала небяспека, — сказала бабуля.

— Я буду леснікам і пайду да пана Бейера, — весела сказаў Ян і, пусціўшы ў паветра папяровага змея, панёсся ўніз з гары, а Вілем за ім. Абодва пачулі звон званочкаў, гэта пастух гнаў статак з поля дахаты, і дзеці з радасцю аглядалі прыгожых кароў, асабліва тых, што ішлі наперадзе з меднымі званочкамі на чырвоных скураных ашыйніках; званочкі мелі кожны свой голас. Здавалася, што каровам падабаецца іх упрыгожанне, яны з гонарам паварочвалі галовы з боку на бок, а званочкі адказвалі ім прыемным гучаннем.

Убачыўшы кароў, Адэлька запела:

— Гоў, гоў, каровы ідуць, нясуць малако са смятанкай, — і пацягнула бабулю з гары.

Бабуля павярнулася да Барункі, што засталася яшчэ на ўзгорку. Тая глядзела на небасхіл. Заходні бок яго быў надзвычай жывапісны. На светлым фоне то выступалі цёмныя горы, высачэзныя, дзіўных форм, то цягнуліся доўгія хрыбты лесу, то малыя ўзгоркі, на якіх стаялі замкі і каплічкі, то на раўніне ўздымаліся стромкія калоны і аркі грэчаскай архітэктуры; на самым захадзе рудую зару аблямавалі залатыя іерогліфы і арабескі. Горы, лясы і замкі знікалі, а на іх месцы ўзнікалі яшчэ больш дзіўныя краявіды.

Дзяўчынцы ўсё гэта так падабалася, што яна клікала бабулю на ўзгорак, але бабулі ўжо не хацелася падымацца; зразумела, у яе ж не было маладых ног, і дзяўчынцы прыйшлося далучыцца да астатніх.

Раніцаю, у Дзень усіх святых, дзеці як звычайна пайшлі сустракаць бабулю і па дарозе казалі:

— Сёння нам бабуля з касцёла прынясе свечкі.

І сапраўды, бабуля прынесла свечы.

— Калі мы не можам пайсці на могілкі і памянуць душы памерлых, запалім свечкі дома, — казала яна.

Кожны год бабуля з дзецьмі паміналі ў свята памерлых родных. Увечары на Дзяды старая прыляпіла на стол адну за другою запаленыя свечкі, кожны раз прамаўляючы імя сваяка, якому прызначалася свечка. Памянуўшы ўсіх сваякоў, яна даставала яшчэ некалькі свечак і казала:

— А гэта за тых, пра каго забыліся.

— Бабуля, я запалю свечку за няшчасных маладых у Гержманскім лесе.

— Запалі, запалі, дзяўчынка. Малітва будзе ім прыемнай.

Запалілі яшчэ адну свечку, бабуля з дзецьмі ўкленчылі ля стала і маліліся, пакуль усе свечы не дагарэлі.

— Няхай ім свеціць спрадвечнае святло, хай спачываюць у спакоі, — скончыла бабуля малітву, а дзеці павінны былі сказаць «амінь».

Праз тыдзень пасля Дзядоў, калі бабуля будзіла дзяцей раніцай, то абвясціла, што прыехаў святы Марцін на белым кані. Дзеці хуценька выскачылі з ложкаў, падбеглі да вакна — а там усюды бела. На ўзгорку не бачна ніводнай зялёнай галінкі, на вербах ля ракі, на вольхах каля ручая таксама. Зелянелі толькі хвоі ды піхты, але галіны іх сагнуліся пад тоўшчай снегу. На рабіне, што стаяла каля дома, вісела некалькі змерзлых гронак, там сядзела варона, а хатняя птушка стала цішэйшай і са здзіўленнем пазірала на гэтае абнаўленне. Толькі вераб'і весела скакалі пад вокнамі, падбіраючы забытае курамі зерне. Котка, вяртаючыся з палявання, пры кожным кроку абтрасала ад снегу свае лапкі, імкнучыся хутчэй дабрацца да печкі. Сабакі ж, грузнучы па калена ў снег, весела скакалі па сумётах.

— Снег, снег! Як добра! Будзем катацца на санках! — весела крычалі дзеці, вітаючы зіму, якая несла ім столькі радасці. Святы Марцін прынёс ім смачныя рагалікі, а пасля свята пачалі скубсці пер'е. Але дзеці больш любілі быць там, дзе дзяўчаты і жанкі збіраліся прасці, — з-за большай свабоды. Калі ж жанчыны садзіліся скубсці пер'е каля доўгага стала, і на стале хутка вырастала высачэзная гара пуху, падобная на сумёты, бабуля адганяла хлопчыкаў і Адэльку як мага далей. Неяк аднойчы Ян, які дапамагаў скубсці пер'е, паваліўся на гэтую гару; які ж гэта быў пярэпалах, цяжка нават уявіць. З таго часу бабуля казала, што малых трэба трымаць ад стала як мага далей. Дзеці не маглі ні бегаць каля стала, ні дзьмуць, ні празмерна расчыняць дзверы без таго, каб на іх не сварыліся. Адзінаю радасцю ў гэты час былі смажаны гарох і казкі пра розных страшыдлаў і разбойнікаў, блукаючыя агеньчыкі і лесуноў. У доўгія цёмныя вечары, калі дзяўчаты, што скублі пер'е і пралі, пераходзячы з хаты ў хату, а то і з вёскі ў вёску, часта ішлі размовы пра тое, як адзін напалохаўся таго, а другі іншага. І тут пачыналіся аповеды, якім не было канца, таму што ў кожнай знаходзілася некалькі падобных прыкладаў.

Крамоленскія злодзеі, што звычайна вясною траплялі ў астрог, а зімою вярталіся (людзі казалі, што «ідуць за ведамі», таму што там нечаму новаму вучыліся), — распаўсюджаная тэма размоў. Пагаварыўшы пра іх, пераходзілі на размовы пра злодзеяў наогул, а потым надыходзіла чарга казак пра лясных разбойнікаў. Дзеці сядзелі не зварухнуўшыся, затаіўшы дыханне. Ні за што на свеце не выйшлі б яны за дзверы, так ім было страшна! Вось чаму бабуля не любіла такога кшталту гутарак, але не мела магчымасці іх спыніць.

Пасля дня Марціна ў мястэчку ладзіўся зімовы кірмаш. Пані Тэрэза накіроўвалася туды разам з Беткай і Воршай і купляла посуд і розныя рэчы на цэлую зіму. Дзеці з нецярпеннем чакалі маці, якая заўсёды ім прыносіла нейкую цацку і добры марцыпан. Бабуля кожны год атрымлівала ў падару-

нак панчохі з воўны, хатнія чаравікі і палову тузіна маткоў шнура да калаўрота «Кірмаш». Кладучы іх у шуфляду, казала Яну: «Калі б не ты, то мне і аднаго было б дастаткова».

Адэлька гэтым разам атрымала драўляную дошку, на якой была напісана азбука.

— Калі заўтра прыйдзе пан настаўнік, то можаш таксама пачынаць вучыцца, а то табе сумна сядзець адной, пакуль астатнія здабываюць веды. А калі завучыла «Ойча наш» і песенькі, то завучыш і азбуку, — вырашыла маці.

Дзяўчынка заскакала ад радасці і пачала ўважліва разглядаць напісаныя на дошцы літары. Ахвочы на дапамогу Вілем прапанаваў паказаць ёй галосныя літары, але Адэлька схавала дошку за спіну.

— Не хачу ў цябе вучыцца! Ты не ўмееш вучыць, як настаўнік.

— Я што, не ведаю азбуку, калі чытаю кнігі? — засмуціўся ўражаны хлопец.

— Але ў кнізе зусім не так, — адбівалася ад яго сястра.

— Ай, ай, во дурная! — пляснуў далонямі Вілем.

— Не хачу, — затрэсла галавою Адэлька і пайшла з дошкаю бліжэй да святла.

Пакуль гэтыя двое спрачаліся пра навуку, Ян даваў канцэрт на кухні Султану і Тырлу: граў на ражку і адначасова біў у барабан, што маці прынесла з кірмашу. Сабакам гэтая музыка не падабалася: Султан, задраўшы морду, брахаў, а Тырл выў так, што было страшна. Бабуля з дачкою прыбірала ў каморы, складала набытыя рэчы, але, пачуўшы гэтую музыку, адразу прыбегла.

— Я так і думала, зноў гэтае чарцянё! У табе нічога няма, ніводнай добрай рысы, хлопча! Спыніся!

Ян дастаў ражок з рота і, зрабіўшы выгляд, нібы не чуў бабуліных слоў, зарагатаў:

— Гляньце, сабакі раз'юшыліся ад маёй музыкі!

— Калі б сабакі мелі розум, дык сказалі б табе, што такую музыку толькі казёл будзе слухаць, разумееш? Зараз жа пры-

бяры ўсё! Калі ты не выправішся, я паскарджуся святому Мікулашу, і ён табе нічога не прынясе, — пагражала бабуля, паказваючы ўнуку на дзверы ў святліцу.

— Ну, то будзе выключэнне! А ў горадзе казалі, што святы Мікулаш накупіў поўны воз падарункаў і будзе ў гэтым годзе надзвычай шчодрым для паслухмяных дзяцей, — расказвала Ворша, пачуўшы за дзвярыма бабуліны словы.

На наступны дзень, як толькі прыйшоў настаўнік, з'явілася Адэлька са сваёй дошкаю і заняла месца побач з іншымі. Дзяўчынка слухала вельмі ўважліва і праз гадзіну прыбегла да бабулі з радаснаю навіной, што ўжо ведае ўсе літары на першым радзе. Яна паўтарыла ўсе да адной нават з усімі прыгаворкамі, якія казаў настаўнік, каб азбука лепей запомнілася. Маці і бабуля былі ёю вельмі задаволены, асабліва, калі ўпэўніліся, што і на наступны дзень яна ўсё памятае. Вывучаныя літары Адэлька часта паказвала бабулі і ўвесь час прасіла праверыць, ці памятае яна іх. І сталася так, што бабуля сама вывучыла літары, якія ёй часта паказвала ўнучка.

— Бачыш, — казала сабе, — я і не думала, што калі-небудзь азбуцы навучуся, а вось на старасці і давялося. Праўду кажуць, хто хоча ладзіць з дзецьмі, сам павінен стаць дзіцем.

Аднойчы ўварваўся ў святліцу з крыкам Ян:

— Дзеці, дзеці, хадзіце паглядзець, бабуля калаўрот знесла з гарышча!

— Што за дзіва? — папікнула дзяцей маці, бачачы, як малыя і нават Барунка кінуліся бегчы з пакоя.

Безумоўна, дзіўнага тут нічога не было, але маці не ведала, колькі бабулін калаўрот прыносіў радасці ў жыццё дзяцей. З калаўротамі з'явіліся праллі, а з імі — цудоўныя казкі і вясёлыя песні.

Пані Прошкаву, да слова, не цешылі ні казкі, ні песні, яна ахвотней сядзела ў сваім пакоі і чытала кнігі з замкавай бібліятэкі, а калі бабуля прасіла яе расказаць што-небудзь з тых кніжак і маці пагаджалася, то гэтыя гісторыі, кніжныя, цікавілі дзяцей і іншых слухачоў менш, чым яе апісанні по-

быту ў Вене. Такія аповеды ўсім падабаліся. «Як, пэўна, прыгожа ў такім горадзе», — казалі праллі, а дзеці думалі: «Некалі і мы будзем дарослымі і зможам усё гэта ўбачыць!»

Але найбольш падабалася ім (акрамя пані Тэрэзы, якая не любіла слухаць казкі), калі бабуля пачынала апавядаць пра прынцэс з залатымі зоркамі на лбе, пра рыцараў і прынцаў,ператвораных у львоў і сабак або нават у камяні, пра арэхі, у якіх знаходзіцца прыгожае ўбранне, пра залатыя замкі, пра моры, на дне якіх жывуць прыгожыя русалкі. Маці і ў галаву не прыходзіла, што Барунка, седзячы ля вакна з панчохай, глядзела на голыя ўзгоркі і заснежаныя даліны, а там бачыла чароўныя сады, палац з каштоўных камянёў, вогненных птушак, пані з распушчанымі залатымі валасамі, а замерзлая рака ператваралася ў яе ўяўленні ў блакітнае бурлівае мора, на хвалях якога гойдаюцца сірэны ў перлавых ракавінах. Султану, які, расцягнуўшыся, храпеў на падлозе, і ў сне не бачыў таго гонару, з якім хлопцы прымалі яго ў сваіх марах за зачараванага прынца.

А як утульна было ў святліцы, калі змяркалася! Ворша зачыняла аканіцы, у печы трашчалі смалістыя дровы, пасярод пакоя ставіўся высокі драўляны святлец з жалезнымі развілінамі, куды ўтыкалі запаленую лучыну. Вакол ставіліся лавы і зэдлікі папрадухам, ім бабуля прыносіла кошык сушаных яблыкаў і сліў: праллям трэба было нешта есці. З якім нецярпеннем чакалі дзеці той хвіліны, калі бразнуць дзверы ў сенцах і на парозе з'явяцца папрадухі! Таму што на вячорках бабуля не пачынала аповед раней, чым прыйдуць госці. Удзень яна спявала калядныя песні.

Пакуль яшчэ дзеці бабулю добра не ведалі, не разумелі, у добрым ці дрэнным яна настроі, яны тым ці іншым чынам імкнуліся выпрасіць у яе казачку. Бабуля была заўсёды да гэтага падрыхтаваная. І пачынала апавядаць пра пастуха, які меў трыста авечак: вось ён прывёў іх да маста, які быў настолькі вузкім, што па ім авечкі маглі перайсці толькі адна за другой. «Цяпер трэба пачакаць, пакуль пяройдуць», — ка-

зала яна і змаўкала, калі ж праз некаторы час дзеці пыталіся: «Бабуля, ці яны ўжо перайшлі?» — адказвала: «І чаму вы так вырашылі, трэба, здаецца, добрых дзве гадзіны, каб яны перайшлі на другі бок».

І дзеці ўжо разумелі, што гэта азначае. Або бабуля пачынала так:

— Ну, калі вы абавязкова хочаце паслухаць, буду апавядаць. Уявіце сабе, што ў мяне семдзесят сем кішэняў і ў кожнай кішэні па казцы, з якой пачынаць?

— З дзесятай! — прасілі дзеці.

— Добра, з дзесятай. У дзесятай кішэні ляжыць наступная казка: жыў-быў кароль, ён меў на печы вала, на тым вале ката. Слухайце, будзе доўгая.

І на гэтым казка завяршалася. Найгорш было, калі бабуля пачынала апавядаць пра Чырвоны капялюшык. Дзеці не маглі чуць гэтую казку і адразу ўцякалі. Яны ведалі, што калі і далей прасіць бабулю расказаць казку, з яе і слова не выцягнеш. Ведаючы бабулю, яны цярпліва чакалі, калі папрадухі збяруцца на вячоркі. Раней за ўсіх прыходзіла Крыстла, за ёю Міла, Цылька Кудрнова, Беткіны і Воршыны знаёмыя, часам заходзілі і пані мама з Манчынкаю, жонка лесніка, а раз на тыдзень Крыстла прыводзіла з сабою маладую жонку Томаша, за якою звычайна прыходзіў ён сам.

Сагрэўшыся, жанчыны садзіліся да калаўротаў і размаўлялі аб усім. Паведамлялі адна адной пра хатнія навіны і розныя вясковыя чуткі або пра якое рэлігійнае свята і народны звычай, з ім звязаны, і ці было гэта свята адзначана — усё з'яўлялася падставаю для размоў. Напрыклад, увечары перад святым Мікулашам Крыстла спытала Адэльку, ці павесіла яна сваю панчоху за акно, таму што Мікулаш ужо ходзіць па наваколлі.

— Бабуля дасць мне панчоху, калі я пайду спаць, — адказала дзяўчынка.

— То не вывешвайце маленькую панчоху, скажы бабулі, каб пазычыла вам вялікую, — параіла Крыстла.

— Так не пойдзе, — не пагадзіўся Ян. — Тады мы нічога не атрымаем.

— Усё роўна вам святы Мікулаш падорыць толькі розгу, — дражніла яго Крыстла.

— Святы Мікулаш ведае, што бабуля схавала мінулагоднюю розгу і нас ніколі не б'е, — сказаў Ян.

Бабуля тут жа заўважыла, што розгу Янік шмат калі заслугоўваў.

Дзень святой Люцыі дзеці не любілі. Існавала павер'е, што ходзіць у гэтую ноч Люцыя ў вобразе высокай, растрапанай кабеты і забірае з сабою непаслухмяных дзяцей.

— Баяцца заўсёды неразумна, — казала бабуля і не любіла, калі дзеці палохаліся нечага. Яна вучыла іх нічога не баяцца, толькі гневу Божага, але пераконваць іх у тым, што не трэба верыць у павер'і, як гэта рабіў бацька, слухаючы аповеды пра вадзяных, чарцей, блукаючыя агеньчыкі, лесуноў, што куляюцца перад людзьмі, нібы палаючы сноп саломы, ды яшчэ патрабуюць удзячнасці за яркае асвятленне, яна не магла, таму што сама глыбока верыла ў гэтыя цуды.

Уся прырода для яе была адухоўленая добрымі і злымі духамі, яна верыла і ў д'ябла, якога Бог дасылае на свет, каб выпрабоўваў людзей, яна ва ўсё верыла, але не баялася і была ўпэўненая, што без волі Божай (а Ён уладарыць над зямлёю, небам і пеклам) не спадзе і волас з галавы чалавека.

Гэтую веру яна хацела пасяліць у сэрцах дзяцей. Таму, калі ў дзень Люцыі Ворша пачала апавядаць пра белую кабету, бабуля спыніла яе і сказала, што Люцыя толькі ночы змяншае. Найлепш умеў узняць настрой дзецям Міла. На вячорках ён майстраваў ім з дрэва санкі, плугі, калёсы, вазкі або шчапаў лучыну, і хлопцы ад яго не адыходзілі. Калі пачыналі апавядаць пра нешта страшнае і Вілем да яго прыціскаўся, то Міла казаў:

— Не бойся, Вілімек, на чорта ў нас ёсць крыж, а на зданяў — кол, адпаласуем іх.

Хлопчыкам гэта вельмі падабалася, з Мілам яны маглі пайсці куды заўгодна нават апоўначы. Бабуля, ківаючы яму галавой, казала:

— Што ж тут дзіўнага, мужчына ён і ёсць мужчына.

— Гэта праўда. Якуб не баіцца ні чарцей, ні аканома, а той куды горшы за чорта, — заўважыла Крыстла.

— Да слова, калі ўжо размова зайшла, ці прымуць цябе да двара? — спыталася бабуля.

— Думаю, што з таго нічога не будзе. Ёсць у мяне дзве бяды, а горш за ўсё — умяшаліся ў гэтую справу злыя жанчыны, і, відаць, апошняе слова застанецца за імі.

— Не кажы так, можа, яшчэ абыдзецца, — сказала Крыстла засмучона.

— Я хацеў бы гэтага не менш за цябе. Толькі аканомава дачка вельмі ж на мяне гневаецца за тое, што зрабілі мы з італьянцам. Яна, кажуць, пра яго думала, а калі княгіня рап-там адмовіла яму ад месца, зніклі ўсе яе надзеі. Толькі і ведае што спяваць бацьку, каб не браў мяне ў замак. Гэта адна бяда. Другая — старастава Люцыя. Тая ўбіла сабе ў галаву, што я павінен стаць яе каралём у «Доўгай ночы», а паколькі я не магу ім быць, будзе злавацца і староста. Так што вясною вымушаны я буду заспяваць:

Гэй-гэй — гай зялёны,
Мяне ў рэкруты ўзялі.

І Міла пачаў спяваць, дзяўчаты падхапілі, а Крыстла пачала плакаць.

— Ну, не трэба, дзяўчына, да вясны яшчэ далёка, хто ведае, што яшчэ будзе, — суцяшала бабуля. Крыстла выцерла слёзы, але засталася сумнай.

— Не думай пра гэта, можа, бацька неяк выпрасіць, — сказаў Міла, сядаючы побач з ёю.

— А чаму б табе і не быць тым каралём без усялякіх абавязкаў? — спыталася бабуля.

— Яно то так, бабуля, некаторыя хлопцы заляцаюцца да адной дзяўчыны, а бяруць шлюб з іншай, так і дзяўчаты не-

каторыя робяць, — адказаў Міла. — Я не першы і не апошні ў Люцыі, але ў нас на вёсцы яшчэ не было, каб адзін хлопец заляцаўся адразу да дзвюх. І калі пагаджаешся быць каралём, то рыхтуйся да вяселля.

— Ну тады ты добра зрабіў, што не пагадзіўся, — падтрымала хлопца бабуля.

— І што гэта на Люцку найшло, што яна толькі цябе хоча, нібы іншых хлопцаў у нас няма! — гневалася Крыстла.

— Пан бацька сказаў бы: у кожнага свой густ, — усміхнулася бабуля.

Перад Калядамі казкі і песні чаргаваліся з размовамі пра салодкія булкі, абмяркоўвалі, хто і колькі кладзе белай мукі, колькі масла. Дзяўчаты раіліся, як лепей ліць свінец, дзеці з асалодаю марылі пра смачнае печыва, свечкі, што плаваюць на вадзе, падарунках Ісуса-немаўляці і калядаванні.

## XII

Існаваў звычай і на млыне, і на лесніковай сядзібе, і ў Старой бялільні: кожнага, хто заходзіў у дом на Шчодры вечар і на Вялікдзень, карміць і паіць да адвалу, а калі б ніхто не зайшоў, то бабуля, пэўна, пайшла б шукаць госця на скрыжаванне. Як узрадавалася старая, калі нечакана прыехалі перад Шчодрым вечарам яе сын Кашпар і пляменнік з Алешніц. Ледзь не палову дня яна плакала ад радасці і штохвіліны бегала з кухні, дзе пякла каляднае печыва, у святліцу, дзе сядзелі госці ў акружэнні дзяцей. Яна не магла наглядзецца на сына, у пляменніка пыталася, як ідуць справы ў таго або іншага ў Алешніцах, а дзецям паўтарала сто разоў:

— Паглядзіце на дзядзьку, ён з твару падобны на дзядулю, толькі ростам ніжэйшы.

Дзеці агледзелі аднаго і другога дзядзьку з усіх бакоў, і яны ім вельмі спадабаліся, асабліва тым, што ахвотна адказвалі на

іх пытанні. Кожны год дзеці збіраліся трымаць пост да зоркі, каб убачыць залатое парася, але гэтае жаданне ніколі не спаўнялася, таму што імкненне было добрым, а целы слабымі. На Шчодры вечар кожны атрымліваў гасцінцы, нават птушкам і хатняй скаціне давалі здобныя булкі. Пасля вячэры бабуля брала патроху ўсяго, што падавалася на стол, і палову кідала ў рэчку, а палову закопвала ў садзе пад дрэвам, каб вада была чыстай і здаровай, а глеба — ўрадліваю. Крошкі яна збірала і кідала «ў агонь», каб «не нарабілі бяды».

За хлявом Бетка трэсла бэз, прыгаворваючы:

Трасу, трасу я бэз, скажы мне,
Сабака, дзе мой мілы сёння.

А ў святліцы дзяўчаты лілі свінец і воск, а дзеці пускалі ў місцы з вадою запаленыя свечкі ў шкарлупках ад арэхаў. Ян употай штурхаў міску, каб шкарлупкі, што ўяўлялі сабой човен жыцця, хутчэй адплывалі ад краю на сярэдзіну.

Па звычаю на Каляды дарослыя і дзеці пасціліся «да зоркі», гэта значыць, нічога не елі да чатырох гадзін дня, калі з'яўлялася першая зорка. Каб дзеці не парушалі паста, ім абяцалі паказаць «залатое парася».

Пазней Ян радасна закрычаў:

— Паглядзіце, як далёка, далёка паеду па свеце!

— Ах, мілы хлопчык, калі паплывеш па моры жыцця сярод віроў і скал, калі хвалі будуць кідаць твой човен ва ўсе бакі, то неаднойчы ты прыгадаеш з сумам ціхі прыстанак, ад якога пачалося тваё падарожжа, — сказала ціха маці, разразаючы яблык на дзве паловы «на шчасце» хлопчыка. Семечкі ўтваралі зорку; тры промні былі чыстыя, а два сапсаваныя чырвоным. Цяжка ўздыхнуўшы і адклаўшы яблык убок, маці разрэзала другі, «на шчасце» Барункі, і, убачыўшы, што зорка пацямнелая, сказала сабе:

— Няўжо ні той, ні другая не знойдуць сабе поўнага шчасця?

Разрэзала яшчэ два яблыкі з думкаю пра Вілема і Адэльку, у іх былі здаровымі ўсе праменьчыкі.

— Нарэшце. Хоць бы ім добра жылося! — падумала маці.

Адэлька вывела яе з задуменнасці, заявіўшы, што яе човен не хоча адчаліць ад краю, а свечка ўжо дагарае.

— І мая таксама згасла, але недалёка сплыла, — скардзіўся Вілем.

У гэты час нехта штухнуў посуд, вада закалыхалася і ўсе шкарлупкі, што плавалі пасярэдзіне, патанулі.

— Глядзіце, глядзіце, вы раней за нас будзеце паміраць! — ускрыкнулі Адэлька з Вілімекам.

— Ну і што, затое мы шмат дзе будзем! — сказала Барунка, і Ян пагадзіўся з ёю. Маці з сумам глядзела на згаслае святло, і ў яе душы поўнілася прадчуванне, што гэтая нявінная дзіцячая гульня прадказвае іх будучыню.

— Ці прынясе нам што-небудзь немаўля Ісус? — пыталіся дзеці ўпотай бабулю, калі пачалі прыбіраць са стала.

— Ну, я гэтага не магу ведаць, пачуеце, калі зазвоніць, — сказала бабуля. Меншыя дзеці сталі каля акна, спадзеючыся, што так яны лепей пачуюць, калі немаўлятка Ісус пройдзе каля дома.

— Ці ж вы не ведаеце, што немаўлятку Ісуса нельга ўбачыць або пачуць? — пыталася бабуля. — Ён сядзіць на светлым троне на небе і дасылае падарункі паслухмяным дзецям праз сваіх анёлаў, якія прыносяць іх на залатых воблаках. Вы не пачуеце нічога, акрамя званочка.

Дзеці глядзелі ў акно, набожна слухаючы бабулю. У гэтае імгненне каля вокнаў мільгнуў агеньчык і пачуўся меладычны звон. Усе склалі рукі, а Адэлька прашаптала:

— Бабуля, гэтае святло было немаўляткам Ісусам, ці не так?

Бабуля пацвердзіла, у той жа момант увайшла маці і сказала, што ў пакоі бабулі дзяцей чакае нешта цікавае ад немаўляткі Ісуса. Колькі было радасці, калі дзеці ўбачылі ўпрыгожаную, залітую агнямі хвою, а пад ёю прыгожыя

падарункі! Бабуля раней не ведала гэтага звычая, простыя людзі не наладжвалі такое свята, але яно ёй падабалася. Задоўга да Каляд заўсёды памятала пра хвою і дапамагала дачцэ яе ўпрыгожваць.

— А ў Нісе і ў Кладску таксама пануе звычай упрыгожваць хвою, ці памятаеш ты, Кашпар? Ты ўжо падрос, калі мы там жылі, — звярнулася бабуля да сына, пакінуўшы дзяцей радавацца падарункам і сядаючы ля печкі бліжэй да яго.

— Як жа такое не памятаць! Прыгожы гэта звычай, і добра, Тэрэзка, робіш, што яго завяла. Будуць калісьці ў дзяцей цудоўныя ўспаміны, асабліва ў цяжкі перыяд жыцця. Пра гэты дзень чалавек нават на чужыне найчасцей прыгадвае, я гэта адчуў, калі некалькі гадоў вандраваў па свеце. Нават калі добра было ў гаспадара, я заўсёды думаў: «Лепей дома ў маці паесці кашы з мёдам, булак з макам, варанага гароху з травамі, чым на чужыне найсмачнейшай ежы».

— Наша ежа, — усміхнулася бабуля і паківала галавою. — Ты забыўся пра сушаную садавіну.

— Ведаеце, што я яе не вельмі любіў. У Добрушцы яе называюць «заедкамі». Пра нешта іншае я ўспамінаў, што мы заўсёды любілі паслухаць.

— Я ведаю, пра што ты думаеш: каляда пастухоў, тут таксама калядуюць, пачакай, хутка пачуеш, — усміхнулася бабуля, і толькі гэта сказала, як раздаліся гукі ражка пастуха. Ён спачатку адтрубіў мелодыю каляды, а пазней пачаў спяваць: «Уставайце, вялікая навіна, Хрыстос нарадзіўся ў гэтую хвіліну...»

— Твая праўда, Кашпар, калі б не пачула гэтую песню, то і свята не прайшло б так весела, — адзначыла бабуля, з задавальненнем слухаючы спевы.

Пазней яна выйшла з хаты і паклала ў сумку пастуха шмат разнастайнай ежы.

На святога Штафана хлопчыкі пайшлі калядаваць да млына і да леснічоўкі. Калі б не прыйшлі ў гэты дзень, то пані мама магла б падумаць, што на Прошкавых дах зваліўся, і са-

ма прыбегла б на Старую бялільню. У сваю чаргу, Берцік і Францік прыходзілі калядаваць у даліну.

Прайшлі Каляды, дзеці казалі, што хутка будуць «Тры каралі»; прыйдзе пан настаўнік, напіша на дзвярах іх імёны і стане калядаваць, а пасля гэтага свята праллі спраўляюць «Доўгую ноч». Безумоўна, на Старой бялільні і на млыне гэтае свята праходзіла не так, як на вёсцы, дзе было шмат моладзі. Там выбіралі караля і каралеву, грала музыка, упрыгожвалі кветкамі калаўрот, кароль падносіў у дар сваёй каралеве фігурны хлеб у выглядзе верацяна з галінкай размарыну наверсе.

На Старой бялільні рыхтавалі добрую вячэру, сабраліся папрадухі, спявалі, елі, пілі, і калі раптам за дзвярыма пачуліся гукі катрынкі, тут жа пачалі танцаваць на кухні. Прыйшлі таксама Томаш, пан бацька і ляснік, прыйшоў яшчэ нехта, і баль разгарэўся з новай сілай. Падлога на кухні была выкладзена каменнымі плітамі, але дзяўчаты на гэта не звярталі ўвагі, а хто шкадаваў чаравікі, той танцаваў босым.

— Ну як, бабуля, ці не маглі б разам троху фалды праветрыць? — спытаўся пан бацька, прыйшоўшы са святліцы, дзе сядзелі старэйшыя, на кухню да танцуючых, дзе знаходзілася і бабуля, таму што павінна была даглядаць малых, якія блыталіся ва ўсіх пад нагамі разам з Султанам і Тырлам.

— Ах, мілы пан бацька, у даўнія гады я танцавала да крывавых мазалёў на нагах. Калісьці хлопцы як толькі ўбачаць мяне на парозе шынка або летам на гумне, то крычаць: «Мадлена ідзе, грайце каламыйку або вртак!» Гайда, Мадла ляцела да кола. А цяпер, мой мілы божа, не скрануцца мне з месца, як не адарваць пара над гаршком.

— Не трэба, вы яшчэ такая жвавая, як перапёлачка, маглі б і патанцаваць, — жартаваў пан бацька, верцячы табакерку паміж пальцамі.

— Вось вам і танцорка, пан бацька, яна круціцца, нібы верацяно, — сказала бабуля са смехам, беручы за руку маладую жонку Томаша, якая стаяла за імі і чула размову.

Весела ўзяла маладая жанчына пана бацьку за руку, сказала Кудрне граць памалу. Кудрна, трымаючы ў адной руцэ кавалак пірага з пшаном, ад якога час ад часу адкусваў, зайграў «Суседку», а пан бацька вымушаны быў стаць да кола і так прайсціся, аж жанчыны павыходзілі са святліцы паглядзець, што тут адбываецца. Томаш запрасіў на танец жонку млынара, пан бацька ў запале — гаспадыню дома, і праз хвіліну старыя добра наскакаліся. Бабуля доўга смяялася з пана бацькі.

Толькі паспелі адзначыць «Доўгую ноч», надышоў час святкаванняў на млыне. Там забілі парася, смажылі пончыкі, чакалі ў госці лесніка і сяброў са Старой бялільні, пан бацька паслаў па іх сані. Пазней было гулянне ў леснічоўцы, а самае апошняе — у Прошкавых. А там надышоў і дзень Дароты. Рыхтавалі спектакль.

Каралём Дыяклецыянам быў Кудрнаў Вацлаў, Даротаю — яго сястра Ліда, двума дваранамі, суддзёю, катам і яго памочнікамі — хлопцы з Жэрнава. Памочнікі ката і дваране неслі з сабою мяхі для падарункаў.

Насупраць дома Прошкавых была ледзяная горка, там звычайна акцёры спыняліся, каб пакатацца, а Дарота іх цярпліва чакала, дрыжучы ад холаду. Яна зрабіла спробу заклікаць іх, каб ішлі далей, але яе голас патануў у агульным гомане і шуме. Вось і даводзілася ёй мерзнуць і сачыць за тым, як кампанія коўзалася па лёдзе, гуляючы ў снежкі.

Нарэшце ўвайшлі ў дом, дзе іх віталі сабакі страшным брэхам, а дзеці — радаснымі воклічамі. Каля печкі папраўлілі касцюмы і склалі мяхі. На іх было простае адзенне. Дарота абулася ў братавы боты, на сваё адзенне апранула белую баваўняную сукенку, якую пазычыла ў Манчынкі, начапіла каралі на шыю і карону з паперы на галаву. Белая хустка маці была ў яе замест вэлюма. Хлопчыкі паверх свайго звычайнага адзення апранулі белыя кашулі, падперазаныя стракатымі хусткамі, іх галовы былі ўпрыгожаны папяровымі шапкамі. У Дыяклецыяна на галаве карона, а замест плашчу

праз плячо перакінуты стракаты святочны фартух. Фартух для такога выпадку яму ахвотна ахвяравала маці.

Трошкі абагрэўшыся, акцёры выходзілі на сярэдзіну пакоя, і пачынаўся спектакль. Нягледзячы на тое што дзеці глядзелі гэтую п'есу кожны год, яна ім надзвычай падабалася. Пасля таго як паганец Дыяклецыян асуджаў хрысціянку Дароту на смерць ад рукі ката, памочнікі ката бралі яе пад рукі і вялі да месца пакарання. Узняўшы меч, кат грозна абвяшчаў: «Дарота, станавіся на калені, схілі ганарлівую галаву ніжэй, не бойся майго мяча, ён па-майстэрску тваю галаву адсячэ!» Дарота станавілася на калені, клала сваю галаву на плаху, і кат збіваў з яе карону, якую падбіралі яго памочнікі. Потым усе кланяліся. Дарота зноў надзявала карону і станавілася ў кут каля дзвярэй.

— Бачыце, як дзеці прыгожа ўмеюць усё гэта паказаць, як прыемна паслухаць, — захаплялася Ворша. Бабуля таксама вельмі хваліла акцёраў і шчодра іх адорвала на развітанне.

За домам пераглядалі ўсё, што атрымалі; ежу кароль тут жа дзяліў паміж усімі, а грошы клаў сабе ў кішэню, бо меў на гэта права як арганізатар і адпаведна нёс і расходы і адказнасць за ўсіх. Пасля такога справядлівага падзелу акцёры накіроўваліся ў бок Рызнбургу. Дзеці Прошкавых доўга яшчэ паўтаралі пачутыя рэплікі і маналогі і ўяўлялі Дароту. Маці ніяк не магла зразумець, як такое глупства можа падабацца.

А тут ужо надышла апошняя нядзеля Масленіцы, і да ганку пад'ехалі з горада прыгожыя сані. Калі коні страсянулі грывамі, званочкі так моцна зазвінелі, што варона, зімняя госця Прошкавых, з перапуду пераляцела з прызбы на рабіну, а куры і вераб'і з вялікім здзіўленнем разглядалі вупраж, думаючы пры гэтым: «Гэта, мабыць, па караля прыехалі!»

А здарылася тое, што за сям'ёй Прошкавых прыслаў коней кум Станіцкі з мястэчка, ён запрашаў адсвяткаваць у іх

Масленіцу. Бабуля заўсёды адмаўлялася ехаць, кажучы: «Што мне там рабіць? Лепш застануся дома, я паміж панамі дрэнна пачуваюся». Станіцкія былі добрымі і прыветлівымі людзьмі, але ён трымаў карчму, дзе збіраліся розныя людзі з усяго наваколля, і гэта не падабалася сціплай бабулі.

Калі ўвечары дзеці вярнуліся дахаты, яны расказалі бабулі, што бачылі добрага, аддалі ёй гасцінцы, хвалілі вясёлую музыку і пералічвалі тых, хто там быў.

— Адгадайце, каго мы там бачылі? — сказаў Ян.

— Ну каго? — спытала бабуля.

— Гандляра-італьянца, што да нас ездзіць і заўсёды дорыць фінікі. Але ж вы яго не пазналі б: ужо не такі брудны, як тады, калі прыязджаў да нас, выглядаў, як князь, і гадзіннік павесіў на залаты ланцужок.

— Калі ёсць грошы, чаму не выглядаць добра, — заўважыла бабуля. — Вы ж таксама не ходзіце ў госці ў тым адзенні, у якім дома коўзаліся па падлозе. Ужо з павагі да сябе і іншых людзей чалавек мусіць хадзіць чыста апранутым, калі гэта магчыма.

— Але ж ён вельмі заможны, ці не так? — дапытваліся дзеці.

— Не ведаю, я ў яго куфар не глядзела, але можа быць, бо ён умее гандляваць.

У апошні дзень Масленіцы прыйшлі зноў пераапранутыя і прынеслі з сабою шмат гоману і мітусні. На чале ішла падобная на няўклюднага мядзведзя Масленіца, якая была цалкам завешана гарохавай саломай. У кожным доме гаспадыня адрывала ад саломы трошкі і захоўвала, сухую галіну вясной клалі ў гусінае гняздо, каб гусцы лепей сядзелася на яйках.

Скончылася Масленіца, а разам з ёю надышоў канец зімоваму вяселлю. Бабуля спявала каля калаўрота вялікапосныя малітвы, а калі дзеці падсаджваліся да яе, апавядала ім пра жыццё Ісуса Хрыста, а ў першы ж посны тыдзень яна апранулася ў цёмнае адзенне. Дні станавіліся даўжэйшымі,

сонца прыгравала мацней, цёплы вецер з'ядаў снег на ўзгорках. Зноў у двары весела заквакталі куры, гаспадыні пры сустрэчы абмяркоўвалі пытанні, ці час садзіць квактуху на яйкі, разважалі пра пасевы льну. Гаспадары рыхтавалі плугі ды бароны. Ляснік ўжо не хадзіў з лесу на Старую бялільню напрасткі праз раку: лёд трэскаўся і кавалак за кавалкам «адкланьваўся», як жартаваў пан бацька, які раніцою хадзіў аглядаць гаць, спыняючыся на прызбе Прошкавых пагаварыць з бабуляй. Незаўважна праляцелі чатыры тыдні посту, а пятага тыдня дзеці чакалі з асаблівай радасцю.

— Сёння будзем хаваць зіму, — крычалі яны разам у нядзелю раніцою. А дзяўчаты дадавалі:

— Сёння наша чарга валачобнічаць!

Бабуля зрабіла для Адэлькі «лета»: галінку вярбы ўпрыгожыла яечнымі шкарлупкамі (яна іх збірала некалькі дзён) і чырвонымі банцікамі, каб было весела. І дзяўчаты накіраваліся валачобнічаць. Надвячоркам дзяўчаты сабраліся на млыне і пачалі ўпрыгожваць чучала, што сімвалізавала зіму. Цылька звязала сноп з дахавай саломы, кожная з дзяўчынак прынесла нешта з вопраткі. Чым лепш будзе ўпрыгожана Маржэна, тым больш гонару тым, хто валачобнічае. Калі «зіма» была апранута, дзве дзяўчынкі павялі яе пад рукі з млына, астатнія рушылі за імі. Размахваючы ўпрыгожанымі галінкамі вербалозу, усе спявалі:

— Ідзі, зіма, з вёскі! Добры дзень, лета!

Валачобнікі накіроўваліся з млыну да гаці. Дзяўчаты, старэйшыя па ўзросце, ішлі наводдаль за імі, хлопцы з кплівымі грымасамі скакалі вакол Маржэны, імкнучыся сарваць з яе каптур, а дзяўчаткі яе абаранялі. Ля гаці яны хуценька сцягнулі з чучала сукенку і з радаснымі крыкамі кінулі сноп у ваду. Потым хлопчыкі і дзяўчаткі сабраліся разам і, павярнуўшыся назад, заспявалі: «Смерць плыве па вадзе, а новае лета да нас ідзе з чырвонымі яйкамі, з жоўтымі кулічамі». Потым дзяўчаты зацягнулі: «Лета, лета, лета, дзе ты так доўга было? Ля студні, ля вады — рукі і ногі! Фіялкі, ружы цвісці не

могуць, пакуль Бог не дапаможа». Хлопцы падхоплівалі: «Святы Пётр з Рыму, дашлі флягу віна, каб мы напіліся, Бога славілі!»

— Ну, валачобніцы, хадзіце ў дом, — паклікала пані Прошкава, слухаючы на прызбе спевы. — Заходзьце ў хату, віна вам не дадзім, але нештачка іншае для вас падрыхтавалі.

Усе дзеці ўвайшлі ўслед за дзяўчынкамі Прошкавых у святліцу, а за імі, весела спяваючы, Крыстла з дзяўчатамі.

Раніцай у Вербную нядзелю Барунка збегала да ракі за вярбою, якая толькі што распусцілася. «Нібы ведала, што ў гэты дзень будзе патрэбная», — падумала дзяўчынка. Калі ішла разам з бабуляю да касцёла на імшу, кожная несла свяціць пучок вярбы.

У Перадвялікодную сераду, калі бабуля закончыла свой «урок» і занесла калаўрот на гарышча, Адэлька крыкнула: «Бабуля схавала калаўрот на гарышчы! Значыць, хутка возьмецца за верацяно!»

— Дасць Божа, дажывем да зімы, зноў дастанем яго з гары, — усміхнулася бабуля.

У Чысты чацвер дзеці ведалі, што не атрымаюць нічога, акрамя аладак з мёдам. На Старой бялільні пчол не было, але пан бацька, дастаючы з вулляў соты, заўсёды дасылаў мядку суседзям. Млынар быў добрым пчаляром, і вулляў у яго было шмат. Ён і Прошкавым абяцаў падарыць вулей з пчоламі, калі яны адрояцца. Неаднойчы чуў пан бацька ад бабулі, што аднаго толькі не хапае на Старой бялільні — пчол, што весялей чалавеку, калі ён бачыць, як пчолкі цэлы дзень лётаюць з вулля ў вулей і напружана працуюць.

— Барунка, уставай, хутка сонца ўзыйдзе! — будзіць бабуля ў Перадвялікодную пятніцу ўнучку, дакранаючыся да лба.

Барунка спала чуйна, яна імгненна прачнулася і, убачыўшы каля свайго ложка бабулю, прыгадала, што ўчора ўвечары прасіла яе разбудзіць раней, каб не спазніцца да ранішняй службы. Яна ўскочыла, апранулася, накінула хустку і пайшла з бабуляю. Воршу і Бетку старая таксама пабудзіла. «Дзеці

няхай яшчэ спяць, яны малыя яшчэ, неразумныя, мы за іх памолімся», — вырашыла яна. Як толькі дзверы ў сенцах зарыпелі, падалі голас хатнія птушка і скаціна. Выскачылі з будак сабакі. Бабуля ласкава адпіхнула ад сябе сабак, а астатнім сказала: «Пацярпіце, мы ідзем маліцца!»

Пасля таго як Барунка па бабуліным загадзе памылася ў ручаі каля млына, яны ўзняліся на ўзгорак і прачыталі дзевяць разоў «Ойча наш» і «Цар нябесны», просячы ў Бога здароўя на цэлы год. Такім быў звычай. Старая ўкленчыла, склаўшы на грудзях маршчыністыя рукі, і ўзняла спакойны погляд да ружовага золаку, які на ўсходзе сведчыў пра хуткае з'яўленне сонца. Каля яе на каленях стаяла Барунка, свежая, ружовая, як бутончык. Хвіліну і яна малілася набожна, але мала-памалу яе ясныя, вясёлыя вочы адарваліся ад неба і позірк прабег па лясах, лугах і ўзгорках. Мутныя хвалі ракі памалу плылі, зносячы з сабою апошнія кавалкі лёду і снегу; у лагчынах паміж узгоркамі яшчэ бялеў снег, але дзе-кольвечы ўжо зелянела трава, квітнелі першыя маргарыткі, набрынялі пупышкі на кустах і дрэвах. Прырода абуджалася да жыцця і радасці. Світанак разліўся па небе, з-за гор, залоцячы верхавіны дрэў, усё вышэй і вышэй цягнуліся ў зіхаценні сонечныя промні, нарэшце ўрачыста выглянула сонца і асвятліла ўзгорак. Супрацьлеглы бок быў яшчэ напалову ахутаны цемрай, за гаццю спускалася мгла ўсё ніжэй і ніжэй, а над ёю на ўзгорку можна было разгледзець укленчыўшых работнікаў з лесапільні.

— Паглядзіце, бабуля, як узыходзіць сонца, — сказала Барунка, глыбока ўражаная веліччу нябеснага свяціла. — Ах, як добра было б цяпер памаліцца на Снежцы!

— Калі хочаш маліцца Богу, усюды для гэтага знойдзеш месца, уся Божая зямля цудоўная, — сказала бабуля, устаючы з зямлі, і перахрысцілася.

Азірнуўшыся, яны ўбачылі высока на ўзгорку Вікторку, што абаперлася на дрэва. Яе кучаравыя валасы зліпліся ад расы і віселі мокрымі пасмамі, сукенка на ёй была парваная,

шыя аголеная, чорныя вочы, палаючыя дзіўным агнём, узіраліся ў сонца, у руцэ яна трымала кветкі ключыкаў, якія ўжо расцвіталі. Здавалася, што яна нікога не бачыць.

— Недзе бадзялася, бедная, — сказала старая са спачуваннем.

— І дзе яна знайшла ключыкі?

— Недзе на ўзгорку ў лесе, яна там кожны куточак ведае.

— Я іх у яе папрашу, — сказала дзяўчынка і пабегла ўгару.

Вікторка абудзілася ад сваіх думак і хутка пайшла прэч, калі Барунка паклікала: «Калі ласка, Вікторка, дай мне кветку». Яна спынілася і, утаропіўшы вочы ў зямлю, працягнула дзяўчынцы ключыкі. Потым, усміхнуўшыся, хутка пабегла з узгорка ўніз. Барунка вярнулася да бабулі.

— Даўно яна ўжо не прыходзіла па ежу, — заўважыла бабуля.

— Учора, калі вы былі ў касцёле, яна зазірала, маці дала ёй хлеба і аладак з мёдам, — азвалася Барунка.

— Летам беднай будзе лепш. Толькі Бог ведае, як яна ўсё гэта выносіць, цэлую ж зіму бегае ў адной сукенцы і босая. Пасля яе на снезе крывавыя сляды застаюцца, а ёй хоць бы што! Жонка лесніка хацела б кожны дзень карміць яе цёплай ежаю, але яна не прымае нічога, акрамя кавалка хлеба. Няшчаснае стварэнне!

— Ёй, пэўна, не холадна ў пячоры, бабуля, а то яна абавязкова прыйшла б да каго-небудзь. Мы яе столькі разоў прасілі застацца.

— Ляснік казаў, што ў такіх падземных норах зімою цёпла, а паколькі Вікторка ніколі не заходзіць у дом, таму холад так, як мы, не адчувае. Гэта ўжо Бог так вырашыў: ён дасылае анёлаў ахоўваць дзяцей ад усяго злога, а Вікторка, як малое беднае дзіця, — казала бабуля, уваходзячы ў дом.

Звычайна апоўдні да Старой бялільні далятаў звон з Жэрнаўскай гары, з вежы над каплічкаю, але сёння Ян і Вілем лёталі па садзе з трашчоткамі і так шумелі, што напалохаліся нават вераб'і на страсе. Пасля поўдня бабуля з дзецьмі

накіроўваліся ў мястэчка на вынас плашчаніцы, а па дарозе заходзілі па пані маму і Манчынку. Млынарыха заўсёды вяла бабулю ў камору і паказвала ёй поўны кошык фарбаваных яек, падрыхтаваных для валачобнікаў, доўгі шэраг кулічоў і тлустага барана. Дзецям яна давала па аладцы, а бабулі нават не прапаноўвала, ведаючы, што старая са сняданка Перадвелікоднага чацвярга аж да вячэры на Уваскрашэнне нічога ў рот не возьме. Млынарыха і сама пасцілася ў Перадвелікодную пятніцу, але такога строгага паста яна, па яе словах, ніколі не вытрымала б.

— Кожны, мая мілая пані мама, робіць усё ў адпаведнасці са сваім сумленнем. Я лічу, калі пост, то няхай будзе пост, — казала бабуля, хвалячы ўмельства млынарыхі. — А мы толькі заўтра пачынаем пячы, у нас ужо ўсё падрыхтаванае. А сёння молімся, — дадала яна.

Такой звычкі прытрымліваліся ў доме Прошкавых, дзе слова бабулі было важкім.

У Перадвелікодную суботу на Старой бялільні раніцаю было як на пражскім мосце: у святліцы, на кухні, у двары, ля печы — да ўсяго дайшлі працавітыя рукі. А калі да якой-небудзь жанчыны дзеці звярталіся са сваімі пытаннямі, то чулі ў адказ, што і без іх галава ідзе кругам. У Барункі было столькі працы, што яна забывалася то на адно, то на другое. Затое да вечара ў доме і на двары ўсё было прыведзена ў парадак, і Барунка з маці і бабуляю накіраваліся ў касцёл. Калі ў асветленым ярка касцёле некалькі соцень галасоў запелі разам «Хрыстос уваскрос!», «Алілуя!», Барунку ахапіла незвычайнае хваляванне. Грудзі яе ўздымаліся, яна хацела выбегчы на прастору, каб мець магчымасць на свабодзе даць выйсце невыказнаму пачуццю, якое перапаўняла яе душу. Цэлы вечар дзяўчынцы было надзвычай добра. Калі ж бабуля перад сном пажадала ёй добрай ночы, яна абхапіла яе за шыю і заплакала.

— Што з табою, чаму ты плачаш? — запыталася ў яе бабуля.

— Нічога, бабуля, мне так радасна, што слёзы самі ліюцца, — прашаптала Барунка.

Старая нахілілася, пацалавала ўнучку ў лоб і пагладзіла па шчацэ, не кажучы ні слова. Яна ведала сваю Барунку!

На Вялікдзень бабуля панесла свяціць у касцёл куліч, віно і яйкі, а вярнуўшыся дахаты, разрэзала на кавалкі, і кожны атрымаў лусту куліча, яйка і троху віна. Куры і скаціна атрымалі, як і на Каляды, сваю долю. «Каб звыкліся з домам і прыносілі як мага больш карысці», — казала бабуля.

Панядзелак па святым тыдні быў цяжкім днём для жанчын, таму што ўсе мужчыны, што прыходзілі валачобнічаць, мелі права біць іх вярбою. Ледзьве Прошкавы паспелі ўстаць і апрануцца, як пад вакном пачулася:

— Пусціце маленькага валачобніка!

А тут раптам нехта стукнуў у дзверы. Бетка пайшла адчыняць, але адчыняла асцярожна, бо гэта маглі быць і хлопцы, а ўсім вядома, што кожны з іх быў бы рады адсцябаць яе вярбою. Гэта раней за ўсіх прыйшоў пан бацька. Прывітаўшыся ціхоняю, ён пажадаў «шчаслівага і вясёлага свята», а пад каптанам трымаў прыхаваную вярбу і пачаў сцябаць усіх падрад. Дасталося ўсім: і гаспадыні, і Адэльцы, і бабулі. «Каб блохі не кусаліся!» — растлумачыў ён, гучна смеючыся. Атрымаўшы, як і трэба валачобніку, яйка і яблык, пан бацька спытаўся ў хлопчыкаў:

— Што, хлопцы, як вы валачобнічалі?

— Ды ўжо пастараліся! То не хочуць уставаць з ложка, а сёння яны ўжо былі ў святліцы, як толькі я прачнулася, толькі каб мяне сцёбнуць вярбою, — скардзілася Барунка, а пан бацька і хлопцы ўсміхаліся.

Прыйшоў і ляснік, спусціўшыся ў даліну правесці дзень па старым звычаі, прыйшлі Міла з Томашам. Карацей, нікому не было спакою, дзяўчаты ледзьве паспявалі прыкрываць фартухамі целы.

# XIII

Вясна хутка ўступала ў свае правы; людзі працавалі на палях, наверсе на ўзгорку грэліся пад сонейкам яшчаркі і змеі, палохаючы дзяцей, што хадзілі да замка па фіялкі і ландышы. Бабуля казала, што не трэба баяцца, бо да святога Іржы яны няшкодныя, і гадаў можна нават у рукі браць. «Але калі сонца будзе высока стаяць, у іх з'явіцца атрута», — дадавала яна. На лузе за гаццю расквітнелі анемоны і казяльцы, на ўзгорку з'явіліся пралескі і залаціўся першацвет. Дзеці збіралі шчаўе для супа, рвалі крапіву гусянятам, а бабуля, калі заходзіла ў хлеў, кожны раз абяцала Стракатцы, што тая хутка ўжо пойдзе на пашу. Дрэвы апраналіся ў зялёную лістоту, у паветры весела таўкліся камары, высока ў небе спяваў жаўрук, дзеці яго чулі, але маленькага спевака бачылі рэдка. Калі з лесу неслася куванне зязюлі, дзеці крычалі ў лес: «Зязюля, зязюля, колькі мне жыць?» Часам зязюля адказвала, а часам выклікала ў Адэлькі злосць, бо дзяўчынка лічыла, што птушка не хоча куваць. Хлопчыкі вучылі Адэльку выразаць з вярбы свістулькі, а калі тыя не свісцелі, вінавацілі яе ў тым, што яна дрэнна вывучыла прымаўку.

— Вы, дзяўчаткі, нават свістулькі не можаце зрабіць! — кпіў Ян.

— Гэта не наша справа! Затое вы не можаце зрабіць такую шапку! — не пагаджалася Барунка, паказваючы братам упрыгожаную кветкамі дзікіх маргарытак шапку з лістоў вольхі, сколатых хваёвымі іголкамі.

— Ну, гэта не складана, — адмахнуўся хлопец, пакачаўшы галавою.

— Для мяне не, а для цябе — так, — смяялася Барунка, пачынаючы ўслед за шапкай шыць сукенку і рабіць з бузіны тулава лялькі.

Паклаўшы пруток на калені, Ян сказаў Адэльцы:

— Глядзі на мяне ды вучыся! — і, ударыўшы па прутку ножыкам, пачаў прыгаворваць:

Рабіся, свістулька,
Калі не будзеш рабіцца,
То паскарджуся на цябе князю,
А ён табе так дасць,
Што адляціш да залатога збана.
Гуш, гуш, гуш,
Утыкаем у цябе нож,
Выразаем у цябе душу,
Утыкаем у цябе сцізорык,
Будзеш спяваць, як птушка.

Свістулька была зроблена і сапраўды добра свісцела, праўда, Вілем пераконваў, што не так добра, як ражок Вацлава. Хутка Яну абрыдла рабіць свістулькі, і ён змайстраваў сабе з пруткоў калёсы, упрогся ў іх і паскакаў па лузе. Сабакі панесліся за ім.

Барунка, аддаючы сястры зробленую ляльку, сказала:

— На, і цяпер вучыся рабіць сама. Хто з табою будзе гуляць, калі мы пойдзем у школу? Ты застанешся адна.

— Тут будзе бабуля, — адказала дзяўчынка, і па твары было відаць, што хоць і самотна ёй будзе, але калі застанецца бабуля, то застанецца ўсё.

У гэты час каля іх праходзіў млынар. Ён падаў Барунцы ліст са словамі:

— Бяжыце з ім да маці, скажыце, што мой работнік быў у горадзе і што яму гэты ліст далі на пошце.

— Гэта ад бацькі! — крычалі дзеці па дарозе да дома.

Пані Прошкава чытала ліст з радасным тварам, а калі скончыла чытаць, абвясціла ўсім, што ў сярэдзіне траўня прыедзе бацька разам з княгіняй.

— А колькі яшчэ начэй нам без яго спаць? — спытала Адэлька.

— Амаль сорак, — адказала Барунка.

— Ой, як доўга, — засумавала дзяўчынка.

— Ведаеш што, — прапанаваў Вілем, — я намалюю на дзвярах сорак палачак, а калі раніцою буду прачынацца, то буду па адной змываць.

— Так, зрабі гэта, то і час хутчэй пройдзе, — смяялася маці.

Млынар, вяртаючыся з гаці, зазірнуў да Прошкавых. Твар яго быў заклапочаны, ён не жартаваў і не жмурыў вока, як звычайна, не круціў сваю табакерку, а толькі пастукваў па яе дне двума пальцамі.

— Ведаеце, што новага, людцы? — спытаў, уваходзячы ў святліцу.

— Што здарылася? — спыталіся бабуля і пані Тэрэза ў адзін голас, бачачы, што пан бацька не такі, як звычайна.

— Вада ідзе з гор.

— Няхай Бог нас беражэ, калі вада раптам моцна хлыне, наробіць бяды, — спалохана прашаптала бабуля.

— Я баюся таго ж, — сказаў млынар, — вось ужо некалькі дзён у гарах дзьмуць паўднёвыя вятры і ліюць дажджы; завознікі, што прыехалі з тых мясцін, кажуць, што снег сыходзіць на вачах, а ўсе ручаі выйшлі з берагоў. Будзе сёлета, думаецца, вялікая паводка. Я хутка вяртаюся дахаты, неабходна падрыхтаваць сустрэчу злому госцю. Раю вам быць абачлівымі, асцярожнасць нікому не пашкодзіць. Па абедзе прыйду паглядзець. Уважліва сачыце за тым, як прыбывае вада. А ты, маленькая берасцяначка, не хадзі да вады, — дадаў ён, ушчыпнуў Адэльку за шчаку і пайшоў.

Бабуля пайшла паглядзець на гаць. Абодва бакі гаці былі з дубовага бярвення, паміж якім разраслася папараць. Ужо па бярвеннях бабуля ўбачыла, што вады пабольшала: ніжнія галінкі папараці былі ў вадзе. Брудная плынь несла праз гаць кавалкі дрэў, дзёран, галінкі. Бабуля вярнулася дахаты заклапочаная. Калі па рацэ ішлі крыгі і было іх шмат, яны нагрувашчваліся каля гаці, узбіваліся адна на адну і такім чынам затрымлівалі ваду. Тады плынь залівала ручай каля млына і затапляла пабудовы. Таму, як толькі лёд пачаў кры-

шыцца, жыхары млына ўжо былі напагатове і імкнуліся, дзе можна было, прадухіліць заторы льду. Але супраць вады з гор ратунку ніколі не было. Нібы дзікі звер, імчалася яна, несучы з сабою ўсё, што траплялася на яе шляху; прарывала гаці, падмывала берагі, выварочвала з каранямі дрэвы, разбурала будынкі і ўсё гэта рабіла так імкліва, што людзі апамятацца не паспявалі. Менавіта таму бабуля, спазнаўшая сілу стыхіі на ўласным вопыце, адразу, як толькі вярнулася дахаты, параіла складваць рэчы і пераносіць іх з пакояў на гарышча. Усе ўзяліся за працу. Між тым прыйшоў ляснік, які, як заўсёды, праходзіў каля лесапільні і там даведаўся, што чакаюць вялікую паводку, ды і сам заўважыў, што льды ўтварылі на рацэ затор.

— Дзеці тут толькі перашкаджаць вам будуць, а калі здарыцца бяда, вы з імі напакутуецеся; давайце, я вазьму іх з сабою на гару, — прапанаваў ён.

Гаспадыні з радасцю пагадзіліся з яго прапановай.

Павыносілі і прыбралі ўсё, што можна. Птушак пераправілі на ўзгорак. Стракатку адвялі да лесніка.

— Вы таксама ідзіце да лесніка, а то пані з дзецьмі будзе мець клопату, — сказала бабуля дачцэ і Бетцы, калі ўсё было зроблена, — а я з Воршаю застануся. Калі вада залье дом, то мы залезем на гарышча. Спадзяюся, што Бог не дазволіць, каб нас вада знесла разам з домам, тут не так нізка, як каля млына. Вось ім, бедным, будзе цяжка.

Пані Прошкава доўга не пагаджалася з тым, каб маці засталася, але старая была настолькі настойлівая, што яе дачка была вымушана пагадзіцца.

— Глядзіце, каб сабакі не разбегліся, — папярэдзіла яна, выходзячы з дома.

— Не бойся, сабакі добра ведаюць, у каго абароны шукаць, ні на крок не адыйдуць.

І сапраўды, Султан і Тырл хадзілі за бабуляю па пятах, а калі яна садзілася з верацяном да акна, то кладліся каля яе ног. Ворша, якая звыкла ўвесь час мыць, прыбіраць, каб не

сядзець без працы, узялася чысціць хлявы, не думаючы пра тое, што праз нейкі час іх можа заліць брудная вада.

Змяркалася. Вада ўсё прыбывала; рэчышча ручая каля млына ўжо не змяшчала яе. Лугі за гаццю ўжо былі пад вадой. У прасветах паміж вербамі бачыла бабуля з акна, як калыхаліся хвалі, нягледзячы на тое што дом стаяў нізка, а раку закрываў высокі бераг. Яна адклала верацяно, склала рукі і пачала маліцца. Ворша таксама прыбегла ў святліцу.

— Вада гудзіць так, што чалавеку страшна робіцца, жывёлы нібы чуюць, што нешта адбудзецца, усе пахаваліся, нават вераб'і, — сказала, выціраючы пыл з лаўкі каля акна.

Раптам пачуўся конскі тупат, па дарозе ад гаці імчаўся коннік. Каля дома спыніўся і крыкнуў:

— Беражыцеся, людзі, вада ідзе! — і паімчаўся паўз бераг да млына, а ад млына да мястэчка.

— Памажы, Божа! Відаць на гары дрэнныя справы, калі накіравалі пасланца, — сказала бабуля, збялеўшы. Але ў той жа час угаварыла Воршу, каб не баялася, а сама пайшла паглядзець яшчэ раз, ці ўсе людзі ў бяспецы і ці не пачынае выступаць з берагоў вада. Каля ракі яна сустрэла пана бацьку, які быў апрануты ў высокія боты над каленам. Ён паказаў бабулі, што вада выйшла не толькі з рэчкі, але і з ручая каля млына. Прыйшлі Міла з Кудрнам і прапанавалі бабулі дапамогу, бо нельга ў доме заставацца адной, але бабуля адправіла Кудрну дахаты.

— У вас дзеці, калі не дай Бог, здарыцца няшчасце, то маё сумленне не вытрымае. Ужо калі трэба некаму застацца, то няхай гэта будзе Якуб; у шынку яго дапамога не патрэбная, там няма страху, вада далей за хлеў не пойдзе.

Разышліся. Ужо апоўначы дом цалкам стаяў у вадзе. Па жэрнаўскім узгорку хадзілі людзі з факеламі. Ляснік таксама спусціўся на ўзгорак, бліжэй да сушыльні Прошкавых. Ведаючы, што наўрад ці бабуля будзе спаць у гэтую ноч, ён пачаў свістаць і клікаць яе, пытаючыся, ці ўсё ў парадку ў доме. Якуб азваўся з акна святліцы, што ён тут і глядзіць,

каб пані Прошкава не трывожылася за маці. Ляснік пайшоў. Раніцай уся даліна ператварылася ў возера. У святліцы можна было хадзіць толькі па насланых дошках. Міла з цяжкасцю дабраўся да ўзгорка, каб пакарміць птушку. Вада з такой хуткасцю неслася па дарозе, што ледзь не збіла яго з ног. Удзень на ўзгорак прыйшлі ўсе, хто хаваўся на сядзібе лесніка, каб паглядзець на раўніну. Калі дзеці ўбачылі, што дом у вадзе, а бабуля ходзіць у святліцы па дошках, пачалі так плакаць і крычаць, што іх ледзьве супакоілі. Сабакі выглядалі з дахавых вокнаў; калі Ян іх паклікаў, то яны пачалі брахаць, выць і абавязкова саскочылі б уніз, каб Міла іх не ўтрымаў.

Прыйшоў Кудрна і расказаў, якой бяды нарабіла вада ў даліне. У Жлічы знесла два дамы, у адным з іх была старая кабета, якая не хацела слухаць заклікі пасланніка з гор, пайшла ўсё праверыць, сабралася потым, але было позна. Вада зносіла масты, лаўкі, дрэвы, карацей — усё, што сустракалася на шляху. Жыхары млына забраліся на гарышча і там сядзелі.

Крыстла выйшла паглядзець, ці нельга аднесці бабулі цёплай ежы, але гэта было немагчыма, і калі смелы Міла, убачыўшы дзяўчыну, хацеў да яе перабрацца, яна яго стала прасіць застацца на сваім месцы.

Два дні працягваўся гэты жах, на трэці дзень вада пачала спадаць. Дзеці здзівіліся, калі вярнуліся дахаты. Агародчык каля хаты быў затоплены, у сад нанесла шмат пяску, а месцамі вада вырыла глыбокія яміны, вербы і вольхі стаялі да паловы аблепленыя брудам, масток праз ручай каля млына знесла, хлявы падмыла, будак для сабак зусім не было на месцы. Хлопчыкі з Адэлькаю пабеглі паглядзець, што робіцца за домам. Там раслі маладыя дрэвы, якія яны ў мінулым годзе прынеслі з лесу; бабуля тады пасадзіла бярозы — дзяўчаткам, хвоі — хлопчыкам. Дрэвы стаялі непашкоджаныя. Пад грушаю дзеці калісьці пабудавалі маленькую хатку, зрабілі агародчык і плот, вырылі равок і паставілі млын. Крылы круціліся, калі равок напаўняўся вадою. Была там і печка, у якой

Адэлька рабіла пірагі і булкі з гліны. Ад усёй гэтай гаспадаркі не засталося і знаку.

— Дзеткі! — усміхнулася бабуля, пачуўшы, як яны скардзяцца. — Што ж вы хочаце, каб ацалелі вашыя цацкі, калі напорам грознай стыхіі выварочвала стогадовыя дрэвы і змывала добра пабудаваныя дамы.

За кароткі час сонца высушыла палі, лугі і дарогі, вецер разнёс наносы з пяску, трава зазелянела яшчэ ярчэй, усё было адрамантавана, і хутка амаль ніштo не нагадвала пра знішчальную паводку. Толькі людзі пра гэта доўга яшчэ гаварылі.

Прыляцелі ластаўкі. Дзеці радасна сустрэлі іх, цешыліся надзеяй, што хутка спусціцца з гор пан Бейер, а ўслед за ім прыедзе і бацька. Быў вечар Філіпа і Якуба. Накрэсліўшы тры крыжы асвечанай крэйдаю на кожнай з вонкавых дзвярэй, у доме, хляве і куратніку, бабуля разам з дзецьмі накіравалася на ўзгорак, да замка.

Хлопчыкі неслі на плячах старыя мётлы. На ўзгорку ўжо сабралася ўся моладзь, сярод якой былі Крыстла, Міла, Манчынка. Вацлаў Кудрна з братамі дапамагаў Мілу смаліць мётлы, а астатнія рыхтавалі дровы і хваёвыя галінкі для вогнішча. Ноч была цудоўная; цёплы ветрык хваляваў маладыя зялёныя парасткі і разносіў па ўсім узгорку пах кветак, якія расквітнелі ў парку і садзе. З лесу чулася вухканне савы, на высокай таполі каля дарогі шчабятаў дрозд, а з кустоў у парку раскацістыя гукі салаўінай песні даносіліся аж да самай вяршыні ўзгорка. Раптам успыхнуў агонь на жліцкім узгор'і, і ў гэты ж самы момант асвятліўся жэрнаўскі ўзгорак, а потым пачалі ўзнікаць вялікія і малыя вогнішчы, заскакалі, замільгацелі факелы. А далей на вяршынях находскіх і новагародскіх запаліліся агні, затанцавала святло. Міла таксама запаліў асмоленую мятлу і кінуў яе ў вогнішча, якое ў адну хвіліну ўспыхнула. Моладзь пачала крычаць, кожны імкнуўся як мага вышэй падкінуць сваё палаючае памяло, прыгаворваючы:

— Ляці, вядзьмарка, ляці!

Пазней усе сталі ў адзін рад і з запаленымі факеламі пачалі вадзіць карагод. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, з песнямі кружыліся вакол вогнішча. Калі яно пачало згасаць, яго раскідалі і пачалі скакаць праз агонь, імкнучыся скочыць як мага далей.

— Гэй, глядзіце, цяпер мая старая вядзьмарка паляціць вышэй за ўсіх, — крыкнуў Міла і кінуў запаленую мятлу з такою сілаю, што яна пырхнула ў паветры, узляцела высока і павалілася каля зялёнай азіміны, дзе знаходзіліся гледачы.

— Бач ты, як пырхае! — смяяліся навокал, і некалькі чалавек кінуліся наўздагон за пырхаючай мятлою. Хлопцы запляскалі ў далоні. З жэрнаўскага і жліцкага ўзгоркаў таксама чуліся вясёлыя крыкі, смех і спевы. Каля рудога агню, як фантастычныя істоты, калыхаліся ў танцы постаці юнакоў і дзяўчат. Час ад часу з натоўпу высока ўзлятаў чорцік і, сатрасаючы паветра палаючаю паліцаю, абсыпаючы ўсіх тысячамі іскраў, падаў уніз да агульнай радасці.

— Гляньце, як высока ўзляцела! — крыкнула Манчынка, паказваючы пальцам на жэрнаўскі ўзгорак. Адна з жанчын схапіла руку дзяўчынкі і схіліла ўніз, нагадаўшы, што на вядзьмарку нельга паказваць, бо яна можа пусціць табе ў палец стралу.

Было ўжо позна, калі бабуля з дзецьмі вярнуліся дахаты.

— Бабуля, вы нічога не чуеце? — спытала Барунка, спыніўшыся сярод квітнеючых дрэў у садзе, — здаецца, што нешта шапаціць.

— Гэта ветрык гуляе з лістотай, — адказала бабуля. — І добра робіць.

— Чаму добра?

— Таму што дрэва схіляе адно да другога. Кажуць, калі дрэвы ў квецені абдымаюцца ды цалуюцца, трэба чакаць добрага ўраджаю.

— Ох, бабуля, шкада, хутка пачнуцца чарэшні ды суніцы, будзе так весела ў садзе, а мы мусім цэлы дзень сядзець у школе, — з сумам сказаў Ян.

— Інакш нельга, хлопчык, не можаш заўсёды сядзець дома ды гуляць з цацкамі. Цяпер у вас будуць іншыя клопаты і іншыя радасці.

— А я з задавальненнем пайду ў школу, — сказала Барунка. — Вось толькі буду сумаваць без вас, бабуля, бо цэлы дзень мы не ўбачымся!

— І мне будзе не хапаць вас, мілыя дзеці, але што зробіш: дрэва квітнее — дзіця расце; адцвіце дрэва — упадзе садавіна; вырасце дзіця — ад бацькоў адыйдзе. Так трэба Богу. Пакуль дрэва здаровае, яно прыносіць карысць, а калі засохне — то ссякуць і кінуць у агонь; згарыць яно — попелам зямлю ўгноіць, і вырастуць на той зямлі маладыя дрэўцы. Так і бабуля ваша, даробіць тое, што павінна, і ляжа спаць спрадвечным сном, — напаўголаса сказала старая.

У кустах ля агародчыка заспяваў салавей, дзеці пераконвалі, што гэта іх салавейка; кожны год ён прылятае ў кусты ля агародчыка, дзе зрабіў сабе гняздо. Ад гаці даносілася сумная мелодыя Віктарчынай калыханкі. Дзеці хацелі яшчэ застацца на двары, але бабуля прымусіла іх ісці дадому.

— Вы ж ведаеце, што заўтра ў школу і трэба рана ўставаць, ідзіце спаць, пакуль матуля не раззлавалася, — казала яна, падштурхоўваючы дзяцей аднаго за другім за парог.

Раніцаю за сняданкам маці распавядала дзецям (за выключэннем Адэлькі, якая яшчэ спала), як неабходна вучыцца, слухаць пана настаўніка, па дарозе весці сябе выхавана, давала ім найлепшыя павучэнні, ды так, што дзеці ледзь не расплакаліся. Бабуля рыхтавала тым часам ім сняданак у школу.

— Тут кожнаму свая порцыя, — растлумачыла, кладучы на стол тры вялізныя лусты хлеба, — вось і тры сцізорыкі, што я прыхавала. Бачыш, Янічак, ты б даўно свой сцізорык згубіў бы і сёння не меў бы, чым хлеб накроіць, — сказала і выцягнула з кішэні тры сцізорыкі з чырвонымі ручкамі. Зрабіўшы ў кожнай лусце дзірку, яна паклала туды масла, прыкрыла масла выразаным кавалкам і паклала адну лусту ў

сумачку з рагожкі Барунцы, а дзве астатнія — у скураныя сумкі хлопчыкам. Да хлеба бабуля дадала сушанай садавіны. Пасля сняданка дзеці выйшлі з хаты.

— Ідзіце з Богам і памятайце, што я вам сказала, — нагадвала маці на парозе.

Дзеці пацалавалі маці руку, і вочы іх напоўніліся слязьмі. Бабуля яшчэ з імі не развітвалася, а правяла іх праз сад; Султан і Тырл беглі за ёю.

— Слухайцеся, хлопчыкі, Барунку, калі яна вам будзе нагадваць, як неабходна сябе паводзіць, бо яна старэйшая за вас, — казала бабуля, — не рабіце па дарозе ніякай шкоды, не крыўдзіце адзін аднаго. У школе не марнуйце час, бо потым будзеце шкадаваць. З усімі ветліва вітайцеся, сцеражыцеся коней і вазоў. Ты, Вілем, не абдымай кожнага сабаку, бо ёсць злыя, якія могуць цябе ўкусіць. Не лезьце да вады разгарачаныя, не піце. Ты, Янік, не з'еш свой хлеб раней часу, каб потым не прасіць у іншых. Ну, ідзіце з Богам. Надвячоркам мы з Адэлькай выйдзем вам насустрач.

— Бабуля, не забудзьцеся пакінуць нам абед і ўсё, што будзеце есці, — прасіў Ян.

— Ідзі, дурненькі, ці забывалася на вас я хоць калі-небудзь? — смяялася бабуля.

Перахрысціўшы дзяцей, яна ўжо хацела вярнуцца, але раптам нешта прыгадала.

— Калі раптам сустрэне навальніца па дарозе, хоць наўрад ці яна сёння будзе, не бойцеся: ідзіце ціхенечка сваім шляхам і маліцеся Богу. Не спыняйцеся пад дрэвам: маланка часта б'е ў дрэва. Зразумелі?

— Зразумелі, бабуля, бацька нам ужо пра такое казаў.

— Ну, тады ідзіце з Богам, пакланіцеся ад мяне пану настаўніку.

Бабуля з гэтымі словамі хутка павярнулася, каб дзеці не ўбачылі слёзы, якія міжволі каціліся з яе вачэй. Сабакі скакалі каля хлопчыкаў, думаючы, што яны ідуць на шпацыр. Ян растлумачыў ім, куды яны накіроўваюцца, і стаў іх адганяць.

Бабуля паклікала сабак, і тыя пабеглі за ёю, увесь час азіраючыся ў надзеі, што іх паклічуць. Азірнулася неаднойчы і бабуля, а калі пераканалася, што дзеці перайшлі масток, на якім іх чакала Манчынка, не спыняючыся пайшла дахаты. Увесь дзень бабуля была задумлівая і без усялякай мэты хадзіла па доме, нібы кагосьці шукаючы. Ледзьве зязюля на гадзінніку пракувала чатыры, бабуля ўзяла пад паху верацяно. Паклікаўшы Адэльку, яна сказала:

— Пойдзем, дзяўчынка, пойдзем школьнікам насустрач, пачакаем іх каля млына.

Яны пайшлі.

Каля статуі пад ліпамі сядзелі пан бацька і пані мама, некалькі завознікаў стаяла побач.

— Ці не ідзеце сустракаць кампанію? — спытала пані мама здалёк, — мы таксама чакаем Манчу. Сядайце побач з намі, бабуля!

Бабуля села.

— Што ў вас новага? — спыталася ў пана бацькі і іншых.

— Я вось апавядаю, што на гэтым тыдні рэкруцкі набор, — азваўся адзін з завознікаў.

— Няхай Бог дапаможа, — уздыхнула бабуля.

— Ба, мілая бабуля, шмат слёз пральецца. Думаю, што і ў Мілы душа ў пятках апынулася, — сказала пані мама.

— Так заўсёды бывае, калі хлопец ладны, — усміхнуўся пан бацька і прыжмурыў вока. — Калі б не яго прыгажосць, не баяўся б цяпер салдатчыны, але дачка старасты Люцыя зусім ад рэўнасці звар'яцела, злая на Мілу, вось яму і насаліла.

— Можа быць, бацька Мілы паправіць справу, — уздыхнула бабуля, — Якуб толькі на гэта і спадзяецца, бо на Калядын аканом адмовіўся ўзяць яго на панскі двор.

— Ну, — пачаў адзін з завознікаў, — стары Міла не пашкадуе для такога выпадку сотню-другую.

— Дзве сотні, браток ты мой, тут мала, — сказаў пан бацька, — а стары Міла больш даць і не можа, бо жывёлы ў яго

няшмат, а колькі дзяцей на ім! Што і казаць, найлепш бы Якуб сабе дапамог сам, каб ажаніўся з дачкой старасты Люцыяй. Але сілком не будзеш мілы. Думаю, каб Міла мусіў выбіраць, то хутчэй бы пайшоў у салдаты, чым стаў зяцем старасты.

— Ну, бяда дык бяда, — пагадзіўся адзін з завознікаў, — хто ажэніцца з Люцыяй, не можа прасіць: «Не карай мяне, Божа», — бо будзе пакараны дастаткова.

— Больш за ўсіх мне шкада Крыстлу. Што з ёю будзе, — сказала бабуля.

— Што ж, дзяўчына паплача і ўсё, — прыжмурыўся пан бацька, — Якубу будзе горш.

— Той, хто супраць волі ідзе ў салдаты, цяжка прызвычайваецца, але ў рэшце рэшт прывыкае, як і кожны іншы. Я гэта добра ведаю, пан бацька, як гэта бывае. Майму нябожчыку Іржы — царства яму нябеснае — цяжка прыйшлося, ды і мне з ім разам. Толькі ў нас усё па-іншаму атрымалася, чым у Мілы з Крыстлаю. Іржы атрымаў дазвол на жаніцьбу, мы пабраліся з ім, і жылі мы добра. Тут такога быць не можа, і няма чаму дзівіцца, што Міла ідзе ў войска без усялякага жадання. Толькі падумайце, што трэба чатырнаццаць гадоў чакаць! Ну, можа, усё абыйдзецца яшчэ, — сказала старая, і твар яе ў адзін момант пасвятлеў, бо яна здалёк убачыла, што ідуць дзеці. Тыя ж, заўважыўшы бабулю, пусціліся бегчы.

— Што, Манча, галодная? — спытаўся пан бацька, калі дачка з ім прывіталася.

— А як жа, тата, усе мы галодныя, бо ніхто не абедаў, — адказала дзяўчынка.

— А той акраец хлеба, булкі, сушаная садавіна. Ці гэта была раса? — пан бацька закруціў у руцэ табакерку.

— Ну, тата, ці ж гэта абед? — засмяялася дзяўчынка.

— Такі вялікі шлях прайсці і столькі вучыцца, як жа ж тут не адчуць голад, ці не праўда, дзеці? — усміхнулася бабуля і, сунуўшы верацяно пад паху, дадала:

— Ідземце ж хутчэй, каб вы не памерлі з голаду.

Усе пажадалі адзін другому добрай ночы. Манчынка нагадала Барунцы, што будзе заўтра чакаць на мосце, і пабегла ўслед за маці да млына. Барунка ўзяла бабулю за руку.

— Апавядайце мне цяпер, як вам там было, чаму вучылі ў школе, як вы сябе там паводзілі? — пыталася бабуля па дарозе.

— Паслухайце, бабуля, я bankaufser, — хутка сказаў Ян, скачучы перад бабуляю.

— Скажы, калі ласка, хлопчык, што гэта такое? — спыталася бабуля.

— Ведаеце, бабуля, апошні ў радзе павінен сачыць за паводзінамі ўсіх, хто сядзіць з ім на адной лаўцы, а калі хто не слухаецца, таго запісваць, — растлумачыла Барунка.

— Мне здаецца, што такога вучня клічуць назіральнікам, толькі ім заўсёды робяць самага паслухмянага і ўзорнага вучня. Не мог жа пан настаўнік адразу зрабіць Яна назіральнікам.

— Вось Копржываў Тонік і наракаў на нас, калі мы ішлі са школы, што калі б мы не былі Прошкавы, настаўнік з намі гэтак бы не насіўся, — скардзілася Барунка.

— Ну, гэта не так, — сказала бабуля, — пан настаўнік не будзе патураць вам. Калі тое заслужыце — пакарае, як і Тоніка. А зрабіў ён гэта дзеля таго, каб вы цанілі яго давер, ахвотна хадзілі ў школу і імкнуліся быць добрымі вучнямі. А чаму вас там навучылі?

— Мы пісалі дыктоўку, — адказалі Барунка і хлопцы.

— А што гэта такое?

— Пан настаўнік чытаў нам уголас па кнізе, а мы пісалі, а потым перакладалі з нямецкай мовы на чэшскую і з чэшскай на нямецкую.

— І што, дзеці разумелі нямецкую мову? — здзівілася бабуля, імкнучыся даведацца пра ўсе школьныя справы, як гэта рабіла княгіня, нягледзячы на тое, што на гэты конт яна мела ўласную думку.

— Ах, бабуля, ніхто не разумее нямецкай мовы, толькі мы троху, таму што дома вучылі і бацька з намі размаўляў па-

нямецку. Але гэта нічога не значыць, што не разумеюць, галоўнае, каб урок вывучылі, — растлумачыла Барунка.

— Але як яны яго вывучаць, калі не разумеюць нічога ў нямецкай мове?

— Таму іх і караюць за тое, што не робяць гэта добра; пан настаўнік ставіць палачкі ў чорнай кнізе, выводзіць да дошкі і ганьбіць, а часам нават па руцэ б'е. Сёння павінна была стаяць ля чорнай дошкі старастава Аніна, якая сядзіць побач са мною, яна яшчэ ні аднаго разу не напісала дыктоўку па-нямецку. Яна мне скардзілася, што не можа падрыхтавацца да ўрока, і са страху нічога не ела. Я ёй усё напісала і атрымала ад яе дзве гамолкі* за гэта.

— Табе не трэба было браць, — сказала бабуля.

— Я і не хацела браць, але яна сказала, што мае яшчэ дзве. Яна была такая задаволеная, што я напісала ўрок, што паабяцала кожны дзень прыносіць мне чаго-небудзь, калі я буду ёй дапамагаць у нямецкай мове. Чаму ж мне не дапамагчы ёй?

— Дапамагаць дапамагай, але не рабі за яе ўрокі, бо інакш яна не навучыцца.

— Ну дык што з таго? Ёй і не патрэбна. Мы вучым нямецкую мову толькі таму, што так хоча пан настаўнік.

— Ён таму гэтага хоча, каб з вас выйшлі адукаваныя людзі, і чым больш будзеце ведаць, тым лягчэй праб'ецеся на сваю дарогу. А нямецкая мова спатрэбіцца: бачыце, я нават з вашым бацькам пагаварыць не магу.

— Але ж тата вас разумее, і вы яго таксама, хоць і не ведаеце нямецкую мову. У Жлічы размаўляюць толькі па-чэшску, таму не абавязана Аніна валодаць нямецкай моваю. Яна казала, што калі захоча навучыцца мове, то пойдзе да немцаў. Пан настаўнік думае па-іншаму. Ах, галубка, бабуля, ніхто не хоча вучыцца пісаць дыктоўку па-нямецку, гэта так цяжка. Вось калі б па-чэшску — то ішло б як «Ойча наш».

* Гамолка — невялікі сухі сыр круглай формы.

— Ну, вы яшчэ малыя, каб разважаць, слухайцеся і вучыцеся ахвотна. А што хлопцы, добра сябе паводзілі?

— Так, толькі Янік, калі настаўнік выйшаў з класа, пачаў з іншымі хлопцамі скакаць па лаўках. Я яму казала...

— Ты мне казала? Я сам перастаў, калі пачуў, што настаўнік ідзе!

— Так я даведалася пра цікавыя рэчы, ты павінен глядзець за іншымі, а сам дурэеш. Як жа гэта так? — здзівілася бабуля.

— Ах, бабуля, — азваўся Вілем, які пакуль сядзеў ціха і паказваў Адэльцы вялікі кавалак салодкавага кораня і лісток сусальнага золата, якія выменяў у нейкага хлопца ў школе за крэйцэр. — Ах, бабуля, каб вы толькі ведалі, якія невыхаваныя хлопцы ёсць у школе, вы б жахнуліся! Скачуць па лаўках, б'юцца, а наглядальнікі разам з імі.

— Божа ж ты мой! І што ж настаўнік на гэта кажа?

— Гэта яны робяць, калі настаўнік адыходзіць. А калі прыходзіць, то ўсе займаюць свае месцы, кладуць рукі на сталы і сядзяць ціха.

— Якія свавольнікі! — уздыхнула бабуля.

— А дзяўчаткі ў лялькі гуляюць, я сам бачыў, — скардзіўся Ян.

— Усе вы кветкі з чортавага саду, настаўнік павінен мець анёльскае цярпенне, — абагуліла бабуля.

Дзеці яшчэ доўга распавядалі пра школу, пра дарогу туды і назад, бо гэта было іх першае падарожжа, і яны так ганарыліся сваёй самастойнасцю, нібы вярнуліся з Парыжа.

— А дзе тыя гамолкі? Вы іх з'елі? — спыталася бабуля, імкнучыся даведацца, што елі дзеці, бо клапацілася пра іх здароўе.

— Адну мы з'елі, другую я хацела прынесці дахаты, але пакуль пісала на дошцы, Копржываў выцягнуў яе ў мяне з сумкі. Ён якраз ззаду сядзіць. Скажы я нешта, ён бы мяне збіў, калі мы выйшлі са школы, ён страшны задзіра.

Бабуля не ўхваліла дзяцей, у чым яны праўдзіва прызналіся, але сама падумала: «І мы не былі лепшымі».

Дзеці ведалі, што бабуля больш лагодная, чым маці, і што яна скрозь пальцы глядзіць на дзіцячыя свавольствы хлопцаў, дазваляла яна падурэць і Барунцы. Вось чаму яны былі больш шчырыя з бабуляю, чым з маці, якая пра ўсё судзіла вельмі строга.

## XIV

Праз некалькі дзён пасля першага траўня, у чацвер — дзень, калі ў дзяцей не было заняткаў у школе, яны дапамагалі бабулі паліваць у агародчыку кветкі і вінаград, які ўжо віўся па сцяне. Акрамя таго, кожны паліваў сваё дрэўца. У чацвер кожны меў шмат спраў: ажно тры дні Барунка не бачыла сваіх лялек, хлопчыкі не ганялі драўляных коней; вазкі, дудкі, мячыкі — усё гэтыя дні ляжала ў куце. У галубятню ніхто не зазіраў, а трусікаў карміла Адэлька. Сёння трэба было нагуляцца за тры дні! Калі закончылі паліваць, бабуля дазволіла дзецям займацца сваімі цацкамі, а сама ўладкавалася на лавачцы з дзёрану пад кустом бэзу і пачала прасці: яна ні хвілінкі не магла сядзець без справы. Была сумная, не спявала, як звычайна, і нават не заўважыла, як чорная курыца ўвайшла праз адкрытую калітку ў агародчык, а паколькі яе не чапалі, пачала разграбаць градку. Шэрая гуска пасвілася ля плоту, яе жоўценькія гусяняткі прасоўвалі галоўкі ў шчыліны і з цікаўнасцю зазіралі ў агародчык. Бабуля вельмі любіла гэтых гусянятак, але цяпер нават не звярнула на іх ўвагі. Думкі перапаўнялі яе, мільгалі ў галаве. Атрымалі весткі з Вены ад Яна, што не прыедуць у палове траўня, таму што цяжка захварэла графіня Гартэнзія. Калі дасць Бог ёй здароўя, то, можа, княгіня зазірне ў свой маёнтак, але як і калі гэта адбудзецца, дакладна сказаць немагчыма. Пані Тэрэза, чытаючы ліст, плакала, дзеці таксама плакалі. У Вілема заставалася яшчэ некалькі рысак на дзвярах, а тут раптам аказалася, што ўся яго задумка дарэмная. А добрая, мілая Гартэнзія маг-

ла памерці, гэтая думка не ішла з яе галавы. Бабуля не забывалася пры кожнай малітве чытаць «Ойча наш» за яе здароўе. Дзеці хутка супакоіліся, а пані Тэрэза, і без таго маўклівая, яшчэ менш гаварыла, і калі б бабуля ні зайшла да яе ў пакой, заўсёды бачыла яе заплаканай. Бабуля раіла ёй пайсці некуды ў госці, каб развеяцца, і радавалася кожны раз, калі Тэрэзка некуды выходзіла. Старая добра разумела, што дачцэ сумна адной без мужа, што яна хацела б жыць у шумным горадзе, дзе правяла шмат гадоў. Шлюб яе вельмі шчаслівы, але дрэнна было тое, што Ян вымушаны быў большую частку года знаходзіцца ў Вене, а яна — жыць без яго ў страху і нудоце. А цяпер не бачыла мужа, а дзеці бацьку ўжо цэлы год. «Не жывуць, а чакаюць жыцця», — уздыхнула бабуля. З Янам збіралася прыехаць Іаганка, другая дачка бабулі. Яна хацела сустрэцца з маці, падзяліцца з ёю радасцю і параіцца, бо рыхтавалася браць шлюб. Бабуля вельмі спадзявалася, што ўбачыць дачку, а цяпер яе надзеі не спраўдзіліся. Акрамя таго, турбаваў яе лёс Мілы. Міла быў сумленным, прывабным хлопцам, Крыстла — цудоўнай дзяўчынай, бабуля іх любіла і жадала, каб яны пабраліся. «Калі роўны з роўным сыйдзецца, то Бог такому шлюбу радуецца!» — казала. Але шчасцю іх пагражала небяспека. Міла з іншымі хлопцамі накіроўваўся раніцай у воінскі лагер. Менавіта пра гэта бабуля думала, а таму была сумнай.

— Бабуля, толькі паглядзіце, Чорная грабае. Пачакай ты, нягодная! Кш-кш-кш! — пачуўся голас Барункі, і бабуля, узняўшы галаву, убачыла вылятаючую з агародчыка курыцу і вырытую на градцы яму.

— Ах ты, нягодніца, як хітра забралася! Вазьмі граблі, Барунка, выпраў градку. Глядзіце, і гусі тут жа! Гэта яны за мною. Я забылася, што трэба іх карміць, ды на седала, — бабуля паклала верацяно і выйшла за брамку. Барунка засталася ў агародчыку, каб разраўняць зямлю на градцы. Праз некаторы час прыйшла Крыстла.

— Ты тут адна? — спыталася, зазірнуўшы праз плот.

— Заходзь, бабуля хутка вернецца, пайшла карміць птушак, — адказала Барунка.

— А дзе маці?

— Пайшла ў горад праведаць куму, ты ж ведаеш, маці плача, бо бацька, магчыма, у гэтым годзе не прыедзе. Бабуля маці пасылае ў горад, каб тая трошкі развеялася. Мы ўсе так бедчакалі бацьку і графіню таксама, але нам не пашчасціла. Бедная Гартэнзія! — Пасля гэтых слоў Барунка ўкленчыла на адно калена на сцежцы, абаперлася локцем на другое калена і, паклаўшы галаву на далоні, задумалася. Крыстла сядзела пад бэзам, склаўшы рукі на грудзях і з паніклаю галавой. Яна была моцна ўсхваляваная, вочы яе апухлі ад слёз.

— Мабыць, гэта цяжкая хвароба, гарачка. Не дай Бог, каб яна памерла! Крыстла, ты ніколі не хварэла на гарачку? — спытала, трошкі памаўчаўшы, Барунка.

— Не, я ніколі не хварэла, але што будзе з маім здароўем цяпер, не ведаю, — з сумам адказала Крыстла.

Толькі цяпер Барунка ўважліва на яе паглядзела і, убачыўшы як змяніўся яе твар, ускочыла, падышла да яе, пытаючыся:

— Што з табою? Ці Мілу ўзялі?

Замест адказу Крыстла залілася слязьмі. У гэта момант з'явілася бабуля.

— Ужо вярнуліся? — з трывогаю спытала яна хутка.

— Не, яшчэ не вярнуліся, — пакруціла галавою Крыстла, — але дарэмна спадзявацца. Люцка, кажа, паклялася, што калі Мілу не атрымае, то і мне яго не бачыць. А што яна захоча, тое стараста і робіць, ён ёю вельмі ганарыцца. Аканом дагаджае старасту. Аканомава дачка не можа дараваць Мілу, што ён пасмяяўся з яе каханага, і таксама падлівае масла ў агонь. І шмат яшчэ чаго, мілая бабуля, пазбаўляе мяне надзеі на шчасце.

— Але бацька Мілы быў у канцылярыі, як я чула, ды аднёс туды багата грошай. Можа, што і выйдзе?

— Гэта адзіная наша надзея: калі яго паслухалі, то, можа, што і зробяць. Толькі неаднойчы было, што выслухоўвалі,

але не дапамагалі. Скажуць, што не атрымалася, а чалавек спадзяваўся.

— Спадзяюся, што так з Мілам не здарыцца. А калі б да тых грошай, што бацька Мілы аднёс у канцылярыю, ды твой бацька дадаў бы сваіх. Выкупілі б Мілу ды пазбавіліся клопату.

— Калі б не было «калі б», мілая бабуля. Па-першае, зніклі тыя грошы, што даў стары Міла, па-другое — няма ў майго бацькі вольных грошай, усе ў гаспадарцы, а калі б і меў, то, нягледзячы на тое што ён любіць Якуба і не перашкаджае мне пайсці за яго, усё ж хацеў бы, каб зяць у дом прынёс, а не знёс. І нарэшце, калі б бацька і пажадаў даць грошы, то Міла не ўзяў бы. Ён з гонарам і не захоча, каб мой бацька плаціў за яго.

— Ён, магчыма, думае: «Возьмеш заможную жонку, то не будзеш гаспадаром у доме». Кожны мужчына з гонарам так лічыць, мілая дзяўчына. За гэта яго асуджаць нельга. Ды што казаць пра тое, у чым, пэўна, не будзе патрэбы, а калі б яна і была, то наўрад ці такое можна зрабіць.

— Памылка, вялікая памылка, што яны такое зрабілі з італьянцам. Раней я з гэтага смяялася, а цяпер плачу, — казала Крыстла. — Калі б не здарылася тое, Міла ўладкаваўся б у замак, праслужыў два гады і пазбавіўся б рэкрутчыны. Больш за ўсё пакутую я, што адбылося ўсё па маёй віне.

— Дурненькая! Ты настолькі ж вінаватая, наколькі гэтая маргарытка, якую мы абедзьве захацелі б сарваць і пасварыліся б праз гэта. Значыць, і я павінна вінаваціць сябе, бо ў нябожчыка Іржы праз мяне адбыўся падобны выпадак, як і ў цябе. Галубка мая, калі чалавекам валодаюць гнеў, рэўнасць, каханне або якое іншае пачуццё, ён разважаць не ў стане. У такія хвіліны ён і жыцця свайго не пашкадуе. Што зробіш, і самы дасканалы чалавек мае слабыя месцы.

— Бабуля, вы яшчэ летась на імянінах пана Прошака казалі, што ваш нябожчык муж нешта падобнае ўчыніў, і нібы яго пакаралі, а сёння вы ўспомнілі яшчэ раз. Я ўсё забывалася спытаць, раскажыце мне сёння, прашу вас. Прыйдзе час,

мінуюць цяжкія думкі, ды і сядзець пад бэзам так прыемна, — прасіла Крыстла.

— Ну, добра, — пагадзілася бабуля. — Ты, Барунка, ідзі прыглядзі за дзецьмі, каб не лезлі да ракі.

Барунка пайшла, і бабуля пачала:

— Была я ўжо дарослай дзяўчынай, калі Марыя-Тэрэзія пачала вайну з Прусіяй. Праз нешта яны не мірыліся. Імператар Іосіф з войскам падышоў да Ярамержа, а прусак засеў на мяжы. Усюды па вёсках была размешчана армія. У нашай хаце змясцілі некалькі салдат з афіцэрам. Гэта быў чалавек легкадумны, з тых, хто лічыць, што кожная дзяўчына лёгка трапляе ў яго сетку, як муха да павука. Я адразу яго прабрала, але ён увагі на мае словы не звярнуў, як гавораць, плюнь у вочы, а ён скажа, што божая раса. Калі я ўбачыла, што словы не даходзяць, то зрабіла так, каб не сустракацца з ім без сведкаў. Але сама ведаеш, колькі разоў на дзень прыходзіцца дзяўчыне бегчы то на поле, то па траву на луг, выпадае і дома адной застацца. У нас за дзяўчатамі ніхто не наглядае, і патрэбы ў гэтым няма. Дзяўчына сама павінна глядзець сябе. І тут магчымасці заўсёды ёсць для дурнога чалавека праследаваць дзяўчыну. Але Бог мяне ахоўваў. Па траву я хадзіла заўсёды рана, калі яшчэ ўсе спалі. Я з маладосці рана ўставала, маці заўсёды казала: «Хто рана ўстае, таму Бог дае». І сапраўды, хоць асаблівай карысці з таго я не мела, дык хоць радасць. Калі выходзіш рана ў сад або поле і бачыш зялёную траву, на якой блішчыць раса, то сэрца радуецца. Кветкі стаяць, нібы дзяўчаты, з узнятымі галовамі ды яснымі вочкамі. А пах які! Ад кожнага лісточка, ад кожнай траўкі прыемны пах. Птушкі нада мною спяваюць, Бога славяць, а вакол ні душы. А як пачне з-за гор сонца ўзыходзіць, здаецца, што я ў касцёле стаю. Заспяваеш тут, і работа пойдзе лёгка. Аднойчы кашу траву, а было гэта ў садзе, і чую за сабою: «Памагай Бог, Мадленка!» Азірнулася, каб адказаць: «Дай, Божа!», але слова не магла вымавіць, аж серп выпаліўся з рук.

— Гэта быў той афіцэр? — перапыніла яе Крысцінка.

— Не спяшайся, памалу, — спыніла яе бабуля і працягвала: — не быў гэта афіцэр, праз яго я серп з рук не выпусціла б. Здарылася гэта са мной хутчэй ад радасці, чым са страху. Перада мной стаяў Іржы! Павінна табе сказаць, што гады тры я яго не бачыла. Ты ж ведаеш, што Іржык быў сынам нашай суседкі Новатны, той самай, якая разам са мной размаўляла з імператарам Іосіфам.

— Так, гэта ведаю. Яшчэ вы казалі, што замест святара з яго выйшаў ткач.

— Ну, так. У гэтым быў вінаваты яго дзядзька. Навука хлопцу давалася лёгка, вучыўся, нібы граў, калі мой бацька ездзіў за ім да Рыхова, то чуў толькі, як Іржы хваляць. У нядзелю ён прыязджаў дахаты і заўсёды чытаў суседзям Біблію замест майго бацькі. Мой бацька добра чытаў, але Іржык чытаў так, што заслухаешся. Новатна казала: «Я гэтага хлопца ўжо бачу святаром». Мы ўсе да яго так ставіліся, нібы ўжо быў святаром, і калі нехта штосьці рабіў, то імкнуўся даслаць яму нечага смачнага. Новатна, часам, скажа: «Божа мой, чым мне вас аддзячыць?» А ёй адказвалі: «Стане Іржык святаром, то памоліцца за нас». Мы разам раслі, куды адзін, туды і другі. Але калі прыехаў на вакацыі ў другі, а потым у трэці раз, у мяне ўжо не было той смеласці, пачала я яго саромецца. І калі часам за мною прыходзіў да саду і хацеў абавязкова дапамагчы мне несці траву, то мне ўжо здавалася, што я грашу, калі дазваляю яму мне дапамагаць. Казала я яму, што святару гэта не да твару, а ён смяяўся і казаў, што столькі яшчэ вады сплыве, пакуль ён святаром стане. Бывае так, што чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца. Раптам, калі быў на трэціх вакацыях, прыйшло патрабаванне з Кладска ад дзядзькі, каб прыехаў Іржы да яго. Быў той дзядзька ткачом і рабіў прыгожыя ўзорыстыя рэчы, чым нядрэнна зарабляў, а паколькі не меў уласных дзяцей, то ўспомніў пра Іржыка. Кума не хацела яго пасылаць; мой жа бацька ўгаворваў яе не ўтрымліваць хлопца, можа, кажа, знойдзе ён сваё шчасце, ды

і дзядзька мае на пляменніка нейкае права. Пайшоў Іржы. Кума і мой бацька праводзілі яго да Вамбержыцэ, куды яны накіраваліся на набажэнства. Яны вярнуліся, а Іржык застаўся. Засумавалі мы па ім, больш за ўсіх кума і я. Толькі кума пра свой сум усім скардзілася, а я нікому нічога не сказала. Дзядзька паабяцаў, што будзе клапаціцца пра яго, як пра свайго роднага сына. Новатна ўсё думала, што Іржык у Кладску ходзіць у школу, і не губляла надзеі ўбачыць яго святаром. А выйшла, што праз год ён прыйшоў наведаць нас ужо выдатным ткачом! Кума моцна плакала, але што зробіш, да таго ж Іржы, суцяшаючы маці, прызнаўся, што не меў ніякай ахвоты станавіцца святаром. Навучацца ён быў не супраць, толькі дзядзька не раіў; ён растлумачыў пляменніку, як доўга неабходна вучыцца ў школах, потым шукаць працу, пакуль не заробіш кавалак хлеба. Лепей узяцца за рамяство, яно хутчэй дасць заробак. Ткацтва, казаў дзядзька, залатое дно, асабліва для такога адукаванага чалавека, як яго пляменнік. Адным словам, Іржы паддаўся ўгаворам і стаў вучыцца ткацкаму рамяству. А быў ён упарты ва ўсім, за што не возьмецца і справа ў яго пайшла. За год дзядзька перадаў яму сваё рамяство і паслаў за вопытам па свеце. Толькі перад гэтым Іржык павінен быў наведаць у Берліне аднаго знаёмага дзядзьку ды там яшчэ падвучыцца. Іржы найперш прыйшоў дахаты, у Чэхію. У той раз ён прынёс мне з Вамбержыцэ гэтыя фісташкавыя пацеркі.

З гэтымі словамі бабуля выцягнула з-за пазухі пацеркі, з якімі ніколі не расставалася, паглядзела на іх з любоўю, пацалавала і зноў схавала.

— Бацька мой, — працягвала аповед старая, — не асуджаў Іржы за тое, што заняўся рамяством, тлумачыў Новатне, каб не смуткавала, што яе надзеі не спраўдзіліся. «Хто ведае, можа, гэта да дабра, — казаў. — Не перашкаджайце хлопцу, што хацеў, тое і атрымаў. Няхай хоць кароў пасвіць, толькі б сваю справу разумеў і заставаўся сумленным і годным чалавекам, тады і павага да яго будзе, не горшая, чым у іншага

пана». Іржы быў задаволены, што кум на яго не гневаецца, бо паважаў яго як роднага бацьку. І Новатна нарэшце здалася. Дык інакш і быць не магло, бо Іржык быў яе адзіным сынам, яна яго моцна любіла і не магла жадаць, каб адчуваў сябе няшчасным у сваёй справе.

Пабыў у нас Іржы некалькі дзён, а потым пайшоў па свеце і тры гады мы яго не бачылі, мала што пра яго чулі, і раптам ён перада мной. Можаш сабе ўявіць, як я ўзрадавалася. Я адразу ж яго пазнала, нягледзячы на тое, што ён вельмі змяніўся: стаў вельмі высокім, пры гэтым настолькі ладным, што цяжка было знайсці яму роўнага. Нахіліўся ён да мяне, узяў за руку і спытаў, чаму я так напалохалася.

— Як жа не напалохацца, — кажу, — ты нібы з неба зваліўся. Адкуль ты прыйшоў?

— Іду з Кладска, там набіраюць рэкрутаў; дзядзька баіцца, што і мяне завярбуюць. Як толькі я вярнуўся дахаты, ён паслаў мяне ў Чэхію ў надзеі, што тут лягчэй схавацца. Мне пашчасціла прайсці праз горы, і вось я тут.

— Ратуй Божа, каб цябе тут не схапілі! А што кажа твая маці?

— Я яшчэ не бачыў яе. Прыйшоў у дзве гадзіны ночы і не хацеў будзіць старую. Лягу, падумаў я, на траўку пад Мадленкіна акенца, яна ранняя птушачка, пабачуся з ёю і пайду дахаты. І лёг я на зялёную пярыну. Праўду пра цябе кажуць на вёсцы: яшчэ жаваранак не спявае, а Мадленка ўжо траву нясе. Толькі світаць пачало, а ты ўжо косіш. Я бачыў, як ты ля студні мылася, валасы расчэсвала, ледзьве ўтрымаўся, каб не падбегчы, ды ты пачала маліцца, а я не хацеў табе перашкаджаць. Ну, а цяпер кажы, ці кахаеш ты мяне?

Вось такія словы ён мне казаў. Як жа я магла прамаўчаць, што кахаю? Мы з малых гадоў кахалі адзін аднаго, і ніколі другога ў мяне і ў думках не было. Пагаварылі трошкі, і Іржы пабег дахаты, а я пайшла паведаміць бацьку пра яго прыход. Бацька быў мудрым чалавекам, яму не спадабалася, што Іржы вярнуўся ў такі небяспечны час.

— Не ведаю, — сказаў ён, — ці пазбегне Іржы белага мундзіра*. Зробім усё магчымае, каб зберагчы хлопца. А вы маўчыце, што ён тут.

Новатна акрамя радасці адчувала страх, бо Іржы ўжо быў у рэкруцкіх спісах і выратаваўся толькі тым, што ніхто не ведаў, дзе ён знаходзіцца. Тры дні сядзеў схаваны на гарышчы на сене. Удзень сядзела з ім маці, а пад вечар праслізгвала да яго я, і мы размаўлялі пра рознае. Я так за яго баялася, што цэлы дзень хадзіла, як згубленая, а пра афіцэра і думаць забылася і не аднойчы траплялася яму на вочы. Ён і ўявіў, што я раздобрылася і пачаў спяваць старую песню; я яму казаць не перашкаджала і не гнала так груба, як перад гэтым, бо баялася за Іржыка. Магу сказаць, што мы яго так добра схавалі, што акрамя роднай маці, мяне і маіх бацькоў ніхто не ведаў пра яго. На трэці вечар іду ад Іржыка дахаты, трохі на гарышчы затрымалася, было ўжо ўсюды ціха і цёмна, і раптам мне насустрач выбег афіцэр. Ён высачыў, што я па вечарах хаджу да кумы, і затаіўся ля саду. Што рабіць? Я магла б закрычаць, але, ведаючы, што Іржыку на гарышчы чутно кожнае гучнае слова, баялася, што ён сябе раскрые. Паспадзявалася я на свае сілы. А як убачыла, што ад афіцэра дабром не адвяжашся, пусціла ў ход кулакі. Не смейся, дзяўчына, не смейся, не глядзі на мяне, якая я сёння. Была я невялікай, але спорай, рукі мае, звыклыя да цяжкай працы, былі цвёрдымі. Я яго добра б адхвастала, калі б не пачаў ён, раз'юшыўшыся, крычаць і сварыцца. Ну і выдаў сябе. Раптам, як маланка, кінуўся да яго Іржык і схапіў за горла. Пачуўшы сварку, ён выглянуў з дахавага акенца, пазнаў мяне ў цемры і тут жа саскочыў уніз. І як толькі галаву не разбіў! Ды ці думаў ён пра гэта: яго не ўтрымаў бы і палаючы штабель дроў, калі б гарэў пад ім.

— Ці гэта спосаб, пан, нападаць на сумленную дзяўчыну ўночы? — крычаў Іржы.

* Такую форму насілі ў той час салдаты аўстрыйскай арміі.

Я яго супакойвала, прасіла, каб падумаў, што ён робіць, але ён трымаў пана, нібы ў клешчах, трасучы ад злосці. Нарэшце ён даў угаварыць сябе.

— У іншы час і ў іншым месцы я з вамі інакш пагаварыў бы, цяпер не да таго. Слухайце і памятайце, што гэтая дзяўчына мая нявеста, і калі вы не пакінеце яе ў спакоі, то размаўляць мы будзем інакш. Цяпер ідзіце!

Потым ён перакінуў пана праз плот, як грушу-гнілушку, мяне абняў і кажа: «Памятай пра мяне, Мадленка, перадай прывітанне маці і будзьце здаровыя, а мне трэба хутка знікнуць, пакуль мяне не схапілі. За мяне не бойцеся, я ведаю кожную сцежку і напэўна дайду да Кладска, дзе знайду, як схавацца. Калі ласка, прыходзь на набажэнства ў Вамбержыцэ, там мы і ўбачымся».

Не паспела я апамятацца, як ён знік. Я адразу пабегла да Новатны расказаць, што здарылася, а потым пайшла да нашых. Усе мы нібы галаву згубілі ад страху, кожнага шоргату палохаліся. Афіцэр паслаў салдатаў па ўсіх дарогах. Ён не ведаў Іржы і думаў, што ён з іншай вёскі і яго дзе-небудзь схопяць. Але той шчасліва ўцёк. Я зноў пачала пазбягаць афіцэра, а той нічога лепшага не прыдумаў, як пусціць пра мяне па вёсцы чуткі, што сапсаванай дзяўчынай была. Але мяне ўсе ведалі, і з яго нагавораў нічога не атрымалася. На шчасце, прыйшоў загад, каб войска адышло назад: прусакі перайшлі мяжу. З гэтай вайны нічога не выйшла, і сяляне назвалі яе «калачовай», таму што салдаты, калі паелі на вёсцы ўсе булкі, вярнуліся дахаты.

— А што стала з Іржы? — спытала Крыстла, прагна ўслухоўваючыся ў кожнае бабуліна слова.

— Да самай вясны мы пра яго нічога не ведалі; у гэты небяспечны час усе сядзелі па хатах. Жылі мы як на іголках. Прыйшла вясна — усё няма звестак. Пайшла я на набажэнства, як мы і дамаўляліся з Іржы. Ішло туды шмат знаёмых, і мае бацькі ім мяне даручылі. Наш праваднік шмат разоў быў у Кладску, ведаў там кожны куток, вось бацька і прасіў, каб мяне туды прывёў.

— Зойдзем да Лідушкі, адпачнем троху, — сказаў ён, калі мы дайшлі да горада. Увайшлі мы да малога шынка на прадмесці. Да пані Лідушкі заходзілі ўсе, хто ішоў з Чэхіі: яна з нашых мясцін. У той час у Кладску яшчэ ўсюды гаварылі па-чэшску. Так заўсёды бывае, што людзі, якія нарадзіліся ў адной краіне, заўсёды рады сустрэцца з землякамі. Пані Лідушка нас з вялікай радасцю прывітала, павяла ў сваю святліцу.

— Калі ласка, сядайце, я вярнуся, толькі прынясу вам квасу з садавіны, — сказала гасцінная гаспадыня і выйшла.

Сэрца маё сціскалася, як у абцугах, ці то ад радасці, што хутка ўбачуся з Іржы, ці то ад страху, што нешта адбылося, пакуль мы пра яго нічога не чулі. Раптам пачулі знаёмы голас, які прывітаў Лідушку, і яе голас паклікаў:

— Ідзіце ў святліцу, пане Іржык, там багамольцы з Чэхіі.

Дзверы хутка адчыніліся, і ўвайшоў Іржык; глянула я і нібы гром грымнуў з яснага неба. Ён быў у салдацкім мундзіры. У вачах маіх пацямнела. Падаў мне Іржы руку, абняў і са слязьмі ў голасе сказаў:

— Бачыш, Мадленка, які я нешчаслівы чалавек. Ледзьве навучыўся рамяству і пазбавіўся таго, што мне не падабалася, а сёння маю новы хамут на шыі. Ад дажджу ўцёк, а трапіў пад вадасцёк. Калі б у Чэхіі быў, то служыў бы свайму імператару, а тут мушу служыць чужому.

— Богам заклікаю, скажы, як жа так здарылася, што цябе ўзялі? — пытаюся.

— Эх, мілая, неразумная маладосць. Не паверыў я вопытнаму дзядзьку, калі ад вас уцёк, усюды мне было няўтульна, месца сабе не знаходзіў. Пайшоў я аднойчы разам з некалькімі таварышамі да шынка, не звяртаючы ўвагі на перасцярогі. Пілі мы, і, калі былі ўжо п'яныя, якраз вярбоўшчыкі паспелі.

— Нягоднікі, — перапыніла яго Лідушка, якая прынесла квас, — калі б Іржык быў у мяне, то нічога падобнага не здарылася б. Я гэтыя падманы не выношу. Вось твой дзядзь-

ка ходзіць толькі да Лідушкі. Ну, у чалавека ёсць розум, але гэтыя маладыя людзі... Што з імі рабіць, калі не маюць галавы. Але так не пакутуйце, Іржыку, вы такі малайчына, наш кароль любіць рослых салдатаў і не дасць вам доўга хадзіць без капральскага чыну.

— Ды ўжо як хочаш, — пачаў Іржы, — што здарылася, то здарылася. Мы сп'яна нічога не разумелі, вось і падманулі нас вярбоўшчыкі, а калі мы ачунялі, то і Лягоцкі, мой найлепшы сябар, і я аказаліся салдатамі. Я падумаў, што пазбаўлю сябе жыцця, але застаўся жыць. Дзядзька таксама напакутаваўся дастаткова, у рэшце рэшт ён вырашыў, што, калі нічога нельга змяніць, то трэба паспрабаваць палепшыць маё становішча. Пайшоў ён да генерала і ўпрасіў, каб я тут застаўся, бо тут хутчэй капралам буду, ну і яшчэ нешта. Толькі ты не прымай так блізка да сэрца, я шчаслівы, што цябе бачу.

Мы суцяшалі адзін аднаго як толькі маглі. Пазней адвёў мяне Іржы да дзядзькі, які нас вельмі добра прыняў. Увечары зайшоў яго сябар Лягоцкі, слаўны такі хлопец. Яны засталіся з Іржы вернымі аж да смерці. Цяпер яны абодва на тым свеце, а я яшчэ тут.

— Вы так і не вярнуліся дахаты, бабуля, таму што ўзялі шлюб з дзядуляю? — спыталася Барунка, якая паспела ўжо даўно вярнуцца, але бабуля, задумаўшыся, цалкам перанеслася ў сваіх успамінах у шчаслівыя хвіліны свайго жыцця і ўнучку не заўважыла.

— Ну, так, ні пра што іншае ён і чуць не хацеў. Дзядзька дапамог яму атрымаць дазвол на шлюб. Чакалі толькі, калі мы пойдзем на набажэнства. Іржы ўначы пайшоў, а я засталася начаваць у дзядзькі. Добры быў стары, царства яму нябеснае!

На другі дзень раніцаю Іржы прыбег і доўга з дзядзькаю раіўся. Потым спытаў у мяне: «Мадленка, скажы мне шчыра, з чыстым сумленнем, ці кахаеш мяне так, каб зносіць разам са мной усе цяжкасці, пакінуць бацьку і маці?» Я кажу, што кахаю. «Калі так, то застанься тут і

будзь маёй жонкай», — прамовіў ён і, узяўшы маю галаву ў рукі, пачаў цалаваць.

Ніколі мяне не цалаваў, не было ў нас такой звычкі, а тут ад радасці, не ведаў, бедны, што рабіць.

— А што скажа мама, што скажуць нашыя? — пытаюся, а ў самой сэрца калоціцца ад радасці і тугі.

— Што могуць сказаць, яны ж нас любяць і не захочуць, каб я памёр з гора.

— Ах, Божа мой, Іржык, нам жа павінны даць бацькоўскае благаславенне.

Іржы нічога не адказаў, але прыйшоў да нас дзядзька і, выслаўшы Іржы з пакоя, сказаў мне: «Мадленка, ты набожная дзяўчына, падабаешся мне, бачу, што Іржы будзе шчаслівы з табою, недарма ён так сумаваў па табе. Я яго адгаварыў бы, калі б ён быў іншым чалавекам, але ён мае галаву на плячах. Калі б не я, ён зусім бы, завербаваны, упаў духам. Мне ўдалося яго суцешыць абяцаннем атрымаць дазвол на шлюб. Не магу табе маніць. У Чэхію яму нельга. А калі ты вернешся дадому адна, то, магчыма, цябе і твае пачнуць адгаворваць. А калі возьмеце шлюб, то паедзем разам да Алешніц, і бацькі твае не адмовяць табе ў благаславенні. Паслязаўтра будзеце браць шлюб у ваеннай капліцы, а я займу месца вашых бацькоў, няхай уся адказнасць будзе на маім сумленні. Мадленка, паглядзі на мяне, у мяне галава белая, як снег, няўжо ты думаеш, што я здольны на ўчынак, за які не буду несці адказнасць перад Богам?» Так мне казаў дзядзька, і слёзы цяклі па яго твары. Пагадзілася я на ўсё. Іржы ледзьве не звар'яцеў ад радасці. Не мела я нічога з вопраткі, акрамя таго, што было на мне. Іржы набыў для мяне спадніцу, кофту і гранаты на шыю, астатняе справіў дзядзька. Ці бачылі вы мае гранаты, камлотавую карычневую спадніцу і блакітную кофту? Гэта тыя самыя. Багамольцы пайшлі, дзядзька даў ім з сабою ліст, дзе напісаў, што я застануся яшчэ на некалькі дзён, а пазней прыеду з ім. Больш не пісаў нічога. «Будзе лепей, калі самі скажам», — патлумачыў.

На трэці дзень раніцаю адбыўся наш шлюб, вайскова ксёндз нас абвянчаў. Пані Лідушка была пасаджонай маці, Лягоцкі — шаферам, яго сястра — сяброўкай, дзядзька і яшчэ адзін знаёмы з горада — сведкамі. Больш там не было нікога. Пані Лідушка нам падрыхтавала сняданак, а паколькі мы гэты дзень правялі ў страху і радасці, то ўспаміналі родны дом. Лідушка за сталом кпіла з Іржыка, заўважыўшы: «Вас, пане жаніх, не пазнаць, гэта ўжо не былы Іржы — твар так і зіхаціць, што не дзіўна!»

Размаўлялі пра адно, пра другое, як гэта заўсёды бывае. Іржы хацеў, каб я ў яго засталася, але дзядзька не пагадзіўся на гэта да таго часу, пакуль мы не вернемся з багамолля з Вамбержыц і не наведаем Чэхію. Праз некалькі дзён я і дзядзька паехалі ў Алешніцы. Здзіўленне, што я ўжо ўзяла шлюб, плач маці па Іржы-салдату былі такімі, што нельга апісаць. Мая маці заломвала рукі і так галасіла, што я яе пакідаю і еду з салдатам на чужыну, што мае валасы ўставалі дыбарам. Бацька, заўсёды мудры і разважлівы, вырашыў: «Цяпер ужо скончана, — заявіў ён. — Як паслалі, так і будуць спаць. Калі кахаюць адзін аднаго, то разам усё вырашаюць; ты, маці, памятаеш, як праз мяне таксама пакінула бацькоў. Такая ўжо доля кожнай дзяўчыны. Хто ж вінаваты, што Іржыка напаткала такое гора. Затое ж служба там нядоўгая. Адбудзе тэрмін і вернецца дахаты. А вы, кума, супакойцеся, Іржык — разумны хлопец і на чужыне сумаваць не будзе, ён пра гэта паклапаціўся. Ты, Мадла, не плач. Бог даў табе шчасце, і каб з тым, з кім ты ішла да алтара, ты ішла і да труны». З гэтымі словамі бацька блаславіў мяне і заплакаў. Маці нашыя таксама плакалі.

Маці мая, такая старанная, мела поўную галаву клопату. «Дзе твой розум, — папракала яна мяне, — не маеш ні пярын, ні посуду, ні сукенак, а бярэш шлюб. За ўсё сваё жыццё я не бачыла такога непарадку». Атрымала я добры пасаг, і калі ў мяне было ўсё ў парадку, я вярнулася да Іржыка і засталася з ім аж да смерці. Тая няшчасная вайна, калі б яе не было,

то былі б мы з ім дагэтуль разам. Вось бачыш, мілая дзяўчына, я таксама ведаю радасць і гора, ведаю, што такое маладосць ды свавольства, — скончыла бабуля і, ціха ўсміхнуўшыся, паклала сваю сухую руку на круглае плячо Крыстлы.

— Шмат выпрабаванняў было ў вас, бабуля, але ўсё ж такі вы былі шчасліваю, атрымалі вы тое, чаго сэрца жадала. Калі б я ведала, што буду і я пасля ўсіх выпрабаванняў шчаслівая, то ўсё перацярпела б, няхай мне давялося б чакаць Мілу чатырнаццаць гадоў! — сказала Крыстла.

— Будучыня ў руках Божых. Што будзе, то будзе, гэтага, дзяўчына, не пазбегнеш. Самае лепшае, калі ты з поўным даверам прымеш волю Бога!

— Так то яно так, ды чалавек не заўсёды можа трымаць сябе ў руках. Калі майго Якуба забяруць, то буду наракаць. Разам з ім знікне радасць, з ім я страчу сваё адзінае апірышча.

— Што ты кажаш, Крыстла! Ты што, не маеш бацьку?

— У мяне ёсць бацька, добры, барані яго Божа, але стары, бурклівы. Ён яшчэ летась хацеў, каб я выйшла замуж, каб было каму яго замяніць. Што я буду рабіць, калі Якуба забяруць у салдаты? А я за іншага не пайду, нават калі б свет дагары нагамі перавярнуўся, працаваць буду да змогі, каб бацька не бурчэў, і калі гэта не дапаможа — браць шлюб не буду. Ах, бабуля, вы не паверыце, колькі я павінна зносіць у шынку. Не думайце, што кажу пра працу, Божа барані, працы я не баюся, але тое, што даводзіцца ўвесь час чуць, выклікае ў мяне агіду.

— І ніхто табе не можа дапамагчы?

— Прабачце, але як? Шмат разоў казала я бацьку: «Бачыце, тата, як гэта ёсць, не пускайце такіх гасцей», — але ён нават заўвагу ім не робіць, а мне кажа: «Калі ласка, дзяўчына, кажы, што хочаш, толькі не будзь грубай, а то разгонім усіх наведвальнікаў, а гэта наш хлеб». Нельга мне быць грубай, нявеглівай, а калі я буду ласкаваю, то кожная п'яная морда будзе лічыць мяне агрызкам. Не, вясёлай спявачкай, як раней, я ўжо наўрад ці змагу быць. Што мне рабіць? Калі б гэта

былі нейкія марнатраўцы, то я хутка б іх супакоіла, а то ходзяць да нас аканом ды пісар з замка — з імі не пагаворыш. Я саромеюся вам казаць, як гэты стары казёл пераследуе мяне. Здаецца мне, што хоча ён Мілу выправадзіць абавязкова, бо ведае, што Міла мой абаронца, і баіцца, каб з ім не адбылося таго ж, што сталася з італьянцам. Прыкідваецца толькі, што хоча дагадзіць старасту, які помсціць Міле за дачку, а сам пры гэтым пра свой інтарэс дбае. Бацька мой баіцца, а маці, бедная, вы ж ведаеце, не жылец на гэтым свеце: больш ляжыць, чым ходзіць. Не магу я яе турбаваць. Калі б у мяне быў муж, тады іншая справа. Калі мяне нехта пакрыўдзіць, толькі скажу Міле, так ён калі не выставіць яго за дзверы, дык так прыжучыць, што чалавек глядзець на мяне злосна не будзе. Ах, бабуля, каб вы толькі ведалі, як ён кахае мяне, а я — яго! — і, апусціўшы галаву на рукі, дзяўчына змоўкла.

У гэты самы момант у агародчык нікім не заўважаны ўвайшоў Міла. Яго прыгожы твар выглядаў хваравіта, ясныя вочы затуманіліся, цёмна-каштанавыя кучаравыя валасы былі астрыжаны, а замест шапкі з выдры на яго галаве быў высокі салдацкі шлем з хваёвай галінкай. Яго выгляд напалохаў Барунку, а бабуля, склаўшы рукі на каленях, з бледным тварам прашаптала: «Дапамажы табе Бог, хлопча!»

Калі Крыстла ўзняла галаву, Міла працягнуў ёй руку і ледзьве чутна сказаў: «Я салдат, праз тры дні мушу ісці ў Градзец!»

Яна без памяці павалілася яму на грудзі.

## XV

На другі дзень, калі бабуля як звычайна ішла сустрэць дзяцей, якія вярталіся са школы, яе першымі словамі былі:

— Адгадайце, дзеці, хто да нас прыйшоў?

Дзеці трошкі задумаліся, нічога не прыходзіла ім у галаву, пакуль Барунка не ўсклікнула:

— Ці не пан Бейер, бабуля?

— Ты адгадала. Ды яшчэ не адзін, а прывёў з сабою свайго сынка.

— Ай, як я рады! Пабеглі да яго! — усклікнуў Ян і кінуўся наперад, Вілем — за ім, толькі сумкі ў іх на баках падскоквалі.

Бабуля крычала хлопцам, каб яны ішлі спакойна, а не ляцелі як звяркі, але хлопцы панесліся наперад. Засопшыся, яны ўбеглі ў святліцу, маці хацела насварыцца на іх, але пан Бейер працягнуў ім насустрач свае вялізныя рукі, узняў у паветра кожнага па чарзе і расцалаваў у абедзьве шчакі.

— Цэлы год вас не бачыў! Што вы тут рабілі, як вам было? — пытаўся ён густым басам, які гулка раздаваўся ў малой прасторы. Хлопцы не адразу адказалі, вочы іх уткнуліся ў хлопчыка, узросту Барункі, які стаяў побач з панам Бейерам. Быў гэта прыгожы хлопчык, падобны на бацьку, з адной толькі розніцай, што ў яго быў румянак на шчоках, не было бацькавай агрубеласці і вочы свяціліся дзіцячай радасцю.

— Ага, вы паглядаеце на майго хлопца; ну, як добра наглядзецеся, то падайце адзін аднаму рукі, каб былі добрымі сябрамі. Гэта мой Орэл! — сказаў Бейер, падштурхнуўшы сына наперад; той дастаткова смела падаў хлопцам руку. У гэтую хвіліну ўвайшлі Барунка з бабуляю і Адэлькай.

— А вось і Барунка, пра яе я вам дома гаварыў, што яна першая прыходзіць пажадаць мне добрай раніцы, калі я тут начую. У гэтым годзе я бачу, што ўсё інакш: ходзіце ўжо да школы, значыць, і мой Янік прачынаецца разам з Барункаю. А як вам падабаецца ў школе? Ці не хацеў бы ты, Ян, лепш хадзіць па лесе? Бачыш, мой Орлік ходзіць са мной на паляванне ў горы і хутка будзе страляць не горш за мяне! — пытаўся і адначасова апавядаў ляснік у атачэнні дзяцей.

— Ах, навошта ім тое кажаце, — затурбавалася бабуля, — Янік цяпер не дасць спакою, бо будзе імкнуцца ўбачыць стрэльбу Орліка.

— Ну і што ж, няхай сабе глядзіць, ідзі, Орлік, прынясі мне яе, яна ж яшчэ не зараджана.

— Не, тата, апошнюю кулю, як памятаеш, я выпусціў у каню, — адказаў хлопчык.

— І застрэліў яе, можаш ганарыцца. Ідзі, пакажы птушку хлопчыкам.

Хлопцы радасна выбеглі за Орлікам з пакоя. Нягледзячы на тое што Бейер пераконваў бабулю, што баяцца няма чаго, што Орлік асцярожны хлопец, бабуля пайшла следам за дзецьмі.

— А чаму цябе клічуць, як птушку? — спытала Орліка Адэлька, якая пайшла ўслед за бабуляй. Янік і Вілем тым часам разглядалі застрэленую каню.

— Мяне завуць Аўрэл, — усміхнуўся сын лесніка і паглядзеў на Адэльку. — Але бацька вырашыў клікаць мяне Орэлам, і мне так больш падабаецца. Арол — прыгожая птушка. Бацька аднойчы застрэліў арла.

— Я думаю! — усклікнуў Ян. — Я пакажу табе арла і шмат іншых звяроў у кніжцы, якую мне падаравалі ў мінулым годзе на імяніны. Хадзем са мною! — Янік пацягнуў Орліка ў святліцу, дзе паказаў кнігу. Орліку намаляваныя звяры і птушкі вельмі спадабаліся, нават пан Бейер з вялікім задавальненнем гартаў адну за другой старонкі.

— Здаецца, што раней у цябе такой кнігі не было? — заўважыў ён.

— Я атрымаў яе ў падарунак ад графіні і яшчэ пару галубоў ад Крыстлы, трусікаў ад лесніка з Рызенбургу, ад бабулі — дваццаць крэйцэраў, а бацькі купілі мне касцюм, — хваліўся Ян.

— Ты шчаслівы хлопец, — сказаў Бейер, не адрываючыся ад кнігі і, убачыўшы лісу, усміхнуўся. — Як жывая, пачакай, хітруха, я дабяруся да цябе!

Вілем падумаў, што ляснік звяртаецца да намаляванай лісы, са здзіўленнем на яго паглядзеў, але пан Бейер з усмешкай дадаў:

— Не бойся, гэтай лісе я нічога не зраблю. У нас такая ж у гарах ёсць, той трэба хвост прыціснуць, бо робіць шмат шкоды.

— Ну, Пётр яе зловіць, перад адыходам сюды я разам з ім ставіў пастку, — заявіў Орэл.

— Э, хлопча, ліса ў дзесяць разоў хітрэйшая, чым твой Пётр, чалавеку і ў галаву не можа прыйсці, на якія выкрутасы яна здольная, асабліва калі ўжо была ў пастцы, вось як гэтая, якую я пільную. Хацелі мы аднойчы прынадзіць яе смажаным мясам, думалі, што калі галодная, то абавязкова пападзецца. А яна што зрабіла, хітрунка? Адгрызла лапу, што трапіла ў пастку, і ўцякла. Цяпер наўрад ці яе зможам злавіць. Бяда і чалавека робіць мудрэйшым, а ў лісы розуму не менш, чым у чалавека, — апавядаў ляснік, гартаючы старонкі кнігі.

— Недарэмна кажуць, што хітры, як ліса, — сказала бабуля.

— Тут арол, тут! — закрычалі хлопчыкі, любуючыся выявай гордай птушкі з распраўленымі крыламі, гатовай да палявання.

— Якраз такога я і застрэліў, прыгожы быў на здзіўленне, шкада мне было, але што рабіць, такі выпадак не заўсёды сустракаецца чалавеку. Пацэліў я добра, а гэта самае галоўнае, каб звер не пакутаваў.

— Вось і я тое ж кажу, — азвалася зноў бабуля.

— Як у вас рука ўздымаецца на бедных звяроў, я нікога не змагла б застрэліць, — сказала Барунка.

— А зарэзаць змагла б, — засмяяўся ляснік. — Што ж лепей? Калі звер, не адчуваючы небяспекі, падае з аднаго стрэлу або калі яго пачнуць лавіць, палохаць, потым разануць нажом, ды часам так, што птушка паляціць недарэзаная?

— Не мы рэжам кур, а Ворша, — апраўдвалася Барунка, — Воршы іх не шкада, — яны ў яе тут жа паміраюць.

Некаторы час дзеці яшчэ забаўляліся малюнкамі, а потым маці паклікала іх вячэраць.

Звычайна дзеці пыталіся ў пана Бейера пра горы, хацелі ведаць, ці не блукаў ён у гарах, ці не знайшоў ён агародчык Рыбрцоўля, і пра ўсялякае іншае. Цяпер яны, не зводзячы вачэй з Орліка, прагна слухалі яго аповеды пра небяспекі, што падсцерагалі яго з бацькам на кожным кроку, пра за-

стрэленых звяроў, пра вялізныя снежныя лавіны, што ляжаць у гарах, а калі коцяцца ўніз, то засыпаюць цэлыя вёскі так, што людзі знаходзяцца нібы ў снежнай магіле і ім даводзіцца вылазіць на паверхню праз печку і чысціць снег каля свайго дома. Але ўсё гэта не палохала Яна. Ён марыў як мага хутчэй падрасці, каб пайсці ў горы да Бейера.

— Калі ты будзеш жыць у нас, бацька аддасць мяне рызнбургскаму ляснiку, каб павучыўся паляваць там, дзе лягчэй.

— Як шкада, што цябе не будзе дома! — засмуціўся Ян.

— Ты не будзеш сумаваць у нас, бо, акрамя мяне, ёсць яшчэ двое хлопцаў, брат Генек твайго ўзросту, а сястра Маржэнка цябе абавязкова палюбіць, — абяцаў Орлік.

Пакуль дзеці, седзячы на двары, слухалі Орліка і разглядалі на святло крышталі, якія ён прынёс, бабуля апавядала пану Бейеру пра паводку і пра ўсе падзеі гэтага года.

— А як жыве сям'я майго рызнбургскага сабрата? Ці здаровыя? — пытаўся ляснік.

— Здаровыя, — адказала пані Прошкава, — Анушка хутка расце, хлопцы ходзяць у школу на Чэрвенную гару, ім туды бліжэй, чым у горад. Дзіўлюся, што яго самога не бачыла: сказаў, як пойдзе на варту, абавязкова зойдзе з вамі павітацца. Раніцаю ён быў тут, прынёс мне вестку, што ў замку атрымалі з Вены ліст. Я адразу ж пайшла з ім да замка і даведалася, што графіні лепей, што, магчыма, княгіня прыедзе на дажынкі і затрымаецца ажно на чатырнаццаць дзён, а потым накіруецца ў Фларэнцыю. Ёсць надзея, што муж застанецца тут на ўсю зіму. Кажуць, што княгіня не возьме яго з сабою. Нарэшце пажывем усёй сям'ёй даўжэй.

Даўно ўжо пані Прошкава столькі не казала, даўно не была настолькі спакойнай, як у той дзень, калі атрымала радасную навіну аб прыездзе мужа.

— Хвала Богу, што Гартэнзія з хваробы вылазіць, было б так шкада гэтую маладую добрую дзяўчыну, калі б нешта здарылася. Мы ўсе маліліся за яе, яшчэ ўчора Цылька Кудрнова аб ёй плакала.

— І не дзіва, — заўважыла пані Прошкава.

Бейер спытаў, што азначаюць гэтыя словы, і бабуля распавяла яму пра тое, як была ў замку і як дапамагла графіня сям'і Кудрновых, прычым прыпісала Гартэнзіі ўсе свае заслугі ў гэтай справе.

— Чуў я, што графіня — дачка... — пачаў Бейер.

У гэтую хвіліну нехта пастукаў у акно.

— Гэта кум, пазнаю па стуку, заходзьце, — дастаткова моцна запрасіла пані Прошкава.

— У людзей злыя языкі, — адказала бабуля на пытанне лесніка, — хто на сонцы ходзіць, таго цень праследуе, бо інакш немагчыма. Што нам з таго, чыя яна дачка.

У дзвярах з'явіўся рызнбургскі ляснік, сябры сардэчна прывіталі адзін аднаго.

— Дзе гэта вы заблукалі, што так доўга ішлі? — спыталася бабуля, пакасіўшыся на стрэльбу, якую ляснік павесіў на цвік.

— Да мяне прыходзіў аканом. Зноў прыходзіў па дровы; прадаў сваю долю, а цяпер хоча атрымаць наперад і падбіць чалавека на махлярства. Але не на такога натрапіў. Я адразу адчуў, што з нечым падобным ідзе, бо надта ж быў ветлівы. Але сказаў я яму праўду! Так я яму даў за Мілу, бо гэтага хлопца мне шкада і Крыстлу таксама. Я сёння зазірнуў да іх выпіць куфаль піва, дык на яе глядзець страшна. Гэта ўсё праца ч-ч-ч... — і тут жа хлопнуў сябе па вуснах, прыгадаўшы, што пры бабулі нельга некага ўзгадваць.

— А што такое з імі здарылася? — спытаў пан Бейер, і бабуля, якая любіла апавядаць, расказала яму, як Мілу аддалі ў салдаты і чаму.

— Так яно і бывае на свеце, куды ні глянеш, паўсюль гора і пакуты, і ў вялікіх, і ў малых, а ў каго няма, дык той сам сабе прыдумае, — разважаў Бейер.

— Няшчасцем і хваробамі ачышчаецца чалавек ад усяго нячыстага, як золата агнём. Без гора няма радасці. Калі б магла, то дапамагла б дзяўчыне, ды не ведаю як. Пэўна, нічога

не зробіш. Мусіць усё зносіць, што робіцца. Заўтра, калі Міла пойдзе, ёй яшчэ цяжэй будзе.

— Значыць, заўтра і пагоняць? Што ж так хутка? Куды яго накіроўваюць?

— У Градзец.

— Выходзіць, што нам у адзін шлях, толькі я з хлопцамі на плытах, а ён па зямлі.

У пакой убеглі хлопчыкі. Ян і Вілем паказалі лесніку каню, што Орлік застрэліў.

Орлік расказаў бацьку, што былі яны каля гаці і бачылі звар'яцелую Вікторку.

— Яна яшчэ жывая? — здзівіўся пан Бейер.

— Жывая, бедная, а куды б лепей было ёй ляжаць у магіле, — адказала бабуля. — Слабець стала, старэць, рэдка цяпер пачуеш яе спевы, пэўна, толькі ў светлыя ночы.

— Да гаці яна прыходзіць, як і раней. Утаропіцца ў ваду і сядзіць далёка за поўнач, — прамовіў рызнбургскі ляснік. — Учора позна ўвечары праходзіў я недалёка, гляджу, а яна ламае вербалозы і кідае ў ваду. «Што ты робіш?» — пытаюся. Маўчыць. Я ў другі раз спытаў. Павярнулася, як заіскрацца вочы, падумаў я, што на мяне кінецца, але, магчыма, пазнала мяне або нешта ў яе галаве адбылося, адвярнулася і зноў пачала кідаць галіны праз гаць. Бывае, што чалавеку з ёю не зладзіць. Шкадуючы падумаеш, хутчэй бы бог прыбраў няшчасную. Але, калі б я, стоячы на варце, не бачыў яе каля гаці, не чуў яе калыханкі, мне нечага не хапала б, я сумаваў бы, — сказаў рызнбургскі ляснік, усё яшчэ трымаючы ў руцэ каню.

— Калі чалавек да нечага прывыкне, то яму цяжка адвыкаць, — сказаў пан Бейер, прыкладаючы запалены кнот да кароткай глінянай люлькі, аплеценай дротам. Зацягнуўшыся некалькі разоў, ён працягваў: — І гэта тычыцца чалавека, звера або рэчы. Так і я звык, калі іду ў дарогу, то палю гэтую люльку, мая маці з такой курыла. Як сёння бачу, сядзіць яна з люлькай на ганку.

— Дык што, ваша маці курыла? — са здзіўленнем спытала Барунка.

— У гарах жанчыны кураць шмат, асабліва старыя бабулі, толькі замест тытуню кладуць бульбяное бацвінне, а калі знойдуць — вішнёвы ліст.

— Не думаю, што гэта можа быць прыемна, — заўважыў рызнбургскі ляснік, закурваючы размаляваную люльку з парцэляны.

— Вось і ў лесе ў мяне ёсць любімыя мясціны, — зноў пачаў пан Бейер, — на іх заўсёды мімаходзь спынішся. Тыя, што я палюбіў, нагадваюць мне блізкіх асоб, і звязаныя яны з радаснымі або сумнымі падзеямі майго жыцця. Вось адно такое месца: стаіць на страшнай вышыні самотная хвоя. Гэта ўжо старое дрэва, галіны яе з аднаго боку звісаюць над безданню, у расколінах якой растуць папараць і ядловец. Унізе па камянях імчыцца струмень, утвараючы вадаспады. Сам не ведаю, як я апынаўся тут, калі душу сціскала туга або здаралася няшчасце. Прыходзіў я туды, калі яшчэ заляцаўся да сваёй жонкі, думаючы, што не аддадуць яе за мяне. Бацькі спачатку былі супраць, потым толькі пагадзіліся. Прыходзіў, калі памёр у мяне старэйшы сынок, калі памерла маці. Заўжды я ішоў з дому, ішоў без мэты, не глядзеў ні направа, ні налева, і міжволі ногі мяне неслі да дзікай цясніны, а калі я стаяў над безданню побач з пахмурнаю хвояй, то бачыў перад сабой вяршыні гор, адну над другой, і з мяне нібы цяжар спадаў, я не саромеўся плакаць. А калі абдымаў шурпаты ствол, то здавалася мне, што дрэва разумее маю жалобу; зашумяць нада мной яе галіны, нібы са мной сумуюць і хочуць расказаць мне пра падобныя няшчасці.

Пан Бейер замоўк, яго вялікія вочы глядзелі на полымя свечкі, што стаяла на стале, лёгкія воблачкі дыму, якія ён выпусціў, уздымаліся да столі, наўздагон думкам.

— І на самой справе, чалавеку часам здаецца, нібы дрэвы жывыя, — сказаў рызнбургскі ляснік. — Я гэта ведаю па сабе. Аднойчы, некалькі гадоў таму, вызначыў я дрэвы

для рубкі. Мой памочнік быў заняты, пайшоў сам паглядзець, як ідзе работа. Дрывасекі збіраліся першай ссячы высокую бярозу: ні адной плямкі не было на яе белай кары, стаяла прыгожая, як паненка. Заглядзеўся я на яе, і тут здалося мне, смешна нават казаць, а толькі, далібог, падалося, нібы галінкі свае яна схіляе да маіх ног, нібы абняць збіраецца і шэпча: «Навошта ты хочаш знішчыць маё маладое жыццё? Што я табе зрабіла?» Тут зарыпела вострая піла па кары і ўрэзалася ў яе цела. Я не ведаю, ці закрычаў я, але памятаю, што хацеў стрымаць дрывасекаў. Заўважыўшы іх здзіўлены погляд, засароме́ўся, загадаў працягваць працу, а сам пайшоў у лес. Цэлую гадзіну я хадзіў па лесе, мяне ўвесь час не адпускала думка, што бяроза прасіла яе не знішчаць. Калі я авалодаў сабою і вярнуўся, то бярозу ўжо спілавалі. Ні адзін лісток не варушыўся на ёй, ляжала яна, нібы памерлая. Тут мяне ахапіў адчай, нібы я забіў жывую істоту. Колькі дзён я хадзіў пад уражаннем, але так нікому і не сказаў пра гэты выпадак, і калі б сёння не зайшла пра гэта гаворка, ніхто і не даведаўся б.

— І са мною здарылася нешта падобнае, — загудзеў сваім нізкім голасам пан Бейер. — Трэба мне было налавіць звяроў для замка, і пайшоў я на паляванне. Трапілася сарна, прыгожанькая такая, нібы яе нехта выстругаў. Пасвіцца на лясным лужку, весела аглядае дрэвы і кусты. Шкада мне яе стала. «Вось дурань, — кажу сам сабе, — гэтага толькі не хапала!» Аднак страляю, а рука дрыжыць, трапіў я сарне ў нагу. Рванулася яна і павалілася. Сабака кінуўся наперад, але я не пусціў, не хацелася, каб яе загрыз. Падышоў я да яе, а яна глядзіць на мяне такімі жаласлівымі сумнымі вачамі, што і перадаць немагчыма. Дастаў нож і ўсадзіў ёй у сэрца, сутарга прабегла па яе целу, і больш яна не варушылася. Я заплакаў і з таго часу, ну чаго тут саромецца, з таго часу...

— Бацька больш не палюе на сарнаў! — хутка выпаліў Орлік.

— Добра сказаў. Толькі пачынаю цэліцца, бачу перад сабою параненую сарну, жаласлівыя яе вочы, баюся, што рука дрогне і звера толькі параню, няхай лепш бегае па волі.

— А вы толькі б злых звяроў забівалі, а добрыя няхай жывуць, іх шкада, — прагаварыў са слязьмі ў голасе Вілем.

— Не бывае толькі добрых або толькі злых звяроў, гэта, як і ў людзей. Памылішся, калі будзеш думаць, што калі звер на выгляд прыгожы, спакойны, дык ён сапраўды добры, а які нам не падабаецца, той злы. Знешнасць падманлівая. Чалавек часта бывае несправядлівым: ён шкадуе тое, што прыемна вачам і ўмее яму спадабацца, і адварочваецца ад таго, што яму здаецца дзікунскім і пачварным.

— Быў я аднойчы ў Градцы перад пакараннем двух злачынцаў. Адзін з іх меў прыгожы твар, а другі быў агідным, пачварным і панурым. Прыгожы забіў свайго таварыша з рэўнасці. Пачварны быў маім земляком; калі яго асудзілі, я пайшоў да яго ў астрог і спытаў, ці няма ў яго якіх даручэнняў для родных, з радасцю іх перадам. Паглядзеў ён на мяне, па-дзікунску зарагатаў, потым пакруціў галавою і кажа:

— Я буду перадаваць даручэнні, прывітанні, каму? Няма ў мяне нікога.

І, адвярнуўшыся, паклаў галаву на рукі. Нядоўга ён так сядзеў. Потым раптам ускочыў і, стоячы перада мною з закладзенымі за спіну рукамі, спытаў:

— Чалавеча, ці выканаеш тое, пра што я ў цябе папрашу?

— Зраблю з задавальненнем, — адказаў я і працягнуў яму руку. У гэтую хвіліну на яго твары адбіўся такі невыказны сум, што я, здаецца, усё для яго зрабіў бы; ужо не было ў яго твары нічога агіднага, ён выклікаў толькі шкадаванне і жаданне дапамагчы. Пэўна, глыбока зазірнуў ён у маё сэрца, таму што паспешліва схапіў маю руку, сціснуў яе і ўсхваляваным голасам сказаў:

— Калі б мне працягнулі руку тры гады назад, не быў бы я тут. Чаму раней мы не сустрэліся? Чаму мне сустракаліся

толькі людзі, якія мяне аблівалі памыямі, смяяліся з майго твару, якія мяне палыном і атрутаю кармілі! Маці мяне не любіла, родны брат выгнаў, сястра мяне саромелася. А тая, якая, думаў я, мяне кахае, за якую быў гатовы аддаць жыццё, за яе ласкавую ўсмешку дастаў бы з неба зоркі, з-за якой я столькі разоў пакутаваў, што не маю дзесяці жыццяў, каб аддаць ёй, дзеля якой я рызыкаваў жыццём, мяне падманвала. Калі я захацеў пачуць ад яе тое, пра што ўсе казалі, яна выгнала мяне за дзверы і нацкавала на мяне сабаку.

І гэты страшны на выгляд чалавек плакаў, як дзіця. Праз хвіліну ён выцер слёзы, узяў мяне за руку і ціха сказаў:

— Калі будзеце ў Маршоўскім лясніцтве, зазірніце ў цясніну; там над безданню стаіць самотная хвоя — ёй перадайце маё прывітанне, ёй і драпежным птушкам, што каля яе лётаюць, і тым высокім гарам. Пад яе галінамі спаў і цэлае лета, ёй я апавядаў пра тое, чаго ніхто не ведае, побач з ёю я не адчуваў сябе бедным лазарам, а быў чалавекам.

Ён змоўк, сеў на лаўку, і больш я не пачуў ад яго ні слова, ён нават не паглядзеў на мяне. Пайшоў я, і было мне шкада яго да слёз. Людзі лаялі, праклінаяі гэтага пачварнага чалавека, называлі яго прыроджаным забойцам, сцвярджалі, што ён заслугоўвае смерці, таму што нікога не хоча бачыць, нават святара, людзям язык паказвае і ідзе на смерць як на свята. Прыгожага ўсе шкадавалі, ледзьве не біліся з-за песні, якую ён склаў у астрозе, усе жадалі, каб атрымаў памілаванне, бо ён толькі з рэўнасці забіў таварыша, а другі — вераломна забіў дзяўчыну, якая нічога яму не зрабіла, і наогул здольны забіваць людзей. Так кожны судзіў, зыходзячы са свайго ўяўлення; колькі галоў, столькі думак. Перад кожным рэч паварочваецца па-іншаму, таму і цяжка вырашыць, хто мае рацыю, а хто вінаваты. Гэта толькі Богу вядома. Ён чытае ў самых таямнічых кутках чалавечага сэрца і можа судзіць людзей. Яму зразумелая мова звяроў, ён ведае кожную цявінку, шлях кожнага жучка, ведае, чаму вецер дзьме і вада цячэ, куды ён пакажа.

Ляснік зноў замоўк, яго трубка ўжо згасла. Вочы яго свяціліся, твар яго быў падобны на горную цясніну, асветленую мірным святлом асенняга сонца, яна была яшчэ зялёная, з кветкамі, а на вяршынях гор ужо ляжаў снег. Усе заглядзеліся на пана Бейера, а бабуля азвалася:

— Шчырая праўда, пан Бейер, вас прыемна слухаць, як святое казанне. Але час класці спаць дзяцей. Сынок ваш стаміўся, ды і вы таксама. Заўтра яшчэ пагаворым.

— Гэтую каню, Орлік, аддай майму пугачу, навошта яна табе? — сказаў рызнбургскі ляснік, закідваючы стрэльбу за плячо.

— З радасцю.

— Мы вам яе раніцаю прынясем, — паабяцалі хлопчыкі.

— Дык вам жа раніцаю трэба ісці ў школу?

— Дзеля гасцей я дазволіла ім прапусціць заўтра школу, — сказала маці.

— Ну, дык і я сваіх соек таксама дома пакіну, каб у іх быў добры дзень. Прыходзьце. Добрай ночы! Будзьце здаровыя!

«Ветлівы сабрат з даліны», як часам называў яго пан Бейер, падаў сябрам руку, паклікаў Гектара, які Орліку вельмі спадабаўся, і пайшоў.

Ранкам, пакуль дзеці яшчэ не апрануліся, Орлік ужо агледзеў платы, на якіх яны прыплылі. Пасля снядання пан Бейер пайшоў з хлопцамі да леснічоўкі, а бабуля з Барункаю і Адэлькаю накіраваліся ў шынок развітацца з Мілам.

Вялікі пакой у шынку быў запоўнены людзьмі. Бацькі развіталіся з салдатамі, сябры, браты і сёстры знаходзіліся там жа. І як ні суцяшалі яны адзін аднаго, колькі ні налівалі ім гаспадар і Крыстла (Міла таксама дапамагаў наліваць), колькі ні спявала моладзь вясёлыя песні, каб падбадзёрыць навабранцаў, — усё было марным. Ніхто нават не п'янеў, як тады, калі хлопцы толькі ішлі на вярбоўку, і, натыкаўшы хваёвых галінак на шапкі, крычалі, спявалі і пілі, каб заглушыць страх і боязь. Заўсёды меў хоць кропельку надзеі ладны і прыгожы хлопец. Акрамя таго, хлопцаў спакушалі слёзы

дзяўчат, радавала любоў бацькоў, якая ў такія моманты, як гарачая крыніца, схаваная да часу ў зямлі, бурліва прарываецца на паверхню. Яны ганарыліся, што чулі ад суседзяў: «Ах, гэтаму ніяк не адкруціцца, такі хлопец — рослы, як сасна, — нібы яго вылілі, такі ладны, на такіх салдатаў прыемна паглядзець». Гэтыя словы толькі падсалоджвалі чорную пілюлю, якой з'яўлялася ненавісная салдатчына. Але размовы, што ўпрыгожвалі цяжкі шлях здаровых, гожых юнакоў, балюча адгукаліся ў сэрцах тых, хто не баяўся трапіць у салдаты, бо яны яшчэ раз нагадвалі пра іх фізічныя недахопы. Многім калекам было так цяжка, што яны хутчэй бы пагадзіліся добраахвотна завербавацца, толькі б не чуць крыўдных кпінаў: «Не павінна твая маці плакаць, бо не будзеш даваць прысягу, бо ты сабаку па калена! Ідзі, хлопча, у рэйтары: у цябе ногі, як у вала рогі!» Крыўдныя словы білі больш балюча, чым кнут.

Бабуля ўвайшла ў сенцы, але ў пакой заходзіць не стала, не таму, што было душна, а ад той цяжкай скрухі, якая сціскала сэрцы ўсіх людзей, што сабраліся ў шынку, і ясна адбівалася на іх тварах.

Бабуля разумела, як цяжка бедным маці. Вось адна з іх у нямым адчаі ламае рукі, другая ціха плача, трэцяя моцна галосіць. Цяжка і дзяўчатам, якія саромеюцца паказаць сваё гора, а ўсё ж без слёз не могуць глядзець на збялелых хлопцаў; ад віна яны сталі яшчэ больш сумнымі і ўжо не могуць спяваць. Яна адчувала, як цяжка бацькам, што сядзяць моўчкі за сталом і думаюць толькі пра тое, дзе ўзяць замену сынам-працаўнікам, якія былі іх правай рукой, як перажыць чатырнаццаць гадоў разлукі з імі.

Бабуля села з дзяўчынкамі ў садзе. Праз хвіліну прыйшла Крыстла, заплаканая і бледная як сцяна. Яна хацела нешта сказаць, але гора каменем навалілася на грудзі, а горла так сціснула сутарга, што не магла вымавіць ні слова. Моўчкі абаперлася яна на ствол квітнеючай яблыні. Гэта была тая яблыня, праз якую ў светаянскую ноч перакідвала яна свой

вянок. Вянок пераляцеў, але замест таго каб прадказанне спраўдзілася, што яна з'яднаецца з каханым, іх разлучаюць. Крыстла закрыла твар белым фартухом і зарыдала. Бабуля не стала яе суцяшаць.

З'явіўся Міла. Куды падзеліся яго ружовыя шчокі і жывыя вочы! Нібы з мармуру выцесалі. Моўчкі падаў руку бабулі, моўчкі абняў каханую дзяўчыну і, вынуўшы з-за пазухі вышываную хустку, — такую хустку кожны хлопец атрымлівае ад дзяўчыны ў знак кахання, — стаў выціраць ёю слёзы. Ніхто з іх не казаў пра сваё гора, але калі з шынка пачулася песня:

Як толькі мы развітаемся,
Два сэрцы засумуюць,
Два сэрцы, чатыры вока
Будуць плакаць і дні і ночы, —

Крыстла моцна абняла свайго хлопца і, плачучы, схавала галаву на яго грудзях. Песня гэта была той мелодыяй, якая бясконца гучала ў іх сэрцах.

Бабуля ўстала, слёзы пакаціліся па яе твары, Барунка таксама заплакала. Паклаўшы руку на плячо Мілы, старая сказала ўсхваляваным голасам:

— Няхай захавае і суцешыць цябе Бог, Якуб. Служы старанна — і табе не будзе так цяжка. Калі благаславіць Бог маю задуму, то разлука ваша не будзе доўгай. Не губляйце надзеі. А ты, дзяўчына, калі кахаеш яго, не дадавай гора сваімі слязьмі! Ну, з Богам!

Перахрысціўшы Мілу, бабуля моцна пацiснула яму руку, хутка павярнулася, забрала ўнучак і пайшла дахаты, радуючыся таму, што суцешыла людзей у горы.

Словы бабулі былі для закаханых той расой, што ўпала на завялую кветку і адрадзіла яе для новага жыцця. Яны стаялі пад квітнеючай яблыняй, трымалі адзін аднаго ў абдымках, і вецер скідаў на іх пялёсткі.

Ля шынку пачуліся калёсы, што прыехалі па салдат, з двара данеслася: «Міла!», «Крыстла!» Але яны не чулі. Не раздымалі абдымкаў. Ім не было справы ні да каго ў свеце, бо кожны з іх абдымаў цэлы свет!

Пасля абеду пан Бейер развітаўся з гасціннымі гаспадарамі. Пані Прошкава, як звычайна, паклала бацьку і сыну поўныя сумкі рознай ежы. Кожны з хлопчыкаў падараваў Орліку што-небудзь на памяць. Барунка дала шнурок для капелюша. Калі Адэлька спытала бабулю, што ёй падарыць Орліку, тая параіла падараваць ружу, якую атрымала яна ад графіні.

— А вы ж, бабуля, казалі, што я буду насіць яе ля пояса, калі буду дарослай, — не пагадзілася дзяўчынка. — Яна такая прыгожая.

— Што табе падабаецца, тое і аддавай дарагому госцю, калі хочаш уганараваць яго. Падаруй ружу: дзяўчынкі павінны дарыць кветкі.

Адэлька паслухалася і прышпіліла прыгожую ружу да капелюша Орліка.

— Ах, мілая Адла, не ведаю, як доўга твая ружа захавае сваю прыгажосць, — сказаў пан Бейер. — Арол — дзікая птушка: цэлы дзень, і ў дождж, і ў вецер, лётае яна над гарамі і скаламі.

Адэлька запытальна паглядзела на Орла.

— Не турбуйся, бацька, — адказаў хлопчык, любуючыся падарункам, — у будзень, перш чым пайсці ў горы, я яе добра схаваю і толькі па святах буду насіць. Яна заўсёды застанецца такой прыгожай.

Адэлька была задаволеная. І нікому не прыйшло ў галаву, што яна сама і ёсць тая самая ружа, па якой стане з цягам часу ўздыхаць Орлік, якую аднясе ён у снежныя горы і лясныя нетры, будзе аберагаць і даглядаць, і яе каханне асвеціць святлом і шчасцем усё ягонае жыццё.

# XVI

Мінула ўжо свята Сёмухі, якое бабуля называла «зялёным»: гаварыла так таму, што ўвесь дом усярэдзіне і звонку ўпрыгожваўся галінкамі бярозы. І сталы, і ложкі стаялі нібы ў зялёных альтанках. Прыйшлі і Свята Цела Хрыстова, і Янаў дзень. Ужо не спяваў у кустах салавей, ластаўкі выпускалі сваіх птушанят з-пад страхі, а на печы, пад бокам у котак, ляжалі травеньскія кацяняткі, з якімі любіла гуляць Адэлька. Яе Чарнушка вадзіла за сабою ўжо дарослых куранятак. Султан і Тырл кожную ноч скакалі ў ваду па мышэй, гэта давала падставу старым папрадухам казаць, што на мосціку ля Старой бялільні гуляе вадзянік.

Адэлька дапамагала Воршы адводзіць на пашу Стракатку, збірала разам з бабуляю зёлкі або, седзячы побач з ёю ў двары пад ліпай (старая ўжо пачала сушыць ліпавыя кветкі), чытала ўголас кнігу. А ўвечары, калі ішлі насустрач школьнікам, збочвалі ў поле. Бабуля любавалася льном. Падабалася ёй таксама глядзець на шырокія панскія палі, дзе ўжо жаўцелі спелыя каласы. Калі ветрык хваляваў ніву, старая вачэй не магла ад яе адвесці. Казала Кудрну, які звычайна спыняўся каля яе, калі абыходзіў палі:

— Радасна з божага благаслаўлення! Толькі б не было навальніцы.

— Так, пячэ добра, — адказваў вартаўнік, пазіраючы на неба.

Калі праходзілі паўз гарох, Кудрна заўсёды насыпаў Адэльцы поўны фартух маладых стручкоў, супакойваючы сваё сумленне тым, што княгіня не была б супраць, бо яна любіць бабулю і яе ўнукаў.

Барунка ўжо не прыносіла сястры саладковы корань і цянучкі з яго, якія яна купляла на крэйцэр або атрымлівала ад дзяўчат за падрыхтоўку ўрокаў нямецкай мовы. Як толькі ля школы з'явілася гандлярка чарэшнямі, дзеці сталі праядаць свае крэйцэры на чарэшнях. Вяртаючыся дахаты дубо-

вым гаем, яны шукалі суніцы. Барунка зрабіла сабе з бяроза-вай кары кошычак і не ленавалася назбіраць у яго спелыя ягады для сястры. Калі адышлі суніцы, яна збірала чарніцы і лясныя арэхі. Бабуля прыносіла з лесу грыбы і вучыла адрозніваць іх. Карацей, быў канец ліпеня, а на пачатку жніўня павінны былі вярнуцца княгіня і бацька; акрамя таго, дзеці з нецярплівасцю чакалі вакацый. Пані Прошкава зноў цэлымі днямі рабіла ў замку: трэба было сачыць, каб ні ў адным куточку не засталося смецця; а садоўнік зусім збіўся з ног, сочачы, як растуць кветкі, ці роўна падстрыжаная на газонах трава, прыглядаў за кожным кустом, а таксама за працаўніцамі — раптам пакінуць якое-небудзь пустазелле, а яго трэба было вырваць і выкінуць за плот. Усе рыхтаваліся да прыезду княгіні. Многія, для каго прыезд княгіні прыносіў выгаду, радаваліся з гэтай нагоды, некаторыя выглядалі незадаволенымі. У сям'і аканома з кожным днём расла трывога. Калі ж па замку пранеслася чутка: «Заўтра ўжо будуць тут», аканом нават пайшоў на тое, што адказаў прыказчыку на ліслівае прывітанне, чаго ніколі не рабіў зімою, калі быў першай асобай у замку. Бабуля жадала княгіні ўсяго найлепшага, малілася за яе кожны дзень. Шчыра кажучы, ёй не было ніякай справы да княгіні, калі б ад той не залежала вяртанне зяця. Але гэтым разам і з іншай прычыны старая нецярпліва чакала прыезду паноў. Яна нешта задумала, але нічога нікому не казала.

У першыя дні жніўня распачалі памалу жніво; княгіня са сваёй світай прыехала якраз да гэтага моманту. Аканомава дачка спадзявалася на сустрэчу з італьянцам, але ёй паведамілі, што пані пакінула яго ў сталіцы. Пані Прошкава ўся свяцілася ад радасці, а дзеці не адыходзілі ад свайго любага таты. Бабуля засумавала, даведаўшыся, што не прыехала з Янам яе дачка Іаганка. Ёй прынеслі ад яе ліст, у якім дачка дасылала тысячу прывітанняў ад цёткі Дароткі і яе мужа, тлумачыла, што з-за хваробы дзядзькі прыехаць не зможа, таму што нядобра было б пакідаць цётку адну даглядаць гаспадар-

ку і глядзець хворага дзядзьку. Пісала, што яе жаніх годны чалавек, і цётка раіць браць з ім шлюб, што ў Кацярынін дзень хочуць зладзіць вяселле і чакаюць толькі бабулінага благаславення. «А як пабярэмся шлюбам і з'явіцца магчымасць, то прыедзем у Чэхію, каб ты дала нам благаславенне. Ён не чэх, а аднекуль з турэцкай мяжы, але мы добра з ім разумеем адзін аднаго, і я навучыла яго чэшскай мове хутчэй, чым Тэрэзка Яна. Я хацела б узяць шлюб з чэхам і ведаю, што вам гэта таксама больш прыйшлося б да душы, матуля, ды нічога не зробіш: сэрцу не загадаеш. Я вельмі пакахала свайго Кробата». Так заканчваўся ліст.

Тэрэзка прачытала ліст уголас. Ян, які быў пры гэтым, заўважыў:

— Нібы пачуў саму Гану, добрая дзяўчына, вясёлая. І Юра прыстойны чалавек, ведаю яго, ён лепшы памочнік у дзядзькі. Часам зайду да кузні, заўсёды ім любуюся. Хлопец як гара і майстар добры.

— Там было адно слова, я нешта яго не зразумела, прачытай яшчэ раз, Тэрэзка, — і бабуля паказала на канец ліста.

— Кробат, ці не так?

— Так, а што гэта такое?

— Так у Вене клічуць харватаў.

— Вось яно што. Ну, дай ёй Бог шчасця. Але хто б мог падумаць, з якіх далёкіх мясцін сышліся людзі. І Іржы клічуць, як нябожчыка бацьку! — з гэтымі словамі бабуля склала ліст, выцерла слёзы і пайшла схаваць ліст у куфар.

Дзеці радаваліся, што іх любімы бацька дома. Глядзелі на яго і не маглі наглядзецца. Перапыняючы адзін аднаго, яны спяшаліся паведаміць яму ўсё, што адбылося на працягу года, хоць ён даўно пра ўсё ведаў з лістоў маці.

— Ты застанешся ў нас на ўсю зіму, тата? — пыталася Адэлька, лашчачыся да бацькі і гладзячы яму вусы, што было яе любімай забаўкай.

— А калі выпадзе снег, ты пакатаеш нас на тых прыгожых санках, ды яшчэ коням званочкі падвесіш?

— Аднойчы кум пасылаў такія сані з горада; мы з маці паехалі, а бабуля адмовілася. Коні беглі, званочкі звінелі, а ў горадзе ўсе выбеглі паглядзець, хто едзе, — апавядаў Вілем.

Бацька не паспеў адказаць, таму што хутка загаварыў Ян:

— А ведаеш, тата, я буду лесніком! Вось скончу школу і пайду да пана Бейера ў горы, а Орлік пойдзе ў Рызнбург.

— Добра, толькі старанна вучыся ў школе, — усміхнуўся бацька, дазволіўшы хлопчыку выгаварыцца да канца.

Прыйшлі сябры — млынар з лесніком — прывітаць дарагога госця. У доме стала яшчэ весялей. Султан і Тырл з нейкай незвычайнай радасцю кінуліся насустрач Гектару, нібы спяшаліся паведаміць яму прыемную навіну. Гаспадар любіў іх і не біў з таго часу, як яны загрызлі качанятак. Ён нават гладзіў іх па галовах, калі яны выбягалі насустрач. Бачачы, як яны радуюцца Яну, бабуля казала, што жывёлы заўважаюць, хто іх любіць, і доўга памятаюць ласку.

— А што, графіня ўжо зусім здаровая? — пыталася жонка лесніка, якая прыйшла з дзецьмі праведаць кума.

— Кажуць, што так, але я лічу, што не. Нешта яе прыгнятае. Яна заўсёды была худзенькаю, а цяпер у чым толькі душа трымаецца, а вочы нібы з неба глядзяць. Плакаць хочацца, калі яе бачу, яна як анёл. Княгіня з ёю зусім напакутавалася, а калі графіня захварэла, у нашым доме знікла вясёласць. Перад хваробаю збіраліся яе заручыць з адным графам. Ён з заможнага роду, княгіня сябравала з яго бацькамі і, кажуць, вельмі хоча гэтага шлюбу. Але не ведаю... — і пан Прошак недаверліва пакруціў галавою.

— А што цяпер кажа граф? — спытала жанчына.

— А што ён можа сказаць? Павінен быць спакойны і чакаць, пакуль дзяўчына ачуняе, а ў трагічным выпадку будзе насіць жалобу, калі сапраўды яе кахае. Кажуць, што ён хоча ехаць з імі ў Італію.

— А дзяўчына кахае графа? — спыталася бабуля.

— Хто ведае? Калі іншага ў яе сэрцы няма, дык ён мог бы ёй спадабацца, бо гэта прыгожы чалавек, — адказаў Ян.

— Вось у тым і справа, калі іншы не падабаецца, — сказаў пан млынар, падаючы пану Прошаку раскрытую табакерку. — Чужы густ ніхто не ў стане аспрэчыць, — гэта было яго любімае выслоўе. — Вось наша шынкарка даўно б справіла вяселле і не хадзіла б як хмара, калі б злыя людзі не забралі ў яе таго, каго яна пакахала, — дадаў млынар, частуючы ўсіх табакай, панюхаў сам, кіўнуўшы пры гэтым у бок Крыстлы, якая таксама была ў пакоі.

— Я шкадаваў вас абодвух, калі Тэрэзка мне напісала пра ваша становішча, — сказаў пан Прошак, зірнуўшы на бледны твар дзяўчыны. — Ці звыкся трохі Міла?

— Што ж яму, беднаму, застаецца рабіць? Мусіць, хоць яму дастаткова цяжка, — адказала Крыстла, адвярнуўшыся да акна, каб схаваць слёзы.

— Верым, — азваўся ляснік, — пасадзіце птушку хоць у залатую клетку, а лес усё адно мілейшы.

— Асабліва, калі птушачка па ім сумуе, — пасміхнуўся ў вусы млынар.

— І я таксама быў салдатам, — пачаў пан Прошак, і ўсмешка з'явілася на яго прыгожых вуснах, блакітныя вочы паглядзелі на пані Тэрэзку.

Яна ўсміхнулася таксама, сказаўшы:

— Ты быў героем!

— Не смейся, Тэрэзка, калі вы хадзілі на вал з цёткай Даротай глядзець, як я маршырую, то плакалі абедзьве.

— І ты з намі разам, — прыгадала Тэрэза. — Але тады нам было не да смеху, смяяліся, пэўна, тыя, хто бачыў нас тады.

— Павінен табе прызнацца, — сказаў добрасардэчны гаспадар, — што мне было ўсё адно, назавуць мяне бабай або героем, не быў я славалюбны. Усе чатырнаццаць дзён салдатчыны я ўздыхаў і плакаў, амаль нічога не еў і не спаў; пакуль дачакаўся звальнення, я стаў зусім як цень.

— Так вы былі салдатам усяго чатырнаццаць дзён? Ну, калі б Міле палічылі дні за гады, ён прайшоў бы салдацкую службу іграючы, — заўважыў млынар.

— Ды я так не пакутаваў бы, калі б наперад ведаў, што адзін мой сябар клапоціцца пра выкуп, а брат збіраецца заступіць на маё месца ў салдатах. Прыйшла гэтая навіна да мяне нечакана. Брату ваенная служба падабалася, яна яму больш падыходзіць ва ўсіх адносінах. Не падумайце толькі, што я баязлівец. Калі б давялося бараніць сям'ю і радзіму, я першым бы ўзяў зброю. Але не ўсе людзі аднолькавыя, адзін створаны для аднаго, другі для другога. Ці не так, Тэрэзка? — кажучы так, пан Прошак паклаў руку на плячо пані Тэрэзы і ласкава зазірнуў у яе вочы.

— Так, так, Ян, ваша месца сярод нас, — адказала бабуля за дачку, і ўсе прысутныя, ведаючы мяккую натуру гаспадара, пагадзіліся з ёю.

Калі сябры пачалі разыходзіцца, Крыстла прашмыгнула да бабулі ў пакой і, вынуўшы з-за карсажа ліст з адбіткам салдацкага гузіка, ціха сказала: «Ад Якуба».

— Дык гэта цудоўна! Што ён піша? — бабуля ўзрадавалася не менш за Крыстлу.

Крыстла разгарнула ліст і пачала чытаць па складах:

«Мая дарагая Крыстлінка! Сто разоў вітаю цябе і цалую. Ах, Божа, што ў гэтым толку. Я лепш адзін раз у сапраўднасці пацалаваў бы цябе, чым тысячу разоў на паперы, але тры мілі ляжаць паміж намі, і не ўбачыцца нам. Я ведаю, што ты не аднойчы за дзень падумаеш: «А што цяпер робіць Якуб? Як яму там жывецца?» Працы ў мяне дастаткова, але якая ж гэта работа, калі цела на працы, а думкі далёка. Дрэнна мне жывецца. Калі б маё сэрца было вольным, як у Віткова Тонды, можа, тады мне салдацкае жыццё спадабалася б. Таварышы звыкаюцца памалу, ім ужо няцяжка. А я ўсяму навучаюся, нікому не пярэчу, але мяне нішто не радуе, і замест прывыкання кожны новы дзень для мяне ўсё больш тужлівы. Ад світання да начы думаю пра цябе, мая галубка, калі б толькі ведаць, што ты здаровая, хоць бы паклон ад цябе атрымаць, то быў бы я спакойны. Стоячы на варце і бачачы, як птушкі ляцяць у ваш бок, заўсёды думаю, чаму яны не маюць мовы,

каб перадаць табе мае пажаданні, але лепш было б мне самому стаць птушкаю, малым салавейкам, каб да цябе прыляцець. Ці не казала табе чаго-небудзь бабуля Прошкавых? Пра што яна думала, калі гаварыла, што расстанне наша з табою будзе нядоўгае? Не ведаеш? Калі надыходзяць горкія хвіліны, заўсёды прыгадваю яе апошнія словы, і нібы Бог да мяне схіліўся, так мяне акрыляе надзея на яе парады. Яна ніколі не гаворыць дарэмна. Хоць колькі радкоў пашлі мне, каб я парадаваўся, няхай табе хто-небудзь напіша. Пішы пра ўсё, добра? Ці паспелі нашыя сабраць сена ў добрае надвор'е? Як жніво? Тут ужо пачынаецца ўборка. Калі бачу жняцоў, што ідуць у поле, то, здаецца, кінуў бы ўсё і ўсіх. Не хадзі, калі ласка, адна на працу, я ведаю, што будуць у цябе пытацца пра мяне, будуць вярэдзіць табе душу. Не хадзі. І гэты пустабрэх пісар...»

— Вось вар'ят, ён баіцца, што я... — загневалася Крыстла, але ў тую ж хвіліну працягвала:

«...не даў бы табе спакою. Трымайся Томаша. Я прасіў яго, каб ён быў тваёй правай рукой. Прывітай яго і Анчу. Зайдзі да нашых, перадай ім маё прывітанне, вашых я таксама вітаю сто разоў, і бабулю з дзецьмі, і ўсіх знаёмых і сяброў. Я хацеў бы шмат табе напісаць, але на такім малым кавалку паперы ўсё не змяшчаецца, патрэбны быў бы такі, што пакрыў бы цалкам жэрнаўскі ўзгорак, але ўжо час ісці на варту. Калі стаю на пасту, дык заўсёды спяваю «Цудоўныя зорачкі, чаму вы маленькія». Мы з табою разам спявалі гэтую песню, расстаючыся, і ты плакала. Божа мой! Як радавалі нас калісьці зорачкі, але толькі Бог ведае, ці будуць нас радаваць зорачкі ў будучым. Заставайся з Богам!»

Крыстла склала ліст і запытальна паглядзела на бабулю.

— Шчаслівая ты, добры ў цябе хлопец, перадай яму ад мяне прывітанне, каб спадзяваўся на Бога. З любога становішча выйсце знойдзецца. Сказаць табе нешта дакладнае не магу, пакуль сама яшчэ не ведаю. На працу ў замак ты хадзі, калі будуць патрабаваць. Мне хацелася б, каб вянок

княгіні на дажынках падавала менавіта ты. Ну, калі будзеш хадзіць на працу, другую не выберуць.

Словы бабулі супакоілі Крыстлу, і яна паабяцала ва ўсім слухацца яе парады. З часу вяртання Яна бабуля неаднойчы ў яго пыталася, калі княгіня бывае дома, калі ходзіць на шпацыр, чым вельмі здзівіла пана Прошака: «Бабулю ніколі не цікавіла, што робіцца ў замку, ён нібы для яе не існаваў, а цяпер усё пытаецца і пытаецца. Чаго яна хоча?» Але бабуля нічога не казала, а распытваць яе не хацелі і, нічога не зразумеўшы, вырашылі, што гэта простая цікаўнасць.

Праз некалькі дзён пан Прошак з пані і дзецьмі паехаў да мястэчка: ён хацеў, каб сям'я добра правяла дзень. Ворша і Бетка пайшлі ў поле. Бабуля засталася сцерагчы дом. Узяўшы верацяно, яна села ў двары пад ліпу, што ўжо ўвайшло ў яе звычку. Але яна не напявала, як звычайна, а пра нешта думала, ківаючы час ад часу галавою, і нарэшце сказала сама сабе: «Так і зробім!» І тут яна ўбачыла графіню, што спускалася з узгорка паўз сушыльні, накіроўваючыся да мосціка. На ёй былі белая сукенка і круглы капялюш з саломы. Нячутна, нібы горная фея, ішла яна па сцежцы, яе ножкі ў атласных чаравічках ледзьве датыкаліся зямлі. Бабуля паспешліва ўстала і са шчырай радасцю вітала дзяўчыну, але сэрца яе сціснулася, калі яна зірнула на збялелы, амаль празрысты твар Гартэнзіі. Столькі пакоры і глыбокага смутку было на ім, што нельга было глядзець без спачування.

— Як тут ціха. Вы адна? — спыталася Гартэнзія, калі сардэчна прывітала бабулю.

— Адна, адна, паехалі нашы да мястэчка. Дзеці не могуць нагледзецца на бацьку, бо так доўга яго не бачылі, — апавядала бабуля, выціраючы фартухом і без таго чыстую лавачку, перш чым запрасіць дзяўчыну сесці.

— Так, вельмі доўга, і гэта мая віна.

— Ну што вы, паненка. Калі Бог дапусціў хваробу, то што можа чалавек тут зрабіць. Гаравалі мы ўсе і маліліся, каб Бог даў паненцы здароўя. Гэта вялікі скарб, а чалавек пачынае

яго цаніць, калі страціць. Было вас шкада, паненка, вы яшчэ маладая, і княгіня мела б вялікае гора.

— Я гэта ведаю, — уздыхнула графіня, апускаючы рукі на альбом у прыгожым пераплёце, што ляжаў у яе на каленях.

— Што з вамі, паненка, чаму вы такая бледная? — з вялікай спагадай спытала бабуля сумную дзяўчыну.

— Нічога, бабуля, — адказала дзяўчына з пакутлівай усмешкай, якая лепш за словы казала пра затоенае гора. Бабуля не спрабавала больш пра што-небудзь даведацца, але зразумела, што хвароба дзяўчыны не столькі фізічная, колькі душэўная.

Праз хвіліну графіня ўжо распытвала, як жылося ўсім без яе ў маленькім доме, ці прыгадвалі яе дзеці. Бабуля ахвотна апавядала, пацікавілася, у сваю чаргу, як пажывае княгіня і чым цяпер займаецца.

— Княгіня паехала да леснічоўкі, — адказала графіня, — я папрасіла ў яе дазволу, каб намаляваць гэтую даліну і наведаць вас. Яна заедзе за мной.

— Сам Бог яе пасылае, — узрадавалася бабуля. — Трэба апрануць чысты фартух, чалавек ад таго льну ўвесь у пыле. Дазвольце, паненка, я хутка вярнуся!

З гэтымі словамі бабуля ўстала і пайшла ў дом; хутка яна вярнулася ў чыстым фартуху, у чыстай хустцы на галаве і на шыі, несучы з сабою белы хлеб, мёд, масла і смятанку.

— Пэўна, надышоў час, мілая паненка, пакаштаваць хлеба, што ўчора спечаны. Ды пойдзем у сад, там лепей. Праўда, і пад ліпаю даволі ценю. Я люблю сядзець пад ёй: тут і птушка ўся каля мяне гуляе, грабе, у зямлі корпаецца.

— Тады застанемся, мне і тут добра, — перапыніла графіня, каштуючы пачастунак. Без асаблівай цырымоніі яна адрэзала сабе хлеба і пачала есці і піць. Яна ведала, што пакрыўдзіла б бабулю, калі б нічога не паспытала. Між тым яна раскрыла альбом і паказала бабулі свой малюнак.

— Ах ты, Божа мой! Гэта ж цэлая даліна: і луг, і ўзгоркі, і лес, і гаць! Вунь там, здаецца, і Вікторка, — усклікнула здзіўленая бабуля.

— Яна падыходзіць да гэтага самотнага кутка. Я сустрэла яе на ўзгорку. Якая яна абарваная! Ці можна ёй дапамагчы? — са спачуваннем спыталася дзяўчына.

— Ох, мілая паненка, целу, безумоўна, дапамагчы можна, ды што з таго, калі галоўнага няма, — розуму. Душа яе блукае недзе, і бачыць яна ўсё, нібы ў сне. Можа, гэта літасць Божая, што забраў у яе памяць, і яна забылася, што перанесла. Калі б вярнуўся да яе розум, то, можа, у адчаі і сваю душу загубіла б. Бог ёй даруе, калі саграшыла, сваімі пакутамі заслужыла яна збавенне.

Бабуля перарвала аповед. Перагарнуўшы старонку, яна зноў здзівілася.

— Збавіцель мой! Гэта ж Старая бялільня! Вось і двор, і ліпа, гэта я, дзеці, сабакі — усе, як жывыя. Мой Езус! Чаго я не чакала. Калі б нашы гэта бачылі! — усклікнула старая.

— Я ніколі, — сказала графіня, — не забываюся на людзей, што мне падабаюцца. І каб лепш памятаць любыя рысы, я замалёўваю іх. Так і мясціны, дзе я правяла мілыя дні, люблю пераносіць на паперу на добрую памяць. А гэтая даліна цудоўная. Калі б дазволіла, дарагая бабуля, я намалявала б цябе дзецям на памяць.

Бабуля зачырванелася і пахітала галавой.

— Мяне, старую? Гэтага, мілая паненка, не трэба рабіць.

— Чаму ж не, бабуля? Будзем у хаце адны, я прыйду і намалюю цябе. Зрабі гэта для ўнукаў, няхай ім застанецца твой партрэт.

— Калі вы так хочаце, мілая паненка, няхай будзе па-вашаму, — вырашыла бабуля. — Толькі каб ніхто не ведаў пра гэта, а то скажуць, што бабуля здурнела на старасці год. Пакуль я жывая, ім мой партрэт не патрэбны, а памру, то хай будзе як будзе.

Дзяўчына пагадзілася.

— Дзе ж вы, мілая паненка, гэтаму навучыліся? Каб жанчына малявала! — спытала бабуля, перагортваючы аркушы.

— У нашым коле мусіш шматлікім рэчам вучыцца, каб ведаць, чым заняць вольны час. Мне жывапіс асабліва спадабаўся, — адказала дзяўчына.

— Прыгожая гэта справа, — разважыла бабуля, разглядаючы малюнак, укладзены ў альбом. На ім была выява скалы, якая парасла лесам і аб якую разбіваліся марскія хвалі. На скале стаяў малады чалавек з бутонам ружы ў руцэ і глядзеў на мора, удалечыні бачыўся карабель з распушчанымі ветразямі.

— Гэта таксама ваша работа? — спыталася бабуля.

— Не, мастак, у якога я вучылася, даў мне гэтую карціну, — адказала дзяўчына ледзь чутна.

— Так, значыць, гэта ён сам?

Графіня не адказала, ружовым стаў яе твар, яна прыўзнялася.

— Здаецца, княгіня едзе.

Бабуля адразу пра ўсё здагадалася; цяпер яна ведала, чаго не хапае дзяўчыне. Ніякай княгіні не было. Графіня зноў села, і бабуля, пагаварыўшы пра рознае, пачала апавядаць пра Крыстлу з Мілам і прызналася графіні, што хоча папрасіць за іх княгіню. Гартэнзія ўхваліла яе думку і абяцала, што ахвотна далучыцца.

Нарэшце з'явілася княгіня. Яна ішла па сцежцы, а карэта ехала па дарозе. Сардэчна павітаўшыся з бабуляй, княгіня дала Гартэнзіі букет дзікіх гваздзікоў і сказала:

— Ты, здаецца, любіш дзікія гваздзікі. Я нарвала іх для цябе ў полі.

Дзяўчына нахілілася і пацалавала руку княгіні, а букет заткнула за пояс.

— Гэта слёзкі, — заўважыла бабуля, паглядзеўшы на кветкі.

— Слёзкі? — здзівіліся дамы.

— Так, слёзкі Дзевы Марыі. Так называюць гэтую кветку. Калі Хрыста вялі на Галгофу, Дзева Марыя ішла за ім, хоць сэрца яе разрывалася ад болю. І калі ўбачыла яна па дарозе кроплі крыві Хрыстовай, то горка заплакала, і з тых слёз

Маці Божай і крыві Яе Сына выраслі, кажуць, вось гэтыя кветкі, — казала бабуля.

— Дык гэта кветкі гора і любові.

— Закаханыя ніколі іх не рвуць і не дораць адзін аднаму, бо думаюць, што яны да слёз, — растлумачыла бабуля і падала княгіні шклянку смятанкі, просячы яе не адмаўляцца і прыняць у знак удзячнасці. Княгіня бабулі не адмовіла.

— Божа ж мой, — працягвала бабуля размову, — нават калі б слёзкі і не рвалі, то заўсёды знойдзецца прычына плакаць, бо ў каханні бываюць і гора, і радасць. Калі закаханыя шчаслівыя, то іншыя імкнуцца ім перцу падсыпаць.

— Дарагая княгіня, бабуля хоча прасіць вас за няшчасных закаханых. Выслухайце яе. Я вельмі вас прашу дапамагчы ім!

Графіня склала на грудзях рукі і з просьбаю зірнула на княгіню.

— Кажы, бабуля, я табе ўжо гаварыла, каб ты звярталася да мяне, што рада табе дапамагчы, бо ведаю, што не будзеш прасіць за нягодных, — сказала княгіня, гладзячы пышныя валасы сваёй выхаванкі і ў той жа час ласкава гледзячы на старую.

— Я ніколі не адважылася б, міласэрная княгіня, калі б ведала, што не заслугоўваюць, — і бабуля пачала апавядаць пра Крыстлу і Мілу, найперш пра тое, як Міла трапіў у салдаты; адзінае не сказала, што аканом да сённяшняга дня пераследуе дзяўчыну. Ёй не хацелася шкодзіць гэтаму чалавеку больш, чым трэба.

— Гэта тая дзяўчына, пра якую я ўжо чула? У хлопца, здаецца, была сварка з Піккала?

— Вось-вось, літасцівая пані.

— Яна такая прыгожая, што за яе б'юцца мужчыны?

— Дзяўчына як сунічка, міласэрная пані! Яна панясе вянок на дажынках, і ваша міласць убачыць яе. Але гора не ўпрыгожвае, калі дзяўчыне ў каханні няма шчасця, адразу схіляецца яе галава, як завялая кветка. Крыстла сёння як цень, але дастаткова аднаго слова, і яна ажыве, будзе такой, як

раней. Мілая паненка таксама бледная, але калі дасць Бог і яна ўбачыць родны край і ўсё, што сэрцу міла, яе тварык расквітнее, як пялёсткі ружы, — дадала бабуля, робячы націск на словах «што сэрцу міла», ды так, што дзяўчына была ў роспачы.

Княгіня кінула хуткі позірк на графіню, потым на бабулю, але апошняя зрабіла выгляд, што нічога не адбылося. «Калі ёй дарагое шчасце дзяўчыны, то яна дойдзе да праўды», — падумала сама сабе старая.

Княгіня пасля хвіліннага маўчання паднялася, паклала руку на бабуліна плячо і сказала сваім прыемным голасам:

— Я паклапачуся пра закаханых. Зайдзі заўтра да мяне ў той жа час, матуля, — дадала яна ціха.

— Мілая княгіня, — загаварыла графіня, беручы кнігу пад паху, — бабуля пагадзілася пазіраваць мне, але не хоча афішыраваць, пакуль яна жывая. Як жа гэта зрабіць?

— Што ж, прыходзь у замак, матуля, Гартэнзія цябе намалюе, а партрэт застанецца ў мяне, пакуль будзеш жывая. Намалюе яна і тваіх унукаў, іх партрэты возьмеш сабе, каб засталася ў цябе памяць, калі яны вырастуць.

Так вырашыла княгіня і, ветліва пакланіўшыся, увайшла разам з Гартэнзіяй у карэту. Бабуля, усім задаволеная, пайшла дадому.

## XVII

Раніцаю парыла, і старыя і маладыя працавалі ў полі, спяшаючыся сабраць ураджай. Гаспадары працавалі да глыбокай начы, каб паспець сабраць і сваё, і панскае. Людзям было цяжка, кветкі завялі, птушкі лёталі над самай зямлёй, усё жывое шукала цень. З раніцы ўжо з'явіліся дзе-нідзе на даляглядзе маленькія шэрыя і белыя воблачкі, там-сям растрапаныя. Чым ярчэй разгараўся дзень, тым больш іх прыбывала, яны грувасціліся, падымаліся вышэй, зліваючыся ў вялізнае

воблака, якое цямнела з кожнай хвілінай. Да поўдня на захадзе ўсё было зацягнута чорнай цяжкай хмарай, якая цягнулася да сонца. Са страхам глядзелі жнеі на хмару, хоць людзі ледзь дыхалі ад стомы, — яны працавалі, не разгінаючы спіны. Бясконцыя крыкі і пануканні пісарчука былі дарэмныя. Між іншым, гэта ўвайшло ў ягоную звычку. А то, глядзі, людзі забудуцца, што ён над імі пан, і страцяць да яго рэспект.

Бабуля сядзела на ганку, з трывогай сочачы за хмараю, якая павісла над самым домам. Хлопчыкі і Адэлька гулялі за домам, але ад гарачыні марылі ўсё з сябе паздымаць і ўскочыць у рэчку, калі б толькі бабуля дазволіла. Адэлька, якая заўсёды была шчабятушкай і скакала, як берасцяначка, сёння пазяхала, не хацела гуляць, і вочкі яе заплюшчваліся. Бабуля таксама адчувала, што яе павекі становяцца цяжкімі. Ластаўкі нізка лёталі над зямлёю і хаваліся ў гнёздах; павук, які, як заўважыла бабуля, раніцою аблытаў павуцінаю і прыдушыў некалькі мух, залез у павуцінне, хатняя птушка стайкамі збіралася ў халадку ў двары. Сабакі ляжалі каля бабуліных ног і, высунуўшы языкі, цяжка дыхалі, нібы пасля палявання. Дрэвы стаялі нерухома, ні адзін лісток не варушыўся.

Пан Прошак з жонкаю вярнуліся з замку. «Людзі, збіраецца навальніца, ці ўсе ўжо дома?» — пыталася гаспадыня здалёк. Прынеслі палатно з бялільні, дзяцей паклікалі дахаты, птушак загналі ў хлеўчык. Бабуля паклала на стол хлеб, падрыхтавала грамнічную свечку і зачыніла вокны. Усё змярцвела, сонца закрылі хмары. Пан Прошак спыніўся па дарозе і паглядзеў навокал.

У лесе пад дрэвам ён убачыў Вікторку. Раптам падзьмуў ветрык, здалёку загрымела, у чорнай хмары зазіхацела маланка. «Божа, гэтая няшчасная стаіць пад дрэвам!» — падумаў пан Прошак і пачаў крычаць і паказваць рукамі, каб адышла. Вікторка пры кожнай бліскавіцы пляскала ў далоні і рагатала, а на пана Прошака не звяртала аніякай увагі. Упалі першыя буйныя кроплі, маланкі перакрыжоўваліся на чорным

небе, гром пачаў грукацець, бура выбухнула з вялікай сілай. Пан Прошак увайшоў у дом. Бабуля запаліла грамнічную свечку і малілася разам з дзецьмі, якія ўздрыгвалі пры кожнай бліскавіцы, пры кожнай грымоце. Пан Прошак хадзіў ад акна да акна, пазіраючы на двор. Ліло як з вядра, неба нібыта расчынілася, маланкі зіхацелі адна за адной, здавалася, нібы злыя духі лёталі ў паветры. Імгненне ціха — і зноў сінежоўты водбліск асвятліў пакой, падобная на крыж маланка рассекла неба і дзве страшныя грымоты прагучалі проста над домам. Бабуля хацела сказаць: «Бог з намі», — але словы застылі на яе вуснах, пані Прошкава ўхапілася за стол, пан Прошак збялеў, Ворша і Бетка ўпалі на калені, а дзеці пачалі плакаць. Навальніца нібы тым сваім апошнім выбухам выліла сваю злосць і паступова пачала заціхаць. Слабейшымі сталі грымоты, хмары разыходзіліся, змянялі фарбы і зноў між шэрых аблокаў выглянула блакітнае неба. Маланкі зіхацелі ўсё радзей, дождж спыніўся, навальніца прайшла.

Як усё змянілася навокал! Стомленая зямля адпачывае, хоць пакуль не адышла ад узрушэння, а сонца глядзіць на яе яшчэ вільготным, але ясным вокам, тут і там яшчэ набягаюць хмаркі — рэшткі шалёнай буры. Трава, кветкі — усё прыгнута да зямлі; па дарогах цякуць ручаі, вада ў рэчцы скаламуцілася, дрэвы страсаюць з сябе тысячы кропель, якія зіхцяць на іх зялёных вопратках. Закружыліся ў паветры птушкі; гусі і качкі цешацца з луж і ручаін, што засталіся пасля залевы; куры зноў ганяюцца за жукамі, якія ў вялікай колькасці мітусяцца па зямлі; павук зноў тчэ сваю павуціну. Усё жывое, якое затаілася, зноў спяшаецца да новага жыцця, да новай барацьбы.

Пан Прошак выйшаў на вуліцу, абышоў сядзібу і ўбачыў, што маланка звапіла старую грушу, галіны якой столькі гадоў засцерагалі страху яго дома. Адна палова яе ляжала на даху, другая — на зямлі. Ужо шмат гадоў не радзіла старая дзічка, плады яе былі нясмачнымі; але грушу любілі, бо з вясны да зімы ўпрыгожвала яна страху сваёй лістотай.

На палях лівень таксама нарабіў бяды, але людзі ўсё ж радаваліся, што абыйшлося без граду, а то яшчэ горш было б. Пасля абеду дарогі прасохлі, і пан бацька пайшоў да гаці, як звычайна, у чаравіках. Ён сустрэў бабулю, што ішла да замка. Млынар расказаў ёй, колькі шкоды нарабіла навальніца садавіне, пачаставаў бабулю табакай, спытаўся, куды яна ідзе, а калі пачуў, што да двара, пайшоў сваёю дарогай, а бабуля сваёй.

Пану Леапольду загадалі прывесці бабулю да княгіні адразу. Калі старая паказалася ў пярэднім пакоі, ён без усялякіх роспытаў адчыніў дзверы ў маленькую гасцёўню, дзе сядзела княгіня. Яна была адна. Княгіня запрасіла бабулю сесці побач з сабою, і тая асцярожна села.

— Мне вельмі падабаюцца твая простасардэчнасць і шчырасць; я стаўлюся да цябе з усім даверам і думаю, што з той жа шчырасцю ты адкажаш на мае пытанні, — пачала княгіня.

— Інакш і быць не можа, міласэрная пані, толькі пытайцеся, — сказала бабуля, не разумеючы, чаго княгіня ад яе хоча.

— Ты ўчора сказала: калі дзяўчына прыедзе на сваю радзіму і ўбачыць тое, што сэрцу міла, то яе твар паружавее. Гэтыя словы ты сказала так шматзначна, што я задумалася. Ці я памыляюся, ці ты на самой справе гаварыла з намерам?

Княгіня, прамаўляючы гэта, уважліва глядзела на старую, але тая зусім не збянтэжылася. Яна хвілінку падумала, а потым шчыра прызналася:

— Я з намерам так сказала. Пра што думала, тое і на язык трапіла. Хацела я, княгіня, вам на сёе-тое вочы адкрыць. У час сказанае слова даражэй за золата.

— Цябе прасіла графіня? — дапытвалася княгіня.

— Божа барані! Паненка не з тых, што выносяць свае слёзы на вуліцу. Ды толькі той, хто сам прайшоў праз выпрабаванні, і без слоў усё разумее. Не заўсёды чалавеку ўдаецца ўтаіць тое, што ў яго на душы, вось я і здагадалася.

— Пра што ты здагадалася? Што пачула? Раскажы мне, гэта не простая цікаўнасць, але клопат пра маё дзіця, якое я

люблю, як уласнае, і таму я вымушана ведаць пра ўсё, — з трывогаю казала княгіня.

— Што чула, тое і скажу, нічога ў гэтым няма дрэннага, ды я і не заракалася маўчаць, — адказала старая і расказала, што ёй было вядома пра заручыны і хваробу графіні. — Думка адна прыводзіць думку другую. Калі чалавек глядзіць здалёк, ён інакш бачыць, чым зблізку, а што галава, то і розум. Так, міласэрная пані, і мне прыйшло на розум, што паненка згадзілася на шлюб з графам не кахаючы яго, а толькі з пажадання дагадзіць вашай светласці. Учора, гледзячы на паненку, я ледзь не заплакала. Сталі мы з ёю разглядаць прыгожыя малюнкі, што яна намалявала — на дзіва добрыя, — і тут трапіўся мне малюнак, які, як сказала мне паненка, настаўнік яе маляваў і ёй падараваў. Спытала я ў яе, ці гэты прыгожы пан і ёсць ён? Стары чалавек, як дзіця малое, усё павінен ведаць. Расчырванелася яна, як ружа, устала, не сказаўшы ні слова, а ў самой вочы поўныя слёз. Мне гэтага было дастаткова, а міласэрная пані найлепей будзе ведаць, ці мела рацыю старая бабуля.

Княгіня паднялася з месца, прайшлася па пакоі і сама сабе сказала: «Не заўважала я нічога. Яна заўсёды вясёлая, паслухмяная. Ніколі пра яго не казала».

— Ну, — азвалася бабуля ўголас, — кожны чалавек не падобны да другога. Аднаму радасць не радасць, смутак не смутак, пакуль з людзьмі не падзеліцца, іншы, наадварот, пачуцці свае ўсё жыццё з сабою носіць і з імі кладзецца ў дамавіну. Цяжка зразумець такіх людзей, але каханне нараджае каханне. Я думаю, што з людзьмі, як з тымі зёлкамі. За адной далёка хадзіць не трэба, усюды яе знойдзеш, на кожным лузе, на кожнай мяжы. Іншую ж даводзіцца шукаць у лясных нетрах, зазіраць пад лісточкі, не лічыць за клопат і ўздымацца ў горы і на дзікія скалы, не заўважаць цярноўніка і калючак, што часам перапыняюць шлях. Затое такая зёлка мне ў тысячу разоў даражэй. Баба, што збірае лекавыя расліны і ходзіць да нас з гор, заўсёды кажа, калі прыносіць духмяны

мох: «Шмат працы пакладзена, каб дастаць яго, але ён таго варты». Гэты мох пахне фіялкамі, і зімою той мох чалавеку нагадвае пра вясну. Прабачце, ваша міласць, я і сама саб'юся з дарогі. Хацела я сказаць, што паненка таму вясёлая была, што мела надзею, а цяпер, калі яе страціла, тут каханне яшчэ мацней разгарэлася. Бывае так, што не ведаеш, што маеш, пакуль не страціш.

— Дзякуй за праўду, матуля, — сказала княгіня, — ці змагу я заваяваць яе давер, не ведаю, толькі б яна была шчаслівая. Табе яна павінна быць удзячная, бо без цябе я так нічога і не ведала б. Не буду больш цябе затрымліваць. Заўтра графіня збіраецца маляваць, прыходзь сюды з унукамі.

З гэтымі словамі праводзіла княгіня бабулю, якая пайшла з перакананнем у сэрцы, што садзейнічала добрым словам шчасцю чалавека.

Падыходзячы да дома, сустрэла яна лесніка. Ён быў усхваляваны і ішоў няцвёрдым крокам.

— Паслухайце, што здарылася, — сказаў ён голасам, які зрываўся.

— Не мучце мяне, скажыце хутка што?

— Вікторку Бог прыбраў!

Бабуля ўспляснула рукамі, хвіліну нічога не магла сказаць, дзве буйныя, як гарошыны, слязіны выкаціліся з яе вачэй.

— Бог яе любіў, таму і даў ёй спрадвечны спакой, — сказала ціха.

— Прыняла лёгкую смерць, — уздыхнуў ляснік.

На вуліцу выйшлі Прошкавы з дзецьмі і, пачуўшы сумную навіну, спыніліся, ураженыя.

— Значыць не выпадкова я напалохаўся, калі ўбачыў яе пад дрэвам! Крычаў я, махаў рукою, але яна толькі смяялася. Выходзіць, я бачыў яе ў апошні раз. Ну, цяпер ёй добра.

— А хто яе знайшоў? Дзе? — пыталіся ўсе.

— Ішоў я, — сказаў ляснік, — калі навальніца сціхла, паглядзець на лес, ці не нарабіла яна бяды. Выходжу на ўзгорак да хвой, што зрасліся, ведаеце, якія растуць над Вікторчынай

пячорай, і бачу, што нехта ляжыць пад хвоямі, а зверху хваёвыя галінкі. Паклікаў — ніхто не адказвае, глянуў угару — адкуль бы тут хвоям ўзяцца, а з абодвух дрэў нібыта хтосьці спецыяльна кару садраў зверху данізу разам з галінкамі. Разгроб я хуценька лапнік, гляджу — пад ім нежывая Вікторка. Дакрануўся, а яна ўжо халодная. Ад пляча да нагі на левым баку сукенка спаленая. Хутчэй за ўсё, яна ўзрадавалася навальніцы (Вікторка, звычайна, як убачыць маланку, то смяецца), выбегла на ўзгорак, з якога далёка бачна, і села пад хвою. Там і прыйшоў ёй канец.

— Як нашай старой грушы, — ціха сказала бабуля. — А дзе вы яе паклалі?

— Загадаў аднесці да сваёй хаты, гэта бліжэй. Сам і пахаваю, хоць сябры мяне адгаворваюць. Ужо быў у Жэрнаве, паведаміў, каму трэба. Не думаў я, што так хутка мы страцім яе. Будзе мне яе не хапаць! — гараваў ляснік.

З Жэрнава пачуўся гук звона. Усе перахрысціліся і зашапталі словы малітвы. Гэта званілі па Вікторцы.

— Пойдзем паглядзім на яе, — прасілі дзеці бацькоў і бабулю.

— Прыходзьце заўтра, калі яна будзе ляжаць прыбраная ў труне, — вырашыў ляснік і, развітаўшыся, сумны пайшоў.

— Ужо не будзе да нас хадзіць Вікторка, ужо не будзе спяваць каля гаці, бо яна на небе, — казалі дзеці, зноў вяртаючыся да сваіх спраў, і былі настолькі ўзрушаныя, што не спыталіся ў бабулі пра графіню.

— Бясспрэчна, на небе, бо шмат гора зведала на зямлі, — думала бабуля.

Чуткі пра смерць Вікторкі хутка разнесліся па ўсёй даліне; кожны яе ведаў, шкадаваў і лічыў, што лепш такой не жыць. І вось прыняла яна смерць такую, якую Бог рэдка дасылае людзям. Калі раней пра яе казалі са спачуваннем, то цяпер — з павагай.

Калі бабуля на другі дзень разам з дзецьмі прыйшла ў замак, каб графіня пачала малюваць, княгіня таксама завяла

гаворку пра Вікторку. Калі графіня пачула, як у сядзібе лесніка і Старой бялільні яе любілі, то паабяцала перамаляваць для іх тую карціну, якую бачыла бабуля, — Вікторку пад дрэвам.

— Ёй хочацца перад ад'ездам кожнага парадаваць, а калі б магла, то забрала б усіх з сабой, — усміхнулася княгіня.

— А дзе ж лепей адпачнеш душой, як не сярод людзей, якія цябе любяць. Ці ёсць большая радасць, чым радаваць іншых? — адказала бабуля.

Дзеці з цікавасцю чакалі, калі з'явяцца іх партрэты (пра тое, што малююць бабулю, не ведаў ніхто), радаваліся падарункам, якія абяцала ім графіня, калі будуць сядзець спакойна, і сядзелі як вады ў рот набраўшы. Бабуля з цікавасцю сачыла, як пад майстэрскім пэндзлем дзяўчыны рысы мілых сэрцу твараў выступалі ўсё жывей і жывей, а сама спыняла ўнукаў, калі яны прымаліся за сваё:

— Сядзі, Ян, не круціся, а то атрымаешся сам на сябе непадобны. Ты, Барунка, не моршчы нос, як трусік, каму такая будзеш патрэбна. Вілімек, не ўздымай увесь час плечы, нібы гусь крылы, калі ён пер'е губляе.

Адэлька забылася і сунула палец правай рукі ў рот; бабуля яе сарамаціла:

— Сорамна, такая паненка, што ўжо магла б і хлеба накроіць, а я мушу намазаць ёй палец гарчыцай.

Графіня малявала з вялікай радасцю і шмат смяялася разам з дзецьмі. Яна з кожным днём станавілася ружавейшая, бабуля казала, што на яе думку, выглядае паненка не як ружачка, а як ружовенькая галінка квітнеючай яблыні. Дзяўчына павесялела, вочы яе ясна і прыгожа свяціліся, кожнаму яна міла ўсміхалася, усім ёй хацелася сказаць нешта прыемнае. Часам, калі яна глядзела на бабулю, яе вочы станавіліся вільготнымі, і, адклаўшы пэндзаль, яна абдымала бабуліну галаву сваімі рукамі і цалавала лоб у зморшчынках, гладзіла сівыя валасы. Адзін раз яна нахілілася і пацалавала бабуліну руку. Гэтага бабуля не чакала і ўздрыгнула, быццам яе абдалі варам.

— Што вы робіце, паненка, ці так можна!?

— Я ведаю, што раблю, я вельмі ўдзячная табе, ты была маім анёлам! — І графіня стала перад бабуляю на калені.

— Няхай Бог вас бласлаўляе і дасць вам шчасця, якога вы жадаеце, — сказала бабуля, паклаўшы сваю руку на белы і чысты, як пялёстак лілеі, лоб схіленай дзяўчыны. — Я памалюся за вас і княгіню. Яна цудоўная пані!

На другі дзень пасля навальніцы ляснік зайшоў на Старую бялільню і паведаміў, што могуць прыйсці і развітацца з Вікторкаю. Пані Прошкава не магла бачыць нябожчыкаў і засталася дома. Пані млынаркаісці адмовілася, як растлумачыў пан млынар, яна баялася, што Вікторка з'явіцца да яе ўначы. Крыстла была на паншчыне, з бабуляю і дзецьмі пайшла толькі Манчынка. Па дарозе нарвалі кветак, а з хатняга агародчыка захапілі з сабою рэзеду, хлопцы ўзялі асвечаныя абразкі, якія прынесла ім бабуля з Сватанёвіц, бабуля трымала ружанец. У Манчынкі ў руках былі абразкі.

— Хто б мог падумаць, што хутка будзем ладзіць пахаванне? — сказала жонка лесніка, вітаючы бабулю на парозе.

— Усе пад Богам ходзім, раніцаю ўстаем, а ці будзем увечары класціся спаць, не ведаем, — адказала бабуля.

Прыбегла сарна і ткнулася ў фартух Адэлькі, сыны лесніка і сабакі кruціліся вакол гасцей.

— Дзе яна ляжыць? — спыталася бабуля, заходзячы ў сенцы.

— У садовай вартаўнічцы, — адказала лесьнічыха і, узяўшы Анушку за руку, павяла гасцей у сад.

Вартаўнічка, у якой быў толькі адзін пакой, была знутры выкладзена хвояй; пасярод на пахавальных насілках, што былі зроблены з негабляваных бярозавых дошак стаяла дубовая труна, а ў ёй ляжала Вікторка. Жонка лесніка апранула яе ў белую кашулю, лоб абвіла вянком з чырвоных гваздзікоў, пад галаву паклала зялёны мох. Рукі Вікторкі былі складзены на грудзях, як любіла яна іх трымаць пры жыцці. Труну і крышку лесьнічыха ўпрыгожыла хваёвымі галінкамі; каля галавы

гарэла лампадка, каля ног стаяў кілішак са святой вадой і ляжала крапіла з жытніх каласоў.

Жонка лесніка сама ўсё зрабіла і некалькі разоў на дзень заходзіла ў вартоўню, каб паглядзець на Вікторку, бо лічыла гэта сваім абавязкам. Бабуля падышла да труны, перахрысціла нябожчыцу, укленчыла і стала маліцца. Дзеці зрабілі тое ж.

— Скажыце мне, ці падабаецца вам тое, што я зрабіла? — спытала заклапочана жонка лесніка, калі бабуля ўзнялася з кален пасля малітвы. — Я не стала класці шмат кветак і абразкоў, бо падумала, што і вам захочацца пакласці нешта ў труну.

— Добра ўсё зрабіла, кума, добра, — ухваліла бабуля гаспадыню.

Жонка лесніка ўзяла ў дзяцей кветкі і абразкі, паклала каля цела нябожчыцы. Бабуля надзела ружанец на яе халодную руку, доўга глядзела ёй у твар. Гэты твар не быў дзікаватым! Чорныя бяздонныя вочы яе былі закрытыя, святло ў іх назаўсёды згасла. Цёмныя, ускалмачаныя валасы былі прыбраныя, на халодным, як мармур, ілбе ляжаў вянок з чырвоных гваздзікоў, як залог кахання. На твары не было бачна слядоў сутаргавых цікаў, што рабілі твар непрыемным. Але на вуснах застылі горкая ўсмешка і страх, нібы адлюстраванне апошняй думкі нябожчыцы.

— Чаму хварэла тваё беднае сэрцайка? Што з табою зрабілі? — сказала бабуля ціхім голасам. — Ці атрымаеш ты ўзнагароду за свае зямныя пакуты, Бог будзе вырашаць. Табе цяпер светла і спакойна.

— Каваліха сказала, што трэба было пакласці пад галаву пілавінне, а муж прынёс моху; баюся, каб не асудзілі мяне людзі і Вікторчыны родныя. Узялі на сябе клопат і так бедна хаваем, — нервавалася жонка лесніка.

— Няма тае хусткі, каб завязаць людзям вусны. Мілая кума, не звяртайце ўвагі на тое, што кажуць людзі. Пакуль чалавек жывы, у яго не пытаюцца, як яму жывецца, а пасля смерці ў золата б апранулі. Ці не так? Пакіньце ёй зялёную

падушку, бо пятнаццаць гадоў іншай не ведала, — з гэтымі словамі бабуля ўзяла крапіла, тройчы акрапіла нябожчыцу святой вадой ад галавы да ног, перахрысціла, сказала дзецям зрабіць тое ж і пакінула вартоўню.

За Рызнбургам у рамантычнай даліне, ля боўшынскай каплічкі, якую калісьці Турынскі пан пабудаваў у гонар сваёй нямой дачкі, якая вылечылася, ёсць могілкі. Там пахавалі Вікторку. На магіле пасадзіў ляснік хвою.

— Хвоя зялёная і зімою і летам, ды і любіла яна яе, — казаў ён бабулі, калі выпадала ім размаўляць пра Вікторку.

На Вікторку не забыліся, хоць не гучала больш каля гаці яе калыханка; пустою была яе пячора, а хвоі ссечаныя. Імя няшчаснай дзяўчыны жыло далей у сумнай песні, якую склала пра яе Барла з Жэрнава.

## XVIII

Бабулін партрэт графіня пакінула ў сябе, а партрэты ўнукаў аддала, і яны вельмі ўсцешылі бацькоў, а больш за ўсё бабулю. Гартэнзія здолела ўкласці ў твары душу, і мела рацыю бабуля, калі кожнаму, каму паказвала партрэты (а іх павінны былі ўбачыць усе знаёмыя), казала: «Засталося толькі раскрыць вусны і загаварыць». І праз шмат гадоў, калі ўнукі ўжо пакінулі родны дом, яна адзначала: «Хоць простыя людзі не ўмеюць маляваць сябе, але гэта добры звычай. Я пакуль усіх добра памятаю, але, калі пройдуць гады і памяць аслабне, пачынае чалавек забывацца на рысы твару. Тады будзе радасцю, калі змагу я такую карцінку паглядзець».

З панскіх палёў ужо звозілі апошнюю пшаніцу. Усе ведалі, што княгіня доўга не затрымаецца ў маёнтку, бо збіраецца з графіняю ў Італію, таму і вырашыў аканом наладзіць дажынкі адразу пасля таго, як вывезуць апошнюю пшаніцу.

Крыстла была самай прыгожай дзяўчынай у наваколлі і да таго ж спрытнай, бабуля добра прыдумала, каб абралі яе

падносіць вянок княгіні. За замкам цягнулася пожня, часткова парослая травой, часткова занятая высокімі стажкамі саломы. У траве хлопцы зрабілі высокі памост і ўпрыгожылі яго хваёвымі галінкамі, стужкамі і чырвонымі хустачкамі, якія лунапі ў паветры, паміж галін панаўтыкалі палявых кветак і каласкоў. Вакол стагоў паставілі лавы, парабілі з хвой альтанкі, каля святочна прыбранага моста ўтапталі зямлю для танцаў.

— Бабуля, бабуля, — казала Крыстла, — вы мяне ўвесь час супакойвалі, я вашымі словамі толькі жыла, Мілу дала столькі надзеі. І вось дажынкі, а пакуль не ведаем, на што спадзявацца. Скажыце мне, калі ласка, ці не было гэта суцяшальным яблыкам, якое вы нам паказалі, каб мы адвыклі адзін ад аднаго?

— Было б неразумна вас такім чынам абнадзейваць, дурненькая. Што я вам казала, тое і будзе. Заўтра прыгожа апраніся, княгіня гэта любіць. І я таксама, калі буду жывая і здаровая, прыйду паглядзець. А калі ў мяне будзеш пытаць, то скажу ўсю праўду, — адказала бабуля дзяўчыне і ўсміхнулася. Шчыра сказаць, бабуля ведала, як склаўся лёс Мілы, і калі б не паабяцала княгіні маўчаць, пастаралася б супакоіць Крыстлу.

Усе, хто хадзіў на паншчыну, і моладзь, якая працавала на панскім двары, сабраліся на другі дзень на зялёным траўніку. На калёсы паклалі снапы, грывы коней упрыгожылі стужкамі, адзін з хлопцаў сеў наперадзе; Крыстла з сяброўкамі ўзлезлі на снапы. Астатняя моладзь стала парамі за калёсамі, старэйшыя — ззаду. Жняцы трымалі ў руках снапы і косы, жнеі — сярпы і граблі. У гарсажах дзяўчат былі букеты з каласкоў, валошак і іншых палявых кветак; хлопцы ўпрыгожылі кветкамі шапкі і капелюшы. Пахолак узмахнуў пугаю, пагнаў каня, жанчыны пачалі спяваць і спявалі аж да самага замка. Перад замкам калёсы спыніліся, дзяўчаты злезлі са снапоў. Крыстла паклала на рукі вянок з каласоў, падсцяліўшы пад яго чырвоную хустку, моладзь стала за ёю, і з песняю

ўвайшлі ў пярэдні пакой, куды тым часам выйшла княгіня. Крыстла калацілася ад страху, твар яе зачырванеўся; апусціўшы вочы, заікаючыся, павіншавала яна княгіню з паспяховым завяршэннем жніва і багатым ураджаем, пажадала ёй сабраць не меншы і на будучы год і паклала вянок да яе ног. Жняцы знялі шапкі і пажадалі княгіні здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Ласкава падзякаваўшы, княгіня загадала аканому ўсіх накарміць і напаіць.

— А табе, мілая дзяўчына, за добрае пажаданне і вянок асабліва ўдзячная, — сказала яна Крыстле, вешаючы вянок на руку, — бачу, што ўсе па парах, а ты адна. Пэўна, лепшай узнагародай будзе, калі я знайду табе танцора!

Усміхнулася, адчыніла дзверы салона, а з іх выйшаў Міла ў цывільным адзенні.

— Езус-Марыя, Якуб! — ускрыкнула дзяўчына; ногі яе падкасіліся, і яна павалілася б на зямлю, калі б Міла не паспеў яе падтрымаць пад пахі.

Княгіня ціха выйшла з салона.

— Пойдзем, пойдзем, — прыспешваў Міла, — княгіня не хоча, каб ёй дзякавалі.

Калі выйшлі з памяшкання, то ён узняў угару руку з поўным мяшэчкам і сказаў: «Гэта мне дала княгіня, каб я паміж вамі падзяліў. Вазьмі, сябра, раздай сам! — дадаў ён, падаючы грошы Томашу, які здзіўлена, як і астатнія, глядзеў на Мілу. Цяпер, калі выйшлі з замку, моладзь дала волю сваёй радасці, а Якуб горача абняў каханую дзяўчыну і ўсім растлумачыў, што сваім вызваленнем ад службы абавязаны княгіні. «І бабулі, — дадала Крыстла, — калі б не яна, нічога не было б».

Пачалі рыхтавацца да танцаў. Прыйшлі, акрамя жняцоў, служачыя з замка са сваімі роднымі, Прошкавы, ляснік і млынар з сем'ямі; бабуля з'явілася раней за ўсіх. Яна імкнулася ўбачыць як мага хутчэй закаханых, і зразумела, чаму Крыстла і Міла яе ледзь не абдымалі.

— Мне не дзякуйце, я толькі сказала, а княгіня дапамагла, і Бог таго пажадаў.

— А вы, бабуля, — гразіла пальцам Крыстла, — ведалі ўчора, што Міла вярнуўся і сядзіць у Вацлава, а маўчалі!

— Я не магла. Ці не дастаткова было табе майго слова, што яго ты хутка ўбачыш? Памятай, дзяўчына, што цярплівы заўсёды выйграе.

Музыка, крыкі, спевы і смех гучалі каля ўпрыгожанага мосту. Служачыя замка запрашалі на танцы вясковых дзяўчат, а іх дочкі не саромеліся танцаваць з вясковымі хлопцамі, кожны знайшоў сабе пару. Піва, наліўкі і танцы разгарачылі галовы. А калі княгіня з графіняю прыйшлі паглядзець, і моладзь перад імі танцавала народныя танцы, радасць дасягнула найвышэйшай ступені, знікла нясмеласць, шапкі і капялюшы лёталі ў паветры, кожны крычаў: «Добрага здароўя нашай княгіні!» Пілі і пілі за яе здароўе безупынку.

Задаволеныя княгіня і графіня перакінуліся з адным, з другім некалькімі словамі, Гартэнзія пажадала Крыстле, калі тая цалавала ёй руку, шчаслівага замужжа, пагаварыла з млынаром і леснікам, а потым ласкава звярнулася да бабулі, чым выклікала злосць у аканомавых жонкі і дачкі, якія цярпець не маглі бабулю за тое, што парушыла ўсе іх задумы. За сталом старыя пачалі лаяць пісарчукоў і аканома, а адзін з іх схапіў кубак з півам і хацеў паднесці яго княгіні, а калі Томаш яго не пусціў, то пачаў крычаць, але княгіні там ужо не было.

Праз некалькі дзён пасля дажынак княгіня з графіняю паехалі ў Італію; графіня перад ад'ездам аддала бабулі для Крыстлы прыгожыя гранаты да вяселля.

Бабуля хадзіла задаволеная, усё склалася так, як яна і задумала. Але заставаўся яшчэ адзін клопат; трэба было напісаць ліст дачцэ Іаганцы. Яго магла б напісаць Тэрэзка, але ён не быў бы такім, як хацела бабуля. Таму аднойчы паклікала яна Барунку ў свой пакой, зачыніла дзверы і, паказаўшы на стол, дзе ляжалі падрыхтаваныя папера, чарніла і пяро, сказала: «Сядай, Барунка, будзеш пісаць ліст цётцы Іаганцы». Барунка села, бабуля побач з ёю, так, каб бачыць паперу, і пачала дыктаваць:

— Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!

— Але, бабуля, — не пагадзілася дзяўчынка, — так лісты не пачынаюць. Трэба пісаць: «Мілая Іаганка!»

— Ні да чаго гэта, дзяўчынка, твой прадзед і дзед так пісалі, і я дзецям інакш не пісала. Калі прыйдзеш да каго-небудзь, дык найперш прывітаеш: «Будзь пахвалёны Езус Хрыстус!» Вось і пачні, як я кажу. Будзь пахвалёны Езус Хрыстус! Сто разоў цябе вітаю і цалую, мілая дачка Іаганка, і паведамляю табе, што я, хвала Богу, здаровая. Троху мяне прымушае пакутаваць кашаль, але нічога дзіўнага, бо хутка споўніцца мне восемдзесят гадоў. Гэта добрыя гады, мілая дачка, і Богу трэба дзякаваць за тое, што жыву з такім здароўем; добра чую, бачу яшчэ так, што і цыраваць змагла б, калі б не рабіла за мяне гэта Барунка. На ногі таксама не магу скардзіцца. Спадзяюся, што і цябе гэты ліст заспее ў добрым здароўі, і Даротку. З твайго ліста я зразумела, што дзядзька хварэе, вельмі шкада, але спадзяюся, што гэта не будзе доўга працягвацца. Ён часта стогне, але кажуць, што частыя стогны не прыводзяць да звону. Таксама мне пішаш, што хочаш узяць шлюб і чакаеш на маё благаславенне. Мілая дачка, што я магу сказаць, калі ты ўжо абрала чалавека па сэрцу, дай Бог табе шчасця і няхай блаславіць ён вас абодвух, жывіце ў пашане і хвале божай і чалавечай. Чаму б я была супраць, калі Іржы добры чалавек і ты яго кахаеш? Не мне з ім жыць, а табе. Спадзявалася я, што ты чэха знойдзеш, свой да свайго найлепш падыходзіць, ды, бачу, не быць гэтаму, я не ў крыўдзе. Усе мы дзеці аднаго бацькі і адна маці нас жывіць, і павінны яны любіць адзін аднаго, хоць і не ў адной краіне нарадзіліся. Прывітай Іржы, а дасць вам Бог здароўя, як наладзіце гаспадарку і ўсё будзе добра, то наведайце нас. Дзеці не могуць дачакацца, калі ўбачаць сваю цётку. Дай вам Бог усім здароўя і заставайцеся з Богам!»

Барунка павінна была перачытаць бабулі ліст яшчэ раз; потым яго склалі, запячаталі, і бабуля схавала яго ў шуфляду, каб, калі яна пойдзе да касцёла, самой аднесці на пошту.

За некалькі дзён да святой Кацярыны ўвечары збіралася ў шынку моладзь, хлопцы і дзяўчаты. Дом звонку і ўнутры быў вычышчаны да бляску; каля дзвярэй віселі вянкі з хвоі, у святліцы за кожным абразом — зялёная галінка, фіранкі на вокнах белыя, як снег, вымытая да белізны падлога.

Доўгі ліпавы стол, накрыты белым абрусам, а па ім раскіданы галінкі размарыну, белыя і чырвоныя стужкі; каля яго дружкі, быццам нехта насадзіў руж і гваздзікоў. Яны сышліся віць вянок Крыстле, маладой нявесце, якая сядзела на куце сярод іх, самая прыгожая з усіх дзяўчат. Яе вызвалілі ад усіх абавязкаў па гаспадарцы і аддалі пад нагляд свата і свацці. Гэтыя ганаровыя пасады выконвалі Марцінец, што вадзіў людзей на набажэнства, і бабуля. Яна не магла адмовіць Крыстле, хоць, па магчымасці, падобных мерапрыемстваў пазбягала. Пані мама заняла месца старой хворай гаспадыні, а жонка Кудрны і Цылька дапамагалі ёй. Бабуля сядзела каля дружак маладой, і хоць ад яе не патрабавалі віць вянкі або вязаць букеты, яе дапамога і парады былі вельмі важнымі. Нявеста прывязвала бант на прыгожую галінку размарыну для дружкі і свата; малодшая дружка павінна была звіць вянок для нявесты, старэйшая — для жаніха; астатнія дружкі вілі вянок кожная свайму хлопцу. Галінкі размарыну, якія засталіся, перавязвалі банцікамі, іх рыхтавалі для гасцей. Рыхтавалі букеты размарыну і банты для ўпрыгожвання грыў і збруі коней, што павінны былі везці нявесту.

Вочы нявесты загараліся каханнем і радасцю, калі яны спыняліся на ладнай постаці жаніха; ён прахаджваўся каля стала з іншымі хлопцамі. Кожны з іх мог больш свабодна размаўляць са сваёй каханай, чым жаніх з нявестай, таму Міла хвілінамі толькі глядзеў на яе. Побач з нявестаю сядзеў дружка, а жаніх павінен быў знаходзіцца каля старшай дружкі. Усе маглі весяліцца, жартаваць, спяваць, быць дасціпнымі, найперш гэта патрабавалася ад свата: толькі жаніх з нявестай не мелі права паказваць сваю радасць. Крыстла гаварыла мала, не ўзнімала вачэй ад стала, на якім ляжаў зялёны

размарын. Калі старэйшая і малодшая дружкі пачалі звіваць вясельныя вянкі, а ўсе заспявалі:

Дзе, галубка, лётала,
ах, лётала,
ты ж белае пёрышка запэцкала,
ах, запэцкала, —

маладая прыкрыла твар белым фартухом і заплакала. Жаніх з трывогаю на яе паглядзеў і спытаў у свата:

— Чаму яна плача?

— То, ведаеш, жаніх, — адказаў той яму весела, — радасць і туга спяць у адным ложку, таму адно цягне за сабой другое. Не бойся, сёння плача, а заўтра будзе радавацца.

Тут зноў пачалі спяваць, песня гучала за песняй, за вясёлымі ішлі сумныя; у іх славілі маладосць, прыгажосць і каханне, вольнае жыццё юнацкае; нарэшце хлопцы і дзяўчаты пачалі спяваць хвалу жыццю ў шлюбе, калі двое кахаюць адзін аднаго, як галубкі, і жывуць у згодзе, як зярняткі ў адным коласе. Іх велічальныя спевы ўвесь час перапыняў сваімі дасціпнымі жартамі сват. Калі пачалі песню пра згоду ў шлюбе, сват заявіў, што ведае навейшую песню.

— Сам на свет выпусціў, таму што зведаў на ўласным вопыце, — дадаў.

— Кукарэкайце! — крычалі хлопцы, — паслухаем, як спяваеце.

Сват выйшаў на сярэдзіну святліцы і голасам, у якім чуўся затоены смех, натуральны на вяселлі, як уздых на набажэнства, пачаў:

О, анёльская радасць
не ў сямейнай згодзе!
Кажу: «Звары мне гароху»,
Яна зварыла пшонку,
Ці кажу: «Мяса захацеў з'есці!»

Яна зробіць з мукі.
О, анёльская радасць
не для сямейнай згоды.

— Такая песня разам са спеваком гарэлага шэлега не вартая! — засмяяліся дзяўчаты і адразу пачалі спяваць, каб не даць хлопцам радасці пачуць працяг. За спевамі і жартамі звязалі букеты, сплялі вянкі, дзяўчаты ўсталі з-за стала, узяліся за рукі і, утварыўшы кола, заспявалі:

Ужо гэта зроблена,
Ужо гэта гатова,
Каравай выпечаны,
Вяночкі звіты.

У гэты момант у дзвярах з'явілася пані мама, якая разам з жанчынамі несла розную ежу. Пан бацька і дружка неслі пітво. Зноў усе селі за стол, на якім месца размарыну занялі смажаніна і печыва. Хлопцы селі каля дружак, а жаніх — паміж старэйшай дружкаю і свахай, нявеста — паміж дружкам і малодшаю дружкаю, якая разразала і падносіла ёй ежу так, як старэйшая дружка жаніху.

Сват увесь час хадзіў каля стала, дазваляючы дзяўчатам то карміць сябе, то лаяць; затое ж ім прыходзілася выслухоўваць яго жарты, якія часам былі грубаватымі. Калі са стала прыбралі посуд, прынёс сват тры міскі на стол — яго падарунак нявесце. У адной была пшаніца, якую ён дарыў з пажаданнем, каб «урадлівая» была; у другой было троху попелу, змяшанага з просам, каб нявеста, выбіраючы зерне, вучылася цярпенню; трэцяя міска, «таямнічая», была зачынена. Нявеста не павінна быць цікаўная, трэба прыняць місу і не зазіраць у яе. Але як жа можна вытрымаць, і Крыстла не магла супакоіцца; калі ніхто не бачыў, яна трошкі прыўзняла кончык белай хусткі, якая закрывала міску, і — фр-р-р — накрыты там верабей узляцеў да столі.

— Вось бачыш, мілая нявеста, — сказала бабуля, дакранаючыся да пляча, — так бывае з той цікаўнасці. Чалавек хутчэй памрэ, чым адмовіцца даведацца, што ад яго схавана, а зазірне пад крышку — там нічога няма.

Моладзь не разыходзілася да позняй ночы, пасля пачастункаў пачаліся танцы. Жаніх з дружкаю праводзілі сваху дахаты, нагадваючы ёй на развітанне, што заўтра трэба прыйсці раней.

Раніцаю жыхары даліны і Жэрнава былі ўжо на нагах. Некаторыя ішлі да касцёла, некаторыя — да стала і танцаў, а каго не запрасілі, той не мог з цікаўнасці не паглядзець на вяселле, бо пра яго столькі тыдняў казалі, што будзе гучным, што паедзе нявеста ў панскай карэце з панскімі коньмі да касцёла, што ў яе на шыі будуць дарагія гранаты, вышываны белы фартух, ружовая ядвабная кофта, блакітная спадніца. Пра гэта ў Жэрнаве ведалі раней, чым сама нявеста. Яны ва ўсіх падрабязнасцях ведалі, ці шмат ежы будзе на вясельным стале, у якім парадку будуць за стол садзіцца, колькі кашуль, колькі пярын і які посуд атрымае нявеста ў пасаг. Усё ведалі, нібы нявеста сама ім усё распісала. Не ўбачыць такога багатага вяселля, не пераканацца, ці да твару нявесце вянок, ці шмат слёз пралье, як будуць апранутыя госці, было б недаравальным грахом. Гэта кавалак гісторыі іх жыцця, крыніца для размоў не менш, чым на паўгода, як жа можна было такое прапусціць?

Калі сем'і Прошкавых і лесніка, што начавалі на Старой бялільні, прыйшлі да шынка, то аказалася, што трэба прабірацца праз натоўп, які сабраўся ў двары. У шынку ўжо сядзелі госці з боку маладой. Пан бацька выглядаў, як франт, боты яго blішчэлі, як люстэрка, а ў руцэ трымаў табакерку з серабра. Ён быў сведкаю з боку нявесты. Пані мама апранулася ў шоўк. Шыю яе абвівала нітка дробных перлаў, на галаве быў залаты каптур. Бабуля надзела свой шлюбны касцюм, на галаве ў яе была святочная «галубка».

Дружак, хлопцаў, свата не было ў шынку, бо яны пайшлі да Жэрнава па жаніха, нявеста таксама адсутнічала ў святліцы, яе схавалі ў каморы.

Раптам пачуўся на двары крык: «Ідуць, ужо ідуць!» — і ад млына пачуліся гукі кларнетаў, флейт і скрыпак. Гэта вялі жаніха. Сярод гледачоў пачуўся шэпт: «Глядзіце, глядзіце! — штурхалі адзін аднаго. — Мілава Тора малодшай дружкаю, дачка Ціханковічаў — старэйшай». — «Ну, калі б Анча не ўзяла шлюб, быць ёй старэйшай дружкай». — «Томаш — сведка з боку жаніха!» — «А дзе Тамашова, нешта яе не бачна». — «Дапамагае прыбіраць нявесту. У касцёл Анча не паедзе, бо ўжо дзіцём ходзіць», — казалі кабеты паміж сабой. «Нявеста павінна ўжо нешта рыхтаваць на зубок, бо будзе хроснай, яны блізкія сяброўкі». — «Ну, зразумела». — «Але глянь, стараста ідзе; во, дзіва, што Мілавы яго паклікалі, бо па ягонай віне хлопец трапіў у салдаты!» Усе зноў здзіўлена зашапталіся: «Што ж, стараста не такі ўжо і злы чалавек; гэта Люцка яго цкавала, аканом дадаваў, чаго ж здзіўляцца». Якуб добра робіць, што не помсціць за тое, што яго пакрыўдзілі, а ў Люцкі і так пячонка пячэцца». — «Яна ж таксама заручылася», — азваўся голас. «Як жа так магло быць, каб я пра гэта не чула?» — спытала адна з жанчын. «Тры дні як з Ёзэфам Нывлтовічам». — «Дык ён даўно да яе заляцаўся». — «Вядома, раней яна яго не жадала, пакуль спадзявалася, што атрымае Якуба». — «Але ж і малайчына жаніх, прыемна на яго паглядзець». — «Прыгожы шалік яму падарыла нявеста, пэўна дзесятку за яго аддала», — казалі жанчыны.

Такія і падобныя галасы чуліся ў двары, калі жаніх падыходзіў да парога, дзе яго сустрэў гаспадар з поўнаю шклянкай віна. Адшукаўшы сваю нявесту ў каморы, дзе, па звычаі, яна павінна была сядзець і плакаць, жаніх падышоў з ёю да бацькоў, сват замест яго сказаў доўгую прамову, у якой дзякаваў за выхаванне і прасіў бласлаўлення. Усе заплакалі. Пасля блаславення дружка ўзяў пад руку нявесту і малодшую дружку, жаніх стаў побач са старэйшай дружкай, сведкі

акружылі сваху, астатнія дзяўчаты падышлі да сваіх хлопцаў і пара за парай, выключаючы свата, які ішоў паперадзе, выйшлі з дома. На вуліцы іх чакалі карэта і вазкі. Машучы хустачкамі, сяброўкі нявесты заспявалі, хлопцы падхапілі; нявеста ціха плакала, час ад часу азіраючыся назад, дзе ў іншай карэце ехаў жаніх са свахай і сведкамі. Гледачы разышліся, і шынок на некаторы час заставаўся пусты, толькі старая маці сядзела каля акна, глядзела на ад'язджаючых, малілася за сваё дзіця, якое ўжо столькі гадоў замяняла яе па гаспадарцы і з святым цярпеннем пераносіла яе капрызы, лічачы іх вынікам доўгай і пакутлівай хваробы. Мміж тым пачалі ссоўваць сталы, накрываць, і хто б толькі паглядзеў, колькі сабралася кухарак і гаспадынь. Першай асобай, якой усё было даверана, была маладая жонка Томаша. Яна ахвотна ўзяла на сябе абавязкі гаспадыні, якія напярэдадні, калі вілі вяночкі, выконвала пані мама. Калі маладыя вярнуліся з касцёла разам з гасцямі, іх зноў сустрэў гаспадар на парозе з поўным келіхам. Нявеста пераапранулася ў іншую сукенку, і ўсе селі за стол. На чале стала сядзеў жаніх каля нявесты, дружка клапаціўся пра дружак нявесты, а тыя бралі са сваіх талерак самыя смачныя кавалкі і кармілі яго. Сват жартаваў з дружкі, кажучы, што таму жывецца, як у раі. Бабуля таксама весялілася і дасціпным словам абсякала свата, які ўсюды сунуў свой нос і перашкаджаў іншым сваёй вялікай нязграбнай постаццю. Дома бабуля не дазволіла б, каб зярно гароху валялася на зямлі, але калі госці пачалі кідаць гарох і пшаніцу, яна сама кінула жменю гароху ў маладых і сказала: «Каб Бог быў да вас шчодрым». Але ні гарох, ні пшаніца не прапалі дарэмна: бабуля бачыла, як пад сталом іх клявалі ручныя галубы.

Вячэра ўдалася; у многіх цяжкая ад пітва галаваківалася з боку ў бок, перад кожным ляжалі падарункі, калі хто сам не паклапаціўся іх падрыхтаваць, гэта зрабіла Анча. Нядобра без падарункаў вяртацца з вяселля. Усяго было дастаткова. Кармілі і паілі кожнага, хто праходзіў каля шынка. Дзеці, што прыбеглі паглядзець на вяселле, неслі дахаты поўныя кішэні

печыва. Пасля пачастункаў маладой неслі падарункі «на калыску»; яна напалохалася, калі ёй на калені пасыпаліся крыжовыя талеры*.

Калі хлопцы прынеслі ў місах ваду і белыя ручнікі і падалі дзяўчатам, каб памылі рукі, кожная кінула ў ваду манету, бо ніводная не хацела даць падставу зганіць сябе, таму так блішчэла ў вадзе срэбра. Гэтыя грошы на другі дзень хлопцы і дзяўчаты пратанцавалі і прапілі.

Пазней маладая пайшла яшчэ раз пераапрануцца, тое ж зрабіла і дружка, бо настаў час для танцаў. Бабуля скарыстала гэтую хвіліну і адвяла дадому дзяцей, якія святкавалі ў Крысцінінай святліцы; сама ж яна павінна была вярнуцца на вяселле, бо позна ўвечары быў абрад апранання каптура, без якога не абысціся.

Бабуля захапіла з дому каптур, які яна набывала разам з дачкой Тэрэзкай, — гэта ўваходзіла ў абавязкі свахі. Калі ўсе дастаткова натанчыліся і маладая з цяжкасцю пераводзіла дыханне (з ёю кожны павінен быў патанцаваць), бабуля падала знак жанчынам, што ўжо поўнач і цяпер маладая належыць ім. Пачаліся сваркі і звадкі; жаніх і сват не хацелі, каб з нявесты здымалі чырвоны вянок. Але жанчыны адваявалі яе і завялі ў яе пакой. Дзяўчаты за дзвярыма спявалі сумнымі галасамі пра зялёны вянок, бо калі нявеста дазволіць яго аднойчы зняць, то ўжо не надзене ніколі.

Але ўсё было дарэмна. Нявеста ўжо сядзела на зэдліку, Томшава расплятала ёй касу, а карона з кветак і зялёны вянок ляжалі на стале. Бабуля рыхтавала ёй каптур з аборкамі. Маладая плакала. Жанчыны спявалі песні, жартавалі, толькі бабуля заставалася сур'ёзнай; часам яна ласкава ўсміхалася, а вочы яе рабіліся вільготнымі, яна прыгадвала дачку Іаганку, якая таксама, магчыма, у гэты час брала шлюб.

* Крыжовы талер — талер з выявай крыжа, самая вялікая сярэбраная манета, якую чаканілі на Чэшскім манетным двары ў другой палове XVIII стагоддзя.

Нявеста была ўжо ў каптурыку, які ёй вельмі пасаваў; млынарыха запэўнівала, што Крыстла ў ім як «мейсенскі* яблык».

— А цяпер хадзем да жаніха. Хто хоча яго падражніць? — спытала бабуля.

— Самая старэйшая, — вырашыла пані мама.

— Пачакайце, я яму адну прывяду, — хутка сказала Тамашова, выбегла і праз хвіліну увяла старую праллю, якая мыла на кухні посуд. Накінулі на яе белы шаль, сваха ўзяла пад руку і павяла да жаніха, каб «яе купіў». Жаніх доўга хадзіў вакол яе, аглядаў, пакуль яму не пашчасціла сцягнуць шаль; ён убачыў стары, зморшчаны твар, увесь у попеле. Пачаўся рогат, і жаніх адмовіўся ад такой нявесты. Сваха схавалася з ёю за дзвярыма і хутка прывяла другую. Гэтую жаніх і сват ужо хацелі «купіць», але сват разважліва сказаў: «Хто ж купляе ката ў мяху!» — сцягнуў шаль, і паказаўся поўны твар млынарыхі, яе чорныя вочкі хітра ўсміхаліся свату.

— Купляйце, купляйце, танна прадам, — пажартаваў млынар, круцячы табакерку, але так марудна, нібы ў яго не гнуліся пальцы або табакерка была занадта цяжкая.

— Маўчыце, бацька, — засмяялася тоўстая млынарыха, — сёння прадасьце хутка, заўтра захочаце выкупіць. Хто каго кахае, той таго й чапае.

Пайшлі па трэцюю. З'явілася тонкая, высокая постаць нявесты. Сват даваў за яе стары ламаны грош, а жаніх адразу ж насыпаў серабра і купіў яе. Жанчыны прыбеглі ў святліцу і, абкружыўшы жаніха, заспявалі:

Ужо тое зроблена,
Ужо тое гатова,
Нявеста ў каптуры,
Каравай даедзены і г. д.

Цяпер маладая была ўжо залічана да замужніх жанчын. Грошы, якія за яе заплаціў Міла, жанчыны прынеслі на другі дзень перад абедам, калі збіраліся «засцілаць ложак»; на гэты

* Мейсенскі — саксонская парцэляна.

раз таксама шмат спявалі і жартавалі. Сват сказаў, што «добрае вяселле восем дзён павінна доўжыцца», ды так яно звычайна і было на кожным багатым вяселлі. Віццё вянкоў перад вяселлем, вяселле, «засціланне ложка», сяброўскі абед у нявесты, другі — у жаніха, прапіванне вяночка — вось так памалу і праходзіў цэлы тыдзень, пакуль маладыя не атрымлівалі адпачынак і маглі сказаць: «Цяпер мы самі».

Праз некалькі дзён пасля вяселля Крысціны атрымала пані Прошкава ліст з Італіі ад камерысткі, у якім тая пісала, што графіня Гартэнзія бярэ шлюб з маладым мастаком, які калісьці вучыў яе маляванню; што яна ў захапленні, што зноў квітнее, як ружа, і княгіня на яе не нарадуецца. Бабуля, пачуўшы гэтую радасную навіну, пахітала галавою, кажучы: «Дзякуй Богу, усё добра скончылася!»

* * *

Не было мэтаю гэтага аповеду расказаць пра жыццё моладзі, якая побач з бабуляю жыла, і я не хачу стамляць чытача, водзячы яго ад лесьнічоўкі да млына, а потым зноў па маленькай даліне, дзе жыццё, як і раней, доўжылася без зменаў. Дзеці выраслі і сталі дарослымі; некаторыя з іх засталіся дома, узялі шлюб, і старэйшыя саступілі ім свае месцы: так з дуба ападае стары ліст, а малады расце. Некаторыя пакінулі ціхую даліну, шукаючы шчасця ў іншых месцах, як ветрам і вадою далёка заносіць насенне, і на далёкіх лугавінах і берагах яно дае парасткі.

Бабуля не пакінула малую даліну, дзе знайшла другі дом. Спакойна назірала яна, як вакол яе расце і квітнее маладое жыццё, радавалася шчасцю іншых, суцяшала пакрыўджаных, дапамагала, каму можна было дапамагчы; а калі яе ўнукі адзін за адным пакінулі родны дом, нібыта ластаўкі, што адлятаюць з гнязда, яна глядзела пры развітанні вільготнымі ад слёз вачыма і суцяшала сябе: «Дасць Бог, убачымся».

Так і сталася. Кожны год яны вярталіся дадому; і старая бабуля вачыма, што свяціліся шчасцем, глядзела на іх і слухала аповеды юнакоў пра тое, што пабачылі яны на свеце, і, спачуваючы іх палымяным марам, даравала памылкі маладосці, якіх перад ёю не ўтойвалі, і хоць не заўсёды карысталіся парадамі, але заўсёды ўважліва слухалі мудрую бабулю, паважаючы яе слова і мараль. Дзяўчаты давяралі ёй свае таямніцы, свае запаветныя мары і жаданні, цалкам упэўненыя, што знойдуць спачуванне і ласкавае слова. Так і Манчынцы, дачцэ млынара, давялося шукаць у бабулі падтрымкі, калі бацька забараніў ёй кахаць прыгожага, але беднага хлопца. Бабуля здолела паставіць пану бацьку «галаву на месца», як ён сам казаў, а калі, праз гады, яго дачка шчасліва жыла і гаспадарка расквітнела пад кіраўніцтвам працавітага зяця, які пана бацьку паважаў і любіў, то млынар заўсёды казаў: «Бабуля мела рацыю, за бедным ходзіць яго Бог і аберагае!» Дзяцей маладых маці старая любіла, як сваіх унукаў, ды яны і не звярталіся да яе іначай, як бабуля. Праз два гады пасля вяселля Крыстлы прыехала ў замак княгіня. Яна тут жа запрасіла да сябе бабулю і паказала ёй са слязьмі прыгожага хлопчыка, памяць пра графіню, якая праз год пасля шлюбу памерла, пакінуўшы дзіця няшчаснаму мужу і княгіні. Узяўшы немаўля на рукі, бабуля выраніла слязу на ядвабную коўдру; яна прыгадала яго маладую маці, добрую і прыгожую, і, вяртаючы дзіця княгіні, бабуля сказала сваім спакойным голасам:

— Не плачце, яе возьме неба, яна была створана не для гэтага свету, вось Бог і ўзяў яе. А каго ён забірае ў момант поўнага шчасця — той ім абраны! Ваша міласць не засталася самотнай.

Людзі не заўважалі, як бабуля старэе і паступова сыходзіць, толькі яна гэта адчувала. Шмат разоў казала Адэльцы, якая зрабілся прыгожай дзяўчынай, паказваючы на старую яблыню, што год ад году сохла і губляла лістоту: «Мы з ёю аднагодкі, у адзін час пойдзем спаць». І вось надышла вясна,

усе дрэвы зазелянелі, толькі адна старая яблыня сумна стаяла без лісця. Прыйшлося яе выкапаць і спаліць. Той вясною бабуля моцна кашляла, ужо не магла дайсці да мястэчка, да божага касцёла, як казала. Рукі яе трэсліся, галава стала белай, як снег, а голас усё слабеў і слабеў.

Аднаго дня пані Тэрэза разаслала лісты ва ўсе бакі, каб дзеці з'ехаліся. Бабуля злегла, яна ўжо не магла трымаць у руках верацяно. Штодня з леснічоўкі, з млына, з шынка, з Жэрнава прыходзілі людзі спытаць, як бабуля. Але ёй не рабілася лепей. Адэлька малілася разам з ёю, кожную раніцу і кожны вечар яна павінна была расказваць старой, як там у садзе, у агародчыку, што робяць птушкі, як Стракатка, яна павінна была палічыць бабулі, праз колькі дзён прыйдзе пан Бейер. «Магчыма з ім прыйдзе Ян», — казала пры гэтым. Памяць пачала ёй здраджваць. Часта замест Адэлькі клікала Барунку, а калі Адэлька нагадвала ёй, што Барункі няма дома, старая ўздыхала і казала: «Няма Бажэ, пэўна, яе не ўбачу. А ці шчаслівая яна?» Але бабуля дачакалася ўсіх. Прыехаў пан Прошак, а з ім студэнт Вілем і дачка бабулі — Іаганка; прыехаў сын Кашпар, а з Крканошскіх гор стары Бейер прывёў статнага юнака Яна; прыйшоў Орлік з лясной школы, куды аддала яго княгіня, даведаўшыся, што ён мае схільнасць да лясной справы. Бабуля і яго лічыла ўнукам, бачачы, як паступова расце каханне паміж ім і Адэлькаю і як паступова робіцца шляхетным яго нораў.

Усе сышліся каля бабулінага ложка, але першай прыехала Барунка — яна з'явілася разам з салаўём, які звіў гняздо пад бабуліным акном.

Зноў пасялілася Барунка ў бабуліным пакоі, дзе калісьці стаяў яе ложак, дзе яны разам слухалі салодкія спевы свайго суседа-салаўя і дзе бабуля ранкам і ўвечары благаслаўляла яе. Яны былі зноў разам і слухалі тыя ж песні дарагога ім спевака, ім свяцілі тыя ж зоркі, якімі яны калісьці захапляліся, тыя ж рукі спачывалі на галаве Барункі, была тая ж самая галава, але іншыя думкі раіліся ў ёй і іншыя пачуцці выклікалі

слёзы, якія бабуля бачыла на твары сваёй любімай унучкі. Гэта былі не тыя слёзы, якія бабуля з мілай усмешкай выцірала з ружовага тварыка, калі Барунка была яшчэ дзяўчынкай і спала побач у маленькім ложку. Тыя толькі давалі расу, а не замутнялі вочы.

Бабуля адчувала, што жыць ёй засталося нядоўга, як добрая і мудрая гаспадыня, яна прывяла ўсё ў парадак.

Найперш яна прымірылася з Богам і з людзьмі, потым падзяліла сваю сціплую маёмасць. Кожны атрымаў нешта на памяць. Для кожнага, хто яе наведваў, у бабулі было ласкавае слова і кожнага яна праводзіла вачыма, і калі княгіня з сынам Гартэнзіі адыходзілі, доўга глядзела ім услед, бо ведала, што з імі на свеце ўжо не сустрэнецца. І бессславесных істот, такіх як коткі і сабакі, да сябе клікала, гладзіла іх, а Султану дазваляла лізаць руку. «Даглядайце іх, — казала Адэльцы і служанкам, — кожны звер, калі любіць чалавека, яму ўдзячны». Яна паклікала да сябе Воршу і загадала ёй: «Калі памру, Воршанька, а гэтага чакаць засталося нядоўга, я бачыла ў сне сёння, што да мяне прыйшоў Іржы. Калі памру, абавязкова раскажы пра маю смерць пчолкам, а то яны акалеюць. Астатнія, пэўна ж, забудуцца». Бабуля ведала, што Ворша гэта зробіць, бо верыла; не ўсе верылі ў тое, у што старая звыкла верыць, і таму, нават калі б і хацелі выканаць просьбу, то зрабілі б гэта не ў час.

На другі дзень па прыездзе дзяцей, увечары, бабуля ціха памерла. Барунка чытала адыходную малітву; бабуля малілася разам з ёю, яе вусны змоўклі, толькі вочы глядзелі на распяцце, якое вісела над ложкам, твар застыў, дыханне спынілася. Жыццё яе згасла, як згасае лампадка, калі ў ёй выгарае паліва.

Барунка закрыла бабулі вочы, маладая жонка Мілы адчыніла акно, «каб душа магла лягчэй вылецець». Ворша адразу пабегла паўз заплаканых родных да вулля, які пан бацька некалькі гадоў перад тым паставіў для старой; пастукаўшы па крышцы, яна пракрычала: «Пчолкі, пчолкі, наша бабуля па-

мерла!»— пасля чаго села на лаўку пад бэзам і залілася слязьмі. Ляснік ішоў па дарозе да Жэрнава, каб абвясціць звонам пра памерлую. Акрамя таго, яму было цяжка заставацца дома. Ён сышоў, каб выплакацца. «Я сумаваў па Вікторцы, дык няўжо я забуду бабулю?» — казаў ён сам сабе дарогаю. А калі загучаў пахавальны звон, які паведаміў усім людзям, што бабулі не стала, заплакалі ўсе ў даліне.

На трэці дзень раніцай, калі жалобная працэсія, у якой ішло шмат людзей, бо кожны, хто ведаў бабулю, хацеў правесці яе ў апошні шлях, параўнялася з замкам, белая рука адсунула цяжкую парцьеру, і ля акна з'явілася княгіня. Сумным позіркам сачыла яна за працэсіяй, пакуль тая не знікла з вачэй, а пазней, апусціўшы парцьеру, яна глыбока ўздыхнула і сказала:

— Шчаслівая жанчына!



## Бажэна Немцава

(1820—1862)

Бажэна Немцава (Барбара Панклава) нарадзілася 5 лютага 1820 года ў Вене. Спрэчным застаецца пытанне, чыёю дачкой была дзяўчына. Яе афіцыйныя бацькі, аўстрыйскі немец Йоган Панкл і чэшка Тэрэза Новатна, узялі шлюб 7 верасня 1820 года і адразу ж атрымалі ад гаспадароў, у якіх працавалі, дом у паўночна-ўсходняй Чэхіі. Там, у Рацібаржыцах і Хвалковічах каля Чэшскай Скаліцы, прайшло дзяцінства і юнацтва будучай пісьменніцы.

Барбару лячылі, навучалі і апраналі ў панскім доме. Сям'я ў Панклавых была вялікая (трынаццаць дзяцей), і матэрыяльная дапамога была вельмі дарэчы. Лічыцца, што такім чынам прыёмныя бацькі Барбары дапамагалі захаванню таямніцы княгіні Кацярыны Заганьскай.

Барбару ў дзяцінстве даглядала бабуля, Магдалена Новатна, маці Тэрэзы. Менавіта ёй, блізкаму і дарагому чалавеку, прысвяціла Бажэна Немцава сваю аповесць «Бабуля».

Школу будучая пісьменніца скончыла на выдатна. Рамантычная Барбара Панклава пабралася шлюбам у 1837 годзе з чыноўнікам фінансавай інспекцыі Йозэфам Немцам, які быў старэйшы за яе на 15 гадоў.

Сямейнае жыццё выдатнай пісьменніцы не было шчаслівым. Йозэфа Немца пераводзілі з аднаго месца на другое, і разам з ім пераязджала сям'я. У 1842 годзе Бажэна Немцава прыехала ў Прагу, дзе пражыла тры гады, насычаныя ўражаннямі і творчай дзейнасцю. Надзвычай прыгожая, жывая, яна вылучылася глыбінёй ведаў і шырынёй інтарэсаў і адразу стала роўнай сярод роўных у асяроддзі перадавой інтэлігенцыі.

Першай яе публікацыяй быў верш «Чэшскім жанчынам», надрукаваны ў 1842 годзе ў часопісе «Květy». Пад вершам стаяў подпіс «Бажэна Немцава», і надалей усе свае творы пісьменніца падпісвала менавіта так.

Бажэна Немцава таксама піша казкі, апавяданні і друкуе іх у розных часопісах. Яе творы прымаюць з захапленнем чытачы і калегі па пяру. Першая кніга «Народныя казкі і паданні» выходзіць у 1846 годзе.

У 1848 годзе на ўсіх землях Аўстра-Венгерскай імперыі выбухнула рэвалюцыя, якая была патоплена ў крыві. Дзесяцігоддзе, што надышло пасля падаўлення рэвалюцыі, з'явілася перыядам жорсткай рэакцыі.

Пісьменніца была сябрам «Чэшска-мараўскага братэрства», якое прапаведавала аб праве людзей на шчасце і роўнасць.

Паражэнне рэвалюцыі, арышты яе актыўных удзельнікаў, вобыск у доме Немцавых, звальненне з працы Ёзэфа Немца, а потым і арышт, смерць ад сухотаў старэйшага сына Гінека — усё трэба было перажыць пісьменніцы, і яна праяўляе цуд стойкасці і вытрымкі. У гэты трагічны час Бажэна Немцава піша свае лепшыя творы.

Сапраўдным мастацкім узлётам пісьменніцы былі аповесці і апавяданні, якія яна напісала ў апошняе дзесяцігоддзе жыцця: «Барунка», «Разарка», «Бабуля», «Карла», «Вёска ў гарах», «У замку і ў падзамчышчы», «Бедныя людзі», «Добры чалавек».

Нягледзячы на тое што творы пісьменніцы карысталіся вялікім попытам у чытачоў, грошай аўтару яны не прыносілі. У 1861 годзе Бажэна Немцава едзе ў Літамышль, дзе збіраецца займацца выданнем сваіх твораў. Час ішоў, а справа не кранался з месца. Душэўна і фізічна вычарпаная, пісьменніца вяртаецца да сям'і ў Прагу, дзе 21 студзеня 1862 года памірае. Перад адыходам Бажэна Немцава паспела пабачыць надрукаванымі першыя раздзелы «Бабулі».

# Змест

**Дух і слова**
*Прадмова Н. Рашэтнікавай* ...................... 3

**БАБУЛЯ.**
**Карціны вясковага жыцця** ...................... 7
I ...................... 9
II ...................... 17
III ...................... 23
IV ...................... 31
V ...................... 44
VI ...................... 57
VII ...................... 78
VIII ...................... 99
IX ...................... 116
X ...................... 128
XI ...................... 139
XII ...................... 153
XIII ...................... 167
XIV ...................... 182
XV ...................... 197
XVI ...................... 212
XVII ...................... 224
XVIII ...................... 234

**Бажэна Немцава**
*(біяграфічная даведка)* ...................... 252

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Немцава Бажэна**

**БАБУЛЯ**

**Карціны вясковага жыцця**

Аповесць

Тэкст пададзены ў рэдакцыі перакладчыка

Адказны за выпуск *Р. І. Шастак*
Стыльрэдактар *М. В. Шамякіна*

Падпісана да друку 11.07.2007.
Фармат 60×84/16. Папера афсетная. Гарнітура Garamond.
Друк афсетны. Ул-выд. арк. 10,9. Ум. друк. арк. 14,88.
Наклад 200 асобнікаў. Заказ 69.

Выдавец прыватнае унітарнае прадпрыемства «Радыёла-плюс»
ЛВ №02330/0133315 ад 9.06.04.
Рэспубліка Беларусь, 220012, г. Мінск, пр. Незалежнасці, 72-12.
Надрукавана ў друкарні ТАА "Дыксэнд",
Ліц. №69 ад 29.03.2004 г.
Рэспубліка Беларусь, 220050, г. Мінск, вул. Камсамольская, 27.

